У легкаатлетычнай секцыі Дабраахвотнага спартыўнага таварыства «Дынама» (г. Мінск) займаецца многа школьніц. Пад кіраўніцтвам вопытных трэнераў яны атрымліваюць спартыўныя разрады і на шматлікіх спаборніцтвах дастойна адстойваюць гонар рэспублікі. На здымку: група маладых спартсменак-школьніц.

Фота А. Дзятлава

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

**У НУМАРЫ:**



**3 (61)**

Сакавік.

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»

Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

Рукапісы не вяртаюцца.

АТ 04640 Здадзена ў набор 27.І.58 г. Падпісана да друку 5.ІІІ.58 г. Заказ 69.

Фармат паперы 70×108/16. Друк. арк. 10. Вуч-выд. арк. 12. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Ал. ВЕЧАРКОЎ, А. ДЗІТЛАЎ

# Дэпутаты з Пярэжыра

**Рэпартаж**

Вёска Пярэжыр...

Гэта — не глухамань, не глыбінка. Адным краем сваім доўгая шырокая пярэжырская вуліца ўпіраецца ў чыгуначны насып, і паязды, якія грукочуць тут бесперастанку, спыняюцца побач, на невялічкай станцыі. Яе чамусьці нехта назваў Седча, хоць вёска з такою назвай ёсць і па другі бок Рудзенска, на той жа чыгуначнай каляі Мінск—Асіповічы.

У нядзельныя дні і святы пярэжырскіх хлопцаў і дзяўчат можна сустрэць у шумлівым натоўпе на праспекце ў Мінску. Улетку з Пярэжыра прыязджаюць балельшчыкі на футбол, аматары не пра-



Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Тацяна Іосіфаўна Жыгалка падносіць хлеб-соль першаму Сакратару ЦК КПСС Мікіту Сяргеевічу Хрушчову, які прыязджаў у Мінск у студзені 1958 года на Рэспубліканскую нараду перадавікоў сельскай гаспадаркі.

пускаюць ніводнай новай пастаноўкі ў тэатры. Расказваюць, што некалі вясковыя жанчыны, калі ў Пярэжыры быў калгас яшчэ слабаваты, справіліся пабываць у Мінску на кірмашы за час, пакуль нейкі дзівак-лектар чытаў па канспектах лекцыю ў пустой залі.

Не кожны з цяперашніх маладых людзей паверыць, што ў Пярэжыры паўвека назад была такая ж цемра і галеча, якімі славіўся ўвесь «северо-западный край», ускраіна былой царскай Расіі. Адзін з старых вяскоўцаў, сведка і ўдзельнік рэвалюцыі 1905 года Васіль Макаравіч Каленік, якому пайшоў 75-ы год, добра памятае сваю вёску паўвека назад.

Аплыватыя хаты-куранкі. Цесныя заімшэлыя дворыкі. Жвірыстая зямля навокал, спаласаваная пісягамі-межамі. Хлеба рэдка ў каго хапала да каляд. Каб потым як-небудзь абсеяцца, селянін ішоў або да пана-«дабрадзея», або да старасты, які звычайна распараджаўся супольным насеннем вясковай абшчыны. Той на звычайным кійку-памінальцы нажом нарэзваў насечкі, адзначаючы імі, колькі хто браў збожжа ў пазыку. Насечак гэтых набіралася шмат, а блытаніны яшчэ больш. Узнікалі з-за гэтага сутычкі, у якіх, вядома, перамагаў «государственный человек»—стараста.

У вёсцы была адна пачатковая школа, дзе навучалася дзесяткі са тры хлопчыкаў заможных сялян і багацеяў з усёй воласці. А валасныя межы прасціраліся на сорак кіламетраў— ад Калядзіч да Смілавіч. Не дзіўна, што пры такой пастаноўцы асветніцкай справы нават сам пярэжырскі валасны старшыня Кандрат



Дэпутат сельсавета Надзежда Моўчан і загадчык Пярэжырскага ўрачэбнага ўчастка Ф. І. Жаваранак.



Сакратар Пярэжырскага сельсавета Рая Карунец гутарыць з старым жыхаром вёскі Паўлам Герасімавічам Кеда.

Скарабагаты замест подпісу ставіў крыжыкі.

Пра кнігі і газеты ніхто з сялян не ведаў. Кажуць, што нейкую газету атрымліваў пярэжырскі поп, але ён нікому яе нават не паказваў. З амбону ж бацюшка дэкляраваў, што кніга і газета з'яўляецца грахом і крамолай.

У Пярэжыры, між іншым, жыў валасны лекар-фельчар, але ён лячыў усіх аднолькава, бо быў пераконаны, што ўсе хваробы ад прастуды. Сяляне з большай ахвотай звярталіся да сваіх дактароў—знахараў і шаптух, якія і бралі за турботы менш, чым той жа фельчар, і лячылі проста — нашаптанай вадзіцай, ад якой было столькі ж карысці, як ад фельчаравых парашкоў.

— Была ў нас і культурная ўстанова,— з усмешкай расказвае Васіль Макаравіч. — Гэта карчма. Стаяла яна на краі вёскі, пры скрыжаванні дарог. Куды не ідзеш, абавязкова не мінеш яе. У карчме было заўсёды поўна людзей, бо карчмар Шмойла быў літасцівы чалавек — даваў напавер. Праўда, праз той павер часта дзеці заставаліся без хлеба, але ці думаў пра гэта мужык, трымаючы ў дрыжачых руках кілішак...

У карчмара спыняліся і артысты-вандроўнікі. Яны паказвалі розныя цыркавыя нумары і фокусы. У карчме паявілася ўпершыню і кіно—«чарадзейны ліхтар», якое прывозілі нейкія асветнікі з Мінска. Тое кіно мала хто бачыў сваімі вачамі, але гаворкі было на цэлы год.

Час ішоў. А ў Пярэжыры жыццё стаяла, як ў зацягнутай цінаю сажалцы. Толькі хатам станавілася цясней на гразкіх вулічках, ды ўсё часцей узнікалі сваркі і бойкі за зямельныя шнуры. Людзей прыбывала, а зямля не раздавалася ўшыркі.



Каб не Вялікі Кастрычнік, не яго праменнае свята, што абудзіла ўсе некалі глухія вясковыя закуткі, быць бы Пярэжыру такім жа валасным сялом, якім яно было пад час маладосці Васіля Макаравіча Каленіка.

— Цяпер я ўжо стары,—гаворыць Васіль Макаравіч,—вось поркаюся патроху ў стальмашні. А раней і мяне выбіралі ў сельсавет, на розныя з'езды запрашалі...

Стары прыладжвае новую шалёўчыну на варштаце і бярэцца за рубанак. Потым, нібы штосьці прыпомніўшы, узрушана дадае:

— А вы пагаварыце лепш з маладымі людзьмі, з цяперашнімі нашымі дэпутатамі. Іх у нас вунь колькі — і ў сельсавеце, і ў раёне ад нас, з Пярэжыра, людзі ёсць... Наша Тацяна Іосіфаўна, старшыня калгаса, у Вярхоўны Савет, у Мінск ад нас выбрана. У нас тутака, на месцы, уся можна сказаць ўлада народная...

Дэпутаты з Пярэжыра.

Пра іх можна было б гаварыць вельмі многа. Кожны варты таго, каб пра яго

Дэпутат райсавета Кацярына Крывашчокая.





Настаўніца Соф'я Аляксееўна Прохарчык з вучнямі.

пісаць нарыс. Узяць таго ж Каленікавага ўнука—Васіля Каленіка. Хлопец баявы, пісьменны. Узначальвае калгасную камсамольскую арганізацыю і ў сельсавеце як дэпутат выконвае ўсе даручэнні дакладна.

Нязменна выбіраецца дэпутатам сельскага савета загадчык мясцовай хаты-чытальні Міхаіл Мазоўка, самадзейны мастак і забаўнік. Ні адно вясковае культурнае мерапрыемства не абыходзіцца без Міхаіла Максімавіча. Ён цяпер намеснік старшыні выканкома сельсавета, і па яго ініцыятыве робяцца такія карысныя справы, як азеляненне вуліц і дарог, пасадка садоў на прышкольных участках, догляд помнікаў воінам і партызанам і г. д.

У гутарцы з Міхаілам Максімавічам мы дазналіся, што сярод пярэжырскіх дэпутатаў — шмат жанчын. Яны нараўне з мужчынамі нясуць увесь цяжар працы на розных адказных участках будаўніцтва новага жыцця.

— У нас жанчыны-ўрачы, жанчыны-настаўнікі, жанчыны-механізатары, — пералічвае Мазоўка і растлумачвае: — у сельсавеце працуе больш сямідзесяці жанчын — спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. А колькі дзяўчат у пасляваенныя гады скончылі дзесяцігодку — не злічыш!..

Зноў жа ён прыводзіць у прыклад Тацяну Іосіфаўну Жыгалка. Яна прыехала ў Пярэжыр пяць год таму назад і назаўсёды ўпісала сваё прозвішча ў летапіс вёскі. Не надта каб прыязна сустрэлі пярэжырцы на першым часе гэтую простую сціплую жанчыну, але з кожным днём пераконваліся, што яна прынесла ім сваю шчырасць і нязломную



Дэпутат сельсавета Марыя Немагай — бібліятэкар.

веру ў калектыўную справу, — і паверылі ёй, падтрымалі яе. І вось вынік: праз пяць год калгас у Пярэжыры стаў непазнавальны. Новыя будынкі. Новыя машыны. Жывёлагадоўчы гарадок. Электрастанцыя. Новы мураваны клуб з сваёй кінаўстаноўкай. На вуліцах свецяцца смалістым бярвеннем новыя хаты, а ў хатах — электрычнасць, радыёпрыёмнікі, тэлевізары...

Калі калгаснікі даведаліся, што іх Тацяне Іосіфаўне Жыгалка ў ліку лепшых перадавікоў сельскай гаспадаркі рэспублікі прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы, усе ішлі да старшыні і шчыра выказвалі ёй сваё пачуццё:

— На «ўра» яе, нашага старшыню і дэпутата!

А вось другая жанчына, якая зусім нядаўна жыве ў Пярэжыры, — гэта камсамолка Рая Карунец, сакратар сельсавета. Пра яе гавораць: строгая дзяўчына. Гэта вельмі трапная характарыстыка. Але яе строгасць спалучаецца з чуласцю і ўвагай, якія ёй якраз і патрэбны, як грамадскаму дзеячу. У Раісы Васільеўны не толькі ў парадку ўсе папяровыя справы. Яна кожны дзень бывае ў людзей, цікавіцца жыццём выбаршчыкаў.

Побач з Раяй — у суседнім пакоі працуе бібліятэкар Марыя Немагай. Яна таксама — дэпутат сельскага Савета. Такая ёй пашана за актыўнасць, за старанную працу. У бібліятэкара ў кожнай брыгадзе — свой актыў, кнiганошы, якія дапамагаюць ёй прасоўваць кнігу ў масы, абуджаць у людзей любоў да друкаванага слова. Можа ёсць часцінка заслугі камсамолкі Марыі Немагай у тым, што сёння ў сельсавеце рэдка ў каго не сустрэнеш у хаце палічкі або шафы з кнігамі. У Пярэжыры тры бібліятэкі: калгасная, школьная і сельсавецкая.

Ужо другі раз выбіраецца ў раённы Савет дэпутатаў працоўных жывёлаводка Кацярына Крывашчокая, выключнай працавітасці жанчына. Некалі, кажуць, яна была настаўніцай, але вырашыла, што яе прызванне — на ферме. Разам з іншымі свінаркамі Кацярына штогод дамагаецца вялікага прыплоду, добра навучылася адкормліваць свіней. Яе праца нядаўна адзначана высокай узнагародай — ордэнам «Знак пашаны». Да Кацярыны Сяргееўны ахвотна звяртаюцца яе выбаршчыкі. І заўсёды, якая б гэта ні была просьба ці заява, яе не пакіне без ўвагі дэпутатка, даб'ецца справядлівага вырашэння.

А Васіліса Васільеўна Гурыновіч — дырэктар мясцовай дзесяцігодкі, заслужаная настаўніца школы БССР, сакратар калгаснай партыйнай арганізацыі. Або яе нядаўняя вучаніца — Соф'я Аляксееўна Прохарчык, якая скончыла Мінскі педагагічны інстытут і вярнулася ў родную школу выкладчыкам мовы і літаратуры... А ўрач камуніст Надзежда Пятроўна Моўчан — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаная некалькімі ордэнамі і медалямі...

Яны выраслі, атрымалі адукацыю і сталі грамадскімі дзеячамі ў новым Пярэжыры, пры савецкай уладзе. Характэрная рыса гэтых людзей, што яны не замыкаюцца ў вузкім коле сваёй спецыяльнасці, а жывуць усімі радасцямі і нягодамі грамады, калектыву, радуюцца і хвалююцца за людзей, з якімі працуюць побач.

Дэпутат...

Народ вылучае на гэтую адказную і вялікую пасаду дзяржаўнага дзеяча толькі самых дастойных.

У тыя дні, калі мы былі ў Пярэжыры, агітатары расказвалі выбаршчыкам пра першых кандыдатаў, якіх беларускі народ вылучыў у Вярхоўны Савет СССР. У гутарцы з выбаршчыкамі камсамолка Соф'я Пармон тады сказала:

— Гэтым людзям мы верым, як самім сабе. Яны — часцінка нас, такія ж, як і мы...

Дэпутаты з Пярэжыра на справе апраўдваюць высокае званне абраннікаў народа.

**Рудзенскі раён,**
**Мінская вобласць.**

**Рыгор БАРАДУЛІН**



Рыгор Барадулін нарадзіўся ў 1935 годзе на Ушаччыне. Цяпер ён займаецца на IV курсе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Першыя вершы маладога паэта з'явіліся ў «Чырвонай змене» ў 1955 годзе. Пазней творы Р. Барадуліна друкаваліся ў «Маладосці», «Полымі», «Работніцы і сялянцы», «Вожыку».

Вершы яго атрымалі прэмію на літаратурным конкурсе VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве.

Ніжэй мы змяшчаем новыя творы маладога паэта.

# ІМЯНІНЫ



Палатка, як шацёр былінны,
Са скрынак зроблен стол адзін.
Спраўляем мы на лад цалінны
Адразу восем імянін.

І брыгадзір наш весяліцца.
Падносіць ад імя усіх
Паўмісак залатой пшаніцы
Для юбіляраў дарагіх.

На пажаданні не скупіцца —
Гадоў жадае столькі ім,
Як у паўміску ёсць пшаніцы,
А шчасця — колькі ў стэпе ўсім.

А ў хуткім часе каб не меней,
А роўна столькі, як зярнят
(Што месяцца ў ягонай жмені),
Было чарнявых немаўлят.

На золку заўтра зноў павінны
На працу выйсці, як адзін.
А сёння ў нас на лад цалінны
Адразу восем імянін.

* * *



З пiпетак-сасулек,
Як доктар, вясна
Адмервае каплі гаючыя.
Зямля ажывае.
Гуторыць сасна
Пра цёплыя ночы над кручаю.

Адмервае каплі...
На ўзмежках, лугах
Пад снегам трава прачынаецца.
Ужо загуляла рака ў берагах.
Вясёлае сонца ўсміхаецца.

І хутка пралесак,
Нібы праз агонь,
Праб'ецца праз снег пад ракітамі.
І адаб'ецца у воку яго
Лагоднае неба блакітнае,

Развучваць пачне салавей да відна
Свае серанады пявучыя.
З піпетак-сасулек,
Як доктар, вясна
Адмервае каплі гаючыя...

* * *



Занялася ў небе вечарніца.
А прастор маторамі гудзе.
Дыхае гарачынёй пшаніца:
Напаліла спёкаю за дзень.

Водыр палыну здалёк нясецца...
Вылез са сваёй нары сурок.
На патэльні стэпу запячэцца
Вось-вось зараз
сонцавы жаўток...

# ПАДАРУНАК



Магазін дарункаў, як заўсёды,
Перапоўнен перад Новым годам.
Кожны рэч купляе на свой густ:
Гэты — «Раніцу ў сасновым лесе»,
Той вось (пэўна, юнай паэтэсе)
Просіць загарнуць Купалы бюст.

Важны дзядзька ззяе веснім сонцам —
Выбірае чарнабурку жонцы.
А сынку маленькаму няўцям.
Запытацца ён у таты мусіць:
— А лісіца маму не укусіць?
(Што пра моды ведае дзіця!).

На дарунак гэтакі багаты
Трох стыпендый трошкі малавата.
Адставаць ад іншых не люблю!
Я для аднакурсніцы чарнявай
(Бо, канешне, тут не ў кошце справа)
Чамаданчык зручны закуплю.

Хай жа ў ім з канспектамі ў харошай
Будуць пісьмы цёплыя і грошы
І ад хлопца кветак цэлы куст.
Магазін дарункаў, як заўсёды,
Перапоўнен перад Новым годам,
Кожны рэч купляе на свой густ.

* * *



Як захліпнуўся ад радасці жаўранак,
Славячы сонца вясновага дня,
Як па куп'і на балотных выжарынах
Мякка хрумсціць пад нагою сушняк;

Як па-над ярам пад ветравым подыхам
Вольха сухая рыпіць і рыпіць,
Як адвячоркам над соннымі водамі
Каня ніяк не дапросіцца піць, —
Тры гады я не чуў.

Як засінелася возера чыстае,
Бо маладая красуня-вясна,
Каб падсініць аблачынкі пушыстыя,
Сіньку ў ваду сыпанула спаўна;

Як палахлівым дзіцём устрывожаным
Хмель каля вольхі абвіўся вакол,
Як у бары, бы маленькія вожыкі,
Шышкі хваёвыя ўсыпалі дол, —
Тры гады я не бачыў.

Як над бруістаю, шустраю рэчкаю
Пахнуць лілеі, аер і чарот,
І першацвет далікатны парэчкавы,
І чарназём, што павывернуў крот, —
Тры гады не ўдыхаў.

Зноўку ступаю знаёмымі сцежкамі,
Іх не таптаў тры даўгія гады.
Кветкі мне ўслед пазіраюць з усмешкамі
З тымі ж, з якімі глядзелі тады.

І крапіва маладая стрыкаецца,
Быццам пяшчотны, прыемны ўспамін.
Ем я капусту трыгубую зайцаву,
Гладжу змарожаны ліст журавін.

Ясны блакіт вам, прасторы зялёныя!
Хай жа над вамі з зары да зары
Радасна жаўранкі звоняць натхнёныя,
Сонца гарыць!

# НЕПАРАЗУМЕННЕ



Пляцешся пешшу — доўжацца гадзіны,
Спякотны дзень.
Каб хоць адна машына!
Уночы крочыш з любаю дзяўчынай —
Яны снуюць, імчацца штохвілінна,

Каханую абдымеш — як на гора!—
Ну побач недзе ўжо гудуць маторы.



І толькі цалаваць дзяўчыну хочаш —
Снапы святла табе глядзяць у вочы.

Клянеш тады і шофераў і фары
І дзівішся: няма ж на іх аварый!

Мо' скажуць:
«Не цалуйся на дарогах».
А што, калі да хаты
метраў многа?!

**Юрась СВІРКО**



# БОР



Ізноў ліюць халодныя дажджы,
Наскрозь прамоклі чараты і лозы.
Дрымучы бор ад холаду дрыжыць
І цягне голле да ракі Бярозы.

Блішчаць на соснах пацеркі смалы,
І пасінелі ад вятроў іголкі.
У грозны час тут у яго ствалы
Глыбока паўпіваліся асколкі.

І хоць яго не рэжуць, не сякуць,
Чуваць трывожнае ў ягоным шуме:
Бор вельмі многа на сваім вяку
І перажыў, і перадумаў.

# ГРЫБЫ



Бор асенняю парой
Пахне верасамі.
Я люблю хадзіць між хвой,
Цешыцца грыбамі.

Мухамор, нібы герой,
Выбег з-за сасонак



І любуецца сваёй
Шапкай-парасонам.

А лісічкі на гары
Ззяюць, нібы зоры.
Абгавораць кожны грыб
Разам з мухаморам.

Баравік стаіць цішком,
Плёткам іх не верыць.
Абкапаўся ён імхом
І залез у верас.

Ён смяяцца не прывык,
У іх гурт не лезе,
Хаця ён і баравік —
Лепшы грыб у лесе.

# ХМАРКІ



Вецер хмаркі падабраў,
Круціць іх, муштруе...
А пасля далей пагнаў
За мяжу чужую.

Ім не лёгка быць адным
У чужых краінах.
Не маглі забыць яны
Родныя мясціны,

І пад подыхам вятроў,
Разам з песняй звонкай
Паплылі яны ізноў
У сваю старонку.

І палеткі, і бары
Хмаркі тут пазналі.
І, заплакаўшы наўзрыд,
Да зямлі прыпалі.

* * *



Зорак, як зерня, на небе высокім
Насыпана ў жніўні.
Чутна, як недзе далёка-далёка
Шэпчуцца ліўні.

Чутна, як спаць укладаюцца ветры
Там, за гарамі.
З бору дыхнула цёплым паветрам —
Пахне грыбамі.

А ў поўнач, здаецца, усё анямела,
Ціха ў прасторы.
І толькі раз-по-раз яблыкам спелым
Падаюць зоры.

Ды нельга ўсяго напісаць на паперы
Пра неба, палеткі...
Я знаў: аднаму не заўсёды паверацы,
І браў з сабой сведку.

## ВЕРНАСЦЬ



Нас часта так дарога разлучае,
Не бачымся па месяцу, па два.
Тады трывожна спіцца мне начамі,
Бо ўсякіх думак поўна галава.

Мы разам зноў. Узяў цябе за рукі
І заглянуў у глыбіню вачэй.
А ты такая ж, як і да разлукі,
Ды толькі рукі сталі гарачэй.

Мікола МАРУШКЕВІЧ

# ДЗВЕ СУСТРЭЧЫ

I

Неба — блакітная бездань...

Заклаўшы пад галовы рукі, мы ляжым на невялічкай прагалінцы сярод маладога хвойніку, непадалёку ад бальшака. У цяньку не даймае спёка, і колькі хочаш глядзі ўгару, дзе хапае прастору нават самай крылатай тваёй думцы.

Ляжым мы ўтраіх — Міхал Шчыгельскі, Андрэй Фядосенка і я; чацвёрты — Яўген Дашкевіч — дазорца. Ён дзяжурыць ля кулямёта і пільнуе, ці не пакажуцца з боку Лясані карнікі. Хай бы хутчэй паказваліся, думаецца нам: бо надакучыла ўжо ляжаць вось так, без аніякае справы.

Як і заўсёды, Андрэй першы заводзіць гаворку: не можа хлопец заставацца са сваімі думкамі сам-на-сам.

— Другія суткі ляжым, а яны, можа, і не пойдуць гэтай дарогаю...

Міхал, самы старэйшы сярод нас і па гадах і па «партызанскаму стажу», паварочваецца на бок, глядзіць на Андрэя.

— Што, дружа, рукі свярбяць? — пытаецца ён, стрымліваючы ўсмешку.

— А ў цябе не свярбяць? — зусім сур'ёзна і нават крыху злуючы, адказвае Андрэй.

— Дык ты пачакай трохі, — Міхал падымаецца на локцях, — я цябе завяду да нашай бабкі Трахіміхі. Адзін раз паспрабуеш яе лекаў, і свярбячкі твае, як не было...

Хлопцы смяюцца.

— Цішэй вы там, — падае голас Яўген.

А ўслед за словамі Яўгена чуецца: «Тра-та-та-та!»

Усхопліваемся, бяжым да бальшака, пытаемся ў Яўгена:

— Адкуль страляюць? Па кім?

— З могільніка, здаецца, — тлумачыць Яўген, — а па кім — зараз убачым.

Прыкладна з кіламетр ад нас з-за павароту на бальшак выязджае фурманка. Услед яшчэ чуецца страляніна, але позна: фурманка спускаецца ў лагчыну, і цяпер яе можа «дастаць» толькі наш кулямёт.

— І каму гэта спатрэбілася

пад кулі лезці? Няўжо хто з нашых? — трывожыцца Міхал.

Тым часам фурманка хутка набліжаецца. Ужо відаць, як бягуць коні, як падскоквае на ўхабінах лёгкая двуколка, пакідаючы за сабою густое воблака пылу. На пралётцы ва ўвесь рост стаіць яздок.

— Зірніце, хлопцы, — здзіўлена гаворыць Андрэй. — Гэта ж жанчына!

— Ну, што ты скажаш... — толькі і выгаварыў Міхал.

А пралётка ўсё бліжэй і бліжэй. Коні імчацца ледзь не галопам. Сустрэчны вецер парусам надзімае хустку, якая спаўзла жанчыне на плечы.

— Тамара?! — усклікнуў Міхал і выбег на бальшак.

— Тпру-у, вараныя! — чуецца дзявочы голас.

Коні спыніліся. З фурманкі спрытна саскочыла дзяўчына. Была яна невысокага росту, хударлявая. Тонкія, цёмныя ад загару рукі, такі ж загарэлы і абветраны твар. А вочы блішчаць, як дзве маленькія кветкі...

Міхал падышоў да Тамары першы: яны ведалі адно другога. А мы падыходзіць не асмельваліся. Чулі мы пра гэтую дзяўчыну многа, а бачым яе ўпершыню.

— Здароў, здароў, Тамарка, — трос Міхал яе руку. — Чаму гэта ты едзеш гэтай дарогай? Смеласць сваю хочаш паказаць.

— Вінавата, таварыш начальнік, — пажартавала Тамара, ускінуўшы руку да скроні і сур'ёзна дадала: — У Зямлянках мне сказалі, што вы ўжо выбілі фрыцаў з Лясані. Таму я і паехала наўпрост, каб хутчэй было...

Міхал пазнаёміў нас з Тамарай.

— Навічкі, значыцца, — сказала яна, моцна паціскаючы рукі. — Ведаю пра вас, даходзілі чуткі... — I тут жа заспяшалася: — Бывайце, хлопцы, у мяне вельмі неадкладная справа.

Праз хвіліну яе фурманка знікла з нашых вачэй. А мы яшчэ засталіся да вечара. Колькі часу ляжалі, маўчалі. Кожны з нас асвойтваўся з тым уражаннем, якое пакінула сустрэча з Тамарай.

— Дык вось яна якая, — нарэшце не ўтрываў Яўген. — З выгляду зусім дзяўчо...

— Ты не зважай на тое, які чалавек з выгляду, — перапыніў Яўгена Міхал. — Гэтае самае «дзяўчо» варта паўдзесятка дзецюкоў. Вось паслухайце, што сёлетняю вясною было, — крыху памаўчаўшы, пачаў расказваць Міхал. — Нашы атрады стаялі ў Антонаўскай пушчы. Фашысты напалі знянацку і акружылі партызан. Здавалася, што носа нельга высунуць з лесу: адразу трапіш у лапы фашыстаў. Мы вырашылі разбіцца на групы і прабівацца з акружэння. Група, у якой ішла Тамара, ля Плісавіч наткнулася на засаду. I каб не гэтая дзяўчына, крышка ўсім нам была б. Фрыцы «хендэ хох» крычаць, наставіўшы аўтаматы. Хлопцы разгубіліся, а Тамара выхапіла з кішэні гранату і як шпурне яе ў акоп, дзе сядзелі карнікі... Вось так і выбралася група з бяды... А пра тое, як яна ў Жлобін хадзіла, у разведку, ведаеце?

— Пра гэта чулі. Смелая яна, што і казаць.

У канцы дня мы зняліся з засады і пайшлі ў Ражкі. Адсюль уночы групы падрыўнікоў з розных атрадаў хадзілі на чыгунку, узрываць рэйкі. Нам з Яўгенам упершыню давялося ўдзельнічаць у такой аперацыі. Гэта, вядома, не страшыла, але ж трэба было, як кажуць, прызвычаіцца, тамусяму навучыцца. I, прызнацца, калі ішлі да чыгункі, перад вачыма раз-по-разу ўсплывала постаць Тамары. Не раз узнікала



думка: «А як бы яна ішла вось зараз на гэтае заданне?»

Паход на «жалезку» скончыўся вельмі ўдала. Хлопцы шкадавалі нават, што не давялося прачысціць аўтаматы, бо ахова чыгункі, адчуўшы небяспеку, разбеглася без адзінага стрэлу. А на світанні, калі пасля гадзіннага прывалу групы выстраіліся, каб ісці далей, за Бярозу, мы нечакана зноў убачылі Тамару. Нам з Яўгенам было дадзена заданне заставацца тут, на Жлобіншчыне, для наладжвання сувязей. Аддзяліўшыся ад сваёй групы, мы ішлі ўздоўж шарэнгі, перакідваючыся словам-другім са знаёмымі хлопцамі.

— Бачыш, вунь Тамара стаіць, — шапнуў мне Яўген. — Адкуль яна з'явілася?

I сапраўды, адкуль яна магла з'явіцца? Бо, памятаецца, тады, як выступалі з Ражкоў, сярод партызан, акрамя сакратара райкома камсамола Веры Махнач, нікога больш з дзяўчат не было. Падышлі да Тамары, прывіталіся.

— Як гэта вы апынуліся тут? — пытаемся ў яе.

— Вельмі проста, — адказала яна. — Ля Малевіч дагнала ваш атрад.

А партызан, што стаяў побач з Тамарай, растлумачыў:

— Пакуль мы з вамі збіраліся ды рыхтаваліся, яна надвячоркам прайшлася ля чыгункі, паглядзела, што там і як. Зразумела?

— Дык гэта ўчора вы і спяшаліся да чыгункі? — спыталіся мы.

— Адгадалі, — засмяялася Тамара, папраўляючы за плячыма аўтамат, якога ўчора мы не бачылі пры ёй. — Цяпер вось пойдзем дадому, на сваю Антонаўшчыну. А вы?

— Застаемся пакуль што тут.

— Зайздрошчу вам, ой, як зайздрошчу!

Тым часам атрад рушыў. Мы пажадалі сябрам усяго найлепшага і доўга яшчэ стаялі, глядзелі ўслед, пакуль апошні партызан не схаваўся за паваротам дарогі.

— Цікава, чаму гэта яна нам зайздросціць, — пачаў разважаць Яўген. — Я дык увесь час думаю, што мы, ды і ўсе наогул, павінны ёй зайздросціць...

Уставала сонца, пачынаўся новы дзень.

## II

Ішоў час. Многа розных падзей адбывалася і ў дні вайны і пасля яе. Многа розных людзей сустракалася на той дарозе, якой давялося ісці. З Тамарай жа мне не прышлося больш сустрэцца ў партызанах. Праз некалькі часу стала вядома, што яна з групай асобага прызначэння накіравана некуды далей у тыл ворага, на Захад. (Цяпер вядома, што Тамара ваявала ў радах партызан Мінскага злучэння.) Але вельмі часта ўспаміналася наша першая сустрэча. Ці ўспаміналася нешта з былога, ці даводзілася пачуць ад каго імя Тамары — усякі раз паўставала перад вачыма гэтая бясстрашная дзяўчына. Даходзілі чуткі, што недзе партызаны разграмілі атрад карнікаў, і ўяўлялася, што ў баі была і Тамара, што страчыў па гітлераўцах сціснуты ў яе тонкіх, але дужых руках аўтамат. Дзесьці ў кароткай, але жорсткай бойцы быў разбіты гарнізон паліцыі. Там, думалася, была доля і яе «работы». Яна не магла не ўдзельнічаць у жорсткіх баях, у смелых вылазках.

Так яно было і на самай справе, бо, калі скончылася вайна, прозвішча Тамары Рамізька не раз сустракалася сярод узнагароджаных партызан і былых падпольшчыкаў.

Пасля вайны мы бачыліся з Тамарай у сваім Жлобіне. Сустракаліся, як знаёмыя і сябры. Гава-

рылі пра сённяшні дзень, успаміналі мінулае, смуткавалі разам, што загінулі такія слаўныя хлопцы, як Міхал Шчыгельскі, Яўген Дашкевіч. Цёплыя, сардэчныя былі сустрэчы.

Зноў прайшла чародка гадоў, за якія не прыходзілася бачыцца з Тамарай. І вось нядаўна здарылася пабываць у Жлобіне. Многа цяпер там новага, што радуе і цешыць. Забыліся жлобінцамі і гора, і разруха. Адбудаваўся гарадок, вырас, зніклі сляды вайны.

Загадчык аддзела культуры райвыканкома Міхаіл Міхайлавіч Чарняўскі, даведаўшыся пра мой намер напісаць што-небудзь, прапанаваў пазнаёміцца з новай раённай бібліятэкай і, у прыватнасці, з яе дзіцячым аддзелам.

— Працуе там адна жанчына — выдатны бібліятэкар, хоць і не прафесіянал, — гаварыў Чарняўскі.

Быў якраз выхадны дзень, і ў бібліятэцы сабралася шмат дзяцей. Стоячы ў чарзе, яны вялі свае бясконцыя размовы-спрэчкі аб прачытаных кнігах.

— Цёця Тамара, цёця Тамара! — пачулася раптам спераду чаргі.

І вельмі ж знаёмы, крышачку шапялявы, голас пачуўся ў адказ:

— Хвіліначку, дзеці. Адну хвілінку, і мы зараз усё ўладзім.

Няўжо гэта Тамара? Не, мабыць, здалося, бо вельмі цяжка было ўявіць Тамару ў такім ціхім месцы. Вось расчыніліся дзверы бакоўкі, і на парозе паявілася знаёмая постаць. Яна! Уражанне было такое, што цяжка было сыйсці з месца, падысці, прывітацца.

Тамара паспешна прайшла ў дзіцячы аддзел. Расчынілася акенца, да якога цягнулася чарга дзяцей, і яна пачала выдаваць кнігі. Міжволі ў думках паўстаў малюнак першай сустрэчы: па бальшаку імчыць параконка, а на фурманцы — у поўны рост Тамара. Цяжка ўявіць гэта, параўнаўшы з тым, што ўбачылася цяпер. Тамара — адважная падпольшчыца і Тамара — бібліятэкар... Няўжо могуць вось так далікатна дакранацца да кніг тыя самыя шурпатыя і мазолістыя рукі, што некалі моцна трымалі аўтамат, мякка гучаць той самы голас, што калісьці гучаў так цвёрда і ўладна...

Прывіталіся. Тамара шчыра ўзрадавалася сустрэчы. Распытаўшы, адкуль я і куды еду, яна адразу пацікавілася, як падабаецца іхняя бібліятэка. Па гарачай, шчырай зацікаўленасці, з якою дзяўчына загаварыла пра сваю работу, я адразу пазнаў у ёй тую, ранейшую Тамару, якая ні адну на свеце работу не будзе рабіць з халоднай душою.

Час ужо ісці на поезд. Але ж у мяне яшчэ нічога не занатавана ў блакнот. Ды, прызнацца, і не хацелася распытваць пра якія-небудзь «паказчыкі ў рабоце». Гэта ж, урэшце, было бачна адразу, як я толькі зайшоў у бібліятэку. Дзеці, мабыць, не горш за нас ведаюць, хто іхні бібліятэкар...



Уладзімір **КАРЫЗНА**

# НОЧ НА ЦАЛІНЕ



У сіняй затоцы нябёсаў,
Як лінь, ціха месяц плыве.
Гарацьь казахстанскія росы,
І сцелецца дым па траве.

А горы уперліся ў хмары
Шырокай і дужай спіной.
Цяпер яны тут гаспадараць,
Трымаюць паўночны спакой.

І вецер не кінуў пілікаць, —
Праспаўшы ў лагчыне ўвесь дзень,
Нібыта заядлы музыка
Па струнах кавыльных вядзе.

У стэпе раздольным герої
Пад гэтую музыку спяць.
Палаткі ў халодным спакої,
Як шлемы дружыны, стаяць.

# У ГАСЦЯХ У КАЗАХА



Стол нізкі такі,
Што здаецца:
Пад цяжарам ногі падкурчыў,
Страчаючы нас з-за парога
Закускай,
Кумысам шыпучым.

...Хаця і не вельмі ўжо часта
У руках нашых шклянкі звінелі, —
Мая ж галава несціхана
Кружылася сёння ад хмелю.

Калі ж мяне сябар праводзіў —
Мне стала тады зразумелым,
Што радасцю шчырай сустрэчы
Я ў доме яго
Быў захмелен.

* * *

На гарах пшанічных так лапатай
Намахаешся за доўгі дзень,
Што паўкіламетра да палатак
Паўгадзіны добрае ідзеш.

За вячэрай кончыш завіхацца —
На халодны скоцішся матрац...
Хай праходзяць трактары,
Хоць дваццаць —
Прымеш іх за шум стэповых траў.

А яна ледзь чутна заспявае, —
То ніяк не разумею я,
І куды ўжо ў гэты міг знікае
Зморанасць свінцовая мая.

Марк **СМАГАРОВІЧ**

# СНЯЖЫНКА

Калісьці адзін мне стары
Расказваў пра мачыху тую,
Што ў лес сірацінку малую
Адвезла, каб з'елі звяры.
Яна снег да самых кален,
Пякучы, як прысак, мясіла
І, покуль была ў яе сіла,
Хадзіла-блукала ўвесь дзень.
Змарылася, села на пні
Яна адпачыць апаўночы.
Халодны ў закрытыя вочы
Ёй месяц глядзеў з вышыні.
Крышталінкі лёду ад слёз
На шчочках зіхцелі ў дзіцяці.
У пух, нібы родная маці,
Малую ахутаў мароз.
Ніколі ў жыцці нічыёй
Не бачыла ласкі дзяўчынка,
Зрабілася кволай сняжынкай
Яна тою лютай зімой.
І вось прыгалубіць яе
Не можа ніхто з таго часу:
Малая сняжынка адразу,
Адчуўшы цяпло, растае.



**Пітэр АБРАХАМС**

# АФРЫКА Ў АГНІ

*Пераклад з англійскай мовы С. Дорскага.*

**Раман**

Мал. А. Паслядовіч.

5

Мабі працягнуў рукі да агню. Ён ужо забыўся, якімі халоднымі бываюць ночы ў гэтай горнай мясцовасці. Ён зірнуў на той бок вогнішча, дзе сядзелі Удома і правадыр. Удома бліскуча заваяваў іх прыхільнасць. Ён значна змяніўся і навучыўся сакрэту цярпення і ўменню хаваць ад другіх свае думкі і пачуцці; ён стаў непамерна больш тонкім у адносінах з людзьмі. Улада надзвычайна падзейнічала на яго, вырашыў Мабі. Цяпер ён халодны і асцярожны, і ўсё гэта ён хавае пад маскай натуральнай прыязнасці. Ён іх усіх зачараваў.

Удома прыляцеў на золку. Калі ён выходзіў з самалёта, у яго быў вельмі стомлены выгляд. Потым ён начапіў сваю славутую ўсмешку, і стома звалілася з яго плеч, як непатрэбны плашч. Наўрад ці хто-небудзь, акрамя Мабі, прыкмеціў, што ўслед за Удома з самалёта выйшаў Том Лэнвуд. І ўвесь той дзень, у час усіх тых сустрэч і нарад Лэнвуд быў фігурай задняга плану, якую бачыў толькі Мабі. Але сам Мабі, разам з Удома, стаяў на першым плане і, такім чынам, не мог суцешыць адзінокага Лэнвуда.

Удома і правадыр сядзелі, абняўшыся, і смяяліся. Так, бясспрэчна, ён навучыўся майстэрству заваёўваць людзей. Да гэтага часу ў іх не было яшчэ магчымасці застацца адным. Мабі быў рады гэтаму. Пакуль гэта не датычыць асабістых адносін, а з'яўляецца часткай афрыканскай справы, усё ідзе добра. Але ў тое імгненне, калі яны застануцца адны, яму, магчыма, захочацца ўспомніць старыя часы і мінулае. Тады могуць быць непрыемнасці. «Я не буду лісліўцам», — цвёрда сказаў сабе Мабі.

---

Заканчэнне. Пачатак у №№ 1 і 2 за 1958 г.



А як жа з Лэнвудам? Увесь запал, здавалася, пакінуў яго. Які ён быў энергічны, калі толькі некалькі месяцаў назад яны з Мхендзі пакідалі Лондан! І вось ён сядзіць, апатычны і прыгнечаны, і страшэнна пастарэлы. Чаму гэта? Вядома, немалую ролю тут мае гэты жахлівы моўны бар'ер. Але справа не толькі ў гэтым.

Ён павярнуўся да Лэнвуда. Той сядзеў, утаропіўшы вочы ў агонь, апусціўшы плечы, у глыбокай апатыі да ўсяго. Ён нават не прабаваў загаварыць са старэйшынай, які сядзеў побач. Здавалася, што музыка барабанаў і гукі чалавечых галасоў зусім яго не цікавяць.

— Паслухай, Том...

Лэнвуд павярнуў галаву і зрабіў вялікае намаганне, каб усміхнуцца.

«Як ён пастарэў», — падумаў Мабі. Раптам на яго наляцела пачуццё спагады.

— Што з табой, Том? Ты сумуеш.

— Для мяне тут няма месца, Поль...

— Глупства, дружа! — ён нахіліўся ўбок і палажыў руку на плячо Лэнвуда.— Проста ты яшчэ не прывык. Пачакай. Цябе тут доўга не было. На тое, каб ты зноў асвоіўся, патрэбен час.

— Я ўжо не такі малады, як вы, юнакі. Я старэю...

— Глупства! Я разумею, табе цяжка, што ты не ведаеш мовы. Але праз некалькі месяцаў ты сам над сабой будзеш смяяцца.

— Калі б толькі мне было што рабіць, як вам, хлопцы...— ён паглядзеў туды, дзе сядзеў Удома.

Мабі ўбачыў у яго вачах роспачны заклік.

— Дружа, табе ж ёсць шмат чаго рабіць! Не гавары глупства. Памятай, што ты — Том Лэнвуд. Ты больш чвэрці стагоддзя змагаўся супраць імперыялізма...

— Я тут непатрэбны, Поль. У мяне засталося даволі розуму, каб убачыць гэта.

О, божа! Як можна суцешыць чалавека?

Удома цераз вогнішча кінуў на іх шпаркі позірк, усміхнуўся і паківаў галавою. Мабі не ведаў, ці была ў гэтым жэсце якая-небудзь іронія. Удома зноў павярнуўся да правадыра.

Жанчыны прынеслі яшчэ закусак і напіткаў. Маладыя людзі падкінулі ў вялікае вогнішча дроў. Ззаду і навокал іх гучалі галасы людзей і пошчак барабанаў. Тут, у гарах, зоркі гарэлі больш ярка і былі бліжэй да зямлі, чым там, унізе, на раўнінах. Ад парываў ветру ноч стала яшчэ больш халоднай.

— Цяпер я нават зайздрошчу Мхендзі,— панура сказаў Лэнвуд.— Ён недзе сярод людзей, якім ён сёння вечарам патрэбен.

— А як з той кнігай, аб якой ты гаварыў?

— Нават і гэта тут непатрэбна. Яе будуць чытаць толькі белыя людзі.

Яго не было чым суцешыць.

— Ты гаварыў з Удома?

— Ён шукае для мяне што-небудзь бяспечнае.

— Ну, тады...

— Ён таксама прабуе суцешыць мяне, даказваючы мне вялікае значэнне маёй кнігі.

— Яна сапраўды мела б вялікае значэнне, ты сам гэта ведаеш.

— Мела б? Сапраўды?

— А як жа, вядома! Што з табой?

— А ці здарыцца ў краіне якая бяда, калі я пакіну яе? Не. Усё будзе, як было. А ці здарылася б якая бяда, калі б ты не вярнуўся сюды, каб павесці народ гор за Майкам? Так. Значыць, ты патрэбен дзеля адзінства і будучыні краіны. Таксама, як і Майк ці Эдэбхай; нават як Мхендзі там, у Плюраліі...

— Але ты можаш даць ідэю, Том, тэорыю, як ты рабіў гэта ў Лондане. Урэшце, гэта значна больш важна. Шчыра!

— Ты памыляешся, Поль. Апошнія некалькі тыдняў я раз'язджаў разам з Майкам. Я меў магчымасць пераканацца, што сапраўдная Афрыка гэта не тая Афрыка, аб якой я пісаў у сваіх кнігах. Гэта не лёгка. Я не разумею гэтую племянную праблему і не хачу разумець. Майк меў рацыю. Я занадта доўга прабыў у Еўропе.... Я стаміўся, Поль. Я супраць чаго-небудзь зграшу, калі зараз жа пайду адсюль?

— Не, Том,— мякка сказаў Мабі.

Ён паклікаў да сябе аднаго з маладых людзей.

— Адвядзіце нашага госця да маёй маці. Скажыце ёй, што ён будзе дзяліць са мной мой дом і спаць на маім ложку. Папрасіце, каб яна паслала мне на падлозе...

Яны ўсталі. Удома таксама падняўся і, абмінуўшы вогнішча, падышоў да іх.

— Том змарыўся, — растлумачыў Мабі.

— Думаю пайсці спаць, — прагаварыў Лэнвуд.

— Ідзі, — сказаў Удома. — Прабач, што гэтая паездка была такой цяжкай, Том. Але ж ты сам бачыў. Я павінен давесці ідэі ўрада да народа, а ў мяне было мала часу. Дзе начуеш?

— У мяне, — сказаў Мабі.

— Добра. Ты хоць трохі паспіш. Не ведаю, ці прыдзецца мне паспаць у правадыра. Мы вылятаем вельмі рана. Спадзяюся, што лётчык будзе цвярозы.

— Добрай ночы, — сказаў Лэнвуд.

Яны стаялі і глядзелі, як юнак павёў яго. Маладая жанчына прапанавала ім фрукты. Удома ўзяў апельсін і пацалаваў яе ў лоб. «Ён робіць усё, што трэба», — падумаў Мабі. Тут ён убачыў, як у вачах Удома загарэўся насмешлівы, хітры агеньчык.

— Ты таксама будзеш гэта рабіць... Том што-небудзь гаварыў?

— Гаварыў.

— Я так і думаў. Гэтая паездка сапсавала яму настрой. Ён вельмі пакутаваў, калі ў адной вёсцы мне выкупалі ногі ў крыві. Не мог зразумець, навошта гэта. Яму стала млосна.

— А што нам рабіць з племянным ладам?

— Прыняць яго. Гэта рэчаіснасць. Калі я сёння выступлю супраць, заўтра ж я страчу пасаду. Прыняць яго і нападаць з тылу. Такі адказ. Вось чаму я з усіх сіл націскаю на індустрыялізацыю. Вось чаму мне так патрэбны белыя з краіны Мхендзі. Мхендзі разумее, а Том з Эдэбхаем — не. Том — таму, што ён страшэнна збянтэжаны ўсім, што бачыў, а Эд — таму, што ў душы ён сам упарта стаіць за старое. А за Эда і Сяліна, і выканком.

— Разумею.

— Рад, што ты разумееш. Усё не так лёгка, як здаецца. Мая найвялікшая патрэба — у адукаваных людзях, якія былі б свабоднымі ад племянных звычаяў і ў той жа час дастаткова разумелі б гэтыя звычаі, каб весці сябе дыпламатычна. Цяпер ты ўжо, напэўна, ведаеш: паміж Эдам і мною ідзе барацьба па ўсёй гэтай праблеме. Не, яна ідзе не



адкрыта, але, нягледзячы на гэта, яна рэальная. Між іншым, вось чаму я і зрабіў так, каб ён і Сяліна думалі, што ім трэба было аказаць на мяне націск, каб выклікаць цябе сюды і прапанаваць табе высокую пасаду. Як іхні кандыдат ты будзеш мець значна больш вагі, чым калі б ты адкрыта прымкнуў да мяне.

— А ты ўпэўнены, што я прымкну да цябе?

Удома ціхенька засмяяўся.

— Ты хутка пераканаешся, што тыя, хто кіруе краінай, не могуць дазволіць сабе такога моцнага асабістага пачуцця, якое ты толькі што праявіў. Вядома, ты станеш на мой бок, калі толькі раптам не зробішся прыхільнікам племянных звычаяў ці будзеш так ненавідзець мяне, што знішчыш будучае краіны на многія гады. Я разлічваю на цябе, Мабі. Я ўжо некалькі год нясу цяжар на сваіх плячах. Я з радасцю перакладу на твае плечы столькі, колькі ты можаш падняць. Ты ведаеш, тваё міністэрства з пункту гледжання будучага — самае важнае. Ты ўбачыш, што Джонс і Рослі прыдуць табе на дапамогу. Пагавары з Джонсам, калі вернешся. Не ведаю, што б я рабіў без яго. Але не забудзься на наш закон, які забараняе братанне з белымі. Гэта нешта такое, што трэба зламаць, пан Міністр Адукацыі і Нацыянальнага кіраўніцтва.— Удома зноў засмяяўся.— Спадзяюся, цяпер ты лепш разумееш, што значыць быць членам майго ўрада?

— Так.

— Застанешся тут да дня выбараў?

— Так. Я хачу пабываць у некаторых другіх вёсках.

— Добра. Але пасля гэтага як мага хутчэй прыязджай у Квінстаўн. Цябе чакаюць горы працы. Эд расказаў табе пра фармальны бок. Некалькі тыдняў ты будзеш міністэрскім сакратаром, потым я перафармірую кабінет. Дзякуй богу, што цяпер дастаткова людзей для гэтага. Першыя дні мне нехапала людзей нават сярэдніх здольнасцей, і я ўжо думаў прапанаваць Эндуры якое-небудзь міністэрства...

— Што будзе з Томам?

— Здаецца, ты ўжо здагадаўся.

— Што ён паедзе, так? Але ці па сваёй добрай волі? Ён жа вельмі няшчасны.

— Ведаю. Я быў з ім гэтыя апошнія тыдні. Прабаваў угаварыць яго застацца.

— Але ты не вельмі імкнешся да гэтага.

— Ён можа стаць перашкодай. Як гэта і здарылася. Усё ж паспрабуй пераканаць яго. Калі хочаш, няхай ён пабудзе з табою тут.

— Хіба нельга знайсці для яго што-небудзь вартае?

— Я думаў аб партыі, але ён вельмі просталінейны. Праз некалькі гадзін пасля свайго прыбыцця ён раскрыў сябе і свае погляды. І цяпер партыйныя прыхільнікі племянных звычаяў не хочуць яго. А ў іх моцная рука. Гэта нялёгка, Мабі.

— Я пачынаю разумець. «І пачынаю любіць цябе зноў, як калісьці», — падумаў Мабі.

— Добра. Я рад, што ты прыехаў. Нас чакае вельмі многа працы... Мне лепш цяпер вярнуцца да правадыра. Пэўна, гэты праклятыя прыём хутка ўжо скончыцца. Ледзь трымаюся, каб не заплюшчыць вочы. З апошніх трыццаці шасці гадзін я спаў толькі шэсць.

— Я намякну ім, — сказаў Мабі.

Ледзь прыкметная ўсмешка тугі і прабачэння кранула вусны Удома:

— Мабі, калі б я мог выправіць тое, што здарылася ў Хэмстэдзе...

Твар Мабі стаў халодным і жорсткім. Удома рэзка павярнуўся і пайшоў назад да правадыра.

«Але мы ніколі не выправім,— горка падумаў Мабі,— ніколі...»

Кіўком галавы правадыр падазваў Мабі. Ён падышоў да іх.

— Прашу прабачэння за тое, што загаварыў пра асабістыя справы,— сказаў Удома па-англійску.

— Гэтую раскошу мы дазволіць сабе не можам,— з горыччу адказаў Мабі.

— Ты даведаешся аб праўдзе,— мякка прагаварыў Удома.

— Аб чым гэта вы гаворыце паміж сабой? — спытаўся правадыр.

— Вы ведаеце, правадыр, тут, у вас, канчаецца паездка Прэм'ер-міністра. Многа дзён ён вельмі мала спаў. Я спытаўся, ці хоча ён пайсці адпачыць. Але ён гаворыць, што не хоча. Хоць ён і стаміўся, ён не хоча абражаць вас тым, што пойдзе яшчэ да канца банкету. Ён не хацеў, каб я сказаў вам гэта. Вось чаму мы гаварылі на мове белага чалавека.

— Маім сябрам надта ўжо не цярпіцца ўзяць на сябе клопат пра мяне,— запратэставаў Удома.

— Яны мудрыя і верныя,— сказаў правадыр.— Чалавек, які нясе ваш цяжар, павінен берагчы сваю сілу. Я зараз закончу банкет. Мой народ ужо ўбачыў, як вы паважаеце наш спосаб жыцця і нашы звычаі. І вось цяпер адзін з нашых сыноў, дзіця гор, разам з вамі будзе кіраваць краінай.

— Вы добры і вялікі чалавек,— сказаў Удома.

Правадыр устаў і пляснуў у далоні.

* * *

А там, на ўзбярэжжы, губернатар і галоўны сакратар заканчвалі свой вячэрні адпачынак.

— Гэтая справа з Мхендзі — першая міжнародная праблема, якую прыдзецца вырашыць прэм'ер-міністру,— сказаў Джонс.— Як вы думаеце, што ён зробіць?

— Сам рады не дам,— сказаў Рослі.— Калі хоць палавіна вестак з Плюраліі праўда, то Мхендзі, бясспрэчна, нарабіў там страшэннага шуму.

— І што нам рабіць?

Рослі пацінуў плячыма і ўсміхнуўся:

— Не ведаю. У такія хвіліны мне агідна быць губернатарам. А хіба нам трэба што-небудзь рабіць?

— Баюся, што так. З Лондана тэрміновая дэпеша — патрабуюць інфармацыі.

— Скажыце ім, што мы нічога не ведаем.

— Не выйдзе.

— Чаму ж не? Ах, гэтая шуміха з іх прыездам і іх партрэты на першай старонцы партыйнай газеты! Гэта было вельмі неразумна. Не падобна на Удома.

— Вы не дапускаеце думкі, што гэта была яго ідэя. Ён павінен у чым-небудзь уступіць, каб узяць верх у другім.

— Напэўна, эканамічная дэлегацыя Плюраліі паслала свайму ўраду экземпляры гэтай газеты, як вы думаеце?



— Нават больш таго. Памятаеце, я вам гаварыў, што яны звязаліся з нашымі хлопцамі з паліцыі бяспекі? На іх аж пена выступіла ад злосці, што Мхендзі знаходзіцца тут. Хацелі, каб яго выслалі назад у Англію. У паліцыі ім далікатна параілі займацца сваімі ўласнымі справамі; сказалі, што Мхендзі знаходзіцца ў гэтай краіне ў якасці асабістага госця прэм'ер-міністра. Я баюся, каб усё гэта не выйшла бокам.

— Так,— уздыхнуў Рослі.— Не вельмі добра.

— Зусім нядобра,— сказаў спакойна Джонс.

— А як Мхендзі прабраўся туды?

— Мне здаецца — праз джунглі.

— Гэтага ж нельга зрабіць! Хіба вы не памятаеце, як экспедыцыя прабавала прабрацца цераз джунглі, але потым вярнулася назад, таму што гэта было небяспечна? То было яшчэ да майго прыезду, але вы, напэўна, былі ўжо тут.

— Я помню тую экспедыцыю,— сказаў Джонс.— Справа, папершае, у тым, што мы праверылі ўсё вельмі старанна, і органы бяспекі цвёрда заяўляюць, што ніякім самалётам ён не карыстаўся. Застаюцца толькі джунглі. А вось вам і другое: тутэйшыя народныя паданні перасыпаны легендамі аб людзях, што пераходзілі праз джунглі ў далёкія мінулыя часы.

— Вы мяркуеце, што гэтая казка заснавана на фактах і што цераз джунглі ёсць тайная сцежка?

— Я ўпэўнены ў гэтым,— сказаў Джонс.— Я дапускаю, што Мхендзі мог бы ўсё яшчэ знаходзіцца ў Панафрыцы, але паліцыя клянецца, што ў такім разе яна прынамсі напала б хаця б на яго след. Так, я ведаю гэтых людзей. Некалі я ўзначальваў іх. І я б сказаў, што яго тут няма. Вы ведаеце Мхендзі. На якую думку наводзяць вас гэтыя акты сабатажу?

— Што гэта ён,— адказаў Рослі.— Гэта яго почырк — клапатліва вывесці ўсю жывёлу, перш чым узарваць электрастанцыю.

— Значыць, гэты вобраз краважэрнага рэвалюцыянера...

— Толькі паклёпніцкая хлусня Плюраліі. Дзеля самога Удома, я спадзяюся... Не, я думаю, ён выберацца адтуль. Калі я ведаю майго Мхендзі, ён наробіць там страху і зноў вернецца сюды.

— І што тады?— спытаўся Джонс.

— Тады нам прыдзецца мець справу з невялічкім міжнародным скандалам.

— Усё ж мне трэба адказаць на тэлеграму,— напомніў Джонс.

— Паведаміце ім факты без каментарыяў.

— Ці павінен я запэўніць іх, што мы арыштуем яго, як толькі ён вернецца сюды?

— Калі прыедзе Удома?

— Павінен заўтра.

— У такім разе затрымайце адказ да яго прыезду.

— Добра. Яго тут чакае не дачакаецца кіраўнік місіі Плюраліі па якойсьці вельмі спешнай справе.

— Вы думаеце па гэтаму пытанню?

— Зусім магчыма.

— Я рады, што я не Удома,— сказаў Рослі.— Мне думаецца, нам трэба ўстрымацца ад якіх-небудзь дзеянняў і паглядзець, што зробіць ён.

## 6

На другі дзень а дзевятай гадзіне раніцы Удома ўвайшоў у свой кабінет. Ён прыняў ванну, пагаліўся і займеў выгляд чалавека, які ноччу добра паспаў. Ён зняў пінжак і гальштук, закасаў рукавы і пачаў перагортваць вялізную кіпу папер, што чакала яго на стале. Потым пазваніў сакратару. У пакой ціха ўвайшоў высокі малады англічанін.

— З добрым прыбыццём, сэр. Удалая паездка?

Удома адкінуўся ў крэсле і пасцепваў мускуламі спіны і плячэй.

— Звычайны спектакль, — усміхнуўся Удома. — Што ў нас тут такое здарылася, пакуль я адсутнічаў?

— Нешта вельмі сур'ёзнае, сэр. Лепш я прынясу вам падшыўку газет з Плюраліі.

Удома раптам перастаў пацягвацца і аслупянеў.

— Вось яно што...

— Званіў містэр Джонс. Тэрмінова хоча вас бачыць. Ён можа даць вам больш поўную карціну.

— Добра. Прынясіце газеты і толькі праз дзесяць хвілін пасля гэтага пазваніце Джонсу... І, Тоні, зрабіце ласку, паспрабуйце арганізаваць чаю. Дайце мне адзін кубак цяпер, а калі прыедзе Джонс, прынясіце яшчэ. А з гэтым, — ён перадаў маладому чалавеку кіпу дакументаў, — разбярыцеся самі. Звычайныя паперы.

Сакратар выйшаў і хуценька вярнуўся з тоўстым пачкам газет. Удома расчысціў для іх месца на пісьмовым стале.

Усё было надрукавана на першых палосах плюралійскіх газет: паведамленні аб актах сабатажу, аб крушэннях таварных саставаў, аб узрывах электрастанцый. Так, гэта Мхендзі. Хутка ж ён узяўся за справу!

Акуратная маладая англічанка прынесла чай. Ён падзякаваў ёй.

Удома бегла прагледзеў усе газеты. Потым пачаў чытаць больш уважліва. Так, Мхендзі дзейнічае не на жарт. І яны ведаюць, што гэта Мхендзі і што ён прышоў адсюль. Далікатная ж гэта будзе справа...

Сакратар далажыў аб прыходзе Джонса. Удома падняўся з крэсла і ветліва працягнуў яму руку. Удома ніколі не бачыў гэтага маленькага жаўтаватага чалавека такім сур'ёзным, як цяпер.

— Як маецеся, Джонс?

— Рад, што Тоні прынёс вам газеты, — сказаў Джонс.

— Сядайце. Нам прынясуць чаю.

— Справа вельмі сур'ёзная, вы ведаеце.

— Так, бачу ўжо. Раскажыце мне ўсё.

— Учора ўвечары я атрымаў з Лондана гэтую тэрміновую дэпешу. А сёння раніцай прышла вось гэтая, больш падрабязная тэлеграма. З яе вы ўбачыце, што прадстаўнікі Плюраліі ў Лондане заявілі пратэст ураду Яго Вялікасці, — ён цераз стол падсунуў да Удома паперы, якія трымаў у руцэ.

Удома ўважліва прачытаў тэлеграмы.

Дзяўчына прынесла чайнік. Калі яна выйшла, Удома сказаў:

— Нам трэба ўсё гэта добра абдумаць. Вы, безумоўна, ведаеце, што тут маёй рукі няма. Мхендзі быў маім добрым сябрам. Я выклікаў яго сюды і паступіў бы так з любым маім сябрам, выгнаным з тае расісцкай краіны.

— Вы ведаеце, што і яго правасхадзіцельства і я падзяляем з вамі





пачуццё агіды да расісцкага рэжыму ў Плюраліі. І, безумоўна, мы не думаем, што вы, як прэм'ер-міністр, маеце якоенебудзь дачыненне да таго, што там адбываецца. Аб гэтым мы з Рослі рашылі катэгарычна заявіць ураду.

Удома ўсміхнуўся.

— Вы, здаецца, упэўнены ў гэтым.

— Пазнаеш чалавека, калі папрацуеш з ім столькі часу і так цесна, як мы з вамі. Усю сваю энергію вы аддалі на тое, каб стварыць тут свабодную нацыю. Вы не захочаце знішчыць усё гэта падтрымкай якіх-небудзь безнадзейных выхадак у суседніх краінах.

— Нядрэнна было б, каб мая ўласная партыя так давярала мне.

— Яны яшчэ не зразумелі вашай мэты. Дазволіце закурыць?

— Курыце. Тады ў чым жа праблема? Я гатоў даць клятву, што нічога пра гэта не ведаю. Вы і Рослі пацвердзіце. Урад Яго Вялікасці адхіліць пратэст. Урад Панафрыкі не ўмешваўся ва ўнутраныя справы Плюраліі.

Джонс запаліў сваю люльку і скрозь воблака дыму сачыў за Удома.

— А што, калі яго схопяць? — раптам спытаўся ён.

Удома правёў рукамі па роўнай паверхні стала, адкінуўся назад і ціха засмяяўся. Яго смех ператварыўся ў гучны рогат.

«Ён усё прадбачыць», — падумаў Джонс.

— Разумею, — праз смех гаварыў Удома. — Я думаў, вы давяраеце майму разумнаму сэнсу.

— У гэтым пытанні мы самі не давяраем свайму ўласнаму розуму. Мы з Рослі вельмі моцна ненавідзім рэжым Плюраліі.

— Нічога з таго, што можа сказаць Мхендзі, не дыскрэдытуе мяне.

— Вы зразумелі маю думку? Любое падбадзёрваючае слова...

— Ведаю. Але не турбуйцеся. Нічога такога не было.

— З маіх плячэй зваліўся вялікі цяжар, — сказаў Джонс. — Яшчэ адно...

— Слухаю.

— Рослі думае, што калі Мхендзі выслізне адтуль, то абавязкова вернецца сюды.

— І што ж?

— У такім выпадку нашым абавязкам будзе арыштаваць яго і перадаць уладам Плюраліі.

Удома надоўга задумаўся, потым адмоўна патрос галавою:

— Баюся, што на гэта я згоды не дам.

— Мы будзем вымушаны, калі яны запатрабуюць яго выдачы.

— Мне прыйшлося б тады пайсці ў адстаўку. І я быў бы вымушаны зрабіць пытанне аб кантролі над паліцыяй і службай бяспекі выбарчым лозунгам.

— Вы хочаце гэтага?

— Вы ж ведаеце, што не. Мы яшчэ не гатовы ўзяць на сябе выкананне закону і правасуддзя. Мне, напэўна, спатрэбіцца яшчэ гадоў пяць, перш чым можна будзе гэта здзейсніць.
— Што ж нам рабіць?
— Гэта ваша справа, Джонс. Вы ўсё яшчэ кантралюеце паліцыю. Але калі я вымушан буду павесці супраць гэтага кампанію, яна будзе антыеўрапейскай, і вы ведаеце, як за гэта ўхопяцца прыхільнікі племянных традыцый. Вельмі шкадую, што гэта так, але вы разумееце маю пазіцыю.
— Так... А што, калі я аддам гэтае пытанне на вырашэнне ўрада Яго Вялікасці? Ва ўсякім разе, вы ж ведаеце, мы з яго правасхадзіцельствам зробім усё, што ад нас залежыць. Я амаль спадзяюся...
— Што яны схопяць Мхендзі? — прабурчэў Удома.
— Гэты містэр Ван-Лінтан абівае парог майго кабінета. Вы атрымалі маю памятную запіску пра яго? Нельга ж на самай справе прымушаць кіраўніка эканамічнай місіі Плюраліі так доўга чакаць.
— У час паездкі я меў магчымасць убачыць некаторых з іх інжынераў за працай. Гэта людзі, якія сапраўды цяпер нам патрэбны. Яны шмат чаго робяць для нас. Шкада, канешне, што гэта іменна яны, але трэба прызнацца, што яны вельмі для нас карысныя. Накіруйце яго сюды. Вы ведаеце, чаго ён хоча?
— Думаю, усё тое ж. Я пакажу вам праект адказу, які мы думаем паслаць у Лондан. Я параюся яшчэ з яго правасхадзіцельствам. Містэр Ван-Лінтан ідзе сюды...— Джонс выйшаў.
Удома званком выклікаў свайго сакратара.
— Містэр Ван-Лінтан ідзе сюды ад Джонса. Прыміце гэтыя паперы і прынясіце чаю для нашага бізнесмена. Прабачце, што мой кабінет ператвараецца ў кафэ. У тых паперах ёсць што-небудзь важнае?
— Нічога асаблівага.
— Добра. Заўтра каля чатырох усе міністры павінны прысці да мяне з дакладамі. Калі ласка, паведаміце ім, Тоні.
— Ёсць, сэр.
Удома ўстаў, распрастаў рукавы сарочкі, надзеў гальштук і пінжак, зноў сеў за стол і заняўся чытаннем розных папер, што ляжалі на стале. Неўзабаве сакратар далажыў аб прыходзе белага плюралійца. Тады ён устаў і выйшаў з-за пісьмовага стала.
Ван-Лінтан быў высокі чалавек з тонкімі вуснамі і суровым тварам.
— Прабачце, што прымусіў вас чакаць, — сказаў Удома. — Толькі што вярнуўся з паездкі. Сядайце, калі ласка.
Удома вярнуўся да свайго крэсла і чакаў. Ён ужо меў раней справу з гэтым чалавекам. Ён усё, што хочаш, толькі не дурань; за яго халодным, сур'ёзным абліччам можна ўгадаць востры розум.
— Я мяркую, пан прэм'ер-міністр, што вы ведаеце, чаго я прышоў да вас. — У англійскай мове Ван-Лінтана чуліся гартанныя гукі.
— Не зусім упэўнен. Якая-небудзь затрымка з пазыкай?
— Я прышоў, каб пагаварыць па палітычнаму пытанню, пан прэм'ер-міністр... Я ўпэўнен, што містэр Джонс інфармаваў вас пра пэўныя падзеі, што нядаўна адбыліся ў маёй краіне, — калі толькі была патрэба вас інфармаваць...
Удома слаба ўсміхнуўся.
— Ах, гэта... Так... Мы патрабуем, каб нас інфармавалі пра ўсё, што робіцца ў Афрыцы. Я не сумняваюся, што ваш урад робіць тое ж самае.



— Мой урад сур'ёзна заклапочаны тым, што адбываецца.
— З майго боку было б несумленна сцвярджаць, што я шкадую аб гэтым. Па эканамічных пытаннях мы з вамі вялі адкрытыя і сумленныя перагаворы. Мне не вельмі падабаецца тое, што там адбываецца, і вы ведаеце гэта. Але мяне гэта не датычыць. Безумоўна, вы прышлі да мяне не па гэтаму пытанню, містэр Ван-Лінтан?
— Іменна па гэтаму, пан прэм'ер-міністр. Магчыма, вы зробіце ласку і паглядзіце вось на гэты дакумент,— з сваёй нагруднай кішэні Ван-Лінтан выняў канверт і падсунуў яго цераз стол да Удома. — Пасля таго, як я вось гэта атрымаў, я меў тэлефонную размову з маім прэм'ер-міністрам.
Удома прачытаў тэлеграму.
— Гэты дакумент упаўнаважвае вас дзейнічаць ад імя вашага ўрада. Я думаю, трэба запрасіць сюды містэра Джонса, бо цяпер вы выступаеце ўжо таксама і ў ролі дыпламата.
— Як разумееце, пан прэм'ер-міністр, хаця тое, аб чым я хачу сказаць, зойме зусім мала часу. Здаецца, я не памылюся, калі скажу, што мой урад не зможа знайсці ці даказаць якую-небудзь незаконную сувязь паміж вамі і Мхендзі. Ці не так?
— Вы не памыляецеся, містэр Ван-Лінтан.
— Такім чынам, брытанскі ўрад збіраецца адхіліць наш афіцыяльны пратэст?
— А як ён можа паступіць інакш?
— Вы кіруеце краінай, пан прэм'ер-міністр. Дапусцім, што ролі нашы перамяніліся. Што б вы рабілі, апынуўшыся ў сітуацыі, у якой цяпер знаходзіцца мой урад?
— Такой сітуацыі ў нас з'явіцца не можа, містэр Ван-Лінтан. У нашай краіне мы не прыгнятаем большасць народа.
Па твары Ван-Лінтана прамільгнуў цень раздражнення.
— Паслухайце, пан прэм'ер-міністр...
Дзяўчына прынесла чай. Ван-Лінтан з цікавасцю паглядзеў на яе. У вачах Удома ўспыхнуў насмешлівы агеньчык. Ён падумаў: «А ну, давай, Ван-Лінтан, спытайся ў яе, што яна адчувае, прыслугоўваючы чарнаскураму; скажы ёй, што такога ў вашай краіне здарыцца не можа».
Дзяўчына выйшла.
— Вы нешта хацелі сказаць, містэр Ван-Лінтан?
— Не, няважна. Галоўнае вось у чым: нам патрэбен Мхендзі, пан прэм'ер-міністр.
— Наколькі мне вядома, ён знаходзіцца ў вашай краіне.
— Мы можам і не злавіць яго. Мы думаем, што, магчыма, ён вернецца сюды.
— Разумею...
— Як я толькі што вам гаварыў, ён патрэбен майму ўраду.
— Мне здаецца, вам лепш абмеркаваць гэтае пытанне з містэрам Джонсам, містэр Ван-Лінтан. Гэта яго справа.
Ван-Лінтан выпрастаў спіну і глянуў проста ў вочы Удома.
— Пан прэм'ер-міністр, мой урад загадаў мне вярнуцца назад разам з усёй дэлегацыяй у тым выпадку, калі я не змагу запэўніць яго, што атрымаў ад вас самае цвёрдае абяцанне...
Удома стараўся трымаць сябе ў руках. Раптам твар Ван-Лінтана ператварыўся ў расплывістую пляму. Ён глыбока ўздыхнуў і зноў ясна

ўбачыў твар Ван-Лінтана. Гэта адзінае, чаго ён не прадугледзеў. Потым да яго зноў данёсся голас Ван-Лінтана:

— ...Мы разумеем вашы цяжкасці. Але праўленне — гэта майстэрства магчымага...

— Але я запэўняю вас, што мне пра гэта нічога невядома.

Ван-Лінтан паціснуў плячыма, на яго вуснах зайграла ледзь прыкметная ўсмешка.

— У такім разе, сэр, я баюся, што нам прыдзецца ануляваць планы і пагадненне, якія мы парафіравалі. Нашы спецыялісты будуць зараз жа адкліканы. Для сваіх планаў індустрыялізацыі вам прыдзецца шукаць капітал і кваліфікаваных людзей у другіх месцах. Мне вельмі шкада, але ў мяне ёсць інструкцыі.

— Вы ж дзелавы чалавек, містэр Ван-Лінтан! Ва ўсім гэтым для вас і трымальнікаў вашых акцый тояцца вялікія прыбыткі. Пакіньце палітыку палітычным дзеячам. Рабіце сваю справу! Здабывайце прыбыткі! Наша краіна багатая, і вы можаце зарабіць сабе частку яе багаццяў.

— Даруйце, пан прэм'ер-міністр. У мяне інструкцыі.

— Даю вам слова гонару. Я нічога пра гэта не ведаю.

— Тады абяцайце, што вы выдасце яго нам, калі ён вернецца сюды.

— Гэта зваліць мой урад, знішчыць усё, аб чым я марыў і што планаваў. Безумоўна, вы разумееце гэта!

— Даруйце, сэр. У мяне інструкцыі. Ёсць спосабы рабіць такія рэчы без шуму. Мы будзем дзейнічаць разам.

Удома ледзь стрымліваў сябе. Трэба абдумаць усё спакойна і ясна. Спакойна і ясна. Думаць. Думаць. Думаць... Яны маюць сур'ёзны намер, гэтыя белыя расісты. Альбо ты выдасі ім Мхендзі, альбо ўсе твае планы правалянцца. Ты шукаў усюды, і яны аказаліся адзінымі, хто можа зрабіць усё ў тэрмін і ў памерах, якія табе патрэбны...

— Калі вы звяжацеся са сваім урадам? — панура спытаў Удома.

— Я чакаю іх званка ў шэсць гадзін вечара.

Эх, калі б тут быў хто-небудзь, з кім можна было б пагаварыць. Хто-небудзь, хто зразумеў бы, выслухаў і ўцешыў яго... Лойс... Эх, Лойс.

— Я вам да таго пазваню. А цяпер пакіньце мяне аднаго.

— Дзякую вам, пан прэм'ер-міністр. Вы разумееце, у гэтым няма нічога асабістага, і магу запэўніць вас ад імя ўрада, што пра гэта ад нас ніхто не даведаецца. І да таго ж можа здарыцца, мы схопім яго і раней...

— Пакіньце мяне!

— Да пабачэння, пан прэм'ер-міністр.

Ён доўга сядзеў адзін, праваліўшыся ў сваім крэсле, нічога не бачачы, нічога не адчуваючы, акрамя бязмежнай і страшнай адзіноты... Потым у яго розуме ўзнік голас Мхендзі: марудлівыя, ціхія гукі яго гаворкі, лёгкі налёт ласкавай пяшчоты ў яго хрыплаватым голасе... І самая светлая з усіх мар: прывесці краіну туды, адкуль ужо не будзе шляху назад. Здзейсніць вялікі пераход ад мінулага ў будучае... К чорту Мхендзі! К чорту яго! К чорту ўсіх!

Увайшоў сакратар.

Удома ўскочыў з месца і пачаў размахваць рукамі.

— Чаго вам трэба! — закрычаў ён у раптоўным прыступе шаленства. — Пакіньце мяне аднаго! Прэч! Прэч адсюль!

Малады чалавек заморгаў вачыма. Раскрыў рот. Удома схапіў са стала кубак.



— Прэч!

Малады чалавек кінуўся да дзвярэй.

Удома зноў паваліўся ў крэсла і пачаў біць кулакамі па стале. Потым ён раптам ускочыў і шырокімі крокамі выйшаў у кабінет сакратара.

— Я іду дадому! Мне трэба пабыць аднаму!

Шафёра нідзе не было відаць. Удома сеў за руль, ірвануў машыну з месца і на небяспечнай скорасці рушыў з квадратнага двара сакратарыята, робячы драпіны на кузавах суседніх машын. Ён не паменшыў скорасці і на вуліцах горада. Чорны паставы палісмен засвістаў у свісток і рабіў шалёныя сігналы, але потым пазнаў машыну і спыніў рух усяго другога транспарту.

Перад сваім домам Удома націснуў на тормаз. Машына са скрыгатам прыпынілася. Ён выйшаў і імкліва пакрочыў у дом.

На парозе гасцінай яму перагарадзіў шлях Лэнвуд, які толькі што ўстаў з пасцелі.

— Вітанне, Майк. Не чакаў цябе. Паслухай...

— Ды пакінь ты мяне аднаго! Пакінь мяне! Прэч з дарогі! Прэч!

Ён адхінуў Лэнвуда ў бок. Той амаль што ўпаў на тахту. Удома пайшоў у свой пакой, з трэскам зачыніў за сабою дзверы і павярнуў ключ. Ён кінуўся на ложак тварам уніз...

Лэнвуд паволі прыўзняўся і некаторы час сядзеў на тахце, потым падышоў да дзвярэй пакоя Удома. Ён пастукаў. Цяпер гэта быў стары негр, якога бязлітасна збіла жыццё і навакольны свет.

— Майк, табе не трэба быць са мной грубым, ты ведаеш. Усё, што табе трэба зрабіць, — гэта сказаць, каб я пайшоў. Я і сам не застануся там, дзе я не патрэбен. Я чалавек, а не сабака.

— Пакінь мяне! — у голасе Удома пачуліся ноткі вар'яцтва.— Пакінь мяне аднаго!

— Добра, Майк,— сказаў ціха Лэнвуд.— Я пакіну цябе.

* * *

Лэнвуд пайшоў да сябе. Адамкнуў свой чамадан і выняў адтуль скураны партфель. Раскрыў яго і пералічыў грошы. Сто пяцьдзесят фунтаў акрэдытывамі. Частку гэтых грошай Удома некалі прыслаў ім на падарожжа сюды. Як яны тады трыумфавалі! Больш трох месяцаў назад... І вось гэта: амаль сто фунтаў панафрыканскай валютай, большай часткай — грошы, якія Удома сяды-тады даваў яму на кішэнныя выдаткі, калі яны раз'язджалі па краіне. Чужыя грошы. Не яго. Грошы, якія яму давалі. Не зароблены ім... Ён узяў з чамадана свой пашпарт і паклаў яго ў кішэню пінжака.

Лэнвуд выйшаў з дому і накіраваўся ў бок горада. Ён не прывык карыстацца прымітыўным гарадскім аўтобусным транспартам. Сонечны бляск рэзаў вочы. Ён начапіў цёмныя шкельцы на свае акуляры. Стала лягчэй. Ён пачаў пакрывацца потам. Пашукаў вачыма таксі. Ніводнага не відаць. Потым ён выйшаў на асфальтаваную дарогу. Гарачыя хвалі спякоты агарнулі яго. Закружылася галава. Ад стокавай канавы панесла агідным пахам бруду.

Ён апынуўся ў ваколіцах горада. З усіх бакоў яго акружалі цёмнакарычневыя вясёлыя людзі. Тут было мноства таксі. Але ён вырашыў рэшту дарогі прайсці пешшу. Пазней яму можа спатрэбіцца кожны грош.



Ён прайшоў каля жанчын, якія прадавалі свае тавары на тратуары па той бок канавы. Іх вясёлая гамонка гучала на мове, якой ён не разумеў. Яны рабілі яму знакі, запрашаючы купіць іхнія заседжаныя мухамі тавары. Ён раптам зразумеў, што тут ён заўсёды будзе пабочнай асобай. Нягледзячы на яго чорную скуру, паміж ім і гэтым светам ляжала глыбокае бяздонне, і ён ужо вельмі стары, каб паспяхова пераадолець яго. Ён занадта доўга жыў у заходнім свеце, каб быць карысным у якім-небудзь іншым.

Раптам ён адчуў, што вельмі стаміўся, стаміўся нават ад гэтых рослых, вясёлых басаногіх людзей, што таўкліся вакол яго, ад мух і ад смуроду. Ён падазваў таксі і сеў.

— У параходную кантору, — сказаў ён чорнаму юнаку, які ўсміхаўся яму ўсім ротам.



Па-праўдзе, мне хочацца домоў, у Лондан. Толькі цяпер я зразумеў, як прывык я да Лондана. Недарэчна было думаць, што мне ўдасца скінуць з сябе трыццаць год майго жыцця, як быццам гэта дробязь. Як гэта там пяецца ў той песні, з якой я заўсёды пацяшаўся?..

Мо' таму, што прыроджаны лонданец,
Дзе б ні быў, я ўсё мару аб ёй...

І, нарэшце, цяпер, калі ты ўжо вельмі стары, каб падтрымліваць рэчаіснасць, ты стаў тварам да твару перад ёю, ці не так, Том? Але што такое рэчаіснасць? Што колер скуры не аўтаматычны пашпарт у Афрыку? Што чалавек зроблен са складанай спадчыннасці, самым важным элементам якой з'яўляецца краіна, дзе ён нарадзіўся? Што ён павінен быць волатам, каб пераадолець, па-сапраўднаму пераадолець гэтыя галоўныя рысы спадчыннасці? Ці не гэта рэчаіснасць? Напэўна так. Таму што другое надта ўжо страшна. Але ж хіба можа памыліцца чалавек у тым, што змагаецца за свабоду?

Калі таксі прыпынілася, шафёр аглянуўся на седака і ўбачыў старога чалавека, які згорблена сядзеў у кутку, нібы ў сне, уткнуўшы падбародак у грудзі.

— Мы прыехалі, са.

— Што? Ах, так, так...

Лэнвуд выйшаў з машыны. Разлічыўшыся з шафёрам, увайшоў у параходную кантору.

Праз дваццаць мінут Лэнвуд выйшаў адтуль з білетам у кішэні. Ён пайшоў у вялікі, перапоўнены людзьмі будынак пошты. Там ён напісаў тэлеграму:

МЭРЫ ФЕЛД 36 РЫДЖЭНСІ М'ЮЗ ЛОНДАН
АДПРАЎЛЯЮСЯ «САВОЙІ» СЁННЯ БУДУ ДОМА ТРЫ ТЫДНІ
МНЕ НЕ СТАЕ ЦЯБЕ — ТОМ

Ён заплаціў за каблаграму і паехаў на таксі назад. Акрамя слуг, нікога дома не было. Да адплыцця парахода засталося тры гадзіны. Трэба ўпакаваць рэчы. Ён пачаў, не спяшаючыся, укладваць чамаданы. Ці будзе Мэры помніць тую бязглуздую апошнюю сварку? Не. Яна адзіная, хто быў верным яму ўсе гэтыя доўгія гады. Яна зразумее. Яны многа год жылі разам і належалі адзін аднаму, нягледзячы на ўсе іх сутычкі.

Эканом паклікаў яго снедаць. Ён пасядзеў адзін за сталом, потым пайшоў збіраць рэчы, а слугу паслаў за таксі. Затым сеў і напісаў Удома:

«Дарагі Майк,

Гэтым я развітваюся з табою. Я вяртаюся ў Англію. Як ты мне вельмі ясна сёння паказаў, я стаў на тваім шляху і мяне трэба спіхнуць на бок. Такога я не цярпеў яшчэ ад белых і не бачу, чаму павінен пераносці ад чорных. Развітайся за мяне з астатнімі і прымі маё дзякуй за ўсё. Што самае балючае, гэта тое, што мы некалі былі таварышамі.

Томас Лэнвуд».

Потым яго павезла таксі, а там — параход.

* * *

Першым убачыў гэты ліст Эдэбхай, які прышоў да Удома даведацца, што з ім такое здарылася. Потым з свайго пакоя выйшаў Удома. Ён ужо быў у настроі.

Эдэбхай перадаў яму ліст Лэнвуда.
— Том паехаў, — сказаў ён.
Праз некалькі хвілін Удома адарваў вочы ад ліста.
— Я не люблю, калі хто чытае мае пісьмы, Эд.
— Яно было адкрытае, ляжала вось тут, ва ўсіх на віду.
— Том вялікі дурань!
— А што здарылася?
— Пазвані ў параходства і даведайся, калі ён адплывае і дзе ён цяпер...
Эдэбхай падышоў да тэлефона.
— Ён сеў на грузавы параход, які адплыў паўгадзіны назад. Што здарылася, Майк?
— Я быў нечым расхваляваны і сказаў яму, каб ён пакінуў мяне аднаго. Ты ж ведаеш, як Том можа блытацца пад нагамі. Я адпіхнуў яго ў бок і пайшоў у свой пакой. І вось табе на... — Удома шпурнуў пакамечаную паперку ў бок.
— Ён ніяк не мог знайсці сваё месца, — сказаў спакойна Эдэбхай.
— Але паехаць так, як ён...
— Магчыма, так лепш, дружа, — Эдэбхай усміхнуўся, але вочы яго засталіся панурымі. — Ва ўсякім выпадку, ты можаш яму напісаць і ўсё растлумачыць. Там ён прынясе больш карысці.
— Чаго ты прышоў? — спытаўся раптам Удома.
— Калі з тваёй канцылярыі пазванілі, што нарада адкладваецца, я пайшоў туды. Мне сказалі, што ты дома... Што з табою, дружа?
— Галава балела, Эд. Усяго толькі балела галава. Але цяпер усё прайшло.
— Я вельмі рады, дружа. Ну, як паездка?
— Выдатная, але я потым табе ўсё раскажу. Сёння ўвечары. А цяпер ідзі. Мне трэба пагаварыць па тэлефоне па важнаму пытанню. Убачымся ўвечары на пасяджэнні выканкома.
Эдэбхай неахвотна пайшоў. Удома падняў тэлефонную трубку.

## 7

Ішоў дождж. Балюча білі цела вялікія і цяжкія кроплі. Яны падалі суцэльным патокам. А ноч была чорная, як смоль, такая ж чорная, як і змрочныя джунглі за плячыма Марыі.

Яна прытулілася да маладога дрэўца і была ўдзячна дажджу. Няхай ён збівае і мочыць яе, няхай ён нават пусціць ёй кроў. Гэта не страшна. Дзякуючы дажджу яны ўсё яшчэ тут, і яе не пакіне надзея, што Мхендзі вернецца. Але ці зможа ён адшукаць дарогу скрозь гэтую цемру і дождж? Ці зможа? Так, некалі ён вёў цэлую армію. Ён знойдзе дарогу. Гэты дождж — добрая прыкмета. Гэта знак, што ён здаровы і прыдзе. Дождж пачаўся чатыры дні назад, перад самым апошнім днём месяца, і ім ужо трэба было пусціцца ў зваротны шлях скрозь джунглі. Каб не дождж, яны пайшлі б адсюль ужо тры дні назад. Але пачаўся дождж, і вось яны тут, і ён прыдзе. Абавязкова прыдзе. Прыдзе...
Што гэта?

Яна пачала напружана ўглядацца ў цемру. Можа гукнуць? У такі лівень ні адзін белы чалавек не пусціцца ў дарогу.



— Мхендзі! — гукнула яна, і яе працяглы вокліч абарвалі ўзрыды. Яна паўтарыла: — Мхендзі!
Нешта слізкае папаўзло па нагах. Яна глыбока ўсадзіла пазногці ў кару дрэва і замёрла на месцы. Нарэшце яно знікла. Яно паднімаецца на дрэва? О, Мхендзі... Супакойся, а то цябе ўжо не будзе, каб сустрэць яго. А што, калі яго схапілі? Забілі... Не, не, ён прыдзе...
— Марыя! Дзе вы?
— Я тут, Джазэф!
Джазэф запаліў ліхтарык і павольна пайшоў да яе, перад кожным крокам уважліва аглядаючы зямлю. Падышоўшы, ён сказаў:
— Я гаварыў вам, што хадзіць адной небяспечна. А вы пайшлі без ліхтара.
— Змяя... — сказала яна. Потым учапілася за яго локаць. — Джазэф! Глядзіце!
Яна кінулася наперад. Але Джазэф схапіў яе і пацягнуў назад.
— Там святло!
Недзе далёка наперадзе слабы агеньчык працяў цемру і пагас. Марыя вырывалася з рук Джазэфа. Ён адчуў, што яна раскрыла рот, каб закрычаць, і закрыў ёй рот рукою.
— Пачакайце! — прашаптаў ён. — Пачакайце, Марыя! Можа, гэта чужыя.
Яна прыціхла. Ён зняў руку з яе вуснаў.
— Гэта Мхендзі, — сказала яна.
— Трэба пачакаць, — сказаў ён цвёрда.
— Ізноў святло! — Цяпер агеньчык быў ужо бліжэй.
— Лічыце ўспышкі, — сказаў Джазэф. — Тры, потым паўза, потым дзве.
— Дзве, — прашаптала Марыя. — Тры... Вось, вось... Так і ёсць. Адна, дзве...
— Гэта ён! — выгукнуў Джазэф.
Марыя адпіхнула яго і пабегла наперад.
— Мхендзі! Мхендзі!
— Марыя!
— Са! — усклікнуў Джазэф, забыўшыся на асцярожнасць.
Раптам у начной, апавітай завесай дажджу цемры выразна вызначылася фігура Мхендзі. Шырока раскінуўшы рукі, Марыя падскочыла да яго, але, не разлічыўшы адлегласці, цяжка ўпала на зямлю каля яго ног. Мхендзі апусціўся ў вадзе на калені. Нехта ззаду яго запаліў ліхтарык. Джазэф адскочыў назад, сунуў руку ў кішэню і выцягнуў пісталет.
— Хто гэтыя людзі, са?
— Не турбуйся, Джазэф. Гэта мае людзі, мае салдаты.
Джазэф схаваў свой пісталет у кішэню. Мхендзі падняў Марыю.
— Ты вярнуўся...
— Я ж абяцаў.
— Лепш пайсці адгэтуль, — сказаў Джазэф.
Ён павёў іх у лагер. За ім ішлі Мхендзі і Марыя, абхапіўшы адно другога рукамі. Ззаду ішлі два маўклівыя плюралійцы.
Мерна сек дождж, але ўжо не так бязлітасна, як раней. За ноч пройдзе. І на світанні зноў выгляне сонца.
— Я баяўся, што вас ужо няма, — крыкнуў Мхендзі Джазэфу. — Таму я і прышоў з двума маімі людзьмі. Аднаму прабірацца скрозь джунглі было б нялёгка.

— Нас затрымаў дождж, — адказаў Джазэф.
— Я на гэта і спадзяваўся.
— Я ведала, што ты прыдзеш,— сказала Марыя.— Але ўсё ж трывожылася.
— Я не мог прыйсці ўпару,— прамовіў Мхендзі.
Яны ўвайшлі ў джунглі. Джазэф склаў рупарам рукі і завухкаў савой тры разы.
— Гэта Джазэф? — сказаў нехта зусім блізка.
— Я, — адказаў Джазэф і запаліў ліхтарык. Проста перад імі на сцежцы стаяў юнак з аўтаматам. Ён быў амаль зусім голы, толькі сцёгны былі перавязаны павязкай.
— Трэба гукнуць, перш чым падысці так блізка, — сказаў ён.
— Вярнуўся містэр Мхендзі.
— Прывітанне, са! Мы трывожыліся за вас.
Джазэф павёў іх далей. Вартавы застаўся на сваім месцы. Цяпер Джазэф ужо не гасіў свайго ліхтарыка. Неўзабаве яны прышлі ў лагер. З ліянаў, сарваных з вялікіх дрэў, людзі Джазэфа зрабілі над лагерам густы зялёны дах, ператварыўшы гэтае месца ў прасторнае памяшканне з высокім купалам. Пасярэдзіне патрэсквала і іскрылася яркае вогнішча. Вольныя ад вахты юнакі разляглiся вакол агню.
— Містэр Мхендзі! — паклікаў адзін з іх.
— Як там было, са? — спытаўся другі.— Мы трывожыліся за вас.
Марыя ўзяла Мхендзі за руку і павяла ў маленькую палатку. Там ён скінуў мокрае адзенне.
— Як вы тут жылі? — спытаўся ён.
— Адно суцэльнае чаканне, — сказала яна. — Кожную ноч я спала адна на тваім ложку. О, як цяжка чакаць! І ўвесь час трывожыцца. Цябе ж на кожным кроку падсцерагала смерць.
— Я часта думаў пра цябе, — сказаў ён.
— А адзінота, якая не адступалася раней ад цябе? Яна вярнулася?
— Не, дарагая, не. Мне здаецца, яна пакінула мяне назаўсёды.
— Я вельмі рада.
— Я зноў пайду туды.
— А я буду зноў чакаць...
— Але ўжо толькі на другім баку джунгляў. Джунглі — не месца для жанчыны.
— Не. Я буду чакаць цябе тут. Я буду ва ўсім паслухмяная, але толькі не ў гэтым. Калі ласка, больш не гавары пра гэта. У гэтым для мяне вялікі сэнс.
— Марыя...
Ён прыхінуў яе да сябе.
Яна вызвалілася з яго рук, завярнулася ў сухі кавалак тканіны і дапамагла яму завязаць вузел тогі.
Нехта знадворку крыкнуў:
— Час вячэраць!

* * *

Ласкава і пяшчотна Мхендзі гладзіў шыю Марыі.
Яна ляжала ля яго і плакала.
Ён гладзіў яе, пакуль не сціхла ўсхліпванне, пакуль яна не супакоілася. «Палёгка пасля чакання, — падумаў ён. — Мужчыны часта забываюць вялікі цяжар жаночага чакання. Спі, Марыя. Пакуль што для цябе чаканне скончылася, таксама як для мяне — пераходы са страхам і асцярогаю. Калі праўда, што вялікія правадыры вызваленчых рухаў не ведаюць страху, тады я не правадыр, а баязлівы ашуканец, які павінен працягваць сваю справу, бо ў яго няма іншага выйсця. У сапраўднасці ж у мяне вельмі мала мужнасці. Усякі раз, калі паляўнічыя набліжаліся да мяне, я паміраў ад страху. Я толькі хаваю гэта ад другіх. Вось і ўсё. Спі! Ты заваявала маё сэрца і суцешыла мяне больш, чым ты думаеш. Спі, каханая!..»



Нарэшце яна заснула. Ён падняўся з ложка, апрануўся і падышоў да вогнішча. Сёй-той з юнакоў спаў каля агню. Другія, у тым ліку і два яго чалавекі, размаўлялі ў вялікім будане. Мяркуючы па шуму, дождж павінен хутка скончыцца. Магчыма, праз паўгадзіны. Эх! Забыўся ўзяць паперу. Ён ціхенька пайшоў у сваю палатку і ўзяў свае пісьмовыя прылады. Потым вярнуўся, сеў ля агню і пачаў пісаць, ледзь прыкметна ўсміхаючыся. То была неабходная эфектная і тэатральная частка справы. Але людзям патрэбны такія вось эфекты, каб падтрымліваць у іх мужнасць і весці іх наперад ці, наадварот, пасяліць у іх страх. Гэта зробіць і тое і другое: напалохае белых гаспадароў і падбадзёрыць чорных рабоў. Як яго назваць? «Пасланне ад Мхендзі?» Не, «Камюніке № 1»? Вось так. Камюніке № 1. А цяпер пералічыць, што было зроблена... Так. Цяпер прычыны. Яны ведаюць і самі, але скажы ім. Вядома, белыя ведаюць, але скажы ім... А цяпер абвінаваўчая частка. Кожны месяц будзе публікавацца камюніке.
З другога краю палаткі да яго данёсся шорах. Потым ён убачыў, як вялізная змяя, тлустая, доўгая, бруднazялёная, выпаўзла з зараснікаў і стала набліжацца да вогнішча. Мхендзі памкнуўся за пісталетам, які ляжаў ля яго ног. Не паспеў ён падняць яго, як злева на краі палянкі яркая ўспышка агню прарэзала цемру. Доўгае цела задрыжала, канвульсіўна скруцілася і больш ужо не варушылася. Усе прачнуліся, а хто быў у палатках, выскачыў на палянку. Малады вартавы падышоў да агню, трымаючы ў руках аўтамат.
— Я пачуў, як яна паўзе, са, і пайшоў за ёю.
Усе аглядзелі мёртвую змяю. Потым Джазэф сказаў:
— Ну, добра. Цяпер спаць.
Да Мхендзі падышоў адзін з яго людзей:
— Дождж перастае.
— Вы хочаце вярнуцца назад?
— Лепш ісці цяпер. Калі мы пойдзем адсюль пазней, нас можа схапіць паліцыя перш, чым мы паспеем дабрацца ў бяспечнае месца. Лепш не пападацца ім на допыт, калі гэтага можна пазбегнуць.
— Ну, добра. Вы ведаеце, што рабіць.
Да іх падышлі Джазэф, Марыя і другі плюраліец.
— Ён лічыць, што ім лепш вярнуцца, пакуль цёмна,— сказаў Мхендзі. — Скажыце нашым сябрам, што праз месяц я зноў буду тут; і тады мы зможам зрабіць тут пастаянны лагер. Скажыце ім, што цяпер я ў бяспецы, сярод сяброў. Няхай яны рыхтуюць наступную фазу аперацыі, згодна з нашымі планамі. І памятайце, ніякіх неабдуманых учынкаў, ніякіх забойстваў. Гэта новы від вайны.
— Можа, трэба будзе прыняць якія-небудзь меры перасцярогі? — сказаў плюраліец. — Вы можаце прыйсці і трапіць у паліцэйскую засаду. Такое здараецца. Дзе мне пакінуць вам запіску, калі спатрэбіцца?

— Вось тут,— сказаў Джазэф. — Мы пакінем тут нашы палаткі.
У сваім блакноце Мхендзі накідаў план узлесся джунгляў. Потым ён накрэсліў абрысы плюралійскай вёскі, адкуль яны прышлі.
— Вось гэтая вёска, з якой мы прышлі. Памятайце, мы падышлі да гэтага ўзгорка. Потым каля мілі цягнецца адзін толькі хмызняк. Вось пункт, дзе дрэвы выступаюць далей, чым у другіх месцах. Справа ад гэтага пункта стаяць чатыры дрэвы, больш высокія, чым іншыя. Пад гэтымі чатырма дрэвамі мы цяпер і стаім. Іх можна бачыць толькі здалёк. А потым ужо справа за вамі.
— Можна ўзяць гэтую карту?
— Не. Запомніце яе.
Чалавек уважліва паглядзеў на план, потым кіўнуў галавою. Мхендзі вырваў лісток з блакнота і кінуў яго ў агонь.
— Цяпер пераапранайцеся і ідзіце.
— Ваша вопратка ў палатцы,— сказаў Джазэф. — Яна сухая. Кладзіцеся спаць, са. Я ім сам пакажу дарогу. Раніцай вам спатрэбяцца сілы для паходу.
— Добра. Шчаслівай дарогі вам абодвум. Толькі будзьце асцярожнымі.
— Ідзі ж адпачні,— сказала Марыя.

## 8

Праз адзінаццаць дзён Мхендзі і Марыя ўвайшлі ў дом Сяліны.
Сяліна радасна абняла Мхендзі.
— З добрым прыбыццём, Мхендзі! Калі ласка, уваходзь, мой брат! Я чула, што твае справы адгукаюцца рэхам ва ўсім свеце і што тых, хто лічыць сябе тваімі гаспадарамі, цяпер ахапіў страх. Я вельмі рада бачыць цябе жывым і здаровым... Уваходзьце. Сядайце... Прынясіце есці! Прынясіце выпіць!.. І цябе вітаю, Марыя, дзіця маё! Ці не добрую жанчыну я знайшла табе, а, Мхендзі!
— Я вельмі рад бачыць вас, Сяліна,— сказаў Мхендзі. — А гэтая жанчына, што вы знайшлі для мяне, проста брыльянт. Яна блізкая майму сэрцу.
Сяліна ўвіхалася каля стала, наглядала за тым, што падаюць на стол, і рабіла ўсё, каб ім было прыемна і ўтульна. Калі яны елі, Сяліна падсела да іх. Яна прынесла замежныя газеты і з гордасцю паказвала ім; яна не магла адарваць вачэй ад фатаграфій разбураных электрастанцый Плюраліі, скінутых пад адхон таварных паяздоў, згарэўшых фабрык.
— Тут ёсць нават і твой партрэт,— усміхнулася яна.
Калі скончылі есці, Сяліна папрасіла ўсіх выйсці. Марыю яна пагладзіла па руцэ.
— Ідзі ў свой пакой і адпачні, дзіця маё. У вас быў цяжкі шлях. Мне з Мхендзі трэба пагаварыць. Не бойся, надоўга яго не затрымаю.
Калі яны засталіся адны, Сяліна адразу стала сур'ёзнай.
— Усё так і было, як пішуць у газетах, Мхендзі?
Мхендзі хуценька прагледзеў газеты.
— Так. І нават больш.
— І што тысячы паліцэйскіх ходзяць па тваіх пятах?
— Так.



— Тады табе трэба быць вельмі асцярожным, нават тут. Белы чалавек усё яшчэ тут, у нас. Мы яшчэ ад усіх іх не збавіліся. Удома гавораць, што яны нам яшчэ патрэбны... — яна паціснула плячыма. — Якія твае планы?
— Я хутка пайду назад. Мае людзі чакаюць мяне праз месяц.
— А тыя юнакі, што я знайшла для цябе, як яны?
— Добрыя хлопцы. Джазэф выдатны начальнік.
— Я вельмі рада... Ну, гавары, што мне трэба для цябе зрабіць, мой дружа.
Мхендзі нагнуўся, падняў з падлогі партфель, які ён увесь час трымаў пры сабе, і перадаў ёй.
— Тут грошы, сабраныя маім народам. Я не ведаю, колькі іх, але вы самі ўбачыце — многа. Нам патрэбна газета. У нас адабралі ўсе нашы друкарскія станкі, а ўсе газеты закрылі. Мы маглі б пачаць выдаваць новую газету, але ўсёроўна знайшлі б наш станок, забралі б яго ці знішчылі. А ён жа каштуе вельмі дарага...
— Значыць, ты хочаш друкаваць газету ў джунглях?
— Так. Ці можаце вы дастаць мне невялічкі станок?
— Я дастану. Можа гэта будзе нялёгка, але для цябе я дастану... Ты гаворыш, што хутка пойдзеш назад. Калі?
— Праз чатыры ці пяць дзён. У наступны раз я прыеду сюды не так хутка, магчыма, праз паўгода-год.
— Ты будзеш жыць у джунглях?
І там, і сярод майго народа. Іх падбадзёрвае, калі яны бачаць, як я прабіраюся скрозь сетку, якую белыя плятуць вакол мяне.
— Я бачу, што гэта разумна. А як з харчамі і іншымі прыпасамі?
— За час майго знаходжання там мы стварылі камітэты. У джунглі прыпасы можна будзе прыносіць ноччу.
— Усё гэта вельмі небяспечна. Лепш не турбавацца аб дробных рэчах. Не думай пра харчовыя прыпасы. Я паклапачуся аб іх. Я ўсё арганізую. Усе свае думкі накіруй на барацьбу.
— Праз джунглі цяжка што-небудзь несці.
— Ну і што ж! Гэта ж для вызвалення Афрыкі. Больш не думай пра гэта. Я хутка паеду туды і ўсё ўладкую.
— І яшчэ адно, Сяліна. Не магу я трымаць каля сябе тваіх юнакоў, калі думаю застацца там на такі доўгі час.
— Для іх гэта карысна. Яны стануць сапраўднымі салдатамі.
— Але я хачу мець пры сабе сваіх людзей. А вельмі многа мне не трэба.
— І што ж?
— І я хачу, каб у джунглі пайшлі толькі некаторыя з іх, а потым хай і яны вернуцца.
— А Марыя?
Мхендзі ўздыхнуў.
— Я б хацеў, каб і яна вярнулася з імі. Для яе гэта было б лепш. Але я ведаю, яна не захоча. І я буду пакутаваць без яе...
— Вазьмі яе з сабою, беражы яе. Яна цяпер твая, назаўсёды.
— Дык няхай так і будзе.
— Адзін раз у месяц я буду пасылаць вам прыпасы, а ты будзеш прысылаць мне весткі аб тым, як у цябе справы... Ну, дык аб гэтым дамовіліся. Магчыма, калі-небудзь я паеду ў тыя месцы і завітаю да вас у лагер. А цяпер табе трэба адпачыць, мой брат.
— Як мае сябры?



— Удома і Эдэбхай здаровы. Я скажу ім, што ты тут.

— Удома гаварыў...

— Ён стаў цяпер вельмі асцярожны, але твае справы распалілі ў ім былы агонь. Цяпер ён хоча бачыць цябе Тут знаходзіцца і другі твой сябар.

— Мабі?

— Так. На тым тыдні ён стаў міністрам адукацыі і нацыянальнага кіраўніцтва. Ён нядрэнны чалавек. Мне ён падабаецца. Ведаеш, гэта ж мы прымусілі Удома выклікаць яго сюды. Ён бы не даў згоды, калі б не з'явілася небяспека страціць падтрымку горцаў.

— Не мая справа, Сяліна, але мне здаецца, што вы памыляецеся.

Вусны Сяліны скрывіліся.

— Ты яму верны, мой дружа. І я таксама. Мы больш пра гэта не будзем гаварыць.

У галаве Мхендзі прамільгнула думка: «Яна, як змяя». Ён сказаў:

— Як цудоўна было б зноў пабачыцца з Мабі... А Лэнвуд?

— А ты не ведаеш? Ён паехаў.

— Як? Паехаў?!

— Ён паехаў больш месяца назад, у той самы дзень, калі Удома вярнуўся з турнэ.

— Але чаму?

— Ніхто не ведае. Ён проста ўзяў свой чамадан і паехаў.

— Не можа быць!

— Спытайся заўтра сам у Удома... А цяпер лепш адпачні, мой дружа. Позна ўжо.

Дык Том паехаў спакойна і маўкліва, як непатрэбны чалавек. Куды ён паехаў? Назад да Мэры Фелд? Вярнуўся прасіцца, бо тут для яго не было месца. Не знайшлося месца ў Афрыцы, аб чыёй свабодзе ён марыў усё сваё жыццё! Вядома, у многіх пытаннях ён быў проста прафан — непаваротлівы, упарты, пазбаўлены гумару чалавек. Але такое... Гэта ж самая жорсткая кара, якую мог прыдумаць толькі самы злейшы вораг. Бедны Том. Трэба будзе хоць напісаць яму...

Ён падняўся з крэсла і пайшоў да дзвярэй.

— Добрай ночы, Сяліна.

Гэта быў той самы пакой, які яна адвяла яму ў першы ж дзень яго прыезду ў Панафрыку. Дзіўная жанчына: спалучэнне жорсткасці і чуласці. Марыя ўжо спала, скурчыўшыся на ложку, як дзіця. Спі, дзіця маё, табе трэба паспаць. І мне таксама. Бедны Том. Аднак, лепш спачатку напісаць пісьмо. Пазней можна забыцца. Ці не будзе часу. Не хацеў бы, каб Том думаў, што я забыўся пра яго...

Ён дастаў сваю запісную кніжку і напісаў пісьмо. Потым распрануўся і лёг асцярожна, каб не разбудзіць Марыю...



* * *

На другі дзень пад вечар па яго прыехала машына Удома.

Сяліна была вельмі задаволена. Яна сказала Мхендзі:

— Гэта добра. Апошні час ён праяўляў занадта многа асцярожнасці. Прэм'ер-міністр павінен асцерагацца таго... Прэм'ер-міністр павінен асцерагацца гэтага... Было б добра, каб ён забыўся, што ён прэм'ер-міністр, і зноў стаў тым разгневаным барацьбітом, якім быў калісьці. Афрыцы яшчэ патрэбны барацьбіты. Вы зноў збярэцеся разам, як мужчыны, як старыя сябры. Вы з Эдэбхаем і Мабі можаце падагрэць яго мужнасць. І мы б пазбавіліся ад гэтых белых людзей, зусім пазбавіліся б ад іх! Пераканай яго ў гэтым, брат мой.

Калі прыехаў Мхендзі, Удома быў адзін. Ён сядзеў за сталом, уважліва чытаючы нейкія паперы. На твары яго ляжаў цень стомленасці. Ён падняўся насустрач Мхендзі. Стомленасць адразу знікла. Твар памаладзеў.

— Мхендзі! Як прыемна зноў бачыць цябе, — яго твар асвятліўся сонечнай усмешкай. — Віншую! Нішто не прыносіла мне такой радасці. — Цяпер у яго голасе пачуліся гнеўныя ноткі: — Ужо многія гады нішто не прыносіла мне такой радасці, як той страх, які ты нагнаў на гэтых белых дзікуноў. Як маешся, дружа?

— Прыемна, што можна адпачыць, — сказаў Мхендзі. — А ты як?

«Ён добра выглядае, — падумаў Удома, — як чалавек, які зноў знайшоў сябе».

— Таксама добра. Увесь час прабую абдурваць мноства людзей. Змагаюся супраць часу. Але пачынаю ўжо бачыць абрысы вынікаў.

Мхендзі падумаў: «Ты пачаў хітраваць, мой сябар. Хацеў бы я ведаць, што ў цябе ў думках. Лепш асцерагаўся б Сяліны». Ён сказаў:

— Ты ведаеш, што Сяліна пачынае выказваць нецярпенне?

— Яна і Эд. Так; і нямала другіх. Апазіцыя Эндуры паказала каштоўнасць афрыканізацыі як баявога закліку. Усё ж я іх абдуру. Самі яны не змогуць захаваць еднасць краіны, і яны залежаць ад мяне. Сядай. Хутка прыедуць Эд і Мабі. Я хацеў пагаварыць, пакуль іх няма.

— Не зніжай ролі Сяліны, — сказаў Мхендзі.

Удома ціхенька засмяяўся.

— Я навучыўся не рабіць такіх памылак. Я вельмі паважаю Сяліну. У сапраўднасці, яна адзіны чалавек, каго я баюся, — яна і Эд. Нават не думаў, што Эд такі заўзяты прыхільнік племянных традыцый. Думаеш, яна здагадваецца, куды я вяду?

— Не ведаю, — сказаў Мхендзі. — Яна думае, што ты занадта асцярожны.

— Добра! Выдатна! Я бясстрашны, як д'ябал, а яна думае, што я асцярожны. Цудоўна!

Мхендзі набіў сваю люльку і закурыў. Слуга прынёс для яго віскі, а для Удома — фруктовы сок.

— Мне патрэбен толькі час, — сказаў Удома адляцеўшым кудысьці далёка, задуменным голасам. — Толькі час...

— Колькі?

— Дзесяць год. У крайнім выпадку — пяць; але лепш дзесяць, каб зрабіць усё, як належыць... Аднак, раскажы мне пра свае планы. Дзе твая база? Як ты прабраўся праз джунглі? Раскажы мне ўсё. Трэба ж калі-небудзь выбрацца адсюль і завітаць да цябе ў лагер.

— Дзевяць дзён хады скрозь джунглі.

Удома ўдарыў далонню па калену і зарагатаў:

— Не гавары толькі, быццам ты падзяляеш думку Сяліны, што я размякчэў!

— Ты вельмі заняты, дружа.

— Скажы, дзе твая база, і пабачыш, што я наведаю цябе. Гавары. Ну, выпрабуй мяне!

— Добра. Але, на маю думку, неразумна, каб ты падвяргаў сябе такой рызыцы. Дай кавалак паперы...

Удома ўзяў са стала аловак і паперу, падышоў і сеў побач з Мхендзі. Мхендзі пачаў наспех чарціць карту і тлумачыць.

— Тайная сцежка праз джунглі пачынаецца вось тут, ніжэй гэтай вёсачкі. Ты ведаеш яе, самая апошняя перад джунглямі. Шлях цераз джунглі злёгку загінаецца ўлева. Выходзіш тут. Калі малюеш, усё здаецца лёгкім. Але на самай справе сюды прыходзіш пасля дзевяці дзён хады ў цемры. І перад табой адкрываецца Плюралія. Наш лагер вось тут. З боку Плюраліі яго можна ўбачыць па гэтых чатырох высокіх дрэвах, што ўзвышаюцца над усімі іншымі. Ён уяўляе сабой прасторны зялёны будан. Ён не працякае ў дождж, і там можна разводзіць вогнішча, а дыму не будзе бачна. Гэта такое бяспечнае месца, лепш за якое нельга і жадаць. Нават калі б паліцыя і шукала мяне там, у яе была б страшэнна цяжкая задача, а мяне б у час папярэдзілі, і я б знік перш, чым яны знайшлі б наш лагер, калі ім гэта наогул удасца.

— Але ім не ўдасца, ці не так?

— Па-мойму, гэта немагчыма.

— Добра... Ну, я знайду яго. Дай мне гэты план. Я гавару шчыра. Я прыду... Ну, а цяпер скажы, якія ў цябе планы на будучае.

Мхендзі расказаў яму свой план, пра які раней гаварыў Сяліне. Калі ён скончыў, Удома ўздыхнуў і адкінуўся на спінку крэсла.

— Божа! Як бы мне хацелася быць там з табою. Твая барацьба чыстая і сумленная, і прамалінейная. А тут я павінен выпінацца і выкручвацца, ісці на здзелкі з людзьмі, якіх ненавіджу; быць чароўным нават з гэтымі праклятымі белымі з Плюраліі...— Яго голас асекся ад раптоўнага прыступу гневу: — Павер, часамі я ненавіджу ўсё гэта, Мхендзі! — Потым ён супакоіўся, паціснуў плячыма і выбачліва ўсміхнуўся, быццам яму стала сорамна за гэтую ўспышку.

Цёплае пачуццё да Удома кранула сэрца Мхендзі, ён стрымаў раптоўнае жаданне сціснуць яго ў абдымках. У яго пачалі ўзнікаць словы суцяшэння. Але ён толькі сказаў:

— Гэта цана, якую мы плацім, Майк, — наша пакаленне...

Вусны Удома злосліва перасмыкнуліся, аднак голас яго гучаў мякка:

— А тыя, што прыдуць пасля нас, сядуць нас судзіць і будуць судзіць сурова. Ты разумееш, Мхендзі. А цяпер скажы мне, калі б ты быў у маім становішчы, — ці нават у сваім уласным становішчы — і быў бы вымушаны або ахвяраваць адным чалавекам, каб замацаваць якое-небудзь дасягненне і, магчыма, дабіцца большага, або страціць усё, чаго дасягнуў і, магчыма, многае іншае... Што б ты выбраў? Скажы мне шчыра.

«Значыць, ты апынуўся тварам да твару з сур'ёзнай задачай, — падумаў Мхендзі, — ты не падманеш мяне сваім нядбайным тонам. Гэта сапраўдная праблема».

— Мне ўжо даводзілася рабіць выбар, ты ведаеш, — спакойна адказаў Мхендзі. — На мне ляжыць адказнасць за смерць многіх людзей.



Удома абняў плечы Мхендзі.

— Як афіцэр адказвае ў байцы, мой сябар.

— Усё ж гэта адказнасць. Мундзір ці інтарэс справы нічога не мяняюць.

— А які выбар ты зрабіў бы сёння? — спакойна спытаўся Удома.

Раптам Мхендзі стала крыўдна. Разбярыся сам! Калі мне трэба было рабіць выбар, мне ж ніхто не дапамагаў. Сам разбярыся.

— Гэта такое пытанне, на якое можна адказаць толькі тады, калі яно паўстае.

— Дапусцім, што яно паўстала. Твой лагер... Так, возьмем, напрыклад, твой лагер. Дапусцім, ты даведаўся, што нехта, каму ты давяраў, збіраецца паведаміць ворагам, дзе знаходзіцца твой лагер. Што ты рабіў бы?

— Мне трэба было б нешта зрабіць.

— Добра. Цяпер возьмем на ступень вышэй. Дапусцім, што гэты чалавек быў табе верны, у яго нават і ў думках не было здрадзіць табе, але ён мог, сам таго не ведаючы, прывесці ў твой лагер ворагаў. Што тады? Ці загадаў бы ты аднаму з тваіх людзей застрэліць яго, каб не даць яму здрадзіць табе?

— Гэта залежала б ад многіх акалічнасцей.

— Напрыклад?

— Напрыклад, што значыла б для мяне раскрыццё лагера.

— Дапусцім, гэта азначала б поўнае паражэнне тваёй рэвалюцыі.

Мхендзі паціснуў плячыма:

— Тады прыйшлося б зрабіць тое... Але куды ты хіліш?

— Нават, калі б гэта быў твой родны брат?

— Гэта быў бы жорсткі выбар, аднак я зрабіў бы яго. Але скажы мне, Майк...

— Я думаю пра Эда. Цяпер мы апынуліся ў крытычным становішчы. Але яно можа прайсці... Прыемна гутарыць з табою, Мхендзі. Ты ўсё гэта добра разумееш. Эх, як было б цудоўна, калі б ты працаваў са мной і быў бы па-сапраўднаму карысным, замест таго, каб рызыкаваць жыццём недзе там, сярод гэтых белых варвараў. Якія ў іх шанцы схапіць цябе?

— Можна папасці ім проста ў рукі, калі я буду вяртацца.

— І тады?

— Думаю, здарыцца няшчасны выпадак. Яны не хочуць адкрытага судовага працэсу.

— Я разумею... Здаецца, машына Эда. Ты чуў, што Том паехаў ад нас?

— Мне гаварыла Сяліна.

— Ён проста выйшаў з дому ў дзень нашага вяртання; выйшаў з дому і сеў на параход, нічога нікому не сказаўшы. Пакінуў запіску.—Ён устаў і пайшоў да дзвярэй.

Увайшлі Мабі і Эдэбхай.

Пасля хвалюючай сустрэчы ўсе яны ёмка ўселіся ў крэслах і загаварылі пра мінулыя часы, пра свае даўнія мары. Да іх амаль што вярнуліся былыя лонданскія дні, бесклапотнае сяброўства тых дзён. Але цяпер на ўсё гэта ляглі чорныя цені, і яны ўхіляліся ад іх з ненаўмыснай старраннасцю. Ніхто не назваў імя Лойс ці Тома Лэнвуда. І ім нехапала той мінулай натуральнай весялосці.

Тады яны былі маладымі людзьмі, мелі высокія мары; тады ім трэба было заваяваць увесь свет; тады ў іх смелых планах была радасная безразважлівасць...

Цяпер яны кіраўнікі, трое з іх. Людзі, на якіх ляжыць цяжар Дзяржавы. І раз-по-раз гэта ўрывалася ў іх гутарку.

Мхендзі падумаў: яны ўсе перамяніліся. Нават Мабі. Толькі я ўсё яшчэ такі ж самы, як быў. І цяпер яны больш падобныя да мяне. Але ў іх руках улада. Іх праблемы — гэта праблемы, як будаваць, як ствараць. Толькі мае — тыя ж самыя: як знішчаць. У гэтым цяпер паміж намі ўся розніца. І якая розніца!

Гэты вывад наклаў пячатку смутку на тое, што гаварыў Мхендзі. Мабі адчуў гэта і перасеў да яго, і Мхендзі стала трохі лягчэй на душы. Яны кіруюць жыццёвай гульнёй. Чалавек не можа сам выбраць, дзе і як нарадзіцца. Чалавека робіць краіна і становішча, у якім ён нарадзіўся, а таксама колер яго скуры. Гэтага ён не можа выбраць, тут яго не пытаюць. Ён нявольнік. Значыць, чалавечая годнасць ці яе адсутнасць ляжыць у тым, як чалавек успрыймае сваё становішча.

Пазней прыслуга накрыла стол, і яны з'елі куранят, якіх прыслала ім Сяліна, і выпілі дзве бутэлькі шампанскага, якія Удома спецыяльна недзе дастаў.

Потым выйшлі на адгароджаную ад маскітаў веранду і маўкліва сядзелі ў цемры, прыслухоўваючыся да шматгалосага хору начных стварэнняў, усведамляючы і адчуваючы прысутнасць адзін аднаго. У гэтыя хвіліны іх разыходжанні адышлі на задні план, і ў памяці праносіліся ўспаміны аб тых днях і начах, якія правялі яны разам у тую далёкую пару летуценняў... І таму, што памяць ашуквае, тоіць, закалыхвае і вабіць, іх успаміны ззялі большым харастовм, большай чысцінёй, чым тое, што некалі было явай...

Яны разышліся, калі высока над імі павіс поўны жоўты месяц і цішыня агарнула зямлю. Яны разышліся са спакойнай прыхільнасцю блізкіх сяброў, якім у гэты момант не патрэбны былі словы.

Застаўшыся адзін, Удома імкліва падышоў да тэлефона. І калі ён браў трубку, у вачах яго заблішчэлі слёзы.

— Мне патрэбен містэр Ван-Лінтан, — рэзка сказаў ён. Яго голас быў жорсткім і халодным. Але з вачэй шчодра і нястрымна цяклі слёзы.

## 9

Світальнае ранішняе сонца прабівалася ўжо скрозь лісце ўзлеску джунгляў, калі Мхендзі са сваімі спадарожнікамі вярнуўся ў лагер. Джазэф і Марыя наглядалі за ўпакоўкай прыпасаў. Мхендзі пайшоў у палатку.

Нехта прыходзіў, пакінуў запіску, а таксама і пачак плюралійскіх газет. Мхендзі разгарнуў запіску. У ёй гаварылася:

«Прыходзіць небяспечна. У гэтай мясцовасці паліцыя і салдаты. Яны прытаіліся ўсюды. Заставайцеся там, дзе знаходзіцеся, пакуль вам не прынясуць вестак. Яны прытаіліся, каб не выдаваць сябе, таму, калі ласка, не прыходзьце».

Ён паклікаў Джазэфа і Марыю і паказаў ім запіску.

— Значыць, сёння вы не пойдзеце? — спытаўся Джазэф.

— Не пайду, — адказаў Мхендзі. — Пачакаю, пакуль прыдуць мае людзі.

Джазэф быў у нерашучасці. Мхендзі прачытаў яго думкі. Ён хоча



ісці, хоча як мага хутчэй пакінуць гэтыя змрочныя джунглі за сваёй спіной. Але пачуццё абавязку стрымлівае яго.

— Калі вы ўпэўнены... — пачаў Джазэф.

— Так, — усміхаючыся, сказала Марыя. — Ідзіце. Тады на ўвесь сённяшні дзень і ноч я застануся адна з маім мужам. Хто ведае, калі давядзецца мне зноў пабачыцца з ім.

Гэта паклала канец нерашучасці Джазэфа. Ён сцвярджальна кіўнуў галавой.

— Спачатку мы ўсё для вас падрыхтуем. Мы збярэм добры запас хмызняку на паліва, каб хапіла на некалькі дзён. І вады таксама.

— Толькі дзякуючы вам магчымы нашы пераходы праз джунглі, — заявіў Мхендзі.

— Мы маладыя і дужыя, — сказаў Джазэф. — Перш чым пайсці, мы хочам зрабіць, каб вам было ўтульна і ўсяго хапала.

Да сэрца Мхендзі прыліла хваля пяшчоты да гэтага маладога чалавека з яго глыбокім пачуццём адданасці. Ён любоўна сціснуў мускулістае плячо Джазэфа.

Джазэф апусціў вочы, якія загарэліся радасцю.

— Я пайду ўсё падрыхтую, — сіпла прамармытаў ён.

— Як ты прывабліваеш да сябе сэрцы людзей! — прашаптала Марыя.

— Гэта выдатныя хлопцы. Я ганаруся імі.

— Твая чуласць да людзей і заваявала маё сэрца,— сказала яна.

Ён прыхіліў яе галаву да сваіх грудзей.

— Ці не пойдзеш ты разам з імі, дзіця маё? Так было б лепш.

Яна вырвалася з яго рук і высока ўскінула падбародак:

— Зноў! Хіба не гаварыла я табе мо' тысячу разоў, што не пакіну цябе?

— Мне соладка ведаць пра тваё каханне. Але ўсё ж...

— Змоўкні!

Ён уздыхнуў, потым усміхнуўся. О, якое можа быць жаночае каханне...

* * *

Папалуднаваўшы, юнакі пайшлі. З апошняга месца, адкуль можна было яшчэ бачыць іх цьмяныя постаці, яны азірнуліся і памахалі рукамі. Потым зніклі — іх праглынуў змрок джунгляў.

— Пойдзем, — сказала Марыя. — Я ведаю, пасля ежы ты любіш выпіць кавы. Я зараз зготую.

Разам з ёю Мхендзі вярнуўся ў лагер, адчуваючы сябе неяк недарэчна са сваім аўтаматам. Аўтамат яму пакінуў Джазэф, настойваючы, каб ён заўсёды насіў яго пры сабе.

Марыя зварыла каву. Калі ён піў, яна сядзела побач, праглядаючы газеты з Плюраліі.

— Як ціха... — прагаварыў ён. Іх вялікі зялёны шацёр рэхам адазваўся на гэтыя словы.

— Таму што мы адны, — адказала яна. — Але мне ўсёроўна. А табе?

— Не, — сказаў ён.

Памаўчаўшы, яна сказала:

— Мне хочацца, каб ты прылёг. Каб ты адпачыў. Ідзі ў палатку.

— А ты?

— Я таксама адпачну. Ідзі ж.
— Тут халадней, — сказаў ён. — У палатцы нехапае паветра.
— Ну, добра. Тады палажы галаву мне на калені.
Ён так і зрабіў. Ён заплюшчыў вочы. Пачаў думаць аб цудзе яе рук, якія робяць самыя складаныя рэчы; рукі, якія супакойваюць сваёй прахалодай; рукі, якія песцяць. Ён расплюшчыў вочы, узяў кісць яе рукі ў сваю і патрымаў яе ля вачэй. Доўгая, тонкая, чорная рука... Шкада, што ў яго ніколі не было часу больш чытаць, больш гуляць, больш слухаць музыку, больш смяяцца... Такія дробязі ствараюць багацце жыцця.
Ён зноў заплюшчыў вочы, і халаднаватая, тонкая чорная рука зноў прыемна лягла яму на лоб.
— Ты ведаеш... — сказаў ён летуценна.
— Што? — ціха спытала яна.
— У мяне сапраўды не было магчымасці пасябраваць з тваім сынам. Заўсёды я прыязджаю позна, змораны... І заўсёды знікаю вельмі рана. А цяпер я забраў яшчэ і цябе ад яго.
— Хопіць часу потым, — сказала яна. — Яшчэ будзе вельмі шмат часу.
— Ты думаеш, ён палюбіць мяне?
— Ён заўсёды гаворыць пра цябе, як пра свайго бацьку.
— Толькі каб зрабіць табе прыемнасць...
— Не. Яго таксама пакарыла твая ласкавасць да людзей.
— Ты ведаеш пра маіх дзяцей?..
— Я буду ім маці, як ты яму — бацька.
— Было небяспечна іх бачыць, бо дзеці могуць выдаць чалавека, нават і не падазраючы таго. Нашы ворагі хітрыя. Таму я не змог пагаварыць з дзецьмі. А ўжо многа год прайшло з таго часу, як я бачыў іх апошні раз.
— Чаму яны такія?
— Хто? Белыя?
— Так. Хіба таму, што яны нарадзіліся ліхімі?
— Не, не... Ліхімі яны не нараджаюцца. Яны, як і ўсе людзі, як ты, ці я. Як і ў нас, некаторыя з іх добрыя, а другія жорсткія. Тое, што робяць, яны робяць са страху...
— Ну, добра, пакінь гэта. Адпачні, а потым мы яшчэ пагаворым...
Халаднаватыя пальцы прайшліся па яго скронях. Наступіла цішыня, пакуль ён не перастаў яе ўсведамляць...
Ён расплюшчыў вочы. Здавалася, што прайшло толькі адно імгненне, але за гэты час усё навокал пацямнела.
— Я спаў?
— Так.
— Колькі? — ён прысеў і азірнуўся.
— Доўга.
— А ты?..
— І я адпачыла.
— Вось гэтак? Седзячы?
— Вось гэтак... седзячы...
І яна засмяялася.
Ён падняўся і дапамог ёй устаць.
— Здаецца, сонца зайшло, — сказаў ён. — Пойдзем паглядзім. Прыемна будзе зірнуць на неба, пакуль не зробіцца зусім цёмна. Хадзем.
— Не забудзь сваю зброю, — напомніла яна.



Ён сарамліва ўсміхнуўся, пайшоў назад і падняў з зямлі аўтамат.
— Хадзем.
Яны пайшлі поплеч да краю джунгляў.
— Пакуль ты спаў, я ўслухоўвалася ў цішыню.
Ён узяў яе за руку.
— Табе было страшна?
— Ты быў са мною, нават у сне.
— Я не вельмі адважны чалавек, Марыя.
Яна коса глянула на яго. Яе вусны скрывіліся матчынай усмешкай. Пальцы сціснулі яго пальцы.
— Ты муж мой, — сказала яна.
Яны падышлі да ўзлеску і яшчэ больш асцярожна пайшлі далей. Не было ніякіх прызнакаў жыцця. На адлегласці многіх міль, аж да самага ўзгорка, за якім ляжала першая плюралійская вёска, не было ніякіх прыкмет прысутнасці чалавека ці звера.
Сонца толькі што зайшло . Але неба ўсё яшчэ пранізвалі яго праменні, асвятляючы ўсё наваколле, акрамя джунгляў.
— Прысядзем на хвілінку пад гэтым небам,— сказаў Мхендзі. — І паглядзім на ўсё, што можна бачыць, хаваючыся ад чужых вачэй. Трава тут высокая.
Яны апусціліся на зямлю ў высокай траве. І тут, на краі джунгляў. маленькія істоты гэтай дзікай мясцовасці пачалі ўжо настройваць свае галасы для начнога канцэрту.
— Якое прыгожае неба, — прамовіў Мхендзі.
Марыя глянула ўгару.
— Так. Людзі гавораць, што там нічога няма.
— Нічога, акрамя прасторы, аж да якой-небудзь другой планеты, такой, як наша.
— Як шкада, што я так рана кінула школу, а то б я многаму яшчэ навучылася і магла б тады размаўляць з табою з большым сэнсам. Жанчыне трэба разумець тое, што цікавіць яе мужа, інакш яна можа страціць яго.
— Ты не страціш мяне, любая!
— О, Мхендзі... — яна схавала свой твар у яго на грудзях.
— Мая любая, — паўтараў ён зноў і зноў, моцна прыціскаючы яе да сябе.
Праз некаторы час яна прыўзняла галаву. Паказала ў бок Плюраліі.
— Ці пайду я калі-небудзь туды з табой?
— Я ўжо думаў пра гэта. Ты можаш жыць у адной з нашых вёсак, і белыя не даведаюцца, што ты не з нашага народа.
— А твой народ? Не забудзь, я ж для іх чужая. Ты ж ведаеш, што наш народ не дапусціць, каб Удома ўзяў у жонкі жанчыну з другой краіны, нават калі б яна была і чорная.
— У нас ужо не так, мая любая. У нас ужо даўно памерлі дні племяннога ладу. Чужынец, што за нас і з намі, жаданы госць. Ён не вораг толькі таму, што прыходзіць з другой краіны. Нават белыя не ворагі толькі таму, што яны белыя. Яны ворагі таму, што пазбаўляюць нас свабоды. Цябе добра прынялі б. Цябе прынялі б, як маю жонку. Бо для ўсіх нас Афрыка адно цэлае; а тыя з нас, хто стаіць на чале народа, ідуць нават і далей гэтага: мы гаворым, што ўсе людзі на зямлі — адна сям'я.
— Значыць, яны сапраўды добра прымуць мяне?
— Яны нават палюбяць цябе, як палюбіў я.

— Дык хай жа хутчэй прыдзе гэты дзень, Мхендзі!

Раптам, як гэта заўсёды бывае ў Афрыцы, адразу стала цёмна.

Яны вярнуліся ў лагер. Пакуль Мхендзі распальваў касцёр, каб блізка не падпаўзалі розныя дзёрзкія істоты, Марыя згатавала вячэру. Ёй не многа давялося рабіць. Перад тым, як пайсці, юнакі ўсё прыгатавалі.

Пасля вячэры сядзелі, цесна прытуліўшыся адно да аднаго, і размаўлялі са спакоем не зусім маладых людзей, якія зразумелі ўжо сэнс кахання. Ён расказваў ёй аб краінах, якія наведаў, аб людзях, якіх сустракаў, і аб тых, што некалі былі яго сябрамі...

Яна сядзела, абапёршыся на яго калена. І як толькі ён змаўкаў, задавала яму наступнае пытанне, якое ажыўляла плынь яго ўспамінаў.

То быў міг іх інтымнай блізкасці, прычына, чаму яна хацела, каб юнакі пакінулі іх. Яна ведала, што гэта будзе магчыма толькі тады, калі яны застануцца адны.

Яны размаўлялі, пакуль зыркае вогнішча не ператварылася ў цьмянае вуголле. Тады Мхендзі падкінуў яшчэ хмызняку, зрабіўшы так, каб агонь доўга гарэў. Потым яны пайшлі ў сваю палатку.

* * *

Яго разбудзіў пранізлівы крык Марыі. Ён усхапіўся на пасцелі. Вочы асляпіла яркае святло. Марыя зноў крыкнула. Цяпер ён ужо зусім прачнуўся.

— Не рабіце глупстваў, Мхендзі!— пачуўся нейчы голас.

— Хто вы?— Але ён ведаў. — Гэты ліхтар...

— Прабачце.

Сноп святла споўз з яго твару і ўпаў на груба збіты столік, які стаяў побач з ложкам. Нехта чыркнуў запалку і запаліў газоўку.

Над імі стаяў высокі белы чалавек з худым тварам. Марыя ўхапілася за Мхендзі, калоцячыся ад неспадзяванасці і страху. Яна адчувала, як напружваюцца яго мускулы. Яна зноў хацела закрычаць. Але ён сказаў:

— Марыя!

Яго суровасць стрымала яе крык. Ён паглядзеў на белага чалавека.

— Мае людзі акружылі вас з усіх бакоў, Мхендзі.

— Як маглі вы...— і тут да яго раптам дайшло—успышкай здагадкі. Удома!.. Тая размова з Удома... Удома не сказаў яму толькі, навошта. Ён нават сам намаляваў яму карту.

— Я бачу, вы зразумелі, — сказаў белы.

Мхендзі ўзяў сябе ў рукі.

— Нам можна апрануцца?

Некаторы час белы чалавек пільна глядзеў на яго, потым раптоўна павярнуўся і выйшаў з палаткі. Марыя пачала ціха плакаць. Мхендзі дапамог ёй устаць.

— Трэба апранацца, Марыя, Ну, хутчэй жа, хутчэй!

Калі ён адпусціў яе, яна зноў паваліліся на ложак.

— Марыя! Марыя! — ён ласкава патрос яе.

Белы чалавек прасунуў руку праз адтуліну палаткі:

— Дайце ёй глынуць вось гэта.

Мхендзі ўзяў бутэльку з налітым да палавіны віном і ўліў некалькі кропляў у рот Марыі. Потым стаў апранацца.

— Апраніся, Марыя.

Ён даў ёй яшчэ трохі брэндзі. Прабаваў думаць. Але гэта было немагчыма. Тая апошняя гутарка з Удома гучным рэхам пранізвала яго розум. Апрануўшыся, ён даў Марыі яшчэ трошкі брэндзі. Яна не хацела піць, але ён сілай прымусіў яе глынуць.



— Апраніся, Марыя!

Яна раскрыла рот, але з яе горла не выйшла ніводнага гуку. Ён абняў яе. Яна ўхапілася за яго, і праз вопратку яе пазногці раздзіралі яму скуру.

— Ты павінна апрануцца! — загадаў ён.

— А вы самі апрануліся ўжо?— пачуўся голас белага чалавека.

— Так.

— Пакіньце яе і выходзьце сюды.

Ён вымушаны быў адарваць яе ад сябе, пры гэтым зрабіўшы ёй балюча.

— Прашу, Марыя, апраніся!

Яна ўпала на калені.

— Мхендзі...— пачуўся яе прыдушаны, ледзь чутны енк.

Ён вышаў. Увесь лагер быў заняты белымі. Двое варылі каву. Іх начальнік, той, што ўваходзіў у палатку, чакаў яго.

«Каб я толькі мог думаць. Каб мог я толькі думаць. Думаць...»

— Сядайце,— сказаў белы чалавек.

Мхендзі сеў ля агню. Белы прысеў побач.

— Хто гэтая жанчына?

— Яна не мае да ўсяго гэтага ніякага дачынення.

— Ваша жонка?

Хісткія агеньчыкі асвятлялі іх твары. Астатнія белыя сачылі за імі здалёк.

— Так.

— Шкада. Мы спадзяваліся застаць вас аднаго.

Налёт горычы закраўся ў голас Мхендзі:

— Мне трэба было сказаць пра гэта майму сябру.

— Трэба было, Мхендзі. Яна з таго боку джунгляў?

— Так. Але я запэўняю вас, яна не мае...

— Не трывожцеся. Ва ўсякім выпадку — што датычыцца нас. Адно, аб чым вам трэба трывожыцца, гэта — як яна вернецца туды.

Мхендзі застагнаў.

— Вы не пакінеце яе тут! Вазьміце яе з сабой. Перадайце яе камунебудзь!

— Ісці на такія выдаткі? Не. Ваша маленькая гульня надта дорага нам каштавала. Вам прыдзецца заплаціць за сваю забаву, вы ведаеце. Асабліва з такімі сябрамі, як у вас.— Белы чалавек раптам устаў.— Гэта канчатковы рахунак, Мхендзі. І вы прымаеце яго, як чалавек, якім я вас заўсёды ўяўляў. — Ён знізіў голас да шэпту. — Калі вас гэта суцяшае — мне не падабаецца гэтая начная справа. Аднак...

Мхендзі таксама падняўся. Цяпер ён адчуў сябе дзіўна спакойным.

— Вы ведаеце, гэта нічога не мяняе. Яны будуць свабоднымі!

— У канчатковым рахунку — так. Але мы клапоцімся аб тым, што ёсць цяпер. Мы павінны. Вы заўважаеце, я не абражаю вас і не дапытваюся ў вас звестак.

Марыя выйшла з палаткі апранутая. Яна кінулася да Мхендзі і абхапіла яго абедзвюма рукамі.

— Мхендзі...



— Я павінен пакінуць цябе, Марыя,— адну, тут. Мне вельмі шкада. О, Марыя...

— Ну, добра!— крыкнуў белы.

Да Мхендзі падышлі два чалавекі і схапілі за локці. Начальнік адарваў ад яго Марыю. Мхендзі павялі. Начальнік моцна трымаў звар'яцелую жанчыну.

Ідучы паміж абодвума белымі, Мхендзі ведаў, што гэта яго апошні шлях. Апошнія імгненні яго жыцця. Ён здзівіўся свайму спакою. Зразумеў, што зноў можа думаць. «Напэўна, я быў да гэтага падрыхтаваны— недзе ў глыбіні сваёй істоты. Напэўна, прызвычаіўся да гэтай магчымасці, інакш я цяпер не быў бы такі спакойны, бо я ж не храбры чалавек».

Ён спатыкнуўся. Адзін з белых утрымаў яго.

«Сапраўды, Удома ж сказаў, чаму ён мяне прадае. Ясна сказаў, а я не зразумеў. Спытаўся нават у мяне, і я сказаў яму, што рабіць. Страшэнна пунктуальны чалавек. Я б гэтага зрабіць не мог... А, можа, змог бы? Адкуль мне ведаць, пакуль я не стаў перад фактам, як ён... Ужо хутка. Ужо вельмі хутка. Як гэта людзі моляцца? Ці гавораць: «Божа, я выканаў свой абавязак, я прабаваў дапамагчы майму народу вызваліцца, і за гэта я павінен памерці»? Гэта і ёсць малітва? А што такое малітва? Марыя... Божа, прашу цябе, калі ласка, паклапаціся аб Марыі. Адзінае яе злачынства — што яна мяне кахала; а маё — што я ўтрымліваў яе пры сабе. Паклапаціся аб ёй, калі ласка!..»

Цяпер яны ўжо выйшлі з лесу і ішлі па густой траве ў бок Плюраліі. Справа і злева ад іх свяціліся фары грузавікоў.

«Я памру пад чыстым небам, і месяц убачыць гэта».

Абодва чалавекі прыпыніліся. Стаў і ён. Да яго вушэй ледзь чутна даносіліся крыкі Марыі. «Бедная Марыя! Жанчына, што нарадзілася для смутку...»



Адзін з белых сунуў яму нешта ў рукі. Гэта быў аўтамат, які Джазэф пакінуў яму.

«Дык вось, як гэта будзе... Вядома, яны вынялі ўсе патроны».

— А цяпер ідзіце,— сказаў адзін.

Ён расправіў плечы і пайшоў наперад, прэч ад іх. Цяпер, нарэшце, на яго напаў страх, быццам нейкая жывая фізічная сіла. Прышло моцнае жаданне пабегчы. «Смерць—такая вечнасць... О, божа! Божа! Марыя...»

Сярод ночы адрывіста прагучаў голас:

— Мхендзі!

Ён павярнуўся. І не пачуў стрэлу. Адчуў толькі нешта падобнае на моцны боль. І потым нічога...

Каля лагернага кастра, у руках белага чалавека, Марыя абазвалася працяглым, роспачным крыкам. Белы панёс яе ў палатку, паклаў на ложак і накрыў коўдрай. Потым выйшаў да сваіх людзей, што чакалі яго, усеўшыся вакол агню.

— Пайшлі! — са злосцю загадаў ён.

* * *

Непрытомнасць Марыі змянілася глыбокім сном узрушанага чалавека.

Яна прачнулася на досвітку. Доўга ляжала, утаропіўшы вочы ў дах палаткі, і зусім не варушылася. Потым устала і выйшла. Усё ў лагеры было так, як учора. Усё на месцы. Толькі вогнішча пагасла. Потым яна ўбачыла кучку маленькіх зялёных змей, якія спалі ў цёплым попеле. Яна блізка падышла да іх і некаторы час стаяла, не адрываючы ад іх вачэй. Потым рашуча падняла правую нагу, павагалася і апусціла яе на зялёныя целы. Яны накінуліся на яе і пачалі джаліць; потым саслізнулі і папаўзлі пад абарону густога падлесся.

Марыя вярнулася ў палатку і лягла на ложак... Яна адчула санлівасць. Хутка яна далучыцца да Мхендзі, свайго мужа. Заплюшчыла вочы і супакоілася. Страшэнны боль, што разліваўся па назе, мала што значыў... О, Мхендзі!..

## 7

Поль Мабі быў п'яны. Няцвёрдай хадою прайшоў праз увесь пакой, зноў наліў у сваю шклянку віскі і вярнуўся да крэсла ля акна, па дарозе натыкаючыся на мэблю. Ён упаў на крэсла.

У пакоі было цёмна. За вокнамі цемра агарнула ўвесь свет. Ён паднёс шклянку да вуснаў і адпіў палавіну. Перасмыкнуўся ўсім целам і паставіў шклянку на падаконнік.

Да дзвярэй падышоў аканом.

— Маса Поль, са...

Мабі ірвануўся да яго і ўпаў з крэсла.

— Што табе тут трэба? Прэч! Брудны нягоднік! Прэч!

Слуга не сыходзіў з месца.

— Вам будзе млосна, са, бо вы ўсё п'еце гэтую дрэнь, а ў жываце ніякай закускі. — Ён увайшоў у пакой і ўключыў электрычнасць.

Мабі папоўз да акна, схапіў з падаконніка шклянку і кінуў яе ў аканома. Яна адскочыла ад яго грудзей, абліўшы сарочку.

— Прэч, нягоднік! Прэч!

Мабі пачаў шукаць, чым бы яшчэ шпурнуць.
— Калі ласка, маса...
— Прэч адсюль!
— О, мой маса... — слуга глыбока ўздыхнуў і выйшаў.
Мабі адшукаў другую шклянку, наліў у яе віскі, выключыў святло і, хістаючыся, пайшоў назад да свайго крэсла ля акна.
— Мне не хочацца думаць, — енчыў ён. — Хочацца сп'янець! Да непрытомнасці...
Ён адпіў яшчэ некалькі глыткоў, праліўшы трохі на сябе.
— Ён быў мой сябар... Мой сябар... Мой сябар...
Ён пачуў, як зноў адчыніліся дзверы.
— Ах нягоднік!— закрычаў ён. — Я ж загадаў табе ісці адсюль! Я заб'ю цябе! Ідзі прэч, бо я заб'ю цябе! Прэч!
— Гэта я, — пачуўся голас Удома. — Гэта я, Мабі.
Удома запаліў святло. Мабі павольна павярнуў да яго галаву.
— Ага. Наш Прэм'ер-міністр. Вялікі бог Удома. Што табе трэба?
Удома ўвайшоў у пакой.
— Хачу пагаварыць.
— Ну, а я не хачу. Не хачу з табою гаварыць. Ні з кім не хачу гаварыць. Ідзі. Я буду працаваць для цябе заўтра. Сёння я плачу па сваім сябру. Ідзі.
— Я таксама, Мабі.
— Ты!?— Мабі прыжмурыў вочы і ўтаропіўся ў Удома. — Ты калі-небудзь каго аплакваў?
— Ты здзівішся... Можна выпіць?
— Налівай сам, мілорд. Я не ў тым стане, каб падаваць табе.
Удома падышоў да буфета і наліў сабе поўную шклянку.
— Табе патрэбна святло?
— Не. Але мяркую, што павінен выконваць жаданні майго Прэм'ер-міністра.
Удома пагасіў святло, падышоў да Мабі і сеў насупраць яго, трымаючы ў руцэ бутэльку. Адным глытком апаражніў сваю шклянку і наліў яшчэ.
Мабі аж захістаўся ад смеху.
— Наш вялікі Прэм'ер-міністр запіў, ух! Топіць свой смутак, ух! Чаму? Скажы мне, чаму, вялікі бог Удома. Я не замежная дэлегацыя, я не вялікі натоўп, якога трэба давесці да слёз... Чаму? Што табе ад мяне трэба?
Наступіла доўгая цішыня. Потым Удома сказаў:
— Я павінен каму-небудзь сказаць... табе... Гэта я загубіў яго.
Мабі быў вельмі п'яны, каб пачуць боль у голасе Удома; цемра схавала слёзы Удома.
— Забіў Мхендзі... Ты?!
— Так. Я паведаміў Ван-Лінтану, дзе знаходзіцца яго лагер. Я вымушан быў гэта зрабіць, альбо страціць іх дапамогу. Ты ведаеш, што б гэта азначала.
Мазгі Мабі нарэшце пачалі працаваць.
Павольна цягнулася цішыня ў цёмным пакоі. Нарэшце, здзіўленым, няўпэўненым голасам Мабі прамовіў:
— Ты прадаў Мхендзі яго ворагам...
Удома наліў сабе яшчэ віскі.
— Я вымушан быў. Ты разумееш гэта. Я быў вымушан!..— Заклік у голасе Удома не дайшоў да Мабі — толькі халодныя, жорсткія словы, якія гаварылі пра яго здраду.



Удома працягваў гаварыць, тлумачыць, прабаваў прымусіць Мабі ўбачыць яго душэўную пакуту, неабходнасць у суцяшэнні. Але Мабі не слухаў яго. Рэальным быў толькі факт здрады. Гэтая рэальнасць прасачылася ў яго мозг, рассеяўшы туман ап'янення.
— Ты... — на гэтым слове Мабі задыхнуўся.— Ты...
Потым люта, са злосцю кінуў шклянку ў твар Удома. І сам накінуўся на яго сваім маленькім целам, драпаючыся, кусаючы і лаючыся.
Крэсла, на якім сядзеў Удома, з грукатам упала, і яны пакаціліся на падлогу. На шум прыбег слуга. Ён уключыў святло.
Удома сядзеў на грудзях Мабі, сваім цяжарам прыкаваўшы яго да падлогі, і моцна трымаў яго рукі. Па шчацэ Удома цякла кроў. Шкло зрабіла глыбокі парэз на левай шчацэ, пад скулою.
— О, масы! — закрычаў слуга.
— Вашаму гаспадару нядобра, — цяжка дыхаючы, сказаў Удома. — Дапамажыце мне!
Мабі шалёна вырываўся. Але пад цяжарам цела Удома ён быў бездапаможны. Ён перастаў вырывацца і пачаў праклінаць Удома няспынным патокам жорсткіх праклёнаў. Потым стаў пляваць яму ў твар.
— Дапамажыце ўтрымаць яго! — сказаў Удома.
Ён устаў, падняў Мабі. Слуга пайшоў да іх. Мабі ірвануўся назад усімі сіламі сваіх мускулаў. Удома не ўтрымаў яго, і ён грукнуўся на падлогу і прыціх.
— О, мой маса! — усклікнуў слуга.
Удома апусціўся перад Мабі на калена.
— Усё будзе добра.
Ён узяў Мабі на рукі, аднёс яго ў спальню і кінуў на ложак.
— Распраніце і палажыце яго спаць. Я напішу запіску, якую вы павінны яму перадаць, калі ён раніцой прачнецца. Прынясіце паперу.
Чалавек прынёс паперу і, здавалася, толькі цяпер убачыў кроў на твары Удома.
— Ваш твар, са!
— Нічога сур'ёзнага...
Ён напісаў:
«Раніцай адразу ж зайдзі да мяне ў кабінет. Удома».
Ён даў слузе запіску. Потым выйшаў, сеў у машыну і паехаў.
Праз паўгадзіны двое ваенных сталі на варту перад домам Мабі.

* * *

Губернатар і галоўны сакратар былі страшэнна п'яныя.
— Божа, як я ненавіджу гэтую Афрыку! — усклікнуў Рослі.
— Вы маеце на ўвазе прагрэс, — сказаў Джонс, жаўтаваты твар якога нібы высах.
— Я маю на ўвазе Афрыку! Гэты агідны кантынент з яго цемрай і рытуалам джу-джу, і кровапусканнем, і здрадай. Гэта вар'яцтва. Брыдота!
— Мы — Еўропа — таксама прайшлі праз усё гэта. Яшчэ больш агіднымі шляхамі. Толькі тое было даўным-даўно, а людзі забываюць, — Джонс адпіў са свайго кілішка. — Хацеў бы знайсці спосаб суцешыць яго...
— Вы сёння бачылі яго?

— Бачыў. Больш чым калі-небудзь маўклівы і пануры. Ён вялікі чалавек. Толькі прайдзісвет альбо вялікі чалавек здольны на гэта. Мы з вамі, Рослі, не з такога цеста.

— Пакіньце свой прагрэс і веліч пры сабе, — зласліва сказаў Рослі.

* * *

Ранішняе сонца шчодрым патокам урывалася ў кабінет прэм'ер-міністра. Удома адвярнуўся ад акна і глянуў на Мабі. Нянавісць на твары Мабі нічым не была прыкрыта.

— Ты ўсё яшчэ не хочаш убачыць майго становішча?

— Я толькі бачу, што ты прадаў сябра! — агрызнуўся Мабі.

— І ты настойваеш на сваёй адстаўцы?

— Так!

— Сядай, Мабі. Давай пагаворым.

— Няма аб чым гаварыць!

Удома страціў цярпенне:

— К чорту, прыяцель! Ты сентыментальная баба! Альбо ты думаеш, што мяне не мучаць пякельныя пакуты? Можа, ты думаеш, што мне прыемна было гэта рабіць? — Яго голас задрыжаў. — Я быў вымушан! Мы не можам дапусціць, каб асабістыя пачуцці перашкодзілі выкананню абавязку! Абавязку перад Афрыкай! Яе народам! Маім народам і тваім! Перад будучыняй!.. Зразумей гэта, Мабі...

— Ты скончыў?

«Ён вельмі моцна мяне ненавідзіць», — падумаў Удома.

— Добра. Але ты ведаеш, табе нельга будзе заставацца тут.

Вусны Мабі скрывіліся ў горкай усмешцы:

— Ты можаш не баяцца, што я пра гэта раскажу.

Удома нявесела ўсміхнуўся:

— А хто табе паверыць? Ва ўсякім разе, з табой можна было б управіцца. Не думай, што я дазволю табе псаваць справу маіх рук. Мхендзі я любіў. Цябе ж — ніколі!

— Перад ад'ездам я хацеў бы пабачыць сваю радню. Гэтаму ты не можаш перашкодзіць.

— Не, магу. Ты сядзеш на першы ж самалёт. Здаецца, сёння ўвечары адзін адлятае. Ты паедзеш у водпуск па хваробе. З табой ноччу здарыўся нервовы прыпадак. Твой аканом прысутнічаў пры гэтым і можа пацвердзіць. Ты так доўга будзеш адсутнічаць, што я буду вымушаны аддаць тваё міністэрства каму-небудзь іншаму.

— А ты не баішся, што я магу сёе-тое расказаць у Англіі?

— А што ты скажаш? Якія ў цябе доказы? У цябе быў нервовы прыпадак, не забудзься. Гэта адкажа на многія незразумелыя пытанні. Але ты не будзеш гаварыць непатрэбнае. Ты хочаш быць патрыётам пры ўмове, што захаваеш цэлай сваю каштоўную душу. Ты ведаеш, што я быў вымушаны. Толькі навошта пэцкаць рукі! Няхай гэта робіць брудны Удома. Аплакваеш Мхендзі! Ён бы не хацеў, каб ты яго аплакваў. Ну, добра, ідзі, містэр Дабрачынны Мабі! Мне трэба мець справу з рэальнасцю, а не з тваімі фантазіямі. Мне млосна ад цябе. Ідзі...

Ён падышоў да пісьмовага стала і сеў у крэсла.

Мабі пайшоў да дзвярэй.

— Мабі...

Той прыпыніўся і чакаў, не павярнуўшыся назад.



— Можаш ненавідзець мяне, колькі захочаш. Але гэта ж наша краіна, дружа. Гэта ж наша Афрыка! Заставайся і дапамагай мне працаваць для іх...

Мабі ўзяўся за дзвярную ручку.

— Тады ідзі ты прэч, пракляты дурань! — крыкнуў Удома.

За Мабі зачыніліся дзверы. Некаторы час Удома не адрываў ад іх вачэй. Потым выцягнуў шуфлядку стала і выняў адтуль пачак цыгарэт. Закурыў, адкінуўся ў крэсла і пачаў папыхкваць цыгарэтай. Чалавеку ж патрэбна што-небудзь рабіць, каб супакоіць нервы. Ён ведаў, што рана ці позна возьмецца за віскі, каб хоць трошкі стала лягчэй. Але гэта будзе пазней. Як мага пазней... Невясёлая забава — правіць краінай. Зусім не забава. Якой магутнай апорай быў бы Мхендзі, калі б ён нарадзіўся ў Панафрыцы, а не ў Плюраліі. Божа, я стаміўся... Але так д'ябальскі многа яшчэ трэба зрабіць. Зусім не забава — прабаваць перавесці краіну праз глыбокую прорву паміж учарашнім днём і сённяшнім...

Ён прытушыў цыгарэту аб попельніцу і пазваніў сакратару.

«Лойс, — падумаў ён спакойна, — як добра было б, каб цяпер яна была тут».

## Раздзел трэці

Удома гукнуў і пачакаў. Але маладых людзей, што начамі стаялі на варце, нідзе не было відаць. Ён зноў гукнуў. Дзе гэтыя хлопцы? Хіба Сяліна і партыя вырашылі, што ўжо можна пакідаць яго дом на ноч без варты? Цікава даведацца — чаму.

Па цёмнай пад'язной дарожцы прабег яго аканом і расчыніў браму. Потым, калі праехала машына, ён зачыніў яе. Удома выйшаў з машыны, паспешліва падняўся на ганак і ўвайшоў у дом. Слуга нешта крыкнуў яму ўслед, але ён не разабраў словы. Удома прайшоў у гасціную і застыў на месцы. Там былі Сяліна і Эдэбхай. Яны сядзелі так, быццам ужо доўга яго чакаюць. Вусны яго кранула вымушаная ўсмешка. Іх вусны не зварухнуліся ў адказ. Некалькі хвілін Сяліна абыякава глядзела на яго. Эдэбхай імкнуўся не глядзець у яго бок, потым глянуў, і нешта падобнае на ўсмешку прабегла па яго твары.

«Як яго распёрла, — падумаў Удома, — ён есць і п'е занадта многа». Ён зноў адчуў, як моцна ўзненавідзеў гэтага чалавека. Выняў з кішэні цыгарэту і павольна пайшоў да стала. Позірк Сяліны слізгануў з партсігара на яго твар. Ён сеў за стол.

— Цябе здзіўляе, што ты нас тут застаў? — сказала Сяліна.

— Позна ўжо, — адказаў ён і глянуў на гадзіннік. — Амаль гадзіна ночы.

Увайшоў слуга.

— Чаго-небудзь падаць? — спытаўся ў іх Удома.

— Мне нічога не трэба, — адказала Сяліна.

— Мне таксама, — сказаў Эдэбхай.

Удома падумаў: «Значыць, гэта вельмі сур'ёзна».

— Можаце ісці спаць, — сказаў ён да слугі.

Яны пачакалі, пакуль чалавек выйдзе, потым Сяліна сказала:

— Ну як? Ці добра правялі вы час з гэтымі белымі людзьмі?

— Вы прыйшлі гаварыць не аб гэтым, — сказаў Удома.

— Так. Не толькі аб гэтым.

— Закон аб небратанні з белымі, — сказаў Эдэбхай.
— Ужо позні час і я стаміўся.
— Мы доўга чакалі, — сказала Сяліна.
— Склікайце заўтра выканком партыі, і мы аб усім гэтым пагаворым. Там я растлумачу свае паводзіны.
Сяліна злажыла накрыж рукі на грудзях.
— Мы пагаворым зараз, Удома. У старыя часы мы маглі гаварыць, усе трое. Я хачу пагаварыць, як тады.
— Добра. Але давайце заўтра. Сёння я стаміўся.
— Мне ўсё ж хацелася б пагаварыць цяпер.
«Значыць, зараз раскрыюцца карты», — падумаў Удома. Ён паднёс запалку да цыгарэты.
— Ты таксама, Эд?
— Так.
— Ну, што ж, давайце. — Ён адкінуўся на спінку крэсла і стаў чакаць, насцярожана і пільна.
— Вы здрадзілі нам, — спакойна прамовіла Сяліна.
Вочы Удома перакінуліся на твар Эдэбхая.
— Гэта таксама і твая думка, Эд?
— Мы ва ўсім згодны, — сказала Сяліна. — Таму мы і прышлі сюды разам.
— Гэта так, Эд?
Нарэшце Эдэбхай глянуў яму ў вочы. Твар Эдэбхая расплыўся ў шырокай усмешцы, але вочы засталіся халоднымі і хмурымі.
— Так. Ты нам здрадзіў.
— Разумею... Вы гаворыце: «Ты здрадзіў нам». Каго вы маеце на ўвазе пад словам «нам»? І ў чым заключаецца мая здрада?
Вочы Сяліны бліснулі:
— Дык вы хочаце гуляць з намі ў гульню белых людзей?..
— Не, Сяліна. Вы абвінавачваеце мяне. Я хачу зразумець абвінавачванне. Вось і ўсё.
— Добра, Удома, я скажу вам! Вы пытаецеся, хто тыя, каму вы здрадзілі. Вы здрадзілі мне. — З яе голасу знік лёгкі налёт хваляванння, яна цяпер гаварыла холадна, бясстрасна. — Вы здрадзілі мне. Я зрабіла вас прэм'ер-міністрам, а вы мне здрадзілі. Вы ведаеце, чым вы былі, калі прышлі да мяне на рынак больш васьмі год назад. Цяпер вы прэм'ер-міністр толькі таму, што тады я не прагнала вас.
— Якім жа чынам я вам здрадзіў?
— Вы яшчэ пытаецеся?
— Пытаюся. Бо хачу ведаць.
— Не абыходзьцеся са мной, як з малым дзіцем, Удома!
— Чалавек, якога абвінавачваюць, мае права ведаць.
— Цяпер у нашай краіне больш белых людзей, чым тады, калі панавалі брытанцы!
— Таму што яны нам патрэбны, патрэбен іх вопыт.
— А як з вашым абяцаннем, што краіна вызваліцца ад іх панавання?
— Яны цяпер не пануюць. Пануем мы. Ты ж ведаеш гэта, Эд.
— Больш я ўжо не ўпэўнены, — адказаў Эдэбхай. — Вядома, міністры — мы. Кабінет наш. Мы падпісваем законы. Але белыя кіруюць усёй буйнай прамысловасцю і будаўніцтвам. Яны кантралююць нас сваімі грашыма, ты ведаеш сам. Вось чаму ты вымушан заплюшчваць вочы, каб не бачыць іх клубы «толькі для белых». Усюды ў краіне, на фабрыках, на жыллёвых і прамысловых будоўлях, на дарожных работах белыя толькі загадваюць, а ўсю работу выконваюць чорныя...



— Як у краіне Мхендзі, — дадала Сяліна.
— А колькі грошай выцякае з нашай краіны ў выглядзе дывідэндаў белых? Пра гэта ты ніколі не гаворыш, нават сваім калегам па Кабінету. Чаму?
— Запытай у мяне на пасяджэнні Кабінета, Эд, і я адкажу.
— Значыць, мне нельга давяраць? — сказала Сяліна.
Удома з цяжкасцю адагнаў ад сябе хвалю стомы.
— Што ў вас ёсць яшчэ супраць мяне?
— Вы не адкажаце нам?— спыталася Сяліна.
— Вы прышлі сюды не выслухоўваць мяне. Вы прышлі мне дыктаваць.
— Вы вельмі самаўпэўнены, Удома.
— Не, Сяліна, не самаўпэўнены. Я разумею вас, вось і ўсё.
— І не будзеце абараняцца?
— З якой прычыны? З прычыны будаўніцтва краіны? З прычыны адпраўкі дзяцей у школу, пабудовы бальніц, барацьбы з невуцтвам і забабонамі?
Сяліна ўстала. Эдэбхай таксама. З гадамі яна схуднела і стала жылістай, яе цёмны твар стаў больш падобны на маску.
— Вы не прагоніце белых?
— Пакуль не буду гатовы — не.
— І вы маеце намер знішчыць нашы звычаі?
— Тыя, што перашкаджаюць прагрэсу, — так.
— І вы не перадумаеце наконт адпраўкі Эдэбхая ў замежную краіну ў якасці пасла?
— Не. Ён мне там патрэбны.
— А можа, гэтым вы хочаце аслабіць сваіх праціўнікаў?
Удома ўсміхнуўся і сцвярджальна кіўнуў галавой. Цяпер усё — без хітрыкаў.
— Так. І гэта таксама. Але ў асноўным таму, што ён мне там патрэбны.— Ён падняўся з крэсла, падышоў да маленькага кутняга століка і наліў сабе маленькі кілішак віскі: — Вядома, ты не вып'еш, Эд?
Эдэбхай аблізаў вусны, але адмоўна трасянуў галавой. Удома адным глытком выпіў віскі. Зморшчыўся. Ён ненавідзеў гэтую дрэнь... Аднак... Божа, як ён стаміўся.
Сяліна хадзіла па пакоі.
«Ты небяспечная, — падумаў Удома, — небяспечная, але спазнілася, даражэнькая».
Стоячы да яго спіной, Сяліна спыталася:
— Чаго вы дабіваецеся, Удома?
Ён усміхнуўся. Хіба яна зразумее? Ці зможа яна зразумець? Ён лёгка павёў плячыма, быццам страсаючы з сябе нешта непрыемнае.
— А як вы думаеце, чаго я дабіваюся? Ці зарабіў я на гэтым столькі грошай, колькі вы... ці Эд?
— Вы знішчаеце нашы звычаі, Удома. Старыя звычаі паміраюць ад вашых рук. Мы позна ўбачылі гэта. Мы думалі: «Ён ведае, што робіць. Ён наш чалавек». Таму я сказала: «Няхай ён застаецца. Дайце яму час. Супраць хітрыкаў белых ён выставіў хітрыкі чорных». — Яна павярнулася тварам да яго. На яе твары гарэла шалёная нянавісць. — Але вы абдурылі мяне. Вы абдурылі Сяліну!

Удома наліў сабе яшчэ кілішак. Магчыма, можна будзе ўсё гэта ўладзіць і дагаварыцца.

— Паслухайце, Сяліна. Я скажу вам, чаго я дабіваюся. У нашай краіны тры ворагі... Я ведаю, што пра аднаго вы здагадаліся, але ці можаце вы здагадацца, хто другія два?.. Не. Не турбуйцеся, я скажу вам. Першы — гэта белы чалавек. Гэта вас здзіўляе, ці не так? Але ж пакуль што не смейцеся. Я пра белага яшчэ скажу. Як я сказаў, наша краіна мае трох ворагаў. Першым ідзе белы чалавек. Потым—галеча, а затым— мінулае. Вось тры нашыя ворагі.

Спачатку, калі я прыехаў сюды, я распазнаў толькі аднаго з трох — белага чалавека. Але ў той момант, як я разграміў яго, я ўбачыў і другіх — і яны былі дужэйшымі і больш небяспечнымі, чым белы чалавек. У параўнанні з імі з белым чалавекам было лёгка справіцца. І я ператварыў яго ў саюзніка супраць галечы. Цяпер ён працуе на нас, будуе для нас, каб тыя, хто будуць жыць пасля нас, мелі хлеб і дамы. У краіне ёсць цяпер школы і бальніцы. Моладзь — юнакі і дзяўчаты — прачынаецца. Чаму, па вашай думцы, я патраціў столькі грошай, пасылаючы яе за граніцу? Я вам скажу. Таму, што яна мне патрэбна як саюзніца ў барацьбе з нашым трэцім ворагам — мінулым. Я аддаў даніну ўхвалення рытуалу джу-джу, і крывавым цырымоніям, і пакланенню астанкам нашых продкаў. Цяпер мне гэтага рабіць больш не прыдзецца. У мяне ўжо ёсць даволі адукаваных маладых людзей, якія адвергнуць усё агіднае і ліхое, што ёсць у нашым мінулым. Цяпер мы можам усё гэта разграміць. А вы, Сяліна, і ты, Эдэбхай, якога я некалі любіў, як брата, вы—мінулае. Я збіраюся вас разграміць! Гэта вы цяпер стаіцё на шляху Афрыкі да велічы. Працягвайце — змагайцеся са мной на партыйнай канферэнцыі і пабачце, хто пераможа. Вы спазніліся, сябры мае. Вы вельмі спазніліся... — Ён паціснуў плячыма і ледзь прыкметна ўсміхнуўся.

— Цяпер мы ведаем, — спакойна сказала Сяліна. — Цяпер, нарэшце, вы сказалі, што думаеце.

— Так, — сказаў Удома. — Цяпер вы ведаеце. — Ён павярнуўся да Эдэбхая. — Дык як жа, Эд? Ты сапраўды прыхільнік племянных звычаяў? Ты?.. доктар?.. Ты прайграеш, калі пойдзеш супраць мяне, і ведай гэта. Ты належыш да заўтрашняга дня, дружа, а не да ўчарашняга.

Але ён ведаў, што памыляецца. Эдэбхай вярнуўся ў мінулае з яго крывавым рытуалам і пакланеннем перад продкамі... Ён уздыхнуў. Ад стомы крыху кружылася галава.

— Сказана ўсё, — прагаварыла Сяліна. — Хадзем.

Яна хвіліну пастаяла перад Удома. Вочы яе блішчэлі. Потым плюнула яму ў твар. І разам з Эдэбхаем выйшла з пакоя, з дома.

«Недарагая цана, — падумаў Удома. — Зусім не дарагая. — Ён выцер шчаку. — Недарагая цана за здзяйсненне такой вялікай мары».

Ён пайшоў да парадных дзвярэй і зачыніў іх на замок. У калідоры пагасіў святло. Потым вярнуўся ў гасцінуюі наліў сабе яшчэ трохі віскі. Божа, як ён ненавідзіць гэтую дрэнь! Утульна разваліўся ў крэсле, трымаючы кілішак у руцэ. Ён адчуў найвялікшую асалоду поўнага адпачынку. Цяпер яму ўжо і не патрэбна гэтае пітво. Ён адставіў кілішак. Значыць, ранейшае скончылася, і пачалася апошняя вялікая бітва. У канчатковым выніку ён пераможа. Яны далі яму вельмі многа часу. Запрацавала вялікая машына прагрэсу — на самай справе ён ужо і не патрэбен для таго, каб круціліся яе колы... Яны вельмі спазніліся.

Божа, якой цаной плацяць людзі за гэтую рэч, што завецца прагрэсам! Мхендзі быў цаной, якую ён вымушан быў заплаціць. Мхендзі... Самая, самая жорсткая цана!..



Толькі рана, якую ён нанёс Лойс, была недарэчнай і непатрэбнай. Толькі гэта... І Лойс таксама.

Удома ўстаў, выключыў электрычнасць і пайшоў у спальню. Ён распрануўся пры святле месяца.

Цяпер яна там, уверсе, сярод сваіх гор, у доміку, які яна называла сваёй спадчынай. Там цяпер таксама ноч? Калі так, то яна ляжыць пад сеткай ад маскітаў... Якраз, як ён цяпер.

«Лойс. Лойс... Ты чуеш мяне? Адчуваеш мяне? Я кахаю цябе, Лойс. Я кахаю цябе. Цяпер я ведаю гэта. О, як цяпер я гэта ведаю...

Трэба ёй напісаць. Ці не. Лепш сам паеду да яе. Так! Я паеду да яе і прымушу зразумець. Я абдыму яе і прымушу зразумець, як яна мне патрэбна, як мне патрэбна яе каханне, як мне патрэбна кахаць яе. Яна зразумее. І даруе мне. Яна паглядзіць мне ў твар, і ўсё зразумее... І я павязу яе сюды. Яна абяцала мне гэта там, сярод сваіх гор. Яна зазірне мне ў сэрца і паедзе. Як толькі скончыцца гэтая справа з Эдам і Сялінай, я сяду на параход. Ужо хутка. І яна прыедзе да мяне і будзе са мной. Лойс. Лойс. Я так вінаваты перад табой, мая любая, так вінаваты... Я тады не зразумеў. Цяпер разумею. Я прыеду да цябе. Узыйду на ўзгорак да тваёй спадчыны і раскажу табе пра маё каханне. Хутка. Ужо хутка...»

Раптам, сярод начной цішыні ён пачуў нейкі бесперапынны мерны пошчак. Удары барабанаў, ціхія, прыглушаныя якраз пад самым акном.

Не. З усіх бакоў. Усюды! Усюды барабанны пошчак. Ціхі і настойлівы. Ён пачаў услухоўвацца. Тэмп удараў паскорыўся, але ён не стаў гучнейшым. Потым ён пазнаў іх. Гаворачыя барабаны... Яны гаварылі:

«Удома здраднік. Смерць Удома».

Ён адгарнуў прасціну і сеў. Спусціў ногі з ложка і пацягнуўся да начной лямпачкі.

«Удома здраднік. Смерць Удома».

За гэты міг, што ўключаў святло, Удома зразумеў: ён тут не адзін. У пакоі былі яшчэ два чалавекі: адзін ля акна, другі ля дзвярэй.

Пры святле лямпачкі ён пазнаў іх. Гэта тыя, што раней з ночы ў ноч, на працягу многіх месяцаў, вартавалі яго дом. Але цяпер яны не былі апрануты ў партыйную вопратку. Голыя, толькі на сцёгнах павязкі; іх твары і цела былі афарбаваны.

«Удома здраднік. Смерць Удома».

Удома перамог хвалю жаху. У руках яны сціскалі нажы. Яны глядзелі на яго шкляным, невідушчым позіркам. Але ў іх вачах не было варожасці.

Тэмп барабаннага бою паскорыўся і рабіўся ўсё хутчэйшым. Чалавек, што стаяў ля дзвярэй, пачаў дрыжаць. Нагамі ён стаў адбіваць такт. Нож, які ён трымаў у руцэ, загойдаўся ў тэмп барабаннага бою... Той, што стаяў ля акна, пачаў выраблять нагамі складаныя кругі, паступова павялічваючы акружнасць.

— Я Удома! Вы ж ведаеце мяне! Я вызваліў вас. Я вас вызваліў! Паслухайце, што я гавару! Я Удома! Ваш правадыр!

Але яны нічога не чулі.

На твары Удома заблішчэў пот, пацёк па шчоках, і ён адчуў яго салёны смак. Смерць набліжалася. Ён кінуўся да дзвярэй.

Той, што быў ля дзвярэй, схапіў яго ў той момант, калі Удома ўзяўся за ручку. Ён узвышаўся над ім з высока ўзнятым нажом, а цела

яго калацілася ў адказ на ўладны заклік барабанаў. Потым ён апусціў руку з нажом і шалёна адштурхнуў ад сябе Удома. Той грукнуўся аб падлогу.

А барабаны гаварылі:

«Смерць Удома. Смерць. Смерць».

Удома быў яшчэ жывы. Чалавек ударыў яго толькі ручкай нажа. Але ён ужо быў ахвярай. Воля да супраціўлення пагасла. Племянныя багі перамаглі.

Над усім гэтым панаваў барабанны бой, які цяпер стаў па-вар'яцку шалёным...

...Страшэнны боль вызваліў яго ад улады барабанаў. На жахлівы момант ён зноў стаў чалавекам. Не толькі Мхендзі... О, Лойс...

Удома памёр.

А над Афрыкай стаяла ціхая ноч. Высока ў небе свяціў месяц. Ярка гарэлі зоркі...





Кастусь ЦВІРКА

# ТАКІЯ СЭРЦЫ Ў НАС



Такія, мусіць, косці ў нас —
Нам у пуху не спіцца,
Такія, мусіць, ногі ў нас —
Нідзе нам не сядзіцца,
Такія, мусіць, рукі ў нас —
Ніяк ім не ляжыцца.

Ім трэба муляцца, касцям,
У цягніку аб дошкі,
Ім трэба пыльны стэп, нагам,
Змяраць ушыр і ўдоўжкі,
Ім трэба лёд прабіць, рукам,
Скалу здрабіць на крошкі.

Хай проста ў вочы дождж і гром —
Не змусіш нас згінацца,
Хай раптам цела зморыць сном —
Не будзем мы хістацца,
Хай зледзянее нават лом —
Мы не расшчэпім пальцаў.

Такія, мусіць, рукі ў нас,
Такія, мусіць, ногі ў нас,
Такія, мусіць, косці ў нас,
Такія сэрцы ў нас!

* * *

Нават дзень, скажы, пражыць мне як,
Рукі склаўшы, калі знаю я:
Кінеш зерне — колас зазвініць,
Слова знойдзеш — песня узляціць,
Пакладзеш цагліны ў мур радком —
Блісне дом на сонцы вокан шклом,
Укапаеш дрэўцы рад у рад —
Па вясне сыпне пялёсткі сад,
А растопіш лёд, сагрэеш дол, —
Расцвіце уся зямля наўкол!

## У ЛЕСЕ



Уся у карэннях — сцежка:
Не пазбіваць бы хоць ног.
Вось першая сыраежка
Легла у кошык, на дно.

І ўжо ты па ценях рабых
Матаешся між камлёў,
Находзішся так, што, мабыць,
Дахаты б і ног не даплёў.

Ды стому сваю кладзеш ты
Ў пярыну мяккую — ў мох,
І косці самлелі дарэшты:
Не чутна ні рук, ні ног.

І толькі высокая елка
Недзе пайшла да хмар,
Цярушачы ціха іголкі
На шыю тваю, на твар.

Расы на траве — ні кроплі,
І — мусіць ад раніцы — тут
Стаіць над верасам цёплым
Бясконцы пчаліны гуд.

Так лёгка у смольных хвойках,
І ты на ўсе грудзі свае
З імхоў і брусніц настойку,
Нагрэтую сонцам, п'еш.

А ўстанеш з зялёнай пасцелі,
Ідзеш — трава не трава,
І ад лесавога хмелю
Кружыцца галава.

Ц. ДАЎГАПОЛЬСКІ

# ПЯЦЬ ПЯЛЁСТКАЎ



Мал. Г Паплаўскага.

1

У Латвіі, за Сігулдай, заслужана названай другой Швейцарыяй, непадалёк ад чугункі звяртае на сябе ўвагу турыста невялічкі ўзгорак, які раннім летам густа зарастае вялікімі рамонкамі. Краязнаўцы абавязкова вам параяць з'ездзіць туды і па дарозе пагутарыць са старажыламі, якія жывуць па суседству з гэтай пустэчай.

Неспрактыкаваны турыст з рукзакам за плячыма няйнакш адзначыць у сваім блакноце: «Сігулда. Таямнічая пустэча».

І вось вы сыходзіце з прасёлкавай дарогі і ўзбіраецеся на гэты ўзгорак. Сярод цаглянага друзу, высокага палыну і дзядоўніку бачны сухія рэшткі хмызнякоў, якія даўно ўжо не падаюць ніякіх адзнак жыцця. Абапал узгорка сям-там чырванеюць дробныя суніцы ды растуць маладыя парасткі малінніку, якія зусім заглушылі і пазбавілі святла стары змізарнелы маліннік. Маладое пакаленне малінніку нібы гаворыць: «Пажылі і хопіць з вас. Цяпер мы прышлі вам на змену».

Спускаючыся з паўднёвага схілу ўзгорка, сярод чартапалоху вы адразу заўважыце некім вывернуты каменны слупок цыліндрычнай формы.

— Вось, нарэшце, нешта знойдзена, — узрадуецеся вы.

Прысеўшы на дыбачкі, вы з цяжкасцю складзеце з асобных некім высечаных літар два словы: «Пяць пялёсткаў».

Але што могуць азначаць гэтыя таямнічыя словы, адказаць на гэта нялёгка. Тут неабходна звярнуцца да мясцовых жыхароў, да старажылаў, або, наадварот, да вучняў, якія звычайна ведаюць усё, што робіцца ў наваколлі.

Дарэчы, непадалёк ад узгорка пасвіцца статак авечак. Стары пануры пастух у брызентавым плашчы звярнуў увагу на нас, двух адпачываючых. Таму мы да яго і падышлі.

— Вас цікавіць слупок? — Ён стаў на ўвесь свой вялізны рост, набіў люльку табакай і, як у даўнія часы, выкрасаў агонь, зацягнуўся і няўпэўнена прапанаваў нам кісет.

Курыць мы адмовіліся, падзякаваўшы яго за гасціннасць.

— Нас сапраўды цікавіць гэты ўзгорак і асабліва каменны слупок з надпісам на ім, — пацвердзілі мы.

Авечкі адпачываюць у цяньку на ўзлеску бярозавага гаю. Стары спакойна агледзеў чараду авечак, якія драмалі, і, выняўшы люльку з роту, сказаў:

— Я не майстар расказваць. Гэта сумная гісторыя пра двух добрых юнакоў, якія пакахалі адну дзяўчыну, і аб дзяўчыне, якая не стрымала свайго слова і за гэта была жорстка пакарана. Калі вы хочаце падрабязней ведаць аб гэтым узгорку, то звярніцеся да Адама Пумпы. Яго хата за ляском, першая справа... Старога ведаюць усе. Ён пляце маты з чароту.

Дзед нас сустрэў ласкава.

— Дываны хочаце купіць, — хітра сказаў ён. — Калі ласка. Дома я прадаю іх танней на паўрубля. Ці многа вам трэба? Тузін? Два тузіны? Я заўтра іх павязу на рынак.

Мы пераглянуліся.

— Ды гэта я пажартаваў. Ведаю, чаго да мяне прыходзяць. Падыдзіце да этажэркі. Там, на верхняй паліцы, — спісаны сшытак. У ім ад пачатку і да канца расказваецца аб «Пяці пялёстках». Шкада толькі, што апошнія некалькі старонак згубіліся.

Сшытак быў спісаны ўпэўненай рукой зусім пісьменнага чалавека.

— Ці не вы гэта, бацька, так выразна і складна пішаце? — спытаўся мой калега па санаторыю, разглядаючы сшытак.

— Якое ж гэта дзіва? Я часам нават і допісы ў газеты пасылаю.

— І друкуюць?

— Не заўсёды. За год дапісаў пяць-шэсць змесцяць. І грошы прысылаюць.

Няхай чытач нам прабачыць, што прадмова крыху зацягнулася. Зараз пачынаем расказваць аб «Пяці пялёстках». Мы нічога не выдумляем і не дапісваем, а перадаем апавяданне дакладна так, як яно запісана ў сшытку.

## 2

Год семдзесят таму назад наш край быў не так густа населены. У гэтай лясістай мясцовасці было ўсяго толькі тры латышскія гаспадаркі. Мясцовасць тут балоцістая, таму нямецкія памешчыкі-бароны рэдка сюды заглядалі і хутаран не трывожылі.

Сяляне працавалі да сёмага поту: канавы капалі, пні карчавалі. З цяжкасцю адваёўвалі ў балота кожны кавалачак зямлі і старанна яго апрацоўвалі. Жанкі пасвілі жывёлу, даілі кароў, гатавалі ежу, мылі бялізну, ткалі і разам з мужчынамі выходзілі на работу з сякерамі, кіркамі, рыдлёўкамі.



Ад таго, што жанчыны працавалі ад цямна да цямна, гадзін па васемнаццаць у суткі, яны раджалі рэдка, і дзеці не заўсёды дажывалі да сталых год. Усім тром хутаранам удалося паставіць на ногі — двум па аднаму сыну, а трэцяму — дачку з блакітнымі вачыма.

Дзіўная дачка! Строгія, патрабавальныя бацькі песцілі яе і ахоўвалі, як свае вочы. Тым не менш, дзяўчына вырасла строгая, шчырая, але капрызная.

Дзяўчына падрасла, і юнакі ўзмужнелі. Абодвум хлопцам Ірма падабалася.

Аднойчы па дарозе да Ірмы юнакі сустрэліся твар у твар.

— Ты адкуль ідзеш? — звярнуўся Рыхэ да Вальдэ.

— Качак страляць, — адказаў Вальдэ.

— Хлусіш.

— Калі не верыш, дык і пытацца не трэба. Я не дапытваюся, куды і да каго ідзеш ты. А я іду да Ірмы.

— І я туды, да Ірмы. Бачыш? Яна сядзіць на ганку, лускае арэхі і, вядома, чакае не цябе, а мяне.

— Каго яна хоча бачыць, мяне ці цябе, угадаць цяжка. Можа цябе, а можа і мяне.

— Ты дарэмна мне не верыш, — адказаў Рыхэ. — Хочаш упэўніцца, каго яна кахае: мяне ці цябе?

Ружовыя шчокі Вальдэмара зрабіліся белыя, як палатно. У тоне суседа ён адчуў упэўненасць.

— Ды хіба ты сам не бачыш, каго Ірма кахае? Ты нават пабялеў. Давай давядзем справу да канца. Хочаш упэўніцца?

— Хачу, — адказаў збянтэжаны Вальдэмар.

— Тады вось што мы зробім. Ты схавайся за кустом. Ірма, мая Ірма, якая лускае мае арэхі, цябе не ўбачыць, а табе ўсё будзе відаць. Я падыйду і моцна пацалую яе. Тады ты зразумееш, што табе няма патрэбы цягацца па чужых дварах.

— А ты ўжо хіба цалаваў яе?

— Важна тое, што будзе, а не тое, што было... Значыць, ты згодзен схавацца за кустом?

— Не, не згодзен.

— Тады можна вось як. Давай навыперадкі. Хто першым дабяжыць, таму будзе належаць Ірма. Хоць яна і цяпер мая. Ірма любіць такіх, як я — праворных, імклівых.

— Бегчы мне нявыгадна. — Чаму? Ды вось чаму. У цябе доўгія ногі і рукі, а галава невялікая. Сядзіць яна на шыі, як у чаплі. І галоўнае, што твая бязмозглая галава падпарадкоўваецца тваім рукам і нагам. А мае ногі і рукі карацейшыя, а галава большая за тваю. Таму яна заўсёды дае каманду маім паслухмяным нагам і рукам... Але галава мая пакуль што каманды не дае...

У гэты момант Ірма саскочыла з высокага ганку і шпарка паімчалася насустрач юнакам.

— Хутчэй схаваемся каля дарогі! Я — справа, а ты — злева, — прапанаваў Рыхард.

Вальдэ згадзіўся і пайшоў улева ад суседа. Сціснуўшы зубы, ён па-

думаў: калі дзяўчына сапраўды падыйдзе да Рыхэ, тады ён не адзавецца і пойдзе далей у лес.

Тым часам дзяўчына шпарка набліжалася да месца, дзе схаваліся супернікі. Вецер распушыў яе густыя залацістыя валасы. Расчырванелая, яна спынілася пасярод дарогі і крыкнула:

— Вальдэ, Рыхэ! Я не люблю такіх жартаў...

У Вальдэмара радасна забілася сэрца. «Яна мяне назвала першым. Рыхэ хвалько ды і хлус яшчэ ў дадатак. Не цалаваў ён яе».

— А ну, хуценька абодва да мяне, мае шаноўныя суседзі, — крыкнула дзяўчына.

Рыхэ, вядома, першы падбег да расчырванелай дзяўчыны.

Вальдэ, не спяшаючыся, набліжаўся да капрызнай суседкі. Яго галава зусім перастала варыць і ніякай каманды не давала. Але сэрца таксама немалы камандзір. Яно загадала падпарадкавацца волі Ірмы. Вальдэмар набліжаўся павольна і спакойна, слухаючыся свайго сэрца.

— Вось што, мае харошыя, — сказала Ірма, — я вас абодвух аднолькава люблю. І Рыхэ добры, і ты, Вальдэ, таксама не кепскі, хоць крыху ганарысты. Табе, Вальдэ, не хацелася да мяне падысці?

Вальдэ панура маўчаў. Рыхэ, нагнуўшыся, завязваў у сваіх чаравіках шнуркі, якія чамусьці развязаліся.

Ірма сумелася. Ці сапраўды яна аднолькава кахае абодвух. Ці не хлусіць яна, што абодва маладыя суседзі аднолькава ёй блізкія. У гэты момант ёй больш падабаўся маўклівы і сумны Вальдэмар, а растаропны Рыхэ быў крыху смешны, асабліва цяпер, калі нязграбна сагнуўся, каб завязаць шнуркі ў сваіх чаравіках. Але разгубленасць Ірмы была імгненнай. Яна спакойна і цвёрда сказала:

— Вы, мае суседзі, мне абодва блізкія і прыемныя, я заўсёды рада, калі хто-небудзь з вас, альбо абодва, як сёння, прыходзіць да мяне ў госці. Але... Зразумейце, я адна, а вас, хлопчыкі, двое. У мой бацькоўскі дом зможа пасяліцца толькі адзін з вас. Дык скажыце самі, каго мне выбраць? Я вось што вырашыла. Маім вечным сябрам будзе той з вас, хто цярплівы і працавіты. Вось якімі якасцямі павінен валодаць мой абраннік. А цяпер і час якраз падыходзіць, каб праверыць гэтыя якасці. Цяпер месяц, калі цвіце бэз. Хто з вас больш збярэ пяціпялёсткавых кветачак бэзу, якія прыносяць дзяўчатам радасць і шчасце, з тым я падзялю сваю маладосць, той назаўсёды застанецца са мною.

Сказала і пабегла.

— А тэрмін?— крыкнуў Вальдэмар і, між іншым, здзівіўся, што Ірма ўмее так прыгожа гаварыць.

— Першы прынясе, буду чакаць, пакуль прыдзе другі, а потым ужо будзе позна, — спынілася Ірма на момант, каб яшчэ хутчэй пайсці ад сваіх збянтэжаных сяброў.

Шчаслівы Рыхард!

Бедны Вальдэмар!

Радасна настроены, Рыхард з вострым нажом, з нажніцамі накіраваўся ў паход. Ён крочыў па паўднёвым схіле бэзавага гаю. Асветленыя сонцам галінкі нібы саміківалі хлопцу: бяры вось мяне, мяне вазьмі, бяры нас, пяціпялёсткавых, і будзь шчаслівы.

Рыхард прыслухоўваўся, ці няма тут паблізу Вальдэмара. Не. Яго не відаць. Вальдэ, як падумаў Рыхэ, зусім раскіс. Нічога ён не збярэ. Не такія ў яго рукі і ногі, і вочы не такія, а галава — зусім не тое. Рыхэ сустракала ўдача за ўдачай. Да вечара ён наламаў цэлы бярэмак галінак пяціпялёсткавага бэзу. Ён працаваў старанна і натхнёна. Так можа



працаваць чалавек, які моцна кахае. Калі б вы цяпер сустрэлі Рыхарда, дык не сказалі б, што ён доўгі, як жэрдка, што ён нязграбна складзены. Па дарозе Рыхард азіраўся, ці не даганяе яго Вальдэмар, але суперніка не было.

Вечарам вялізная куча пяціпялёсткавага бэзу ляжала ля ног чароўнай Ірмы.

— Ірма, мая Ірма, —сказаў Рыхард. — Тут больш за сотню галінак і на кожнай галінцы па некалькі пяціпялёсткавых кветак. Загадай, і самая цяжэйшая праца стане для мяне лёгкай і прыемнай. Загадай, Ірма!

— Дзякую, Рыхард. Ты добра папрацаваў, —адказала дзяўчына.

— Хто па-сапраўднаму кахае, той працуе і добра, і хутка,— сказаў ён і пацягнуўся да Ірмы, каб замацаваць сваю перамогу пацалункам.

Але Ірма яго моўчкі адхіліла.

— Працуеш ты добра, але да прыходу Вальдэмара цалавацца нельга, — сказала яна, падумаўшы.

— Але ўжо цямнее, а яго ўсё няма, — пакрыўдзіўся Рыхард.

— А можа Вальдэмар паплыў шукаць бэз на той бок возера і якраз цяпер вяртаецца з яшчэ большай здабычай.

Рыхард засумаваў. Ён сказаў:

— Я так стараўся. Хіба я мог бы так працаваць, калі б не ты, Ірма. Ведаеш, Ірма, ты яму, відаць, не патрэбна... Бачыш, ён усё яшчэ не прыходзіць, а ўжо шарэе.

Ірма маўчала. З прыгнечаным настроем Рыхард пайшоў дадому. Ён пагразіў кулаком у бок Вальдэмара, а потым крута павярнуў да возера. Яму мроілася, што насустрач ідзе Вальдэмар. Але яго не было відаць. Раптам ён пачуў скрып калёс і здрыгануўся. Напэўна, Вальдэмар вяртаўся з возам бэзу. Яму насустрач ехала гружаная фурманка. Няўжо ж гэта Вальдэмар?.. Тады пераможцам будзе ён. На шчасце, гэта быў не ён, а яго бацька, які вяртаўся з сенакосу.



— А я падумаў, што Вальдэ з вамі.
— Не, ён з маткай дадому пайшоў.
Так і ёсць. Ён і не думае збіраць бэзу. З пачуццём крыўды і радасці Рыхард пакрочыў дадому.

### 3

Бацькі Ірмы доўга не маглі заснуць. Ім прышлася па сэрцу капрызная выдумка дачкі, хоць маці і бацька расцэньвалі гэта па-рознаму.
— Цярплівасць і працавітасць — справа добрая, але выпрабоўваць такія цудоўныя якасці на збіранні бэзу проста смешна, — сказаў бацька.
— Не, не смешна, — заступілася за Ірму маці. — Хлопец працаваў цэлы дзень і прынёс на сваіх плячах пуды тры галінак... А памятаеш, як ты нёс мяне на руках ад хутара вярсты паўтары?
— Вядома, памятаю. Але тады гэта было неабходна. Калі б я цябе паставіў на ногі, ты б запэцкала лайкавыя туфлі, якія я табе падараваў.
— Але ж я хацела разуцца, а ты туліў мяне да сябе і не адпускаў.
— Бо я баяўся, што ты прастудзіш ногі.
— А хіба я ніколі не хадзіла босая? Не выдумляй, калі ласка. Ты проста быў малады і дурны.
— Як ты думаеш, Вальдэмар будзе збіраць пяціпялёсткавы бэз? — спытаўся бацька.
— Я сумняваюся. Ён вельмі горды, хоць, можа, кахае Ірму не менш за Рыхарда.
— А па-твойму, хто з іх лепшы?
— А ты як думаеш?
— Няхай гэта вырашае Ірма. Хто ёй лепш прыходзіцца па сэрцу, таго няхай і выбірае... Працаваць Рыхард будзе добра. А працы ў нас шмат: трэба карчаваць хмызняк, капаць канаву, асушваць балота.
— Праўда. Рыхард вельмі доўгі і тонкі. Ростам не падыходзіць. А Вальдэ на паўгалавы вышэй за Ірму, у самы раз...
— Няхай яна сама вырашыць.
Тым часам Вальдэмар не паказаўся ні ў той дзень, ні на другі, ні на трэці. Ірма хадзіла хмурая і злосная, а Рыхард адчуў сваю перавагу ў гэтай барацьбе.
Даведаліся пра гэта і бацькі Рыхарда, якія падбадзёрвалі свайго цыбатага сына.
— Што ж, — сказала маці Рыхарда, — лепш за Ірму не знойдзеш.
Бацька Рыхарда маўчаў. Відаць было, што і ён быў задаволены выбарам сына.
— Мы лічылі нашага Рыхэ нязграбным і дурнаватым. А ён у жыцці ідзе напорыста, смела. Ён малайчына.
На наступны дзень бацька Ірмы выйшаў на работу на золку, калі барвовае сонца пасылала на зямлю свае першыя косыя промні. І каго ж ён убачыў на сваім тарфянішчы? Не паверыце — там стаяў Рыхард з шырокай бліскучай рыдлёўкай.
Ірмін бацька здзіўлена спытаўся:
— Што ты тут робіш, Рыхард?
— Мне б хацелася ў вас папрацаваць. Я памагу канаву выкапаць, ваду спусціць.



— Гэта вельмі добра, Рыхард... А колькі ты запросіш за работу?
— Нічога не запрашу. Мне проста хочацца давесці Ірме, што я здольны не толькі збіраць пяціпялёсткавы бэз... Няхай яна не ведае, што я тут. Калі канава будзе пракапана да самага возера, мы паклічам Ірму і спытаем, ці працавіты той чалавек, які ўсяго за тыдзень выкапаў такую канаву.
Ірмін бацька паклаў шырокую далонь на плечы юнака і сказаў:
— Я згодны. Спадзяюся, што ты будзеш маім зяцем. Працуй.
А Вальдэмар усё яшчэ не паказваўся. Ірма засумавала. Яна часта выходзіла на дарогу, спадзеючыся, што сустрэне суседа. Раз яна зайшла вельмі далёка. Ужо відаць была Вальдэмарава хата. «Зайду да яго», — наважылася яна. З вялікай цяжкасцю ёй удалося адчапіцца ад гэтай думкі.
«Што са мной робіцца, — падумала Ірма. — Учора, здаецца, яны абодва былі для мяне аднолькава блізкія і прыемныя. А цяпер? Божа мой, няўжо я кахаю Вальдэмара? А чым жа дрэнны Рыхард? Ён і бацьку падабаецца, і маме таксама. Рыхард так старанна збіраў бэз. Вальдэмар! Агідны, злосны, жорсткі! Чаму ты не прыходзіш? Пакажыся хоць на хвілінку... Калі б ён прышоў, я прагнала б яго... На зло яму пацалавала б Рыхарда...»
Але Вальдэ не прыходзіць, не паказваецца...
За лесам на тарфянішчы нехта гарланіў. Ірма пазнала голас Рыхарда. Цікава, што ён там робіць? Можа гэта Вальдэмар? Не, голас не яго...
Яна паспяшалася дадому. «Што я скажу Рыхарду, калі ён мяне сустрэне так далёка ад нашага дому? Хіба прызнацца, што я так хачу бачыць Вальдэмара?..»
Прышоўшы дадому, яна доўга стаяла на ганку, спадзеючыся, што Вальдэмар прыдзе. На схіле паказалася галава чалавека.
Так, гэта ідзе Рыхард. Ён спяшаецца да яе, Ірмы.
«Але што мне яму сказаць? Рыхард, я кахаю Вальдэ...»

### 4

У наступную нядзелю раніцою Генрых, Ірмін бацька, апрануўся ў новы палатняны гарнітур. Прыбралася і Эльма, маці Ірмы. Бацька прапанаваў жонцы, каб яна абула лайкавыя туфлі, якія яшчэ дагэтуль не знасіліся.
— А куды ж мы пойдзем? — спытала Эльма: яна яшчэ была маладая і прыгожая.
— Пройдземся па палях. Дойдзем да самага тарфянішча. І ты, Ірма, з намі пойдзеш... Вось і Рыхард да нас спяшаецца... Вельмі дарэчы. Малайчына твой Рыхард.
— Але там балота, Геня, — заўважыла Эльма.
— Дні стаяць гарачыя, можа высахла.
І ўсе ўчатырох пайшлі да тарфянога поля.
Ірміна маці ўвесь час паварочвалася. Ззаду ішлі Ірма з Рыхардам. Матчыным сэрцам яна адчула ў паводзінах жаніха і нявесты нешта нядобрае. Чаму яны ідуць асобна? Хіба Рыхарду забаронена ўзяць у сваю далонь маленькую руку дачкі? Такія пяшчоты нікім не забаро-

нены... Ой, божа мой, гэты Рыхаў рост! Хоць бы быў ён крышачку ніжэй...

Падышлі да канавы. Рыхард маўчыць і нечага чакае. Эльма ад здзіўлення войкнула. Ірма павесялела. Яна ўзышла на гліністы ўзгорак. Побач з ёй стаяў Рыхард, які хоць раз паказаўся пад пару Ірме, нават крыху ніжэйшы.

— Тата! Хто ў нас працаваў? Калі?

— А ці не ўсёроўна? Хіба кепска зроблена?

— І я пра гэта не ведаю! — раззлавалася Эльма. — Чалавек пракапаў такую доўгую канаву, і ты, Геня, ні разу не запрасіў яго на абед. Як табе не сорамна?

— А калі чалавек прыходзіў са сваім харчам?

— Але хто ён?

— І я хачу ведаць, хто выкапаў гэтую канаву? Да самага возера! Тата, хто?

— Ён забараніў называць сваё імя.

— Ты выдумляеш, тата.

Рыхард шчасліва ўсміхнуўся. Вось даведаецца Ірма і кінецца яму на шыю.

— Рыхард, ты, напэўна, ведаеш. Ты нібы згаварыўся з татам. Скажы! Прашу цябе.

— Рыхард не скажа. Гэта не ў яго інтарэсах.

— Чаму не ў яго інтарэсах! Мамачка, няхай тата скажа.

— Уявім, што канаву пракапаў Вальдэмар.

Рыхард зарагатаў. Але, паглядзеўшы на збялелую Ірму, апусціў галаву.

— Праўда, праўда, тата? — ледзь вымавіла дачка.

— Вельмі проста. Цэлыя суткі чалавек гойсаў па гаях і садах, не знайшоў ніводнай патрэбнай галінкі бэзу, які ты так любіш. Значыць, калі няма бэзу, дык ён пачаў капаць канаву. Хіба тут пакладзена мала працы? А колькі трэба цярпення, каб адбівацца ад адных камароў.

Жарт бацькі быў не па душы Рыхарду. Юнак ніяк не мог дачакацца развязкі. Ірма паглядзела на Рыхарда, які зусім збялеў.

— Не, тут Вальдэмара не было, — цвёрда сказала дачка.

— Чаму ты так упэўнена?

— Ён бы заходзіў да нас. І наогул такая цяжкая праца не па сіле Вальдэмару.

Рыхард стаяў змрочны. Словы, якія сказала Ірма пра Вальдэмара, гучалі вельмі пяшчотна.

Нарэшце, Генрых, мяняючы жартаўлівы тон, сказаў:

— Правільна, дачка. Вальдэмара тут не было і больш яго не будзе. Вось хто канаву пракапаў: Рыхард. Падыйдзі бліжэй да яго. Падыйдзіце абое. Тут, ля канавы, я вырашыў вас благаславіць.

Маці чамусьці заплакала.

Бледная, як палатно, падышла да бацькі Ірма. Рыхард марудзіў. У гэтую хвіліну яго маленькая галоўка ліхаманкава працавала. Нашто было бацьку называць імя Вальдэмара! Чаму Ірма такая бледная, чаму плача яе маці? Што ён, Рыхард, можа яшчэ прыдумаць, каб схіліць да сябе Ірму, без якой яму свет не мілы. Хіба ён не адчувае, што Ірму душыць тупая абыякавасць да яго? Эх, каб трапіўся на вочы Вальдэмар, Рыхард ведаў бы, што з ім зрабіць! Ён слова ў слова запамятаў пагардлівыя выказванні суседа аб яго маленькай галаве: і пра доўгія ногі і рукі, што цяпер дзеля Ірмы пакрыты мазалямі. І навошта ён так стараўся.



— Падыйдзі ж, Рыхард! Вось так...

І бацька іх благаславіў.

Вярталіся яны дадому ўчацвярых, кожны са сваімі думкамі.

Генрых, Ірмін бацька, марыў аб тым, каб яму вясной пасеяць на тарфянішчы каноплі і проса. З Рыхардам можна смела разгарнуць работу.

Эльма думала пра тое, што Геня паспяшаўся. Што скажа Геня, калі яна яму намякне пра гэта. Яна старалася ўявіць сабе Рыхарда ў самым найлепшым выглядзе. Калі яму пашыць прасторнае двухбортнае паліто, шапку з бліскучым казырком, калі адзець на чаравікі глыбокія галошы, дык ён зробіцца паважны і нішто сабе: высокі, дужы, працавіты, закаханы — гэта ўжо не так і дрэнна.

Ірма ні аб чым не думала. Не, гэта не зусім так. Трымаючы Рыхарда пад руку, яна ўвесь час азіралася, бо чамусьці была ўпэўнена, што абавязкова сустрэне Вальдэмара. Ну і добра! Калі толькі яна яго ўбачыць, дык яшчэ бліжэй прытуліцца да Рыхарда.

Рыхард адчуў, што Ірма прытулілася да яго, мацней цісне яго за локаць. Ён зверху паглядзеў на Ірму, спадзеючыся, што іх позіркі сустрэнуцца. Але задуменная Ірма абыякава глядзела кудысьці ў далячынь. Мала таго, яна ні з таго ні з сяго пакінула яго аднаго і падышла да маці.

— Мне вельмі цяжка, мама.

— Гэта з усімі так бывае, з усімі дзяўчатамі.

— А што, калі прыдзе Вальдэмар?

— Не прыдзе.

— Прыдзе, — адказала яна злосна.

— Прыдзе і пойдзе.

Генрых з будучым зяцем пайшлі наперад. Жанчыны ішлі ззаду і аб нечым шапталіся. На павароце Рыхард павярнуў у бок свайго хутара, ні з кім не развітваючыся.

— Куды ты? — спытаў Генрых.

— Пайду дадому, — адказаў Рыхард.

— Зразумела, — сказаў Генрых, хоць ні ён, ні астатнія ніяк не маглі растлумачыць, чаму Рыхард так раптоўна пайшоў, пакінуўшы каханую дзяўчыну, яе маці і бацьку.

## 5

«Ірма!

Якую кніжку ты чытаеш? І ці чытаеш ты наогул. Я рэдка бачу цябе з кніжкай у руках.

Ірма! Няхай на мяне не пакрыўдзяцца дзяўчаты, але «Ірма» — самае цудоўнае з імён, названых нашымі продкамі. Ці разумееш ты, аб чым я пішу!

Як ты думаеш, што прыгажэй, слова «каханне» ці слова «Ірма»?

Ірма, Ірма, Ірма... Ты, звычайная дзяўчына, якая бесклапотна лускае арэхі, удыхнула жывую іскру ў маю душу. Ты навяла мяне на думку заняцца развядзеннем кветак. Навошта табе спатрэбіўся пяціпялёсткавы бэз? А бэз з чатырох пялёсткаў хіба не прыгожы і не пахне?

Я выведу персідскі бэз. У ім будзе больш пяці пялёсткаў. Ты хочаш персідскага бэзу?

Я пакідаю бацькоўскі дом, не развітаўшыся з табою. Я буду кветкаводам. Насеннем пяціпялёсткавага бэзу засею бэзавую даліну, даліну шчасця, прыгажосці і кахання. Збяру бэзу ў мільён разоў больш, чым мог бы сарваць дзесятак Рыхардаў. Мне яго шкада. Ты ж яго не кахаеш, такога, як Рыхард, ты кахаць не можаш.

Будзь мужнай і цярплівай, Ірма. Белы, аранжавы, фіялетавы, блакітны...— бэз усіх колераў вясёлкі выгадуем мы з табой. Але для гэтага патрэбен час. Не адна вясна, не год, не два гады і нават не тры. І ты, Ірма, мне дапаможаш у гэтай вялікай рабоце.

Вальдэмар Ірмас. Твой, твой, твой.

Маё прозвішча з гэтага часу будзе Ірмас...»

На гэтым абрываецца апавяданне аб пяці пялёстках. Хто перадаў Ірме пісьмо, як Ірма ўспрыняла гэтае пасланне, можна толькі здагадвацца.

А на схілах гары, вакол каменнага слупка цвітуць кусты пахучага пяціпялёсткавага бэзу.







# ГУТАРКА А. М. ГОРКАГА З РАБКОРАМІ, СЕЛЬКОРАМІ І ВАЕНКОРАМІ Ў ТБІЛІСІ 27 ЛІПЕНЯ 1928 г.

27 ліпеня А. М. Горкі, прыехаўшы ў Тбілісі, сустрэўся ў летнім клубе будаўнікоў з рабочымі карэспандэнтамі. У сяброўскай гутарцы Аляксей Максімавіч, адказваючы на пытанні рабкораў, выказваў сваю думку па шэрагу пытанняў, даў парады.

Гутарка гэтая надрукавана ў часопісе «Літаратурная Грузія» ў ліпені 1957 года.

Старшынствуючы. Таварышы, сённяшняя наша сустрэча — сустрэча рабкораў, ваенкораў і селькораў горада Тыфліса з Аляксеем Максімавічам Горкім уяўляецца мне не ў выглядзе ўрачыстага сходу з урачыстымі прамовамі, а ў выглядзе дзелавой гутаркі з нашым дарагім госцем Аляксеем Максімавічам, прысутнасць якога тут дасць нам магчымасць абмеркаваць тыя набалелыя пытанні, якія цікавяць кожнага карэспандэнта.

Дазвольце мне ад імя ўсіх, хто тут прысутнічае, а таксама ад імя адсутных рабкораў, горача вітаць нашага дарагога Аляксея Максімавіча Горкага (а п л а д ы с м е н т ы), а потым непасрэдна прыступіць да дзелавой работы.

Я прапаную сходу такі парадак дня: спачатку прысутныя будуць задаваць пытанні, на якія таварыш Горкі дасць адказ, а потым, у парадку запісу, мы дадзім магчымасць выказацца ўсім, хто пажадае, у тым ліку, безумоўна, і таварышу Горкаму.

Калі такі парадак дня прымаецца, то задавайце пытанні.

П ы т а н н е. Я хацеў бы спытацца ў Аляксея Максімавіча, якой ён думкі пра нашы рабкораўскія заметкі ў тыфліскіх газетах, у якіх ускрываюцца факты бюракратызму адміністрацыі і іншыя недахопы.

Г о р к і. Безумоўна, пытанне ваша зусім натуральнае: раз вы рабочыя карэспандэнты, тым самым вы сталі як бы выкрывальнікамі розных недахопаў у жыцці, разаблачальнікамі розных памылак і непаразуменняў. Гэта натуральна таму, што кожны рабкор клапоціцца аб стварэнні новых адносін, новага быту, новай культуры, і на гэтае пытанне, безумоўна, не можа быць двух адказаў.

Ці трэба выкрываць недахопы? Зразумела, трэба. Але не трэба толькі забываць, што ў той вялікай справе, якая зараз робіцца ў Саюзе Савецкіх Рэспублік, у сутнасці гэтай справы закладзена так многа новага, да такой ступені складанага, што гэтае новае, гэтае складанае, якое выяўляецца ў нашым жыцці, не можа не пацягнуць за сабой памылак, розных непаразуменняў і недахопаў.

Робіцца новая справа, якой ніхто яшчэ ніколі не рабіў. Яе робяць людзі, не крыўдуйце на мяне, таварышы, па сутнасці, непрывычныя цалкам да гэтага. Робяць гэтую вялікую справу простыя людзі, простыя рабочыя, а раз гэта так, то гэтая справа — ваша, таварышы, справа вашых таварышаў па класу, сяброў па жыццю. І вы, крытыкуючы іх недахопы і памылкі, ніякім чынам не павінны ўпадаць у той тон, які за апошні час вамі ўсё больш і больш засвойваецца. Гэты тон нейкі раздражнёны, такое падкрэсліванне гэтых недахопаў — тон не сяброўскі, не таварыскі, а тон быццам варожых адзін другому людзей, тон, які мы мелі права прымаць, калі мы крытыкавалі клас, варожы нам. Цяпер, калі вы маеце справу са сваім класам, з прадстаўнікамі вашых інтарэсаў, з рабочымі, якія працуюць гэтак жа, як і вы, — для сябе, для пабудовы новай сваёй дзяржавы, вы павінны пазбягаць усяго, што можа пакрыўдзіць гэтых людзей. Вы павінны ўстрымацца ад узятага вамі тону. Вы павінны крытыкаваць іх недахопы, але памятаць, што гэтыя недахопы зыходзяць ад вашых таварышаў, ад людзей вашай плоці і крыві, якія імкнуцца да той жа мэты, што і вы, якія заслугоўваюць вашай павагі. Таму тон у вашых заметках павінен быць добразычлівы, таварыская крытыка павінна быць, але зусім не такая, што мы маем зараз. Я паўтараю, калі людзі майго пакалення крытыкавалі варожы ім клас, яны мелі права на нянавісць і раздражнёнасць па той простай прычыне, што тыя людзі адносіліся да іх з нянавісцю. Але вы не можаце ў такім тоне крытыкаваць сваіх таварышаў. Таму я лічу, што крытыка павінна быць, але тон яе павінен быць сяброўскі, таварыскі.

Кожны з вас імкнецца пазбегнуць дрэннага ў жыцці, замяніць дрэннае нейкімі другімі, добрымі ўмовамі. Дык вось, памяркуйце самі, ці трэба засмечваць тую вялікую справу, якую вы робіце, дробязямі і асабістымі крыўдамі? Мне здаецца, не трэба. Я буду прадаўжаць гаварыць у тым жа духу, у якім пачаў. Вы ж людзі пісьменныя, людзі, у якіх ёсць магчымасць мець яснае ўяўленне пра тое, што трэба рабіць. Вам трэба навучыцца, як лепш рабіць тое, што вы робіце. Зараз нараджаюцца зусім іншыя формы адносін паміж людзьмі. Вось мне адным з вашых таварышаў пададзена такая запіска: «Дзе шукаць новы быт?»



Дзе шукаць новы быт? Нясумненна, у сабе самім. Усё зыходзіць ад чалавека, па-за чалавекам нічога ніколі не робіцца. Тварыце новыя факты і будзе новы быт. Змяніце адносіны адзін да другога, змяніце адносіны да тых людзей, якія робяць новую вялікую справу і якіх вы абвінавачваеце ў бюракратызме. Заўтра гэтыя людзі могуць быць ужо не такімі, калі вы ім па-сяброўску скажаце, што яны памыляюцца, што яны не так трымаюць сябе. Гэта ўсё вельмі простая рэч.

П ы т а н н е. Некаторыя кажуць, што наша газета «Рабочая праўда» часта памыляецца ў ацэнцы з'яў. Як вы глядзіце на гэта?

Г о р к і. Я прывяду вам адзін факт, з якога вы многае зразумееце: адзін рабкор паставіў пытанне аб тым, што ён павінен адзначыць на сваім прадпрыемстве — дрэннае ці добрае? З гэтай мэтай ён абследаваў фабрыку пад Масквой — былую Марозава. Пасля вельмі строгага абследавання выявілася, што добрае пераважае над дрэнным, чаго рабкор сам не ведаў. Кожны з рабкораў пісаў пра адмоўныя з'явы, а калі яны паставілі сабе за мэту абследаваць жыццё і работу ўсёй рабочай масы, занятай на фабрыцы, то выявілася, што ёсць многа з'яў станоўчых, якіх яны не заўважалі.

П ы т а н н е. Кажуць, што рабкор нібыта адносіцца песімістычна да таго, пра што піша. Ці праўда гэта?

Г о р к і. Песімізм гэты з'яўляецца вынікам незадаволенасці рэчаіснасцю. Людзі хочуць вельмі многа добрага, і гэтае жаданне натуральнае, гэта іх законнае права, права жадаць як мага больш добрага... Але, дзейнічаючы ўрассыпную, ім цяжка дасягнуць гэтага добрага, і тут атрымоўваецца такая рэч, што чалавек пачынае дзяўбці ў адну кропку і ўпадае ў роспач, з-за сваёй роспачы ён ужо не бачыць нічога добрага, упадае ў песімізм. А добрага многа. Вось я быў у Баку і бачыў, якія цудоўныя дамы для рабочых пабудавала Азнафта. Або вазьміце Днепрабуд. Там пабудавана выдатная фабрыка-кухня, якая адпускае 6.500 абедаў у суткі. Паглядзіце, якія там цудоўныя рабочыя пасёлкі. Хіба можна праходзіць міма гэтага добрага і не заўважаць яго! Атрымоўваецца такая рэч, што дробязі быту засланяюць усё гэтае буйнае, вялікае, добрае. Гэтыя людзі яшчэ дзесяць год таму назад перанеслі жыццё суровае, цяжкае і наўрад ці маглі нават думаць пра тое, што зараз ёсць. Тым не менш, калі ў іх ёсць столькі станоўчага, столькі цудоўнага, усё-такі ўсплываюць нейкія дробязі, і гэтыя людзі ўпадаюць у непатрэбны нам тон. І наўрад пры такім тоне мы будзем у стане хутка ісці ўперад.

Таварышы, у нас высунуты лозунг культурнай рэвалюцыі. Гэты лозунг мае на ўвазе перш за ўсё павагу да чалавека, да стваральніка культуры. Абавязкова так, і не інакш, — павагу да чалавека, да яго працы, павагу да асобы, да стваральніка культуры. Ёсць у вашых заметках гэтая павага? Не, гэтага няма. Крытыкуючы дзеянні, якія трэба крытыкаваць, вы абвінавачваеце ў гэтым чалавека. Трэба вучыць, а не толькі абвінавачваць.

«Мы свой, мы новый мир построим»... А як вы будуеце гэты новы свет? У тым тоне, які вы ўзялі, вы будуеце новы быт? Нельга браць такі тон азлаблення супраць чалавека і такога чалавека! Супраць вашага та-

варыша, супраць рабочага. (Рэпліка: «А калі ён справу не любіць?»). Тады ён не таварыш ваш. Але я вельмі сумняваюся ў тым, што ў вашым асяроддзі ёсць рабочыя, якія не любяць сваю справу. Я ў гэтым вельмі сумняваюся. Вось я быў у Баку і быў сведкам такога выпадку: на промысле раптам успыхнуў бензін. Калі-б гэта было 10—15 год назад, то ўсе рабочыя разбегліся б хто куды, аднак рабочыя промысла беглі не ад агню, а да агню. Кінуліся ў агонь чалавек дзвесце пяцьдзесят, і на працягу дванаццаці хвілін пажар быў патушаны, быў ліквідаваны раней, чым прыехала пажарная каманда. Гэты факт сведчыць аб тым, што гэтыя дзвесце пяцьдзесят чалавек адчувалі сябе гаспадарамі гэтай справы. Гаспадарскае, чужое яны не сталі б так абараняць.

У вашых словах таксама ёсць праўда, якая ілюструе вельмі сумныя факты. Я, напрыклад, скажу, што ёсць рабочыя, якія на буржуяў працавалі лепш, чым яны працуюць цяпер на сябе. Прадукцыя, якую давалі яны буржуазнаму грамадству, была па якасці сваёй значна лепшая за тую, што вы даеце цяпер, працуючы на сябе. Вы боты пачалі горш шыць, пачалі горш рабіць і іншыя рэчы. Гэта сумны факт, і пра гэта рабкорам трэба пісаць: не толькі пра тое, што прапалі шэсцьсот мільёнаў рублёў грошай, але і пра тое, што вашы таварышы пашылі вам боты з гнілой скуры. Я нядаўна прыехаў з-за мяжы, але я добра ведаю, што вы не толькі дрэнна працуеце, але і многа п'еце, б'еце сваю жонку, да жанчыны адносіцеся па старынцы. Гэта ўсё ёсць, і пра гэтыя рэчы вы не пішаце ў дастатковай ступені. А калі ваш таварыш, які працуе ў такой пякельнай абстаноўцы, пра якую селянін не мае ніякага ўяўлення, дапусціць памылку, вы яго высмейваеце. Гэта не рэзон.

У мяне ёсць яшчэ шэраг запісак, на якія нават не ведаю, як адказаць. Напрыклад: «Як быць з масамі, якія не маюць ніякай пісьменнасці, напрыклад, з езідамі?»

Ну што ж я магу адказаць на гэтае пытанне? Толькі тое, што езіды павінны мець сваю пісьменнасць, гэтак жа, як другія народы.

Наступная запіска такога роду: «Якое ўражанне зрабіла на вас армія ваенкораў?».

Цудоўнае! Малайцы хлопцы, вельмі пісьменная, дысцыплінаваная маса, вельмі многа часу аддаюць яны вучобе.

П ы т а н н е. Вы паставілі пытанне аб выданні часопіса «Нашы дасягненні». Ці будзе выходзіць гэты часопіс, на якіх мовах і які ўдзел могуць прымаць у ім рабкораўскія пісьменнікі?

Г о р к і. Несумненна, часопіс «Нашы дасягненні» будзе выдавацца. І рабкоры, і селькоры павінны прымаць у ім пасільны ўдзел. Але пра якія дасягненні ідзе гутарка? Дапусцім, селькор жыве ў вёсцы, дзе 54 дамы: за час з 1925 па 1928 год пабудавалі сабе 31 новы дом з гэтых пяцідзесяці чатырох. Значыцца, вёска багацее, а між тым пасярод вёскі стаіць зялёная лужына, кошка дохлая валяецца, воз не можа праехаць — тоне ў лужы. Бруд усюды страшэнны, коні ламаюць сабе ногі. Тут жа, у вёсцы, хата-чытальня, радыёпрыёмнік, а селькор піша пра тое, што Сцепаніда Краснова зрабіла нешта нядобрае са сваёй каровай. Пры праверцы выявілася, што нічога яна з каровай не зрабіла, што карова задаволена сваёй гаспадыняй і што Сцепаніда атрымала нават добры водгук. Дык вось пра гэта селькор піша, а пра тое, што смярдзючая лужа ў вёсцы, у якой усякая дрэнь валяецца, што дзеці атручваюцца і хварэюць, селькор пра гэта не піша. А пісаць якраз трэба пра такія рэчы, таму што элементарныя ўмовы культуры і гігіены патрабуюць чыстаты. Мы



гаворым аб культурнай рэвалюцыі, дык вы і павінны насаджаць культуру. Вы навучыце іх пачысціць гэтую лужыну, у вёсцы 54 двары, няхай кожны двор дасць па аднаму чалавеку, і 54 чалавекі любую лужыну вычысцяць.

А такіх фактаў колькі хочаце, пішуць пра многае, а не ведаюць яшчэ больш.

Цяпер другое пытанне: «Ці трэба пісаць пра ўсё, пра ўсе дасягненні, якія ёсць у быту?».

Уявіце сабе, што рабочы на фабрыцы вынайшаў непрамакальную падэшву з паперы. Пішыце пра гэта, пішыце пра ўсё, што так ці інакш, хоць бы ў дробязях, сведчыць аб рабоце чалавека ў справе стварэння новага быту. Адбылося што-небудзь важнае, якія-небудзь змены ў сельскай гаспадарцы, на фабрыцы, на кватэры рабочага: рабочы нешта сам зрабіў, нешта адрамантаваў. Важныя ўсе факты, якія сведчаць, што чалавек пачынае адносіцца да рэчаіснасці, як да прамой сваёй справы.

Тут пытаюцца, якой я думкі пра газету «Камсамольская праўда».

Гэта надзвычай багатая, добра пастаўленая газета, вельмі таленавіта вядзецца яна, але і яна мае недахопы, пра якія я гаварыў, — яна таксама занадта многа ўвагі звяртае на тое, што дрэнна, і мала гаворыць пра тое, што добра.

Таварышы, трэба памятаць наступнае: кожны з вас знаходзіцца каля сваёй невялікай справы. З гэтай невялікай справы ствараецца нешта надзвычай вялікае, што, уласна, улічыць не толькі вам цяжка, але і людзям, што сядзяць у Саўнаркоме і іншых установах, таму, што, скажам, калі б экскурсія рабкораў, або селькораў паехала ў Баку, у Азнафту, дапусцім, і паглядзела, што зроблена рабочымі зараз супраць таго, што было зроблена пры ўласніках, прыйшлося б сказаць, што рабочыя сапраўды працуюць лепш, чым уласнікі. Акрамя таго, тут трэба ўлічыць і той факт, што замест 238 гаспадароў, якія былі раней, на чале Азнафты стаяць двое рабочых. Трэба звярнуць увагу, што адміністрацыя, якую трымалі ўласнікі, была колькасна велізарная і зарабляла сабе грошай да 50 тысяч рублёў плюс усялякія танцьемы. А колькі каштуе адміністрацыя Азнафты цяпер? Танна, кур'ёзна танна. А акрамя таго, і агульнае становішча, і іншае. Паглядзіце, як паступова аблягчаецца праца рабочага! Уласнікі, буржуа не клапоцяцца пра тое, каб аблегчыць працу рабочых, затое рабочыя самі клапоцяцца пра гэта, і добра клапоцяцца.

Тут мне задалі цэлы шэраг пытанняў аднароднага характару:

«Ці могуць і ці павінны пісьменнікі прымаць удзел у будаўніцтве. Ці могуць прымаць у ім удзел пісьменнікі царскага часу?».

Вось я — пісьменнік царскага часу, а заўсёды прымаў і прымаю ўдзел у гэтай справе. Тое ж самае можна сказаць пра Сяргеева-Цэнскага, Сяргея Гарадзецкага і многіх іншых паэтаў і пісьменнікаў. Усе яны прымаюць удзел у будаўніцтве.

П ы т а н н е. Трэба пісаць раманы для лёгкага чытання або з ухілам на палітычныя тэмы?

Г о р к і. Безумоўна, трэба пісаць і мастацкія раманы для таго, каб людзей прывучыць спачатку да лёгкага чытання.

П ы т а н н е. Як адносяцца за мяжою да нашых пралетарскіх пісьменнікаў?

Г о р к і. Замежная літаратура і прэса адносяцца да іх у вышэйшай ступені ўважліва, перадрукоўваюць творы нашай моладзі, выдаюць масу кніг, што можна атрымаць адсюль. Але трэба сказаць, што добрыя кнігі

пралетарскіх пісьменнікаў з Расіі не дастаюцца рабочым: буржуа не дае іх чытаць рабочым, калі яны напісаны пад пэўным ухілам.

Пытанне. Ці патрэбна нам паэзія?

Горкі. Я думаю, што патрэбна. Я сам вершаў не пішу, але думаю, што паэзія так ці інакш патрэбна. Песні ўсе любяць, музыку любяць, прыгожае слова або прыгожых жанчын усе вы любіце, гэта я вельмі добра ведаю. Як жа тут абысціся без паэзіі? Уся ж культура пачата на гэтай глебе. І мы з вамі, таварышы, займаемся паэзіяй. Дык чаго ж пытацца?

Пытанне. Якія творы замежных пісьменнікаў карыстаюцца папулярнасцю і якія нам чытаць?

Горкі. Я дакладна не скажу. У нас вельмі ахвотна чытаюць О. Генры. Пісьменнікаў прымірэнчага напрамку, я б сказаў — мала любяць, мала імі цікавяцца, а левымі цікавяцца куды больш. Яшчэ чытаюць Джэка Лондана. Джэк Лондан вельмі добры пісьменнік, ён заўсёды паказваў людзей баявых, моцных.

Вельмі многа ў мяне запісак, у якіх пытаюцца пра Есеніна. Уласна, па гэтаму пытанню мне некалькі разоў прыходзілася гаварыць. Што-ж сказаць? Вельмі добры паэт, пісаў цудоўныя вершы. Яго крыху перахвалілі, а ўвогуле можна сказаць, што гэта трагедыя глінянага гаршка: гліняны гаршчок стукнуўся аб чыгун-горад. Наш вясковы чалавек, лірык, летуценнік, лагодны хлапец, не вынес суровага гарадского жыцця, дзе працуюць вельмі энергічныя людзі, якія паставілі перад сабой вельмі высокія задачы, і вось Есенін проста не знайшоў сабе месца сярод іх...

Пытанне. Цікава было б ведаць думку Аляксея Максімавіча аб мастацкай літаратуры, якую ствараюць рабкоры.

Пытанне. Якое значэнне мае для пралетарскай літаратуры мастацкая форма?

Горкі. Я думаю, што гэтыя вашы пытанні патрабуюць для адказу цэлай лекцыі. Справа ў тым, што гэта пытанне аб літаратурнай крытыцы, аб ацэнцы літаратуры. Тут адбываецца з'ява, я б сказаў, у вышэйшай ступені непрыемная, і віноўнікамі яе з'яўляюцца часткова такія ж маладыя людзі, як вы: людзі занадта спяшаюцца выявіць сябе. Рушаць уперад гучнымі словамі і ўсякай усячынай. З гэтага атрымоўваюцца такія адносіны, пра якія я раней гаварыў, — некаторая паспешлівасць меркаванняў і іншае. І таму гавораць пра нашу літаратуру няправільна. Я лічу сябе не ўправе гаварыць аб гэтым таму, што для гэтага трэба было б многа гаварыць, спатрэбіліся б адпаведныя матэрыялы; я хацеў бы з кнігамі ў руках гаварыць аб фактах, паказаць, да якой ступені няправільна цэняць пісьменнікаў, якія робяць паспешлівыя вывады, як дрэнна крытыкуюць, як дрэнна чытаюць кнігі. Я б узяў прадмову да кнігі і змест кнігі і паказаў бы, наколькі яны не адпавядаюць, як няправільна ідзе выхаванне маладняку. У нас малады пачынаючы пісьменнік абслугоўваецца зусім дрэнна, рэдактараў добрых пакуль няма, такіх рэдактараў, якія маглі б узяць рукапіс, прачытаць яго ўважліва і сказаць — напісаны ён дрэнна ці добра, чаму дрэнна або добра, указаць аўтару рукапіса, што пісаць трэба так, а не гэтак, трэба пазбягаць такіх вось памылак. Але трэба прыняць пад увагу, што ўсяго шэсць год, як у нас параўнальна спакойная работа, і за гэты тэрмін у вышэйшай ступені цяжка было дасягнуць жаданых вынікаў. Аднак за гэтыя шэсць год мы стварылі літаратуру, якой можам пахваліцца перад Еўропай. Напісалі цэлы шэраг цудоўных кніг і кожны год даем два-тры таленавітых раманы. Вось, напрыклад, «Ціхі Дон» Шолахава. Шолахаў напісаў цудоўную кнігу.



У нас цяпер такая маса літаратараў, што сачыць за ўсімі няма ніякай магчымасці; я сам уважліва чытаю новую літаратуру, але і ў мяне няма такой магчымасці прасачыць за ўсім. Аднак я скажу, што чытаю больш, чым любы рэдактар маскоўскага часопіса. І вінаваціць рэдактараў не прыходзіцца. Возьмем, напрыклад, «Рабочую газету» Масквы. Яна атрымоўвае ў сярэднім пяць тысяч пісьмаў у месяц, а мае магчымасць адказаць толькі на тры працэнты гэтай колькасці. Астатнія пісьмы ляжаць велізарнай кіпай. Няма магчымасці прачытаць усе, і таму адказваюць толькі на тры працэнты, і каб адказаць нават на гэтую колькасць, рэдакцыі трэба мець вялікі калектыў людзей, якія чытаюць пісьмы і накіроўваюць адказы ў розныя ўстановы, даюць парады, і гэта яны могуць зрабіць толькі з трыма працэнтамі пісьмаў, таму што шэсцьдзесят тысяч пісьмаў у год — гэта такая колькасць, разабрацца ў якой літаральна немагчыма.

Тое, што робіцца зараз у нас, выходзіць з рамак звычайнага. Вось калі мы на Кельнскай выстаўцы паказалі лічбу тыражу нашых кніг, немцы не паверылі: «Мільёны тамоў, і ўсе гэтыя кнігі разыходзяцца, у той час як чытаць іх павінен непісьменны народ», — гаварылі немцы, таму што яны лічылі рускіх непісьменнымі. А гэтыя ж лічбы — факт. «Цэмент» Гладкова — 110 тысяч імгнення разышоўся. Хіба раней гэта магло быць? Безумоўна, не. Я належу да тых пісьменнікаў, якіх найбольш чытаюць, але я не магу сказаць, каб у маім былым вопыце быў такі выпадак.

Таварышы, усё, што ў нас выражана ў лічбах, прымае фантастычныя памеры.

Вось цікавая запіска: «Ці дастатковыя ў нас тэмпы развіцця нашай культуры і ці хутка мы зможам дагнаць Захад?».

Я ўжо гаварыў па поваду тэмпаў развіцця нашай культуры. Яны ў нас прымаюць фантастычную хуткасць. Я кажу гэта, не перабольшваючы. Я ведаю, чым была Расія, калі мне было 20—25 год. Я ведаю, што ў той час любілі газету «Рускія ведамасці», якая разыходзілася ў 20—25 тысячах экземпляраў, не больш. Калі мне было 45 год, то з'явілася «Рускае слова», якое разыходзілася ў 300 тысячах экземпляраў. Нават гэты скачок у той час здаваўся незвычайным, а цяпер, калі ў адной Чувашскай рэспубліцы, дзе менш мільёна насельніцтва, у рэспубліцы, якая ўсяго сем год назад атрымала сваю пісьменнасць, выдаецца дзесяць газет, і кожная газета мае дзесяць тысяч падпісчыкаў і тысячы карэспандэнтаў, — гэта сапраўды з'яўляецца цудоўным, казачным.

А вас не здзіўляе такі факт, што наш салдат з Чырвонай Арміі — адукаваны чалавек? Паглядзіце на старшыню сельсавета, ён таксама адукаваны чалавек. Цяпер чырвонаармеец выходзіць з казармы абавязкова пісьменным, гэтага раней не было. Раней салдаты з арміі, з царскай казармы, вярталіся ў вёскі, выбачайце за грубае слова, з вядомай хваробаю, а акрамя таго, вярталіся ў вёскі ранейшымі мужыкамі. Цяпер зусім не тое. Хіба гэта не з'яўляецца паказальным?

Звярніце ўвагу таксама на тое, што просты рабочы ад станка ў нас займае «губернатарскую» пасаду, прычым старшыня губвыканкома выконвае работу куды больш складаную, чым губернатар старога, царскага ўрада, які быў толькі адміністратарам, у той час, як старшыня губвыканкома, кіруючы губерняй з насельніцтвам у паўмільёна чалавек, павінен ведаць эканоміку і гаспадарку сваёй губерні... Звярніце ўвагу на той факт, што ў нас 19 тысяч вынаходцаў. І ў гэтых адносінах мы

нават перагналі Еўропу. Гэта ў дастатковай меры сведчыць аб тэмпах нашага культурнага развіцця.

Пытанне. Ці будзеце вы пісаць за мяжой аб дасягненнях нашых і як аднясецца да гэтага еўрапейская буржуазія?

Горкі. Еўрапейскія буржуа — людзі не дурныя і з гэтае прычыны ніякіх дыфірамбаў і славаслоўяў нам друкаваць не будуць. Я вам скажу, што ўсякі раз, калі мне прыходзілася гаварыць што-небудзь пра Расію, мяне там цытавалі, напрыклад, у нямецкіх газетах, але заўсёды з каментарыямі, дадавалі: «Безумоўна, па-першае, ён ідэаліст, па-другое, паэт, а па-трэцяе, жыве за мяжою і не ведае сапраўднага становішча спраў у Расіі».

Рабкор (з месца). Я хачу некалькі крытыкнуць вас па-рабкораўску. Вы не пакрыўдзіцеся?

Горкі. Не, не.

Рабкор. Вось вы гаворыце, што рабкоры цярэбяць нашых гаспадарнікаў, бяруць у адносінах да іх грубы тон. Я з гэтым згодзен, але калі таварышы, што ўзначальваюць нашы ўстановы, не бачаць такога гаспадарніка, які не любіць сваю справу, мы павінны аб гэтым пісаць. Безумоўна, не так, каб яму галаву адкруцілі, а толькі каб указаць яму правільную дарогу, каб на вытворчасці справа ішла добра.

Калі мы пішам крытычную заметку, адміністрацыя паведамляе рэдакцыі, што нібыта прыняты меры, а праз два дні мы бачым, што справа стала яшчэ горш. Вось такіх гаспадарнікаў мы і стараемся паставіць на правільны шлях, але, безумоўна, не так, каб адбіць у іх ахвоту працаваць.

Горкі. Давайце пагаворым на гэтую тэму. Возьмем, напрыклад, такі факт: у адным горадзе гаспадарнік пабудаваў мост цераз яр і з гэтага поваду ў газеце і на сходзе прабралі моцна гэтага гаспадарніка. Яму казалі: на якое ліха вы будуеце мост, затрачваеце на яго 10 тысяч рублёў. Можна абысціся і без маста. Але не было нікім улічана, што мост скарачаў дарогу рабочым на 22 мінуты. Памножце гэта на тысячу рабочых і атрымаеце вялікую эканомію.

Рабочы ад станка бярэцца за велізарную дзяржаўную справу, ён разумее, што працаваць трэба яму не на чужога дзядзьку, а на свой клас. Натуральна, што ў яго паяўляецца нерашучасць... А потым трэба звярнуць увагу на такую рэч: у той велізарнай справе, якая зараз робіцца, да такой ступені ўсё складана і цяжка, што толькі рукамі разводзіш, бачачы, як рабочы клас, савецкая ўлада і партыя працуюць у гэтай абстаноўцы: грошай няма, варожасць буржуазіі страшэнная, ненавідзіць вас буржуазны свет так, як нікога яшчэ ніколі не ненавідзеў. А ўнутры хіба няма людзей, якія таксама глядзяць на вас, як на ворага, хоць і жывуць разам з вамі? Безумоўна, ёсць...

Калі я кажу, што не трэба асабліва рэзка выступаць супраць свайго брата па духу, я кажу гэта проста таму, што гэта-ж вельмі каштоўны новы чалавек. Калі я гляджу на гэты кавалачак энергіі, які вы траціце не на тую жывую справу, на якую павінны траціць, я думаю, што гэты кавалачак энергіі страчаны для справы, а між тым гэтая энергія магла быць накіравана ў больш карысны бок.

Не думайце, таварышы, што я супраць крытыкі, зусім не, я толькі супраць вашага тону, я кажу, што тон павінен быць іншы, больш сяброўскі, больш таварыскі.

Таварышы, гэта не фармальнае слоўца, а сапраўднае, гэта — сімвал класавага яднання, сімвал свядомых адносін адзін да другога.



Кожны чалавек, які бярэцца за якую-небудзь справу першы раз, натуральна, памыляецца, ён дзейнічае нерашуча, няўпэўнена, ці мала што бывае. А вучыцца цяжка, вельмі цяжка, і вы гэта ведаеце лепш за мяне. Вось тут і трэба мець на ўвазе лозунг культурнай рэвалюцыі. Вы павінны змяніць адносіны адзін да другога. Я згодзен, што з гаспадарнікам трэба сярдзіта размаўляць, але не крыўдзячы яго так, як вы гэта робіце. Гэта, па сутнасці, вельмі важна.

У мяне ёсць запіска такога характару: мяне пытаюцца, якой я думкі пра жанчыну і якая яе чарговая задача.

Я думаю, што яе чарговая задача такая ж, як і задача мужчыны, і што ў некаторых адносінах жанчына нават як быццам пашла на крок, магчыма — два ўперад у параўнанні з мужчынай. Я бачыў многа такіх прыкладаў і ведаю з пісьмаў, якія я атрымоўваў за мяжой, а акрамя таго кажу пра тое, што я сам бачу. Дастаткова прывесці, ў якасці прыкладу, мусульманку, якая не толькі скінула чадру і адкрыла свой твар, але і старшынствуе ў сельсавеце, вядзе велізарную работу. Гэта з'ява зусім выключная. Раней гэтага ніхто ніколі не наглядаў.

Пытанне. Ці будзе часопіс «Нашы дасягненні» выдавацца на нацыянальных мовах, і хто будзе ў ім удзельнічаць?

Горкі. Усе Савецкія рэспублікі павінны прыняць той ці іншы ўдзел у гэтым часопісе ў меру сваіх сіл. Па гэтаму поваду я перагаварыў ужо з армянскімі, грузінскімі, украінскімі і іншымі пісьменнікамі. Усе нацыянальнасці будуць даваць у часопіс матэрыял аб той культурнай рабоце, якую яны робяць, будуць пісаць як бы гісторыю культуры ў яе развіцці, у яе руху. Так што само сабою зразумела, удзел так званых нацменшасцей павінен быць безумоўна. Было б проста недапушчальным і проста злачынствам, калі б мы — масквічы, рускія прадаўжалі адносіцца да нацыянальнасцей, што ўваходзяць у склад Саюза Савецкіх Рэспублік, так, як адносіўся царскі ўрад, гэта значыць ігнараваць іх: гэта, безумоўна, недапушчальная рэч.

Павінен вам сказаць, што, акрамя часопіса «Нашы дасягненні», я задумаў яшчэ другі часопіс, у якім літаратура нацменшасцей атрымала б поўнае адлюстраванне. Гэты часопіс будзе друкавацца на рускай мове, але астатнія нацыянальнасці, такія, як армяне, грузіны, цюркі* і іншыя, маюць права друкаваць яго на сваёй роднай мове. Але мы абавязкова павінны даць у часопісе поўную карціну ўсяго таго, што робіцца на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза.

Пытанне. Чаму ў нас няма вялікіх пісьменнікаў за апошняе дзесяцігоддзе?

Горкі. Гэта зусім няправільна. Апошнія дзесяць год далі шэраг вялікіх імёнаў: Канстанцін Федзін, Бабель, Сяргей Сямёнаў — вазьміце яго раман «Наталья Тарпава», добрая рэч, — Пільняк, Андрэй Платонаў, Шолахаў, пра якога я гаварыў, гэта выдатны пісьменнік. Я не ведаю, колькі вам іх трэба.

У нас ёсць цэлы шэраг цікавых работ. Руская літаратура за апошнія дзесяць год паказала, я б сказаў, цуды храбрасці. Напрыклад, у нашай літаратуры не было авантурных раманаў, мы не пісалі іх раней, а вось з'явіліся маладыя людзі і пачалі пісаць прыгодніцкія раманы, і ў нас ёсць многія такія, якім пазайздросцілі б англійскія пісьменнікі. Такія: Нікулін — «Някіх выпадковасцей», Марыэта Шагінян, якая напісала кнігу

---

* Маюцца на ўвазе азербайджанцы.

«Мес-Менд». Гэтыя кнігі не маглі быць напісаны дзесяць год таму назад. Гумар у нас ёсць, добры гумарыст у асобе Зошчанкі. І яшчэ многа імён можна назваць вельмі вялікіх. Канстанцін Федзін — гэта пісьменнік, які на працягу некалькіх год зрабіў сабе вялікае імя. Я забыў успамянуць пра Усевалада Іванава. Вось вам зусім закончаны пісьменнік, які не горш за многіх літаратараў майго пакалення. Ёсць цэлы шэраг такіх пісьменнікаў, якія з'яўляюцца буйнымі сучаснымі пісьменнікамі, так што ваша ацэнка зусім няправільная. Тут проста недагледзелі вы нечага. Тут зноў-такі жаданне знайсці якія-небудзь недахопы.

Вы без грошай пачалі добрую справу, прадпрыемствы вашы працуюць выдатна, людзей таленавітых колькі хочаш ва ўсіх галінах. Вось тормаз вынайшаў просты рабочы Казанцаў, і гэты тормаз прыняла спецыяльная камісія. Робяцца многія адкрыцці ў галіне навукі, у сельскай гаспадарцы столькі навінак, выдаюцца цудоўныя кнігі. У чым жа справа? Усё, што вы гаворыце, ёсць проста недаацэнка сучаснага, і адбываецца яна таму, што вы мала ведаеце (прабачце мне) з таго, што робіцца ў Савецкім Саюзе. Трэба вам больш ведаць пра гэта, і часопіс «Нашы дасягненні» павінен даць матэрыял, які паслужыць для ўсёй масы рабочых, па-першае, добрай агітацыяй, а па-другое, супакоіць вас, прывядзе ў рамкі, таму што вы імчыцеся з хуткасцю дзікага каня, вам трэба, каб ужо заўтра ўсё было як не трэба лепш. Гэтага не бывае. Так што з гэтымі ацэначкамі павінны быць асцярожней. А пахваліцца многім можаце, не душыце свайго аптымізму, як людзі — вы цудоўныя.

Вось у мяне запіска, якая ставіць сур'ёзнае і канкрэтнае пытанне: «Што трэба рабіць для таго, каб палепшыць форму работы рабкораў і селькораў?».

Гэта сапраўды трэба. Справа ў тым, што большасці з вас нехапае літаратурнай тэхнікі, прасцей кажучы, яна не ўмее пісаць. Часта вы выкладаеце сваю думку ў цяжкай форме, не рускай мовай, не таму, што вам так хочацца, а таму, што ў вас інакш не выходзіць. Я думаю, што трэба было б час-ад-часу наладжваць курсы для рабкораў і селькораў, на якіх бы выкладалася літаратурная тэхніка, каб вы навучыліся пісаць.

Я па ўласнаму вопыту кажу, што вельмі цяжка ўмець пісаць. У маёй практыцы сустракаліся такія факты: атрымліваеш пісьмо і з першых слоў адчуваеш, што піша чалавек здольны, што ён разбіраецца ў пытанні, але піша такою мовай, што нікуды рэч не вартая, так напісана, што і паправіць нельга.

Трэба вучыцца, трэба наладжваць нейкія курсы, на якіх бы выкладалася гэтае ўменне пісаць. На курсах можна прымусіць чалавека напісаць, як ён правёў дзень. Указаць яму на яго памылкі, паправіць моўныя звароты і г. д. Вазьміце мой прыклад: я нідзе не вучыўся, але ж я пісьменнік і ўмею пісаць — навучыўся. Чаму-ж другія не навучацца?

П ы т а н н е. Кажуць, што гурткі самадзейнасці нібыта аджылі свой век і што час выбраць іншую форму. Ці праўда гэта?

Г о р к і. Якую-ж форму? Школу? Не, я думаю, што гурткі самадзейнасці не аджылі, яны нам патрэбны і павінны быць у сёлах, на заводах.

Я павінен, таварышы, закончыць па той прычыне, што трэба ісці ў другое месца і там размаўляць.

Само сабой зразумела, я не такі саманадзейны, каб думаць, што ўсё, што мною было сказана, вы слухалі з задавальненнем. Тым не менш, па характару пытанняў, якія вы задавалі, я павінен сказаць яшчэ раз вам тое, што ўжо сказаў: так, таварышы, культурны працэс рабочай масы



ідзе са здзіўляючай хуткасцю. Напісаць столькі запісак, паставіць столькі пытанняў на працягу паўтара гадзін, задаць столькі пытанняў вусных за гэты ж час — было б немагчыма дзесяць год назад. Гэта я кажу вам зусім сур'ёзна, з поўным перакананнем у тым, што сапраўды раней гэта было б немагчыма. І той факт, што гэта зрабілася цяпер магчыма, з'яўляецца дасягненнем рабочага класа і яго кіраўніка — кампартыі.

Гэта зрабіла старая бальшавіцкая гвардыя, якая здолела зарадзіць сваёй энергіяй працоўныя масы.

Вось цяпер усіх нас хвалююць пытанні глыбокай важнасці, якія дзесяць гадоў таму назад не маглі хваляваць нашы масы. Былі тады асобныя адзінкі, якія працавалі геараічна. Яны вось і арганізаваліся, узялі ў свае рукі і сродкі вытворчасці і ўсю дзяржаўную, палітычную ўладу. І вось вынік іх геаічнай работы — прайшлі шэсць параўнальна спакойных год, і гэтыя людзі ў вельмі цяжкіх абставінах, адной сваёй энергіяй дабіліся так многага, сталі стваральнікамі вялікай справы, такой вялікай, што яе значэнне вы яшчэ не зусім разумееце. А вам трэба гэта зразумець, трэба пасягнуць розумам усё тое, што ўжо зроблена, і што зараз адбываецца. І калі вы гэта зразумееце, вы адчуеце ў сабе яшчэ больш сілы, яшчэ больш умення, адчуеце сябе яшчэ больш выпрастанымі людзьмі, сапраўднымі героямі нашай рэчаіснасці, і гэтая рэчаіснасць павінна быць геараізавана, і яна геараізуецца вамі.

Пажадаю вам, таварышы, і далей ісці ўперад такімі ж крокамі і рабіць гэтак жа добра пачатую вялікую справу. (Б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы з а г л у ш а ю ц ь а п о ш н і я с л о в ы Г о р к а г а.)

**Юрка ГАЎРУК**

# З НАРОДАМ І ДЛЯ НАРОДА

### Думкі аб А. М. Горкім

Ёсць імёны настолькі дарагія для нас, што як не можам мы ўявіць свайго жыцця без сонца, без музыкі, без радзімы і блізкіх, так і без іх — бяднейшым і больш адзінокім быў бы чалавек. Ленін, Пушкін, Горкі... Радуешся і верыш жыццю, якое магло стварыць такіх гігантаў. Вобразы такіх людзей арганічна ўвайшлі ў побыт народа, а іх дзейнасць, выдатныя рысы іх характараў застаюцца светлым прыкладам для чалавецтва.

Чамусьці, калі я думаю пра Горкага, мне заўсёды ўспамінаецца гутарка Льва Талстога з яшчаркай, падслуханая Горкім. Гэта было ў Крыме. Талстой сядзеў на камені, маленькі, згорблены, і гаварыў яшчарцы:

— Добра табе, брат яшчарка, ляжыш ты на сонейку, грэешся, а мне, брат яшчарка, дрэнна.

«Вялікі пісьменнік зямлі рускай», як яго называў Тургенеў, «мацёры чалавечышча», як яго называў Ленін, скардзіўся на сваё жыццё, і каму — яшчарцы. У чым жа трагедыя адзіноты Талстога, яго глыбокай незадаволенасці сабою, у чым яго слабасць? Магутны розум і вялікае сумленне Талстога здолелі адарваць яго ад класа дваран і памешчыкаў. Ён бачыў жахлівую гніль старога свету: спустошанасць і дурасць арыстакратаў, прадажнасць чыноўнікаў, нахабства купцоў, царкоўны цемрашал, галоту сялянства, увесь чартапалох капіталістычнага ладу, пабудаванага па прынцыпу «чалавек чалавеку — звер». І не толькі бачыў сам, але ў сваіх мастацкіх творах з надзвычайнай яркасцю паказаў другім. Прынцыпу «чалавек чалавеку — звер» Талстой супрацьпаставіў прынцып «чалавек чалавеку — брат», той самы прынцып, якім кіруемся і мы ў барацьбе за пабудову камуністычнага грамадства. Але тут, пры ператварэнні гэтага прынцыпу ў жыццё, і выявілася ўся слабасць і памылковасць «станоўчай» філасофіі Талстога. Талстой не стаў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы, а прапанаваў усім, хто як умее, паляпшаць сваю чалавечую прыроду, займацца «маральным самаўдасканальваннем», а каб гэты занятак быў больш масавым, «народным», звярнуўся да рэлігіі, заплюшчыў вочы на будучыню і стаў глядзець назад. Як ні кідаўся Леў Талстой, але, да канца дзён сваіх, так і застаўся ў палоне старога свету, а яго паслядоўнікаў, якія, замест барацьбы, займаліся «маральным самаўдасканальваннем», дралі, як зайцоў, капіталістычныя ваўкі і лісіцы. Талстой быў вялікім, дзякуючы сваім здольнасцям, сваёй тытанічнай працай. Змагаючыся з самім сабой, і ён мог бы, як айцец Сергій, адсячы сабе палец, каб умацаваць сваю волю, але наўрад ці хто можа ўявіць Талстога, які б у лесе альбо ў полі прымаў роды ад незнаёмай жанчыны, як гэта аднойчы давялося рабіць Горкаму. Надзеўшы на сябе палатняную сарочку, «апрасціўшыся», Талстой усё сваё жыццё застаўся арыстакратам духу. Гэта быў вельмі не просты чалавек. Ён марыў аб дабры для чалавецтва, але не верыў у чалавецтва, шукаў апоры ў богу, у якога таксама не вельмі верыў, бо да самай сваёй смерці чысціў і падпраўляў яго, як умеў. Каму ж мог паскардзіцца Талстой на сваю долю — хіба што толькі яшчарцы.

Беларускі настаўнік Н. Х. Сапранкоў мне калісьці расказваў, як адзін наш селянін, якога ён ведаў асабіста, у пошуках праўды дабраўся да Талстога. Застаў ён яго за ворывам у полі, зняў шапку, нізка пакланіўся і запытаў:

— Скажыце, Леў Мікалаевіч, як мне жыць?

Спыніў Талстой каня, перадаў селяніну саху і сказаў:

— Трымай мацней і ары глыбей, так і жыві.

Мудры адказ, што і казаць, толькі на гэтай мудрасці тысячагоддзямі трымаліся і рабства і прыгон. Егіпецкі фелах і беларускі земляроб аралі і жалі, ды не спажывалі. Знішчыць жаданні ў чалавеку, абмежаваць імкненні чалавечыя, закрыць для яго шырокі свет, ткнуўшы носам у сваё ж нутро — калупайся і шукай там шчасця, гэта значыць пазбавіць чалавека дарагой для яго свабоды, апраўдаць нявольніцтва. Ненавідзячы і выкрываючы капіталістычны лад, Талстой адначасова шукаў сродкаў, каб, не знішчаючы гэтага ладу, стварыць гармонію на зямлі. Талстой быў супраць падману, стараўся быць шчырым і шчыра падманваў другіх. Сіла і слабасць Талстога з вычарпальнай паўнатой ускрыты ў артыкуле





У. І. Леніна «Леў Талстой, як люстра рускай рэвалюцыі».

Аляксей Максімавіч Горкі любіў Талстога, Талстой жа наўрад ці любіў Горкага. Не падабалася яму ў Горкім тое, што гэты чалавек «усё і ўсюды падглядвае» (словы Талстога), ненасытны да ведаў, ні перад кім не схіляецца, ходзіць па зямлі і чытае кнігу жыцця, як гаспадар зямлі. Новым і чужым быў для Талстога Горкі. Горкі, як і Талстой, выкрываў гніль капіталістычнага ладу, Горкі, як і Талстой, марыў аб гармоніі на зямлі, аб светлым часе, калі «чалавек чалавеку будзе братам», але гэта гарачае жаданне сваё ён нёс з нізоў, ад народа, ад штодзённай сувязі сваёй з народам, дзе нарадзілася і развівалася тая сіла, якая нарэшце змяла і знішчыла капіталістычны лад у Расіі — пралетарыят. Горкі выступіў «буравеснікам» рэвалюцыі, увайшоў у рэвалюцыю і да канца сваіх дзён быў сумленнем рэвалюцыі. Горкі верыў у чалавецтва. Уся яго творчасць прасякнута тым мужным аптымізмам, які не засланяе вочы чалавеку, не хаваецца ад агідных і страшных з'яў жыцця, а смела паказвае ўсё. Ён глыбока вывучае хваробы капіталістычнага грамадства, выкрывае іх прычыны, бо толькі добра ведаючы хваробу, можна з поспехам з ёю змагацца. І Горкі змагаўся. Рэвалюцыйнае значэнне яго твораў настолькі вялікае, што нават цяпер, калі здзей-

сніліся мары Аляксея Максімавіча і ў Савецкім Саюзе з поспехам будуецца камуністычнае грамадства, мы чытаем, дзівімся і вучымся ў яго.

Нялёгка жылося Аляксею Максімавічу, і псеўданім ён сабе выбраў — Горкі. У маладосці страляўся, перанёс халеру, усё жыццё хварэў на сухоты. Але ці можа хто ўявіць сабе, каб ён плакаўся на сваё жыццё, як некаторыя паэты васьмідзесятых гадоў, альбо скардзіўся на сваю долю яшчарцы, як Леў Талстой? Песімізм з'яўляецца тады, калі чалавек не бачыць перад сабой будучыні. Горкі ж насіў у сабе вялікую ідэю, ставіў перад сабою вялікую мэту і верыў, што рана ці позна народ, скінуўшы з сябе ланцугі сацыяльнага прыгнёту, пракладзе сабе дарогу ў лепшую будучыню. Для Горкага служэнне народу было не толькі вялікай мэтай, але і радасцю. Як пільна ён сачыў за парасткамі таго новага, маладога, светлага, што пачало ўсюды прабівацца на расчышчанай рэвалюцыяй савецкай зямлі! Вялікі знаўца чалавечай душы, як руплівa ён клапаціўся аб правільным выхаванні маладога пакалення, як перасцерагаў яго ад збочвання ў буржуазнае балота, якое таго-сяго магло прывабіць сваім фальшывым бляскам! Горкі ўсё сваё жыццё змагаўся са страшнай сацыяльнай з'явай, якую ён лічыў адным з галоўных ворагаў здаровага чалавечага калектыву і выкарчоўваў, дзе толькі мог, з усім запалам і гневам свайго баявога пяра. Ён даў гэтай з'яве назву — мяшчанства. Не лёгка растлумачыць сэнс гэтай сацыяльнай з'явы, настолькі яна складаная і паўзучая. Адны называюць яе дробна-буржуазнай стыхіяй, другія — звярыным у чалавеку, — усяк называюць. Мне думаецца, корань мяшчанства Горкі бачыў у эгаізме, у імкненні жыць для сябе і толькі для сябе, у супрацьпастаўленні сваіх інтарэсаў інтарэсам грамадства. Ужо ў сваім першым апавяданні «Чалкаш» Горкі паказвае селяніна Гаўрылу, які дзеля грошай гатовы забіць чалавека. «Навошта табе грошы, ты іх прап'еш. А мне на карысць пойдуць», — гаворыць ён Чалкашу. «Мой», «маё», «мне на карысць» — вечная прыпеўка мешчаніна. Усе гэтыя Артамонавы, Зыкавы, Булычовы, Дасцігаевы ды іншыя васьміногі з капіталістычнага акіяна растуць, як паганыя грыбы на дражджах мяшчанства. А інтэлігенты — ідэолагі мяшчанства, якая гэта паскудная і шкодная слізь! Я заўсёды дзівіўся, чытаючы «Жыццё Кліма Самгіна», як у Аляксея Максімавіча хапала цярпення на працягу многіх соцень старонак гэтай хронікі, аналізаваць з такою дакладнасцю жыццё чалавека арганічна яму ненавіснага. Відаць, сіла ненавісці Горкага была не меншая, чым сіла яго любві. Любячы чалавека, жывучы для чалавека, ён прачышчаў дарогу да камунізма, знішчаючы ў чалавеку тое, што ён атрымаў у спадчыну яшчэ ад свайго далёкага продка — малпы.

Мне думаецца, што больш за ўсё Аляксей Максімавіч цаніў у чалавеку здольнасць працаваць і тварыць. Фенаменальная працавітасць Горкага вядома кожнаму. Колькі кніг ім прачытана, колькі твораў напісана, колькі добрых спраў зроблена — сотням вучоных-даследчыкаў усё гэта не выявіць да канца. Не для сябе гэта рабіў Горкі, не для славы, не для матэрыяльных выгад. Акраса рускага народа, ён увабраў у сябе ўсё тое лепшае, што на вузкіх сцежках, на шырокіх рэках, на рабочых акраінах гарадоў расло і множылася, гаварыла аб сваёй крыўдзе, шукала сваёй праўды і працавала, працавала, не пакладаючы рук.

У. І. Ленін завяшчаў моладзі «вучыцца, вучыцца і вучыцца». На прыкладзе Горкага мы бачым да якіх вышыняў падняўся гэты гігант-самавучка, чалавек з народа, універсітэтам якога была зямля, а настаўнікам жыццё. Ён здолеў прабіцца на прастор у эпоху царызма. Якая ж сіла і вера патрэбна была для гэтага! Чалавек — гэта, сапраўды, гучыць горда.

Горкі не ўяўляў свайго жыцця без творчасці. Падобна італьянскаму скульптару Мікельанджэла, які, убачыўшы гару, сур'ёзна намерыўся быў рабіць з яе статую, ён ставіў перад сабою задачы гіганцкага маштабу, якія былі па сілах толькі яму аднаму. І вучыўся, вучыўся, вучыўся прагна, з дзіцячых год да апошніх дзён свайго бурнага, складанага жыцця. Яму цікава было ўсё ведаць, ён чэрпаў з усіх крыніц, адкрываў новае, але ніколі не быў ён жрацом навукі, а глядзеў на яе перш за ўсё, як на сродак служэння народу. Падобна грэчаскаму Праметэю, аддаваў ён народу святло навукі і агонь сваёй творчасці.

У Горкага была рэдкасная памяць. Ён не забываў ні тых, з кім сустракаўся, ні таго, што вычытаў у кнігах. Тысячы людзей, паказаных ў яго творах, глядзяць на нас са старонак яго кніг, як жывыя, у межах свайго часу і сваёй эпохі. Дакладнасць людскіх характараў, праўдзівасць і глыбіня іх паказу ў Горкага такія, што ставяць яго побач з найвялікшымі рэалістамі свету. Сваіх сучаснікаў Горкі выявіў, як ніхто. Але рэалізм Горкага не той рэалізм, які характарызуе Л. Талстога, Чэхава, Тургенева, Бальзака, Мапасана, Дзікенса і другіх выдатных рэалістаў XIX стагоддзя. Рэалізм Горкага вучыць, выхоўвае, вядзе наперад, ён адкрывае перад чытачом перспектыву будучыні, падымае і натхняе яго на барацьбу за вялікія мэты, гэта рэалізм аптымістычны, поўны веры ў высокае прызначэнне чалавека, які, знішчыўшы сістэму эксплуатацыі, вымеўшы векавую гніль, выходзіць на шырокія прасторы жыцця.

Горкага справядліва лічаць заснавальнікам творчага кірунку сучаснай савецкай літаратуры — сацыялістычнага рэалізма. Горкі глыбока верыў у рэвалюцыйную сілу пралетарыята, як класа, верыў, што перамога гэтага класа адкрые новую эпоху ў гісторыі чалавецтва. Падняўшыся на рубяжы эпох, са дна жыцця на яго вяршыні, ён быў скромным і простым, жывучы з народам і працуючы для народа.

Горкі быў другам Леніна. Мы ведаем, з якой цеплынёй адносіўся да яго Уладзімір Ільіч, як радаваўся кожнай яго ўдачы, як падтрымліваў яго добрыя пачынанні. А як дапамагаў Горкі сваім таварышам літаратарам. Кожны, хто пісаў яму ці звяртаўся да яго за парадай, мог спадзявацца, што атрымае шчыры і праўдзівы адказ. І адкуль толькі ў гэтага чалавека бралася часу! Не было такое з'явы, каб да яе Горкі адносіўся павярхоўна, ён умеў знаходзіць корань рэчаў, таму парады яго і гаворкі з ім часта вызначалі далейшы жыццёвы лёс таго, хто да яго звяртаўся.

У Горкага была рэдкая здольнасць вышукваць і выводзіць у людзі маладыя таленты. Ён быў да рэўнасці нераўнадушным да ўсяго станоўчага, што траплялася яму ў літаратуры, быў энтузіястам любога жывога зярняці, што прарастала для дабра чалавецтва. Ён першым з вялікіх літаратараў заўважыў Янку Купалу і Якуба Коласа, нашых народных паэтаў. Ён прывітаў іх тады, калі іх не прызнавалі. І Янка Купала, уражаны на ўсё жыццё падтрымкай Горкага, расцвіў буйным цветам, упэўнена гледзячы ў будучыню. Горача любячы і глыбока ведаючы родную рускую літаратуру, Горкі па-бацьь-

коўску клапаціўся аб развіцці нацыянальных літаратур савецкіх рэспублік.

Уплыў Горкага надзвычайна вялікі. Прагрэсіўнае чалавецтва ўсяго свету бачыць у ім змагара за сацыяльную праўду, за вызваленне народаў, за пабудову грамадства роўных і шчаслівых — камуністычнага грамадства.

Горкі ніколі не адступаў перад цяжкасцямі. За што б ён ні браўся, ён быў прынцыповым да канца. Ідучы шляхам найбольшага супраціўлення, ён не цярпеў уступак, скідак, прымірэнства да ўсякага браку. Падтрымліваючы сапраўдны талент, ён быў бязлітасны да ўсякага роду халтуршчыкаў, якія цягнулі літаратуру ўніз, гандлявалі літаратурай, валаклі яе ў балота мяшчанства. Ён не дапускаў пустазелля ў савецкі агарод. Ворагі сацыялістычнага рэалізма за мяжой крычаць, што сацыялістычны рэалізм абмяжоўвае свабоду творчасці, зніжае індывідуальныя асаблівасці пісьменніка, абядняе літаратуру і г. д. Што гэта, як не бунт таго самага «мешчаніна», якога з такою сілай нянавісці выкрываў Горкі! Літаратура для сябе, для ўласнага карыстання, на мой густ — і пляваць на ўсіх іншых. Літаратурныя эгаісты, якія глядзяць на свет з вышыні сваёй «купіны», думаюць, што іх «тонкае» самакалупанне — гэта і ёсць найвышэйшае дасягненне мастацтва. Яны б хацелі забіць ідэю — жывы нерв кожнага мастацкага твора, яны б хацелі раз'яднаць наш баявы літаратурны фронт, спыніць магутны рост народных талентаў. Даўно вядома, што кожны мешчанін лічыць сябе абраннікам жыцця, а ўсё іншае — той глебай, на якой ён расце. Не, на нашай глебе не расці мяшчанству! Сацыялістычны рэалізм выкідае катэгорыю гэтых «абраннікаў» са свайго баявога карабля.

Вялікі прыклад жыцця і дзейнасці Аляксея Максімавіча Горкага натхняе нас на гераічнае служэнне народу, а той, хто стаіць далёка ад гэтай крыніцы, павяне і засохне, як непатрэбны пустацвет.

Друг Леніна, Аляксей Максімавіч Горкі дарагі нам сваёй прастатой і даступнасцю. Многа добрых жыццёвых парад пакінуў ён нам у спадчыну, і народная любоў да яго расце з кожным годам.

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ**

# МАКСІМ ГОРКІ І БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА

Імя заснавальніка літаратуры сацыялістычнага рэалізма А. М. Горкага карыстаецца самай шырокай папулярнасцю ў савецкага чытача і займае адно з заслужаных і ганаровых месц у кожнай нацыянальнай культуры нашай краіны.

Блізкім і дарагім з'яўляецца светлае імя А. М. Горкага і для беларускага народа. Шчырая любоў беларускага народа да заснавальніка сацыялістычнага рэалізма мае глыбокія карэнні і трывалую пад сабой аснову. Гэтая любоў і павага ў першую чаргу абумоўлены тым вялікім укладам, які ўнёс А. М. Горкі ў высакародную



справу развіцця нацыянальнай беларускай культуры.

Яшчэ ў змрочныя гады царызма Аляксей Максімавіч з вялікай зацікаўленасцю сачыў за тымі падзеямі, якія адбываліся на культурным фронце тагачаснай Беларусі. У актывізацыі, абуджэнні і росце класавай самасвядомасці прыгнечанага ў той час беларускага народа пралетарскі пісьменнік бачыў надзейную заруку яго свабоды і неабмежаваных творчых магчымасцей. Вось чаму ён так радаваўся кожнаму кроку, кожнаму поспеху, зробленаму беларускім народам у асобе сваіх лепшых прадстаўнікоў на ніве развіцця нацыянальнага мастацтва і літаратуры.

З некаторымі дзеячамі беларускай культуры і літаратуры А. М. Горкі быў знаёмы яшчэ да рэвалюцыі. У прыватнасці ён ведаў беларускага пісьменніка-дэмакрата Янку Лучыну (Івана Люцыянавіча Неслухоўскага). А. М. Горкі пазнаёміўся з ім у 90-х гг. у горадзе Тыфлісе, дзе Янка Лучына працаваў інжынерам чыгуначных майстэрняў. Аб гэтым факце Горкі ўспомніў пры сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі на мінскім вакзале ў 1928 годзе, вяртаючыся з Італіі на радзіму. І прыходзіцца толькі шкадаваць, што аб гэтым знаёмстве не маецца на сённяшні дзень колькі-небудзь дакладных і пашыраных звестак.

Цесную, сяброўскую сувязь падтрымліваў А. М. Горкі з нястомным і таленавітым збіральнікам беларускага фальклору Адамам Ягоравічам Багдановічам, бацькам вядомага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Адам Ягоравіч быў эрудыраваным этнографам-фальклярыстам, добра ведаў беларускую культуру, літаратуру, вусную народную творчасць, жыццё і быт беларускага народа. Аб усім гэтым у яго пры сустрэчах з Аляксеем Максімавічам былі сур'ёзныя і грунтоўныя гутаркі. Горкі высока цаніў тую карысную працу, якую рабіў А. Я. Багдановіч, заахвочваў яго і падтрымліваў з ім цесныя таварыскія адносіны на працягу ўсяго свайго жыцця.

Дарэчы будзе заўважыць, што з беларускім фальклорам Горкі часткова азнаёміўся ўжо ў дзяцінстве. Яму неаднаразова прыходзілася чуць ад сваёй нянькі некаторыя беларускія казкі. А пазней ён меў задавальненне прачытаць іх у зборніку беларускага этнографа Раманава «Беларускія казкі». У артыкуле «Аб казках» (1934 г.) А. М. Горкі пісаў: «Праз год 15—20 я атрымаў вялікую радасць, прачытаўшы некаторыя з казак нянькі пра бога ў зборніку «Беларускіх казак» Раманава» (М. Горкі аб літаратуры, 1955, стар. 798).

У 1910 г. А. М. Горкі сустракаўся ў Італіі з групай беларускіх настаўнікаў, якія знаходзіліся там на экскурсіі. Аб гэтай незабыўнай сустрэчы ўспамінаў пазней адзін з удзельнікаў настаўнік А. Посах. Па яго словах, Горкі па-сяброўску, ветліва спаткаў беларускіх настаўнікаў на сваёй кватэры і вёў з імі шчырую, сардэчную гутарку. Ён распытваў пра беларускіх паэтаў Янку Купалу і Якуба Коласа, цікавіўся жыццём беларускага народа і яго культурай. А калі выявілася, што многім з прысутных настаўнікаў былі добра вядомы імёны нашых рэвалюцыйна-дэмакратычных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, А. М. Горкі папрасіў сваіх новых знаёмых прыслаць яму на Капры іх творы. Просьба гэтая была выканана. Па прыездзе на радзіму беларускія настаўнікі выслалі Горкаму зборнікі вершаў Я. Купалы «Жалейка» і Я. Коласа «Песні жальбы».

Непасрэдная сувязь існавала ў А. М. Горкага з рэдакцыяй бела-

рускай газеты «Наша ніва», якая выходзіла ў Вільні з 1906 па 1915 гг. Ён вёў перапіску з яе рэдакцыяй і з'яўляўся падпісчыкам газеты. У адным з пісьмаў за верасень 1910 года Горкі выказваў рэдакцыі падзяку за папярэднія турботы і звяртаўся да яе з вялікай просьбай высылаць яму некаторыя матэрыялы па беларускай літаратуры, мове, фальклору. Вось дакладны змест яго пісьма: «Я атрымаў высланыя Вамі кнігі і газету — вельмі крануты Вашай ласкавасцю і сардэчна дзякую Вам! Вельмі прашу Вас: вышліце мне, калі гэта не цяжка, — слоўнік Насовіча, граматыку беларускай мовы, брашуры Доўнар-Запольскага і Марцінкевіча («Гапон» і «Тарас на Парнасе»), а таксама песню Купалы «А хто там ідзе?» — з нотамі.

Зборнікі беларускіх казак і песень я маю, але мне хацелася б іх чуць, а таму я прашу зрабіць мне паслугу: навядзіце даведку, ці няма беларускіх песень, запісаных для грамафона, сольных і харавых, укажыце, дзе я мог бы іх дастаць і — прабачце велікадушна за тое, што так турбую Вас!

Прашу залічыць мяне падпісчыкам на «Нашу ніву».

Гэтае пісьмо, як бачна, з'яўляецца пераканаўчым дакументам, які дакладна пацвярджае зацікаўленасць А. М. Горкага да жыцця нашага народа і яго культуры.

Горкі ўважліва сачыў за тым культурным ажыўленнем, штуршком для якога на ўскраінах былой Расійскай імперыі былі рэвалюцыйныя падзеі 1905—1907 гг. Разглядаючы творчасць пісьменнікаў-самавукаў у артыкуле «Аб пісьменніках-самавуках» (1911 г.), А. М. Горкі звяртае ўвагу чытача на маладую беларускую літаратуру і раіць глыбей і грунтоўней пазнаёміцца з газетай «Наша ніва». «Я звяртаю ўвагу скептыкаў, — гаворыць ён, — на маладую літаратуру беларусаў, — самага забітага народа ў Расіі, — на работу людзей, што згрупаваліся вакол газеты «Наша ніва». Дазволю сабе прывесці песню, выданую нядаўна «Нашай нівай», словы напісаны беларускім паэтам Янкам Купалам... (І тут А. М. Горкі дае свой пераклад песні Я. Купалы «А хто там ідзе?» — **В. Ж.**). Каб усведаміць сабе глыбокі сэнс гэтай песні, — якая можа быць на пэўны час стане народным гімнам беларусаў, — чытачу неабходна было б паглядзець «Нашу ніву» — яна многа цікавага скажа яму» (М. Горкі, Зб. тв. у 30-і т-х, 1953. т. 24, стар. 135).

Творчасць Я. Купалы і Я. Коласа асабліва моцна прыкоўвала ўвагу вялікага пралетарскага пісьменніка. Не з'яўляецца выпадковым у гэтай сувязі і яго пераклад верша Я. Купалы «А хто там ідзе?» У творчасці нашых паэтаў А. М. Горкі бачыў рэалістычнае і глыбокае адлюстраванне жыцця, дум і спадзяванняў беларускага народа, разбуджанага бурнымі падзеямі рэвалюцыі 1905—1907 гг. і выступіўшага на адкрытую барацьбу супраць самадзяржаўнага ладу пад лозунгам сваіх законных патрабаванняў — хлеба, зямлі, волі і права «людзьмі звацца».

Выходзячы з такіх меркаванняў, Горкі дае высокую ацэнку творчасці класікаў беларускай літаратуры ў сваіх пісьмах да пісьменнікаў М. М. Кацюбінскага і А. С. Чарамнова. У пісьме да М. М. Кацюбінскага ад 7(20) лістапада 1910 года А. М. Горкі адзначаў, што ў творах некаторых рускіх пісьменнікаў таго часу адсутнічалі прастата, народнасць, глыбокая ідэйнасць — тыя станоўчыя якасці, якія з'яўляюцца характэрнымі для паэзіі



Я. Купалы і Я. Коласа. Сваё пісьмо ён заканчваў пажаданнем: «Нашым бы трошкі гэтых якасцей! О, божа! Вось добра было б!»

Творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа з'яўлялася для М. Горкага ўзорам сапраўднага паэтычнага майстэрства і прыкладам высакароднага самаадданага служэння свайму народу. У пісьме да рускага пісьменніка А. С. Чарамнова ён заўважаў: «Ведаеце Вы беларускіх паэтаў Якуба Коласа і Янку Купалу? Я нядаўна пазнаёміўся з імі — падабаюцца! Проста, задушэўна і, бадай, сапраўды народна». Некалькі пазней ён раіў гэтаму пісьменніку перакласці на рускую мову паэму Янкі Купалы «Адвечная песня».

А. М. Горкі абараняў беларускіх пісьменнікаў ад несправядлівай рэакцыйнай крытыкі, адстойваў законнае права на існаванне беларускай мовы, нацыянальнай беларускай культуры і літаратуры. Увагу прагрэсіўных рускіх пісьменнікаў ён звяртаў на тое, каб папулярызаваць культурныя дасягненні беларускага народа і садзейнічаць іх далейшаму развіццю.

У дарэвалюцыйны перыяд Я. Купала і Я. Колас выступалі актыўнымі змагарамі за разняволенне працоўнага чалавека, за яго шчасце і свабодную творчую працу. Яны адмаўлялі самадзяржаўны лад як палітычную форму ўлады і заклікалі на барацьбу з ім. І ў вырашэнні гэтых сур'ёзных грамадскіх пытанняў іх пункт гледжання быў блізкім або супадаў з пунктам гледжання вялікага пралетарскага пісьменніка. Такая ідэйная блізкасць з'яўляецца, бясспрэчна, адной з асноўных пераканаўчых прычын таго, што М. Горкі высока цаніў і неаднаразова спыняў сваю ўвагу на творчасці Я. Купалы і Я. Коласа.

Горкаўскія творы «Маці», «Мяшчане», «На дне», «Песня аб Буравесніку», «Песня аб Сокале» і інш., у якіх адкрыта абвяшчаецца ідэя сацыяльнай рэвалюцыі, дапамаглі беларускім пісьменнікам канкрэтней вызначыць свае эстэтычныя прынцыпы, творчыя задачы, паўней і дакладней зразумець значэнне мастацкай літаратуры ў той барацьбе, якую вялі працоўныя масы Беларусі. Рэвалюцыйныя матывы гэтых твораў знайшлі сваё глыбокае адлюстраванне ў шматлікіх вершах, апавяданнях, п'есах і раманах беларускіх пісьменнікаў і паэтаў Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, М. Багдановіча, Ц. Гартнага.

Наколькі плённым быў уплыў творчасці А. М. Горкага на развіццё і станаўленне беларускай літаратуры, сведчаць заўвагі нашых старэйшых беларускіх пісьменнікаў.

Успамінаючы свае першыя літаратурныя крокі, Якуб Колас у артыкуле «Чалавек вялікага сэрца» піша: «Імя Горкага стала маім літаратурным сцягам. Яго апавяданні ўзнімалі дух, раскрывалі нейкі новы свет, які ішоў на змену старому, прабуджалі творчую думку і лепшыя чалавечыя пачуцці» («Правда» ад 18 чэрвеня 1940 г.).

Аб вялікай ролі маральнай падтрымкі з боку А. М. Горкага неаднаразова гаварыў і Янка Купала. На ўрачыстым паседжанні, прысвечаным 35-годдзю яго літаратурнай дзейнасці, Я. Купала сказаў: «У сваім сэрцы я на працягу доўгіх год захоўваю чысцейшую і бязмежную любоў да вялікага рускага народа і яго геніяльнага пісьменніка А. М. Горкага, які ў тыя змрочныя гады заўважыў маю песню. Глыбока крануў мяне тады цёплы водгук Аляксея Максімавіча і яго пераклад верша «А хто там ідзе?».

Уплыў творчасці Горкага на развіццё дакастрычніцкай беларускай культуры праяўляўся ў прамым і актыўным уздзеянні яе не толькі на пісьменнікаў, але і на пэўныя колы працоўнага народа. Моладзь розных навучальных устаноў, найбольш свядомыя прадстаўнікі рабочага і сялянскага асяроддзя з захапленнем чыталі раман М. Горкага «Маці». У творах Максіма Горкага яны знаходзілі адказы на хвалюючыя пытанні таго часу.

Вялікую прапагандысцкую ролю мелі і горкаўскія п'есы «На дне», «Васа Жалязнова», «Дачнікі», «Мяшчане», «Дзеці сонца», якія ішлі да рэвалюцыі ў некаторых гарадах Беларусі. Пастаноўка гэтых п'ес на сцэнах мясцовых тэатраў вылівалася іншы раз у дэманстрацыю адкрытага пратэсту супраць існуючага самадзяржаўнага ладу. Воклічы «Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве паднадзорны Горкі!», «Няхай жыве палітычная свабода!» і інш., — чуліся, напрыклад, сярод гледачоў Беластока, дзе ў 1903 г. ішла п'еса М. Горкага «Мяшчане». І такія выпадкі не былі адзінкавымі. Вось чаму пастаноўкам горкаўскіх п'ес вельмі часта папярэднічалі непрадбачаныя цяжкасці і розныя бюракратычныя перашкоды.Назіраліся такія выпадкі, калі генерал-губернатары або паліцмайстры, не будучы ўпэўнены, што п'еса Горкага пройдзе без антыдзяржаўных інцыдэнтаў, аддавалі загад увесці ў глядзельную залу ваенную варту. Так, па загаду паліцмайстра г. Пінска ў час пастаноўкі горкаўскай п'есы «Мяшчане» ў тэатр была прыслана ваенная каманда ў складзе 50 чалавек пры «поўнай баявой амуніцыі». П'есы М. Горкага, якія наводзілі на царскае самадзяржаўе перапалох, карысталіся сярод дэмакратычнага беларускага гледача шырокай папулярнасцю і аўтарытэтам.

Аб шчырых і сяброўскіх адносінах А. М. Горкага да беларускага народа сведчыць і яго дапамога справе народнай асветы. Калі ў 1905 г. жыхары беларускага мястэчка Мір і вучні гарадскога вучылішча звярнуліся да М. Горкага з просьбай дапамагчы ім арганізаваць і ўкамплектаваць бібліятэку, ён адгукнуўся на іх просьбу цёплым пісьмом і выслаў кнігі ўсіх рускіх класікаў, у тым ліку і некаторыя свае творы. Такую ж бескарыслівую дапамогу аказваў пісьменнік і народнай бібліятэцы-чытальні ў вёсцы Астрамечава былой Гродзенскай губерні.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі сувязі А. М. Горкага з мастацтвам і літаратурай беларускага народа значна пашырыліся, сталі больш трывалымі і рознабаковымі.

У хуткім часе пасля стварэння Акадэміі навук БССР А. М. Горкі быў абраны яе ганаровым акадэмікам. Аляксей Максімавіч адгукнуўся на гэта сяброўскім пісьмом на імя Акадэміі з сардэчнай удзячнасцю. Абранне яго акадэмікам ён разглядаў, як выразнае адлюстраванне «працэсу культурнага з'яднання ўсіх нацыянальнасцей Саюза Сацыялістычных Рэспублік», дзе кожны чалавек карыстаецца неабмежаванай свабодай і шырокімі палітычнымі правамі.

Уважліва сачыў пісьменнік за развіццём многанацыянальнай савецкай літаратуры і радаваўся яе небывалым поспехам і дасягненням. Аляксей Максімавіч горача падтрымаў ініцыятыву Дзяржаўнага выдавецтва, якое ставіла мэтай выпускаць альманахі мастацкай літаратуры кожнай саюзнай рэспублікі. Ён прыкладаў усе намаганні да таго, каб народы нашай неабсяжнай Радзімы добра ведалі адзін другога, добра ведалі «суседзяў іншай мовы». У выкананні гэтай важнай задачы вялікая роля ўскладалася А. М. Горкім на мастацкую літаратуру, якой ён умела кіраваў і плённа садзейнічаў яе далейшаму ўздыму.



Роля і значэнне літаратурна-грамадскай дзейнасці А. М. Горкага ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і мастацтва становяцца больш зразумелымі тады, калі ўлічыць непасрэдныя заўвагі і выказванні па гэтаму пытанню нашых вядомых пісьменнікаў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Лынькова, К. Крапівы, П. Броўкі і др. Усе яны аднадушна гавораць, што ўплыў і значэнне творчасці М. Горкага на агульны працэс развіцця беларускай савецкай літаратуры, на ідэйна-творчае фармаванне і рост беларускіх пісьменнікаў з'яўляюцца надта важнымі і рашаючымі.

Для многіх беларускіх пісьменнікаў творы А. М. Горкага і сустрэчы з ім з'явіліся, паводле слоў М. Лынькова, вялікай «школай, якая не забудзецца на ўсё жыццё». «Ён вучыў нас, — гаворыць Міхась Лынькоў, — падыходзіць да кожнай з'явы з вышыні інтарэсаў народа, дзяржавы, партыі. Ён па сутнасці вучыў нас быць пісьменнікамі-камуністамі, усю сваю дзейнасць — і творчую і грамадскую — ставіць на службу камунізму» (М. Лынькоў, «Барацьбіт за справу камунізма», ЛІМ, № 25 (672), 1948).

Вялікай падзеяй засталася сустрэча з Горкім і для старэйшага беларускага пісьменніка Я. Коласа. У артыкуле «Мая Беларусь» народны паэт пісаў: «Я меў радасць бачыць Аляксея Максімавіча і гаварыць з ім... І назаўсёды застаўся я пад чароўным уражаннем яго магутнага таленту, добрай усмешкі з-пад навісшых вусоў, сяброўскага поціску рукі» (Я. Колас, «Мая Беларусь», Літаратурная газета, ад 29 снежня 1948 г.).

У гутарках з беларускімі пісьменнікамі А. М. Горкі закранаў істотныя літаратурныя пытанні і даваў свае грунтоўныя парады. Ён цікавіўся творчымі планамі, імкнуўся глыбей даведацца аб беларускіх помніках і фальклоры, аб стане і развіцці нашай драматургіі. Паводле слоў Я. Коласа, ён карэнным чынам быў зацікаўлены ў стварэнні кнігі па гісторыі беларускай літаратуры. А. М. Горкі раіў напісаць і такую кнігу, якая магла б быць больш-менш дакладным дапаможнікам для кожнага, хто пажадаў бы азнаёміцца з нашым «цудоўным народам, з яго гісторыяй, з геаграфіяй яго краіны». «Вось прыедзеш да вас, — заўважаў А. М. Горкі пры сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі ў Маскве у 1934 годзе, — захочаш пазнаёміцца з вашым цудоўным народам, з яго гісторыяй, з геаграфіяй яго краіны. А кнігі такой... ды што я кажу кнігі — нават кніжачкі такой і няма. А народ робіць вялікую гістарычную справу, за дзесяткі пакаленняў робіць — павінны ведаць аб яго справах, аб яго працоўных намаганнях па выкарчоўцы ўсяго таго, што перашкаджае яму ў будаўніцтве новага грамадства, новай культуры» (М. Лынькоў, «Горкі заўсёды з намі», «Звязда» ад 18 чэрвеня 1946 г.).

А. М. Горкі вучыў беларускіх пісьменнікаў актыўна ставіцца да жыцця, быць дзейснымі ўдзельнікамі сацыялістычнага будаўніцтва. Ён справядліва лічыў, як гаворыць Я. Колас, што «самая вялікая школа для пісьменніка — жыццё, блізкая, непасрэдная, цесная сувязь з народам».

А. М. Горкі ставіў перад майстрамі мастацкага слова важныя задачы ў адлюстраванні свабоднай працы чалавека, у глыбокім і рэалістычным паказе стваральнікаў усіх матэрыяльных каштоўнасцей — рабочых і сялян, якія скінулі з свайго хрыбта дармаедаў, эксплуататараў і атрымалі неабмежаваную магчымасць «змяняць рэчаіснасць адпаведна са сваімі інтарэсамі, права будаваць дзяржаўнасць на аснове эканамічнай роўнасці» (М. Горкі аб літаратуры, М., 1955, стар. 341). Яго творы і крытычныя артыкулы з'яўляюцца дасканалым узорам рашучага выкрыцця гнілой антычалавечай буржуазнай ідэалогіі і сцвярджаюць пралетарскі гуманізм, які дае рабочаму класу «гістарычна абгрунтаванае права на бязлітасную барацьбу супраць капіталізма, права на разбурэнне і знішчэнне агіднейшых асноў буржуазнага свету» (М. Горкі аб літаратуры, М., 1955, стар. 690).

Беларускія пісьменнікі чуйна прыслухоўваліся да голасу А. М. Горкага, свайго вялікага, мудрага і патрабавальнага настаўніка.

Сур'ёзнай і дасканалай школай майстэрства з'яўляюцца для нашых пісьменнікаў і яго творы. Якуб Колас заўважаў, напрыклад, што на апавяданнях М. Горкага ён вучыўся «строгай і дакладнай манеры пісьма, уменню намаляваць непаўторны вобраз, выбраць патрэбнае і самае лепшае слова з велізарнай народнай скарбніцы жывой мовы» (Я. Колас, «Вялікі змагар за шчасце народаў», «Правда», ад 17 чэрвеня 1951 г.).

Ды і не толькі Якуб Колас вучыўся ў Горкага. Тут можна назваць імёны беларускіх пісьменнікаў і паэтаў самых розных пакаленняў: Я. Купалу, Зм. Бядулю. Эд. Самуйлёнка, М. Лынькова, К. Чорнага, М. Танка, П. Броўку, — многія творы якіх напісаны пад непасрэдным ідэйным і мастацкім уплывам А. М. Горкага.

Вялікую ролю ў развіцці савецкай беларускай культуры адыгрываюць у прыватнасці і пераклады твораў А. М. Горкага на беларускую мову, іх пастаноўка на сцэнах мясцовых тэатраў. Важным укладам у скарбніцу нашай культуры з'явілася, напрыклад, даваеннае выданне на беларускай мове твораў Горкага ў 24-х тамах. Меркавалася выдаць поўны збор твораў пісьменніка, але здзяйсненню намечаных планаў перашкодзіла вайна.

Значная работа па выданню твораў А. М. Горкага на беларускай мове праводзілася і ў пасляваенны перыяд. За гэты час былі выданы такія творы пісьменніка, як «Дзяцінства», «Мае ўніверсітэты», «У людзях». У 1948 і 1950 гг. выйшлі зборнікі яго «Апавяданняў». Ілюстраваны зборнік «Казак» для дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту быў выпушчаны ў 1950 г. Асобнымі кніжкамі надрукаваны «Дзед Архіп і Лёнька», «Як я вучыўся», «У Амерыцы».

Пераклады твораў А. М. Горкага на беларускую мову садзейнічаюць узбагачэнню беларускай літаратурнай мовы і шырокаму азнаямленню масавага чытача з багатай мастацкай спадчынай вялікага пралетарскага пісьменніка.

Немалое значэнне надавалася і надаецца творчымі калектывамі Беларусі пастаноўкам горкаўскіх п'ес. З шматлікіх твораў рускай класікі, якія ставіліся і ставяцца на сцэнах нашых тэатраў, п'есам М. Горкага належыць асноўная роля. У нас няма ў рэспубліцы амаль што ні аднаго тэатра, дзе б не паказваліся п'есы М. Горкага.

Толькі на сцэне драматычнага тэатра імя Я. Коласа за апошнія гады былі пастаўлены такія горкаўскія п'есы, як «На дне», «Ворагі», «Ягор Булычоў», «Васа Жалязнова». Спектакль «Ворагі» ў пастаноўцы тэатра імя Я. Коласа і «Варвары» ў пастаноўцы Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага з поспехам праходзілі ў час дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве ў 1955 г.

П'есы М. Горкага карыстаюцца ў нашага гледача шырокай папулярнасцю і выконваюць сваю станоўчую пазнаваўчую і выхаваўчую ролю. На п'есах заснавальніка сацыялістычнага рэалізма вучыліся амаль што ўсе драматычныя калектывы рэспублікі, а таксама павышалі і ўдасканальвалі сваё майстэрства вядучыя беларускія акцёры.

У падагульненне можна заўважыць, што вялікі пралетарскі пісьменнік А. М. Горкі мае з беларускай культурай самыя непасрэдныя і цесныя сувязі. І на сённяшні дзень наша нацыянальнае мастацтва і літаратура ў многіх сваіх дасягненнях абавязаны высакароднаму і магутнаму ўздзеянню горкаўскай творчасці.

Для беларускага народа А. М. Горкі быў і застаецца адным з найбольш аўтарытэтных і любімых пісьменнікаў, якога кожны з нас па праву лічыць сваім шчырым і адданым другам. Ён, паводле слоў М. Лынькова, «жыве сярод нас і будзе вечна жыць ва ўдзячнай памяці будучых пакаленняў». Вечна жывым застанецца для ўсіх народаў і нацый і яго заўсёды маладая, жыццесцвярджальная творчасць, якая вучыць жыць, змагацца і перамагаць.

**Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ**

# СЛЯДАМІ ЛЕГЕНДЫ

*Колькі талентаў звялося,*
*Колькі іх і дзе ляжыць*
*Невядомых, непрызнаных,*
*Неаплаканых нікім,*
*Толькі ў полі адспяваных*
*Ветру посвістам пустым.*
*Я. Колас. «Сымон-Музыка».*

## 1

У мястэчку было трывожна.

Усё гэта заварылася пасля таго, як восенню 1826 года ў Крошыне з'явіўся паручнік Станіслаў Юрага.

Бацька яго калісьці быў аканомам у радзівілаўскім маёнтку ля Паланечкі, але пасля спіўся, зусім згалеў і на старасці жыў у Крошыне на ласкавым княжацкім хлебе. Калі ж ён памёр, дык пакінуў сыну Станіславу, што канчаў навуку ў Навагрудскай павятовай школе, стары, патачаны моллю ваенны мундзір і шляхецкае званне. Нейкі далёкі бацькаў родзіч, што аціраўся ў Нясвіжы пры замку князя Канстанціна, злітаваўся над удавой і ўладзіў Станіслава ў Асобы Літоўскі корпус, які стаяў у Беластоку. Нялёгка было беднаму шляхцюку служыць сярод багатай знаці, але к трыццаці гадам і ён стаў паручнікам.

Маці яго неўзабаве памерла, местачкоўцы сталі ўжо забываць пра Станіслава, як раптам ён з'явіўся ў Крошыне. За гэтыя гады Юрага памужнеў, падрос, а на яго шырокім твары з заліхвацкімі стрэлкамі вусоў з'явілася пыха і самазадаволенасць, хоць у кішэні было па-ранейшаму пуста. Ён быў апрануты ў сіні шынель з бліскучымі эпалетамі, на галаве ганарліва ўзвышаўся ківер з султанам, пры баку была шабля, а на абцасах — звонкія шпоры. Падкруціўшы вусы і выпнуўшы грудзі, хадзіў Станіслаў Юрага па мястэчку і пазвоньваў шпорамі.



Неяк на другі ці трэці дзень пасля прыезду паручнік сустрэў на мосце ля млына тройку. Гэта ехала сястра князя Канстанціна — худая і непрыгожая Антаніна. Яна была перастарак, даўно заседзелася ў дзеўках і хоць мела добры пасаг, але ніхто не квапіўся на яе багацце.

Юрага, убачыўшы карэту з вензелямі «R», адразу здагадаўся, хто едзе, і элегантным рухам свецкага кавалера прывітаў панну Антаніну.

— Цо за едэн? — запытала тая ў сваёй пакаёўкі, пазіраючы на бравага паручніка.

На пагорку ля кузні Восіпа Багрыма стаялі ў гэты час мужчыны, якія бачылі, як Юрага раскланьваўся.

— Эйш, як выдыгае перад паняй, — сказаў селянін Мацей Шыслоўскі.

Праз некалькі дзён да Багрыма ў кузню зайшоў стары касцельны служка Парфімовіч і прысеў на парозе. Каваль — шырокаплечы, высокі мужчына завіхаўся ля кавадла. Тут жа стаяў і яго сын Павел — рухавы юнак гадоў пятнаццаці.

— Ну што, чалавеча, чуваць на свеце? — запытаў Багрым, выціраючы рукавом запацелы твар.

— Ды хваліцца няма чым, дзядзька Восіп, — адказаў Парфімовіч. — Да нашага берага нічога добрага не прыплывае — не трэска, дык дзярмо... Можа ж ты чуў, гэты ж Юрагаў Стасік, кажуць, да Антаніны падлабуньваецца... Не дай бог, сядзе ў маёнтку, дык пакажа нам, па чым фунт ліха...

— Мне здаецца, князь не захоча парадніцца з такім галадранцам, як Юрага, — сказаў дзядзька Восіп.

— Нідзе не дзенецца, — працягваў Парфімовіч. — За гэтаю старою скрыпкаю ніхто людскі вельмі не пагоніцца. Ды і сама Антаніна не хоча звекаваць у старых дзеўках... Кажуць, князь упіраецца, дык яна слёзы лье і вялікую ахвяру дала на жаночы манастыр...

Касцельны служка Парфімовіч гаварыў праўду: Станіслаў Юрага неўзабаве атрымаў за паннай Антанінай маёнтак Крошын і вёскі Стары Двор, Тоцін, Уласы і Дуброўну. Было гэта пасля пакроў у 1826 годзе, а на весну па мястэчку пайшла пагалоска, што новы крошынскі пан хоча вольных мяшчан зрабіць прыгоннымі.

Ніхто дакладна не ведаў, адкуль пайшла гэтая чутка, але ва ўсіх хатах толькі і гаворкі было пра Юрагаў намер. Адны казалі, што панскі прыслужнік Анацута паіў крошынцаў у карчме і выпытваў, ці ёсць у іх дакументы аб мяшчанскіх правах. Іншыя спасылаліся на міравога суддзю Берасневіча, які нібыта казаў Івану Жукоўскаму, што сваімі вачыма бачыў прашэнне Юрагі на імя Гродзенскага губернатара «вярнуць» яму землі і крошынцаў.

Як бы там ні было, але ў гэтай гаворцы была доля праўды. Неяк першымі замаразкамі прыехаў навагрудскі земскі спраўнік і зачытаў загад, што крошынцы з гэтага дня — прыгонныя пана Юрагі.

Зашумелі, затрывожыліся сяляне. Крошын стаў падобны на ўстрывожаны вулей. Кінуліся шукаць старыя прывілеі на мяшчанства, але іх ні ў кога не было. Тады Камінскі з Шыслоўскім ад імя крошынцаў паехалі ў Навагрудак шукаць праўды, але не знайшлі яе і там. Вырашылі напісаць скаргу ў Гродзенскае губернскае праўленне і цэсарэвічу Канстанціну — царскаму намесніку ў Польшчы і Беларусі.

У надзеях і трывозе прайшла зіма, а вясной 1828 года крошынцам было загадана ісці на працу ў панскі двор. Земскі спраўнік і пан Юрага

конна аб'ехалі мястэчка і сабралі крошынцаў на плошчы. Там яны пагражалі жорсткай распраўай, калі сяляне не выканаюць загаду.

Наперад з натоўпу выйшаў Казімір Камінскі. У вачах яго палаў гнеў і нянавісць.

— Дзяды і прадзеды нашы былі вольныя людзі, і мы будзем вольнымі! У двор ніхто з нас не пойдзе! І не прасі, пане, каб мы прышлі, бо як угнявіш і прыдзем, то каменя на камені не пакінем ад твайго котлішча... Праўда, крошынцы? — павярнуўся Камінскі да местачкоўцаў.

— Так, праўда!

— Спаліць маёнтак!

— Утапіць паганца ў Шчары! — чуліся галасы ў натоўпе.

Бачачы такі паварот справы, пан Юрага і спраўнік Верашчака сталі паварочваць коней, а потым кінуліся наўцёкі. Услед ім пачуўся свіст, крыкі і паляцела наўздагон нават некалькі каменняў.

А назаўтра прыехалі са Слоніма салдаты і забралі ў турму Камінскага.

## 2

Восіп Багрым у той дзень усхапіўся на досвітку. Яму рупіла хутчэй узяцца за працу: карчмар Борух даў тэрміновы заказ — зрабіць да вечара новы замок і завалу. Сёлета не так ужо многа было заказаў, ды і карчмар абяцаў добра заплаціць. Гэтыя грошы будуць вельмі дарэчы: трэба расплаціцца з панскім аканомам, каб не звягаў на кожным кроку пра доўг за вугаль.

Каваль цішком адзеўся і падышоў да палацяў, на якіх спаў Паўлік. Шкада было будзіць хлопца, які смачна спаў, паклаўшы руку пад галаву. Эх, жэўжык! Змарыўся ўчора, ходзячы за каровамі, а ўсёроўна ўвечары сляпіў вочы: штосьці пісаў. Добра, няхай паспіць яшчэ крыху.

Багрым ужо распаліў горан, калі пачуўся нейкі гоман на вуліцы. Глянуў ён у расчыненыя дзверы: у маёнтак ішлі салдаты. Былі яны змораныя, запыленыя, з-пад шынельных скатак бачны мокрыя гімнасцёркі на спінах.

«Дык вось чаму Боруху спатрэбіліся замок і завала», — чамусьці падумаў каваль, хоць у сэрцы была трывога за сваіх землякоў, што не хацелі ісці на паншчыну.

— Паўлік, уставай, сынку! — тузануў за плячо хлопца каваль.

— Чаго так рана яго будзіш? — запытала маці, якая ўжо завіхалася ля печы. — Набегаецца яшчэ за цэлы дзень...

— Салдаты прышлі ў мястэчка, — прамовіў Восіп. — Трэба наказаць дзядзьку Мацею і іншым.

Паўлік, пачуўшы словы бацькі, хуценька апрануўся і пабег прырэчнымі кустамі ў бок касцёла.

Плебанія — нізкая камяніца з бляшаным дахам і драўляная прыбудоўка да яе, дзе была школа і жылі парабкі, стаяла крыху на водшыбе ад мястэчка. Тут яшчэ ўсе спалі і толькі стары Парфімовіч тупаў на панадворку.

— Сну на цябе няма, хлопча, — сказаў касцельны служка, убачыўшы Паўліка.

— Салдаты, дзеду! — крыкнуў хлапец, але стары, відаць, не пачуў: ён у апошні час стаў тугаваты на вушы.



Тлумачыць не было калі, і Павел кінуўся ў гумно, дзе звычайна ўлетку спалі дзядзька Мацей Шыслоўскі і арганіст Грышка Арлоўскі.

Неўзабаве ў густым зарасніку на могілках сабраліся мужчыны, чалавек дзесяць, каб вырашыць, як быць далей — ісці на паншчыну ці не. Дзядзька Мацей, які пасля арышту Камінскага стаў завадатарам і да слова якога прыслухоўваліся крошынцы, прапанаваў не здавацца і на працу не выходзіць. Яго падтрымалі ўсе астатнія, толькі адстаўны унцер Андрэй Драздовіч спрабаваў пярэчыць, але, бачачы настойлівасць местачкоўцаў, таксама змоўк.

Салдаты спыніліся ў будынках, дзе жылі дваровыя людзі. А пасля паўдня па бруку пратарахцела карэта, у якой прыехаў чыноўнік па асобых даручэннях губернскага праўлення пан Нервалодаў.

Перад заходам сонца салдаты пачалі зганяць крошынцаў у панскі двор. Мужчыны хаваліся ў скляпы ці на гарышча, ішлі ў маёнтак толькі старыя, жанкі і дзеці.

Вестку аб гэтым у плебанію прынеслі крошынцы Пётр Шаройка, Іван Жукоўскі і Мікалай Бянецкі, што прышлі параіцца з плебанам Войцэхам Магнушэўскім.

Стары ксёндз ужо другі тыдзень не ўставаў з пасцелі, нічога амаль не еў і дазваляў заходзіць у свой пакой толькі Парфімовічу і Паўліку Багрыму. Ён ужо збіраўся ў апошнюю дарогу, і падзеі ў вёсцы яго мала хвалявалі. Калі Магнушэўскаму рабілася крыху лепш, ён клікаў малога Багрыма. Хлопец умошчваўся ў высокае мяккае крэсла, у якім звычайна сядзеў пробашч, і чытаў творы Юліяна Нямцэвіча ці Адама Нарушэвіча.

Спачатку плебан слухаў уважліва,ківаў у такт галавой і нават папраўляў Паўліка, калі той не так вымаўляў якое-небудзь польскае слова. Але яму, відаць, было цяжка слухаць, бо яго зямлісты твар яшчэ больш бялеў, вочы заплюшчваліся. Паўліку тады здавалася, што ксёндз памірае, і хлопцу станавілася страшна.

Ён змаўкаў, але стары плебан зноў расплюшчваў цяжкія павекі і прасіў:

— Чытай, Паўлік! Прачытай цяпер сваё што-небудзь...

Юнак уставаў з крэсла і чытаў верш «Ноч над Шчарай». Гэта быў твор пра летнюю ноч, пра спевы салаўёў у панскім парку, ціхі плёскат ракі і ззянне месяца. Было там і пра тое, як у начной цішы гучаць сумныя песні крошынцаў пра долю і шчасце. Але ксёндз звычайна гаварыў, што проза жыцця не стасуецца з чыстай лірыкай і гэтую страфу пра песні трэба адкінуць. Сёння Паўлік чытаў верш поўнасцю, і хворы не перапыняў яго. Можа ён мала і чуў, што хлопец чытае?

Багрым не закончыў чытаць верш, як увайшоў Парфімовіч.

— Ойча пробашч, да вас прышлі крошынцы, — звярнуўся ён.

— Што ім трэба? — запытаў ксёндз, не расплюшчваючы вачэй.

— Не знаю...

— Я нікога не хачу бачыць...

Стары вышаў, але праз дзверы чулася гамонка, з якой можна было зразумець, што местачкоўцы хацелі зайсці без дазволу.

— Паўлік, скажы, няхай зойдуць, — прамовіў ксёндз і зрабіў спробу падняцца з пасцелі, але гэта яму не ўдалося, і ён зноў лёг.

Устрывожаныя сяляне спыніліся ў парозе.

— Ойча ксёнжа, — пачаў Мікалай Бянецкі, камечачы ў руках шапку. — Парай, як далей быць... Прышлі салдаты... Што рабіць? Закінь слова за нас, няшчасных... Няўжо ў касцёле няма ніякіх папер, што мы, крошынцы, не рабілі паншчыны?.. Памажыце, на прамілы бог!..

Ксёндз глядзеў на сялян, але па выразу яго твару было відаць, што ён слаба разумее, чаго ад яго хочуць.

— Заварылі кашу, — сказаў ён, — ну і самі расхлёбвайце. Нічога не параджу вам, апрача таго, што трэба ісці ў двор і працаваць... Супраць сілы вы нічога не зробіце... А да мяне больш не прыходзьце... Мне няма ўжо клопату да мірскіх спраў.

Крошынцы спрабавалі яшчэ ўпрошваць і пераконваць Магнушэўскага, каб ён заступіўся за іх перад начальнікам, які прыехаў з Гродні, але стары маўчаў. Мужчыны патупалі ля парога, а потым пайшлі...

Паўлік быў сам не свой,назіраючы за гэтай сцэнай. Ён так любіў старога, лічыў яго самым разумным і справядлівым чалавекам, а ён... ён параіў крошынцам ісці на паншчыну. Не чакаў гэтага хлопец ад пробашча! Ён са слязьмі на вачах кінуўся ў дзверы, але яго перапыніў голас хворага:

— Куды ты, Паўлік?! Я хачу з табою пагаварыць... Хадзі сюды, дай тваю руку. Табе, хлопча, трэба вучыцца, у цябе ёсць божая іскра. Ты можаш стаць вялікім паэтам... Гэта я, стары Войцэх, табе кажу...

Паўлік хацеў запытаць у ксяндза, чаму ён сказаў крошынцам, што трэба ісці на працу, але Магнушэўскі заплюшчыў вочы, і роўнае дыханне пачулася з яго грудзей. Стары спаў...

Калі Павел прыбег на панскі двор, там ужо было многа крошынцаў, а маленькі вёрткі чыноўнік Нервалодаў нешта крычаў і пырскаў слінаю на сялян. Побач з Нервалодавым на ганку стаялі пан Юрага, спраўнік Верашчака і два афіцэры ў форме Літоўскага пяхотнага палка. Сяляне стаялі моўчкі, слухалі, унурыўшы галовы і кідаючы ненавісныя позіркі ў бок Юрагі.

А ўвечары пасля добрай пачосткі пан Юрага гаварыў Нервалодаву:

— Так, так, усё ліха гарэла з Камінскага, а цяпер Шыслоўскі верхаводзіць... Добрая цаца і ксёндз. Звярнуўся да яго, каб ён у касцёле сказаў мужыкам, што трэба ісці на працу ў двор, дык, стары пень, адмовіўся... Трэба ўвогуле калатнуць плебанію. Усе там сабраліся бунтаўшчыкі. Там жыў Камінскі, зараз працуюць Шыслоўскі, арганіст Арлоўскі, які за свой язык шыбеніцы варты... Нават хлапчук Багрым, што каровы пасе, і той нейкія вершыкі складае супраць паноў па-мужыцку...

## 3

Павел толькі прыгнаў каровы з поля і сабраўся збегаць дамоў, як яго паклікаў Парфімовіч:

— Ідзі, хлопча, цябе пробашч заве...

Багрым, не скідаючы торбачкі, босы ўвайшоў у пакой. Магнушэўскі сядзеў на ложку, абкладзены падушкамі, а ля акна стаяў той шчупленькі чыноўнік, што ўчора крычаў на сялян і пагражаў расправай за непаслушэнства.

Юнак прывітаўся і, адчуваючы нядобрае, спыніўся на парозе.

— Паўлік, пан Нервалодаў, які прыехаў з Гродні ад губернатара, хоча паслухаць твае вершы. Прачытай, мой хлопчык, што-небудзь...

Стары ксёндз сёння быў у добрым настроі. Паўлік даўно не бачыў яго такім вясёлым і ўзбуджаным. Пастушок не ведаў, што Нервалодаў ужо другую гадзіну сядзіць у плебаніі, рассыпаецца перад старым



Войцэхам у пахвале за поспехі прыхадской школы. Але Магнушэўскага гэта мала кранала, і хітры чыноўнік перайшоў на іншую тэму.



Люстра, зробленая Паўлюком Багрымам.

Нервалодаў пачаў гаварыць пра сваю любоў да літаратуры, прызнаўся, што і сам калісьці пісаў вершыкі. Ён ведаў творы польскіх пісьменнікаў, прачытаў напамяць некалькі радкоў з балады Міцкевіча «Свіцязянка», расказаў, што ў Маскве выйшаў новы твор гэтага паэта — «Конрад Валенрод».

Размова аб літаратуры ажывіла Магнушэўскага, і ў яго знікла недавер'е да Нервалодава. Ён пачаў гаварыць пра антычную літаратуру, старажытных польскіх паэтаў. Пасля гутарка перайшла на народныя песні, і стары сказаў:

— Зямля тутэйшая багатая песняй... У мяне пастушок ёсць, хлапчанё яшчэ, а вершы складае. Праўда, ён піша па-простаму, па-мужыцку...

— О, гэта вельмі цікава паслухаць, — усхапіўся Нервалодаў.

— Паўлік скора прыгоніць каровы, і мы паслухаем...

... Хлопчык стаяў у роздуме і спалоху: ён не ведаў гэтага чужога чалавека і баяўся яго. Для чаго яму спатрэбіліся вершы? Ці зразумее ён па-беларуску? Што яму трэба? Ці няма тут якіх хітрыкаў?

— Ну, не бойся, Паўлік, чытай... — звярнуўся Магнушэўскі. — Пан саветнік хоча пачуць, як ты складаеш вершы. Калі яму спадабаецца, дык ён можа цябе накіраваць вучыцца далей... Чытай, не бойся...

Багрым прачытаў верш «Ноч над Шчарай».

— Добра, добра, хвалю, — гаварыў Нервалодаў. — А цяпер штонебудзь вясёлае і смешнае...

Хлопчык памаўчаў.

— Няма ў мяне вясёлых і смешных... — ціха прамовіў ён.

— Дык скажы «Размову хлопаў», — падказаў Магнушэўскі.

— Дзецюкі! Худа нам жыць,
Пакіньма прыгон служыць,
Зробім вольнасць і ўрэч
Нас ураднік не будзе сеч.

пачаў Паўлюк.

— О, гэта найлепш! — ледзь не падскочыў ад радасці Нервалодаў, калі юнак закончыў чытаць. — Напішы гэты вершык цяпер на паперы. Я хачу мець яго для памяці...

Багрым агледзеўся на Магнушэўскага. Той сядзеў з заплюшчанымі вачыма і, відаць, драмаў.

Што рабіць?

— Напішы, вось табе пяро і папера, — ледзь не сілком павёў Нервалодаў Паўла да стала...

... Як толькі Багрым выйшаў ад ксяндза, да яго падбег Грышка Арлоўскі.

— Чаго яны цябе так доўга трымалі? Аб чым распытваў гэты чыноўнік?

Паўлік расказаў пра ўсё.

— І ты напісаў?

— А што я мог зрабіць...

— Ну, браце, быць бядзе, — гаварыў Арлоўскі. — І што за нячысцік цягнуў старога сказаць табе чытаць такі вершык... Зусім здзяцінеў пробашч. Няўжо ён не разумее, аб чым там гаворыцца... Наклікаў ты, хлопча, біды на сваю галаву...

Калі дзядзька Мацей даведаўся пра тое, што верш «Размова хлопаў» трапіў у рукі Нервалодава, ён пачаў супакойваць Паўла:

— Нічога, хлопча, не падай духам... Толькі дагаварыцеся на ўсякі выпадак, як казаць аднолькава, калі пачнуць допыт... Табе, Паўлік, трэба складаць і далей вершыкі пра нашага брата-мужыка, а не паўтараць чужыя... І не трэба баяцца паноў, што пішаш не пад іх густ, няхай яны баяцца нашага кулака і нашага слова...

## 4

Арлоўскі не памыліўся: верш наклікаў біду.

На другі дзень у Крошын прыехаў гродзенскі губернатар Бабяцінскі, якому Нервалодаў усё далажыў — і пра адмову сялян ісці на працу і пра «Размову хлопаў», якую расказаў Багрым.

— Бач ты, хам'ё, — вызверыўся Бабяцінскі, — не толькі бунтаваць уздумалі, дык яшчэ нешта сачыняць захацелі...

І губернатар разам з Нервалодавым і спраўнікам Верашчакам перагрэслі ўсё ў хаце каваля Восіпа Багрыма, шукаючы іншых вершаў. У той жа дзень зрабілі вобыск у плебаніі, арыштавалі Мацея Шыслоўскага і некаторых іншых сялян.

Дапытвалі Паўла Багрыма спачатку Бабяцінскі з Нервалодавым, пасля спецыяльная следчая камісія, што складалася з мясцовых улад і ксяндза са Сталавіч. Паехаў Бабяцінскі, прыехаў Брадоўскі — дырэктар вучылішч Гродзенскай губерні.

Брадоўскі вёў допыт двойчы: 3 і 5 ліпеня, дапытаны былі не толькі Павел, але таксама Магнушэўскі, Арлоўскі і Парфімовіч.

Асноўную віну браў на сябе Арлоўскі. Ён сцвярджаў, што Павел не вінаваты. Арлоўскі гаварыў, што «Размову хлопаў» ён перапісаў у свой сшытак ад нейкага салдата Ержыковіча. Аднойчы гэты сшытак ён даў Паўлу, які, хочучы ўдасканаліць свой почырк, прасіў што-небудзь даць перапісваць. Грышка бажыўся і кляўся, што ні разу не чуў, каб хлопец верш гэты каму-небудзь расказваў.

Начальства было больш занята бунтам крошынцаў, таму пакуль узяло з Паўла толькі абавязацельства: «1828 года, ліпеня 5-га дня, я ніжэй падпісаўшыйся, запісаны ў казках вольных людзей, знаходзячыся ў паслузе ў ксяндза Магнушэўскага Павел Багрым, у дадатак паказання, адабранага ад мяне п. дырэктарам вучылішч Гродзенскай губерні ў 3 дзень ліпеня гэтага года аб прачытаных мною ў прысутнасці знаходзячагася пры Гродзенскім цывільным губернатары чыноўніку па асобых даручэннях п. Нервалодава вершах пад назвай «Размова хлопаў», даю падпіску ў тым, што азначаных вершаў ніколі ні перад кім і ні па якому загаду не буду і не маю права чытаць або перапісваць і даваць каму-небудзь... Павел Багрым».



У канцы ліпеня адбыўся суд над крошынцамі. Пакаранне было лютае і страшэннае: 31 чалавека прагналі праз строй салдат, Камінскі, Ермакоўскі і Шыслоўскі пакараны бізунамі па 51 ўдару і сасланы на катаржныя работы ў Сібір.

Сумна і ціха было ў мястэчку. Раніцай, не пазіраючы адзін аднаму ў вочы, крошынцы моўчкі ішлі ў двор. Толькі сям-там чуваць быў плач дзіцяці, якога маці ўгаворвала:

— Не плач, бо пачуе пан у двары і забярэ на паншчыну...

Не так весела і звонка, як раней, стукаў молат у кузні Восіпа Багрыма: каваль выконваў заказы для двара.

Паўлік па-ранейшаму пасвіў каровы. Забраўшыся ў зацішнае месца, ён чытаў кнігі ці думаў сваю невясёлую думу. Часам хацелася напісаць пра ўсё, што набалела на сэрцы. Так і прасіліся словы на паперу, але ўспамінаў допыты і абавязацельства, якое ён напісаў пад дыктоўку. Што будзе, як знойдуць верш? Не мінеш кары... Будзе, як з дзядзькам Казімірам, а то і горш...

Аднойчы пасля жніва, калі ў полі — раздолле для кароў, Паўлік расклаў агеньчык і ляжаў, не варушачыся, на высокім узмежку. Па небе хутка плылі асеннія хмары, павяваў халодны вецер. Толькі неўгамонныя шпакі чародкамі лятаць над палеткамі.

Раптам ён убачыў, як нехта бег, размахваючы рукамі. Маці! Пасівелыя валасы развяваў вецер, у вачах не быў спалох і жах.

— Сынку, забралі нашага бацьку крывапіўцы! — крыкнула яна. — Не ўнаравіў нешта пану. А цябе хочуць забраць у салдаты. Бяжы, сыночак, схавайся хоць да часу...

Пасля Паўлюк сядзеў у хвойніку і назіраў за вёскай. Мабыць тады самі сабою і нараджаліся ў сэрцы словы:

Будзь здарова, маці міла!
Каб ты мяне не радзіла,
Каб ты мяне не карміла,
Шчаслівейша ты бы была!
Каб я коршунам радзіўся,
Я бы без паноў абыўся:
У паншчыну б не пагналі,
І ў маскалі не аддалі...

## 5

Заўсёды, калі даводзіцца ехаць з Мінска ў Баранавічы і ў акне вагона паказваецца невялікі станцыйны будынак з надпісам «Крошын», многа дум узнікае ў галаве, на памяць прыходзяць радкі, поўныя вялікага пачуцця жалю і крыўды:

Зайграй, зайграй, хлопча малы,
І ў скрыпачкі і ў цымбалы.
А я зайграю у дуду,
Бо ў Крошыне жыць не буду.

Тады хочацца злезці на гэтым паўстанку, каб прайсціся незабыўнымі сцежкамі сялянскага песняра Паўлюка Багрыма, каб пачуць ад яго зем-

лякоў успаміны пра поўнае драматычных падзей і здарэнняў жыццё чалавека, якому прырода дала вялікі паэтычны дар.

І вось Крошын...

Звычайная вясковая вуліца вядзе да невялічкай плошчы, з якой відаць усё мястэчка — радзіма паэта, апетая ў яго славутым вершы. Ад белых цагляных будынкаў, што раскіданы на плошчы, разыходзяцца ва ўсе чатыры бакі шырокія вуліцы. Адна з іх выводзіць на мост праз раку Шчару, ля якога — руіны вадзяного млына. На другім баку ракі, на пагорку, густы старасвецкі парк, дзе калісь стаяў маёнтак пана Юрагі, які пасля перайшоў у спадчыну Завадскім.

Прысеўшы на траве, у засені высокіх магутных клёнаў, гутарым з мясцовымі жыхарамі пра іх земляка. Вецер даносіць гул трактара і характэрнае завыванне малатарні: у крошынскім калгасе «Перамога» гарачая пара.

Мы слухаем гаваркога і дасціпнага дзеда Юзіка Шыслоўскага, чалавека, які памятае Багрыма.

Тут, гэтымі вуліцамі, хадзіў чалавек, імя якога стала ўжо легендай, народным паданнем, памяць аб якім перадаецца з пакалення ў пакаленне. Хлопчыкам Багрым бегаў на той вунь край мястэчка, дзе зараз бялее касцельны мур і зелянеюць дрэвы на могілках. Там калісьці стаяла школа ксяндза Войцэха Магнушэўскага, у якой працавалі настаўнікі — арганіст Георгі Арлоўскі і селянін Мацей Парфімовіч. Ад гэтых людзей, а таксама ад Казіміра Камінскага і Мацея Шыслоўскага здольны юнак, сын местачковага слесара Восіпа Багрыма, упершыню пачуў шчырыя словы аб свабодзе і зямлі, поўныя нянавісці да прыгняртальнікаў. Арлоўскі і Парфімовіч, а таксама нехта Ержыковіч, які «навучан быў мужыцкіх нейкіх вершаў», як пішацца ў архіўных справах, пазнаёмілі будучага паэта з рукапіснымі вершамі на роднай мове, творамі Гамера, Эзопа і польскага паэта Нарушэвіча.

Аб жыцці і творчасці Паўлюка Багрыма захавалася мала дакументальных звестак, нічога пэўнага не могуць сказаць яго землякі. Вядома толькі, што пасля звароту з салдатаў ён адразу пачаў працаваць у кузні, якую пабудаваў сам непадалёк ад Шчары.

**Магіла П. Багрыма ў Крошыне.**



У мястэчку добра памятаюць і зараз паказваюць месца, дзе стаяла хата і кузня славутага майстра. Апавядаюць і аб тым, што ён любіў сядзець на поплаве пад старымі разгалістымі вербамі пры самым беразе Шчары і слухаць, як шуміць млын, наглядаць, як над ракой сцелецца туман. Тады, кажуць, ён, успамінаючы юнацкія гады, паўстанне крошынцаў і цяжкую службу ў салдатах, употайкі, каб не пачула чужое вуха, складаў вершы.

Крошынцы расказваюць, што іх бацькі ведалі іншыя творы паэта-земляка. Называюць нават прозвішчы людзей, якія ведалі гэтыя творы: Іван Лукашэвіч, Янка Марцінец, Іван Голас і іншыя. Давялося пачуць і аб тым, што калісьці ў крошынскім млыне, калі збіралася шмат завознікаў, ці ў святочны дзень у карчме, сяляне дэкламавалі вершы Багрыма.



Нажаль, ніхто раней не паклапаціўся запісаць і сабраць творы, якія бытавалі ў народзе. Зараз зрабіць гэта цяжэй: многіх людзей ужо няма ў жывых, многія выехалі з Крошына.

Адзін са старэйшых жыхароў мястэчка Вікенцій Васілеўскі, якому зараз 85 год, сказаў:

— Багрым — слесар быў важны і чалавек добры, ён штосьці сачыняў, але мала аб гэтым каму гаварыў...

Памяць пра Багрыма трывала захавалася ў Крошыне і ваколіцах. Гэтаму значна садзейнічала тое, што ён быў незвычайным кавалём-майстрам, сапраўдным мастаком-самародкам.

У мястэчку бытуюць самыя разнастайныя легенды, верагодныя і неверагодныя, пра майстэрства Багрыма, пра вынаходлівасць і прафесійнае ўмельства. Расказваюць, што Багрым рабіў у сваёй кузні не толькі нажы, косы, сярпы, замкі і іншыя гаспадарчыя прылады, але мог зрабіць паляўнічую стрэльбу і прыгожы, з аздобамі, кінжал.

Асабліва многа гаворкі звычайна прыходзілася чуць пра здарэнне, якое, відаць, мела рэальную падставу. Розныя расказчыкі перадаюць гэта па-свойму, у адных падзея адбывалася ў маёнтку Радзівіла, у другіх — Завадскага, у адных Багрым рабіў сцізорык, у другіх — брытву. Але сутнасць гэтага падання ў аснове сваёй зводзіцца да наступнага.

Аднойчы Багрым прынёс пану свайго вырабу замок, вельмі моцны і хітра зроблены. Паглядзеў пан на работу ды кажа:

— Ты, чалавеча, хвацкі майстар, але такую штуку, відаць, не патрапіш зрабіць, — і падаў Паўлюку сцізорык, дзе было многа ножыкаў і розных іншых прычындалаў. Паглядзеў той на панскі сцізорык, пакруціў у руках, пільна разглядаючы яго, і сказаў:

— Дайце мне на тыдзень які. Паспрабую...

Мінае тыдзень, прыходзіць Багрым да пана і кладзе на стол два сцізорыкі, адзін у адзін, не адрозніш.

— Бярыце, пане, свой, — усміхнуўся ў сівы вус майстар.

Глядзеў пан доўга, прыглядаўся, пасля цап, як яму здавалася, за лепшы, расчыніў ножык, дзе стаяла марка замежнай фірмы, а на тым месцы надпіс: «П. Багрым. Крошын». Дзівіўся пан, ахкаў, цмокаў ад захаплення, круціў галавой...

Аб майстэрскай рабоце Багрыма сведчыць адна надзвычай цікавая рэч, якая захавалася да гэтага часу. У былым крошынскім касцёле захоўваецца вялікая люстра, зробленая рукамі мастака-самавучкі. Гэта круглы падсвечнік з цікавымі і арыгінальнымі ўпрыгожваннямі: паміж падсвечнікамі на круглай раме — жаўранкі ў імклівым палёце і бутоны кветак, якія вось-вось распусцяцца. Люстру Багрым, паводле сведчання местачковага насельніцтва, рабіў доўга, некалькі год, старанна працаваў над афармленнем. У часе першай сусветнай вайны яе захоўвалі ў фамільным склепе паноў Завадскіх, дзе яна папсавалася. На люстры ёсць надпіс на лацінскай мове: «Павел Багрым выконваў у Крошыне ў 1881 годзе».

Не захавалася ніякага партрэта Багрыма, таму значную цікавасць маюць апісанні аблічча паэта людзьмі, якія яго памятаюць. Росту ён быў вышэй сярэдняга, сутулаваты, твар круглы, сухарлявы, валасы на галаве і вусы сівыя, барада брытая, — такім застаўся ён у памяці народа.

Старажылы мястэчка памятаюць некаторыя цікавыя звесткі пра

сям'ю Багрыма. Ажаніўся ён позна, калі вярнуўся з арміі, пайшоў у прымы да ўдавы Шыслоўскай, якая мела сына Рамана. Багрымча (так у Крошыне называлі жонку паэта) мела пасля дзве дачкі — Цэсю і Ядвігу.

Вікенцій Васілеўскі і Юзік Шыслоўскі, якія добра памятаюць пахаванне Багрыма, некаторымі здарэннямі са свайго жыцця і падзей у Крошыне ўскосна пацвярджаюць мяркуемы год смерці Паўлюка Багрыма — 1891. Ветлівы дзядок Шыслоўскі падрабязна расказваў усе паданні пра Багрыма, ён паказаў і магілу свайго выдатнага земляка. У засені высокіх клёнаў і ясеняў, між зялёных кустоў — закінутая магіла. Калісьці тут была жалезная агарожа, якая месцамі зусім паржавела і разбурылася. На адным баку агарожы — невялікі самаробны жалезны крыж, у цэнтры яго дыск сонца з праменнямі. Крыж гэты, кажуць, зроблены ў кузні Багрыма. На магіле ляжыць камень, побач — вялікі струхлелы пень, вакол якога выраслі маладыя клёнікі, а непадалёку — прыгожыя гранітныя пліты на магілах ксяндзоў, паноў і падпанкаў...

* * *

Мінула ўжо многа год з дня смерці народнага песняра і мастака-каваля з Крошына Паўлюка Багрыма. Нашчадкі вольналюбівых сялян, што калісьці бунтавалі супраць пана Юрагі, гаспадараць на калгаснай зямлі. Але ў памяці землякоў жыве паэтычная легенда пра аўтара славутага верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы» — таленавітага сына беларускага народа, якому ва ўмовах прыгонніцкага ладу не ўдалося разгарнуць свае творчыя крыллі.

# Па партызанскіх сцежках

**Хведар БАЧЫЛА,**
**былы камандзір дыверсійнага ўзвода 3-й Мінскай брыгады**

## У НАС, ПАД МІНСКАМ

### У небе — бомбы

З маленства ў мяне грэлася мара — стаць лётчыкам, яе я выношваў праз усе школьныя гады. Мне падабалася клеіць розныя планеры, майстраваць дырыжаблі. Любіў я глядзець, калі ў небе ляціць самалёт, і доўга-доўга стаяў, нібы заварожаны, услухоўваючыся, як ён звініць. Узмацнялася мая цікавасць да лётніцкай прафесіі яшчэ і тым, што мае стрыечныя браты служылі ў авіяцыі. Калі хто з іх прыязджаў у вёску, на адпачынак, я не адыходзіў ад яго, цікуючы хоць на некалькі хвілін уздзець лётніцкую шапку або хоць дакрануцца рукою да прапелераў на гімнасцёрцы.

Сябры-аднавяскоўцы, канешне, смяяліся з мяне, калі я з кім і спрабаваў загаварыць пра сваю мару. Хіба такіх, як я, возьмуць у лётчыкі? З выгляду быў я хлопец шчуплы, дробнай касці і па характару спакойны. Праўда, я імкнуўся загартоўваць сябе, выпрацоўваць характар, але лётчыкам мне стаць усёроўна не прарочыў ніхто.

Каб здзейсніць сваю мару, я з восьмага класа пайшоў у Мінск на працу і хацеў паступіць у аэраклуб ці ў лётную школу. Я мясіў раствор, падносіў цэглу мулярам, лічачы, што гэта самы бліжэйшы шлях да запаветнай мары.

У той страшны дзень, калі разбіліся ўсе мае жыццёвыя планы, я з раніцы прышоў на будоўлю, і пачаўся звычайны працоўны дзень. Мы паднеслі мулярам матэрыял, і пачалі дурэць: кідаць адзін у аднаго месівам, дражніцца. Бачым, і муляры хутка паселі, кураць. На нас ніхто не звяртае ўвагі, не сварыцца на нас.

Глядзім — бяжыць наш прараб, устрывожаны, разгублены:

— Таварышы, вайна!

Рабочыя сабраліся купкамі, завохкалі.

— Хлопцы, без панікі! — супакоіўшыся, выгукнуў прараб. — Гайда ў горад, будзем мураваць бомбасховішча!..

Назаўтра мы прышлі на Інтэрнацыянальную вуліцу, спыніліся ля дома, дзе нам трэба было брацца за работу, як нехта крыкнуў: самалёты.

Я падняў галаву. У ясным блакітным небе чорнымі кропкамі запярэсцілі самалёты. Іх было можа дзесяць, а можа і дваццаць. Кропкі раслі, засцілі блакіт на вачах. Я не апамятаўся, як над намі распласталіся чорныя вялізныя машыны з жоўтымі, куртатымі крыжамі. Дзесьці непадалёку загрымела, загрукатала, як каменнем па бляшанаму даху.

Потым сціхла. Але вось зноў у небе з'явіліся такія ж чорныя кропкі, несучы натужнае, ныючае завыванне. Мой напарнік крыкнуў:

— Глядзі, нешта ляціць!

Мы глядзім і лічым бомбы, якія адна за другой адрываюцца ад самалётаў. Нам чамусьці зусім не страшна.

— Адна. Дзве. Тры. Чатыры...

Але чаму гэта ў дзядзькі, які стаіць поруч, так дрыжаць рукі і папяроса ледзь не выпадзе з непаслухмяных пальцаў? Нам чамусьці смешна. І раптам — тр-р-а-а-х! На нас пасыпалася тынкоўка, воблака пылу зацягнула ўсё навокал. Апамятаўшыся, мы бачым, што па вуліцах з крыкам і плачам бягуць людзі. Нехта распластаўся на бруку...

Гэта была вайна.

Я пабег на станцыю, да дзядзькі-чыгуначніка, а адтуль па чыгунцы падаўся на станцыю Міханавічы, побач з якой, за ляском, была наша вёска Бардзілаўка. Прыбег дамоў яшчэ завідна, гэта было кіламетраў дваццаць пяць, але адчуванне меў такое, што не стаміўся. З'явіўся дадому, а ў самога сэрца шчыміць: гэта ж я пакінуў работу, зрабіў благі ўчынак. Якраз трапіўся мне тады на вуліцы дзядзька мой Уладзімір Іванавіч, аглядчык вагонаў.

— Пойдзем у Мінск? — спытаў ён у мяне.

— Пойдзем! — радасна згадзіўся я.

Маці мяне не пускала, плакала, але я настаяў, пайшоў. Я не мог, канешне, не пайсці, бо я быў камсамолец, у душы лічыў, што без малога не лётчык. І раптам спалохаюся, што недзе немец надумаўся пайсці на нас вайною... Ніколі!

Па дарозе з дзядзькам мы набраліся страху. Паблізу ля чыгункі ўпала вялізная бомба. Яна не разарвалася, але паветранай хваляй нас паваліла і аглушыла.

Мінск быў ужо ў агні. З горада нам насустрач ішлі і ехалі, бежанцы неслі дзяцей, а іншыя ішлі ўлегцы, нібы выйшлі з хаты прагуляцца. Мяне ж усё гэта не палохала — я ішоў дазнацца, дзе нашы хлопцы-будаўнікі, што нам рабіць. Але трапіць на ўчастак мне не ўдалося: пажар, якім ахоплены быў горад, не пусціў мяне на сваю будоўлю.

Давялося пераначаваць у дзядзькі, які жыў недалёка ад вакзала, захапіць свае рэчы і вярнуцца назад у вёску. Ужо недалёка ад дому я прылёг у лесе адпачыць і заснуў так моцна, што прачнуўся толькі тады, калі мяне нехта штурхануў пад бок. Расплюшчыў вочы, гляджу: нада мною схіліліся двое ваенных — наш лейтэнант і малодшы камандзір. Прывялі мяне ў вёску.

— Гэта ваш хлопец? — спытаў лейтэнант у вясковых хлопцаў, маіх школьных сяброў.

— Наш, — цвёрда і бойка адказаў Лёня Бельскі і адразу ж дадаў: — Гэта наш будучы лётчык... Хведар Бачыла!

Лейтэнант моўчкі кіўнуў галавою і пакінуў мяне. Хлопцы пачалі распытваць, як і што там у Мінску, ці назусім я прышоў. Тут жа яны мне пахваліліся, што ўжо ўступілі дабраахвотна ў атрад па знішчэнню нямецкіх парашутыстаў. Яны ўжо злавілі пяць фашыстаў у Каралішчавіцкім лесе. Праўда, не адны, а з дапамогай вось гэтага лейтэнанта. Гэта мяне падбадзёрыла, і я падумаў, што маё месца — таксама ў атрадзе парашутных знішчальнікаў.



Я прыслухоўваўся да кожнай размовы, якая вялася ў нас у хаце. Мяне цікавіла, а што ж думае цяпер бацька, якую ён дасць мне параду. Бацька мой — сур'ёзны і аўтарытэтны быў чалавек не толькі ў сваім доме, але і ва ўсёй ваколіцы, і для мяне яго думка, яго слова было законам.

Наша сям'я з зялёнай Бардзілаўкі некалі пераехала ў Мінск. Потым, калі пачалася перабудова вёскі на новы лад, бацьку, як камуніста, паклікалі зноў на дзедаўшчыну, перарабляць нанава свой вясковы кут, і наша сям'я зноў апынулася ў роднай вёсцы.

Бацька доўгі час быў старшынёю калгаса ў Бардзілаўцы, разам з іншымі вясковымі актывістамі закладваў падмуркі новага, калектыўнага жыцця. Вядома, што не абыходзілася без «інцыдэнтаў»: і ў нас у Бардзілаўцы былі кулакі і падкулачнікі, якія не мірыліся з тым, што ў іх забралі зямлю, гаспадарку. Яны спрабавалі шкодзіць калгасу. Памятаю, што ў доме аднаго вясковага кулака размяшчалася калгасная кантора, і яго сваякі ўвесь час касавурыліся на нас.

Перад вайной бацьку выбралі сакратаром калгаснай партыйнай арганізацыі. У вёсцы было камуністаў па тым часе шмат — нешта болей за дваццаць чалавек. Калгас наш быў не кепскі. Гаспадарка была моцная, і калгаснікі жылі заможна, не адчуваючы нястачы ні ў чым.

У першыя дні вайны, калі я вярнуўся з Мінска дадому, бацька ўжо не раз меў гутарку з моладдзю (старэйшыя камуністы з першых дзён пайшлі на фронт), але я аб гэтым амаль што нічога не ведаў. Мне карцела хутчэй дазнацца, што мне параіць бацька наконт таго, што я надумаўся пайсці ў знішчальны атрад, які стаяў побач з нашай вёскай. Але на мае запытанні бацька чамусьці не даваў пэўнага адказу. Што мне рабіць?

Я сустрэўся з Лёнем Бельскім, сваім школьным сябрам, які цяпер быў сакратаром школьнай камсамольскай арганізацыі, і папрасіў яго, каб ён дапамог мне запісацца ў атрад па знішчэнню варожых парашутыстаў.

— Пагавару з камандзірам, — коратка адказаў Лёня на маю просьбу і з усмешкай дадаў: — Ты ж, напэўна, не спалохаешся, калі ўбачыш жывога фашыста?

Лёня быў хлопец прыгожы, плячысты, паўнатвары, з кучаравай густой чупрынай. Вакол яго заўсёды было многа сяброў. Ва ўсіх маладзёжных справах ён быў першы. І цяпер, калі замест кніжак, якіх выпускнікі сярэдняй школы паназбіралі вунь колькі, бо збіраліся паступаць у інстытут, — трэба было браць у рукі карабін і цікаваць на ўзлессі варожых парашутыстаў, Лёня пайшоў у гарадок, да савецкага камандзіра, і прапанаваў свае паслугі армейцам. За ім ахвотна пайшлі ўсе камсамольцы.

Тым часам падзеі развіваліся з ліхаманкавай хуткасцю. Выбухі чуліся бліжэй і часцей. Над нашай вёскай праносіліся варожыя самалёты, ды так блізка, што ледзь не закраналі вяршыні вербаў на вуліцы. Увечары над Мінскам палыхала барвова-чырвонае полымя пажару. Нашы войскі ішлі па лесе, глухімі палявымі сцяжынкамі. Бясконцымі натоўпамі брылі бежанцы...

З канторы дамоў прыбег бацька, запылены, стомлены і вельмі ўзрушаны.

— Хведар, пакліч да нас Лёню, — кінуў ён і звярнуўся да

маткі: — А ты, маці, збірай дзяцей. Паедзем!..

З Лёнем у бацькі размова была нядоўгай. Як пра нешта даўно вядомае і дамоўленае, ён сказаў коратка:

— Дзейнічай, як дамовіліся. Збяры хлопцаў і дай заданне: быць напагатове. Калі здолееце, падпаліце свіран са збожжам.

— Добра, Апанас Іванавіч! — рашуча выгукнуў Лёня. — Зробім так, як вы кажаце!..

Ужо былі запрэжаны коні. Мы паклалі на воз сёе-тое з рэчаў і ўзялі кірунак на Пухавічы, на ўсход.

Ад'ехалі кіламетраў трыццаць. За Градзянкай, перад Беразіной, нам сказалі мясцовыя жыхары:

— Дарэмныя турботы. Не едзьце. Мост праз раку ўзарваны. А на пароме перавозяць толькі войска.

Мы вярнуліся ў Градзянку. Бацька ўзяў свой партыйны білет і перахаваў з кішэні ў падкладку паддзёўкі, дапамог зашыць і мне мой камсамольскі білет...

За вёскай пачулася страляніна, і неўзабаве на вуліцы паказаліся нямецкія матацыклісты. Далі чаргу па вёсцы з аўтаматаў і зніклі. На вуліцы паявіліся нейкія тыпы ў цывільнай вопратцы, накінуліся на бежанцаў. Выявілася, што гэта хутаране-аднаасобнікі рашылі нажыцца: яны адбіралі ў бежанцаў коней, набыткі. Але мы ўехалі на двор, дзе гаспадар аказаўся спагадлівым чалавекам, і нас не кранулі.

Тут бацька адвёў мяне ў бок і кажа:

— Хлопча, табе цяпер тут няма чаго рабіць. Бяры Валодзю (гэта мой меншы брат, яму тады было трынаццаць год) і ідзіце дахаты. Знойдзеш там сваіх хлопцаў і будзеш разам з імі...

Я мусіў ісці. Па дарозе наглядзеліся жахаў болей, як трэба. Ужо ідучы цераз чыгунку, наткнуліся на забітых нашых салдат, якія ляжалі ўпокат, адзін пры адным, з прастрэленымі галовамі. Іх узялі ў палон і расстралялі.

У вёсцы Балота ўпершыню сустрэўся я з фашыстамі. Нам трэба было перайсці гэтую вёску, але салдат-патруль наставіў на нас вінтоўку і закрычаў. А на вуліцы стаялі і гагаталі, як гусакі, немцы. Яны былі без мундзіраў, у белых сарочках, з закасанымі рукавамі, укормленыя, здаровыя...

Мы падаліся назад. Збочылі і полем пабеглі, не азіраючыся. Беглі кіламетры два, пакуль вёска не схавалася з вачэй. Ідучы па лесе, стрэліся са сваімі салдатамі і аж павесялелі. Адразу адлягло на сэрцы. К нам з арэшніку вышаў лейтэнант-камандзір і пытае:

— Немцаў бачылі?

— Бачылі, — адказваем.

— Ну, якія яны? — пытае камандзір з усмешкай.

— Ды, нішто сабе, здаровыя, як быкі, — сур'ёзна адказаў я. А брат мой дадае:

— Ой, страшныя, іх многа!

— Нічога, праб'емся, — нібы сам сабе, сказаў дробнатвары лейтэнант. — У нас танкі!

Я прыгледзеўся. І сапраўды, на палянцы, прыкіданыя веццем і галінамі, стаялі танкі, грозна наставіўшы дулы гармат...

Хутка гэты лейтэнант вывеў свой танкавы атрад на ўзлессе і, падпільнаваўшы калону варожых машын, падаў каманду:

— Агонь!

Грымнулі залпы, і на гравійцы завязаўся бой. Мы, вядома, не маглі бачыць усяго таго, што там адбывалася, але смеласць савецкіх воінаў нас, хлапчукоў, уразіла да глыбіні душы. Гэта было ля хутара Чырвоны Яр у першы месяц вайны.

Дзён праз пяць мы прышлі дадому. А ў нас, у вёсцы, яшчэ не бачылі немцаў.



## Дома

Прышоўшы дадому, я перш за ўсё ўбачыўся з Лёнем Бельскім. Пагаварылі, параіліся, што нам рабіць у такі небяспечны час. Лёня спытаў, што казаў бацька, выпраўляючы мяне дахаты.

— Ну, што ён сказаў: не вешаць носу, трымацца!

Мы — Валодзя Арцёмаў, Бельскі Аляксей, Сезень Іван, Шкор Мікола і я — усе нядаўнія вучні-камсамольцы — пачалі будаваць свой план барацьбы з ворагам, які вераломна напаў на нашу мірную, савецкую краіну. Гэты план зводзіўся да таго, што адразу ж пойдзем у лес, арганізуем свой партызанскі атрад і, вядома, пойдзем у наступ на фашыстаў. Але нашы гарачыя галовы адразу астудзіў сваім катэгарычным загадам Лёня. Ён сказаў:

— Хлопцы. Нам загадана дзейнічаць падпольна, у сваёй вёсцы!

І мы мусілі згадзіцца. Лёня быў старэйшым і па гадах, і па камсамольскаму стажу. Прыходзілася чакаць, пакуль ён прыдумае для кожнага з нас заданне. Але Лёня з заданнямі не спяшаўся, і кожны з нас сам паціху зносіў у патайнае месца сабе патроны, гранаты.

Толькі праз два тыдні ў нашай Бардзілаўцы спынілася нейкая нямецкая вайсковая часць. Уварваўшыся на вуліцу, немцы адразу ўзяліся за сваю любімую справу — хапалі курэй, забівалі парасят і падсвінкаў з аўтаматаў. Адным словам, рабавалі.

Наша хата стаяла пасярэдзіне вёскі, у глыбіні мурожнага дворыка з бетаніраваным калодзежам. Яна была вельмі старэнькая, аплыватая, ледзь відзён быў яе заімшэлы вільчык з зямлі. На вуліцы ў кучы ляжала бярвенне — бацька толькі было наважыў будаваць новую хату і дрэва ляжала, як напамінак, што няма гаспадара, няма як даць рады яму. Побач з нашым дворыкам — склеп Баркуна, Лёневага дзядзькі. Гэтае месца і аблюбавалі сабе немцы для сваёй кухні: тут і дровы сухія, і калодзеж на двары.

Яны паставілі кухню, расклалі агонь проста на мурагу, побач з склепам-імшанікам. Тут жа параскідалі свае прычындалы: бочкі з бензінам, розныя бачкі, посуд...

Днём мы сабраліся на гародзе ў Баркуна і пачалі раіцца. Пры поўнай згодзе парашылі: падпаліць Баркуноў склеп, каб згарэлі і нямецкія бочкі і нямецкая кухня.

Я стаў за вартавога на вуліцы, Лёня падабраўся, схапіў галавешку ад іх вогнішча і ткнуў яе ў застрэшша. Агонь шугануў, і хутка дзядзькаў склеп запалаў, як свечка.

Адзін за другім з двароў беглі салдаты і нешта лапаталі. Нам радасна было глядзець на гэты вэрхал, які ўзняўся сярод іх. Склеп, праўда, хутка затушылі, шкоды мы фашыстам асаблівай не нарабілі, але нашаму задавальненню не было канца.

Немцы, відаць, падумалі, што гэта іх звычайная неасцярожнасць, і хутка супакоіліся. Увечары яны высыпалі на вуліцу, паселі на нашым бярвенні і пачалі рагатаць, ляпаць адзін другога па плячах, іграць на губных гармоніках. У аднаго з іх з'явіўся ў руках сапраўдны гармонік, можа нават наша тульская двухрадка. Але іграў ён дрэнна, рыпаў, нібы варотамі.

У нас улеглася хваляванне. Мы пасмялелі і нават падышлі да

немцаў. Мой стрыечны брат Янка папрасіў гармонік. Зайграў вальс... Потым песню. Немцы рагаталі і весела гаварылі:

— Гут. Гут музік...

Падышлі яшчэ два салдаты. Адзін з іх, пажылы, добра гаварыў па-руску, відаць, які-небудзь белагвардзеец былы. Ён прапанаваў нам, каб заспявалі рускую песню. Мы адказалі, што ведаем і спяваем толькі ваенныя песні.

— Ну, давайце, — згадзіўся ён.

Мы ўсе з незвычайным выгукам пачалі:

«Броня крепка, и танки наши быстры...»

Немцы нахмурыліся. А белагвардзеец замахаў рукамі:

— Даволі. Даволі. Давайце рускія песні. Разумееце, рускія!

І мы зацягнулі песню пра Сценьку Разіна.

Ужо было цёмна, і салдаты запалілі ліхтары ад свайго рухавіка, які вуркатаў паціху. І раптам гэтае вуркатанне перасіліў новы гук — у небе ляцеў самалёт. Валодзя Ахрамовіч, забыўшыся на ўсё, радасна крыкнуў па-нямецку:

— Русіш фарэн!

Немцы кінуліся хто куды! А адзін з іх з усяго размаху ўдарыў Валодзю па твары, і хлопец зваліўся крывёю .

А другі фанабэрыста кінуў:

— Унзэр. Дойчланд!

Раптам недалёка, на нямецкі аэрадром у Слабадзе, пасыпаліся бомбы. Немцы так раззлаваліся, што кінуліся шукаць Валодзю. Але ўсе мы хутка пахаваліся. Раніцою іх ужо не было на нашым панадворку.

Мы пачалі думаць аб стварэнні падпольнай групы. Згаварыліся на першым часе прыдбаць сабе зброю. Патронаў і гранат мы ўжо крыху назбіралі.

Тым часам фронт аддаляўся на ўсход. Наша Бардзілаўка станавілася глыбокім тылам у ворага. Неяк, калі да нас зноў заехаў невялікі нямецкі абозік, Мікола Шкор паддобрыўся да маладога салдата-вартаўніка, які ахоўваў кватэру афіцэра, і папрасіў, каб той уключыў Маскву. Вартавы аказаўся пакладзістым чалавекам і моўчкі выйшаў у сенечкі. Мікола адразу ж кулем да прыёмніка. Масква паведамляла: нашы пакідалі Оршу, ішлі баі за Магілёў...

Моладзь пачалі ганяць на работы. У Каралішчавічах быў нямецкі склад. Нас ганялі туды грузіць скрынкі, чысціць двор і г. д. Мы працавалі і ўвесь час думалі, як бы гэта пусціць гэты склад у паветра. Але ў нас не было ні міны, ні толу. Мы ў гневе сціскалі кулакі, але практычна не маглі нічога зрабіць.

«Якія ж мы падпольшчыкі, — разважалі тады мы, сабраўшыся дзе-небудзь за тарфяным штабелем, — калі мы нічога не можам зрабіць. Больш таго — нас немцы прымушаюць на іх рабіць. Не, нешта трэба прыдумаць!»

І прыдумалі. Помсцілі, як маглі. На дарозе, якую нас прымусілі рамантаваць, было шмат ямак і выбоін. Як мы рамантавалі гэтую дарогу? Закладалі яму галінамі і пруткамі і прысыпалі зямлёй. Машына, як узыйдзе на такую пастку, адразу спыняецца. Альбо возьмем ды сядзем і прагаворым да абеду... Які ні пратэст, але ж ворагу мы не працаўнікі!

Праўда, за гэткую сімуляцыю мы — бардзілаўскія хлопцы — хутка паплаціліся. Нас арыштавалі — адразу чалавек дванаццаць. У дадатак да ўсяго ў Міколы Шкора паліцай знайшоў абрэз. Хлопцу далі сто гумовак, але ён маўчаў, не сказаў ні слова.



Заперлі нас у сырым, халодным бараку. Паставілі варту. Мы ж не ўпалі духам. Усе думалі аб адным, як уцячы. Нехта з хлопцаў заспяваў «Інтэрнацыянал»... У барак ускочыў немец і пачаў біць гумоўкай. Ноч мы правялі ў пошуках спосабу вырвацца з кіпцюроў ворага, але нічога не прыдумалі.

Раніцою выклікалі нас — Лёню і мяне — сунулі ў рукі рыдлёўкі і пад канвоем павялі ў хмызняк. Немец загадаў:

— Капайце яму.

Я шэптам сказаў:

— Ну, Лёня, канец!

Над намі ўзвышаецца, як шула, здаравенны немец з аўтаматам і паўтарае:

— Капайт. Рускі швайн!

План адразу прышоў сам сабой. Станем капаць, а потым, улучыўшы хвіліну, накінемся на немца і лапатамі разаб'ем яму галаву. Кінулі колькі рыдлёвак, як ён зноў:

— Шнэль! Шнэль!

Не паспеў я налегчы на рыдлёўку, як гумоўка выцяла мяне па шыі. Я ледзь не тыцнуўся носам у зямлю. Перад вачамі паплылі жоўтыя кругі...

Ямка яшчэ была не такой глыбокай, калі прыбег другі немец і павёў нас на кухню. Выявілася, што ямка гэтая спатрэбілася для смецця і аб'едкаў. Ён нават пачаставаў нас хлебам. Нямецкі хлеб, між іншым, як пакулле, з апілкамі, ні смаку, ні наедку! Пачаставаў, і зноў увапхнуў за вароты барака.

З вёскі ўжо прыбыла цэлая дэлегацыя. Прынеслі выкуп: яйкі, сала, мёд. Пасля доўгіх перагавораў камендант (відаць, ён быў з палякаў) вывеў усіх нас, сабатажнікаў, і паставіў у рад. Падыходзіць да кожнага і пытае папольску:

— От чэго на дрогу не ідзеш?

— Паночак, жывот у мяне баліць, — моршчыцца Мікола Шкор.

— От чэго ты, галган, не шол? — камендант тыцнуў гумоўкай у грудзі Лёні Бельскаму.

— У мяне дзядзька памёр...

Мы ледзь не пырснулі са смеху. Гэты Лёня заўсёды такі, нават у такім становішчы не губляецца.

Калі дайшла чарга да мяне, на пытанне дзівака-каменданта я разявіў рот і лыпаў вачамі.

— Ён глухі, — адразу ж знайшоўся Валодзя Ахрамовіч. Адчуваю, што хлопцы зноў папярхаюцца смехам.

— Тады до сцены! — суха выкрыкнуў камендант. — Станавіся.

Валодзя падставіў спіну, спадзеючыся хоць гэтым спыніць злосць каменданта. Але той раз'юшана паўтараў:

— До сцены!

Мы заўважылі: насустрач ехалі немцы-коннікі, і дзівакаваты камендант заспяшаўся:

— Пшлі!

Адвёў нас у кусты і махнуў рукою. Хлопцы кінуліся хто куды. Над галовамі суха дзынкнулі кулі. Гэта канваіры далі чаргу з аўтаматаў, відаць, дзеля парадку. Бардзілаўскае сала ўсё ж змякчыла строгага каменданта.

Пасля ўсяго гэтага мы паразумнелі. Не лезлі цяпер на ражон, як дагэтуль, а сталі дзейнічаць больш асцярожна.

**Бацька кліча**

Ад бацькі не было ніякіх вестак. Я думаў, што наша ўся сям'я прабілася на ўсход, але выйшла зусім інакш. Калі ў яго адабралі коней наГрадзянскім хутары, бацька парашыў ісці да сваёй сястры ў Чырвоны Яр, на Рудзеншчыну. А маці з малым хлопцам

падалася ў другі бок — бліжэй да роднай вёскі, каб у зручны час вярнуцца ў сваю хату.

На тым хутары, апрача майго бацькі, сабралася яшчэ некалькі чалавек. Сярод іх было сем паліт-рукоў, а астатнія — камандзіры. Як я потым даведаўся, мой бацька меў заданне нікуды не ехаць, а арганізаваць падполле. Ужо тады, у першую ваенную восень, ён наладзіў сувязь з Мінскам і ведаў, што рабіць. Не дарэмна ён так спакойна выправадзіў тады мяне з-пад Градзянкі дадому.

Мне перадалі з Міханавіч запіску, каб я прышоў у Чырвоны Яр. Не доўга думаючы, я сабраўся і праз якіх дні два ўжо быў у цёткі Марылі, дзе мяне сустрэў бацька. Яго я не адразу пазнаў: ён нібы пастарэў, адгадаваў бараду, але быў вясёлы і ў добрым настроі.

Цётка мяне частавала дранікамі і яечняй і ўсё пытала, як жа мне там дома, ці не сумую я адзін і хто мне гатуе есці. Калі потым яна некуды выйшла па гаспадарцы, бацька паклікаў мяне бліжэй да сябе, на ўслонец, і спытаў:

— Ну, як там жывеце? Як хлопцы?

Я коратка расказаў пра нашы прыгоды, пра тое, як мы падпалілі Баркуноў склеп. Бацька слухаў мяне і згодна ківаў галавою. А калі я расказаў, як нас ледзь не схапілі ў Міханавічах, бацька насупіў бровы і нездаволена заўважыў:

— Слабыя вы яшчэ падпольшчыкі. Смаркачы!

Я было пакрыўдзіўся за такую зусім не пахвальную характарыстыку нашай першай дзейнасці. Але бацька нібы не заўважыў гэтага і, зірнуўшы мне ў вочы, сказаў:

— Трэба будзе, каб ты прынёс мне ключ, Федзя!

— Які ключ? Навошта? Дзе яго ўзяць?— запытаўся я.

— Той, якім чыгуначныя гайкі адкручваюць. Знайдзі і прынясі.

— Добра, буду шукаць.

— Пашукай, у кузні, здаецца, быў,— выпраўляючы мяне, тлумачыў бацька.— Разбяры яго, запакуй хорашанька і прынясі...

Я ўсё зрабіў так, як наказаў мне бацька.

Калі насталі асеннія халады, вярнулася ў вёску маці з маім маленькім братам Толікам. У адзін з пахмурных асенніх дзён, надвячоркам, з'явіўся на двары і мой бацька. У руках яго чамусьці была звычайная вераўчаная аброць. Цяпер усе нашы сабраліся. Мне стала лягчэй. Я мог адлучацца з дому, рабіць свае справы. Праўда, і дагэтуль мы цэлымі днямі бадзяліся па лесе, вырэзвалі з арэшын кійкі, пяклі бульбу на вогнішчы. З лесу вечарам прыносілі за пазухай патроны, гранаты. А аднойчы знайшлі скрыню з бінтам і іншымі медыкаментамі. Забралі і гэта, прыхавалі ў Баркуновым садку.

І вось аднойчы мы з Васілём Баркуном вярталіся з такой прагулкі з Каросліцкага ляску. На скрыжаванні вулачак мы разышліся, і я пайшоў дадому. Я ўзняў галаву і бачу: бацьку майго вядуць два паліцэйскія з чорнымі нямецкімі аўтаматамі. Не паспеў я апамятацца, як мне крыкнулі:

— Стой!

Над маёй галавой дзынкнула аўтаматная чарга. Я ўпаў на зямлю. Потым у гарачцы зноў падхапіўся. Бачу: бацька стаіць белы, як палатно. Паліцэйскія паказваюць на яго і пытаюць у мяне:

— Ведаеш гэтага чалавека?

— Ведаю,— спалохана кажу я.— Гэта мой бацька.

Паліцэйскія злосна вылаяліся і павялі бацьку па дарозе на Міханавічы. Маці паспела тыя лістоўкі, што прынёс бацька, запхнуць у печ і, такім чынам, супраць яго не было ніякіх доказаў.



Бацька сядзеў спачатку ў Міханавічах, а потым яго перавезлі ў Мінск, у гестапа. Праседзеў ён тады два месяцы, але яму ўдалося выратавацца.

У нас быў добра знаёмы абрусел немец, які жыў у Казыраве, яго ўсе называлі проста — Фрэй, садоўнік. Маці яго ўпрасіла, каб заступіўся за бацьку, і Фрэй згадзіўся, сам хадзіў да начальніка і дапамог нам.

Ходзячы ў Мінск, на выручку бацькі, маці сустрэлася з Арсенем Каліноўскім, даўнім бацькавым сябрам. Ён сказаў, што калі Панасу ўдасца вырвацца з турмы, няхай дасць пра сябе ведаць, з ім трэба сустрэцца. Больш тады Арсень нічога не сказаў, хоць маці мая такая, што ёй можна было б сказаць і больш чаго.

Прышоў бацька праз два месяцы, знясілены, збіты. Ён адразу паслаў мяне з маткай у Мінск «на кірмаш». На Чэрвеньскім рынку я сустрэўся з дзядзькам Арсенем. Гэта быў пажылы, але яшчэ дзябёлы чалавек, з моцнымі, у драпінах і мазалях рукамі рабочага. Яго крыху ведаў я і раней, бываючы з бацькам у гасцях у Арсеневым доме. Дзядзька Арсень ціха сказаў:

— Ты, хлопча, часцей да мяне наведвайся. Я табе буду перадаваць падарункі. Толькі глядзі — аб гэтым нікому ні слова! — пагразіў ён мне пальцам і дадаў, усміхнуўшыся:

— Ты ж, здаецца, хлопец не палахлівы!..

Дзядзька Арсень даў мне пачак друкаваных лістовак — зводак Савінфармбюро, а таксама запіску бацьку.

Мы прыехалі на санях, бо была ўжо зіма. Стаялі марозныя калядныя дні. Лістоўкі я паклаў пад салому, між двух насцілаў, якія зроблены спецыяльна для гэтага. Гэты першы падарунак мы прывезлі ў сваю вёску. Лістоўкі чыталі не толькі ў Бардзілаўцы, але і на станцыі Міханавічы, у суседніх вёсках.

Гэтых лістовак, што мы атрымалі, нехапала, бо жадаючых прачытаць іх было многа, і Лёня прапанаваў — размнажаць лістоўкі самім. Зачыніўшыся ў чыйнебудзь хаце, хлопцы перапісвалі іх на лістках паперы, а потым перадавалі сваім людзям, тыя зноў перапісвалі, і праўду аб падзеях на фронце ведалі тысячы...

Але мы не абмяжоўвалі сваю работу размнажэннем і распаўсюджваннем лістовак. Мае сябры — Сезень Іван, Коля Шкор, Лёня і Аляксей Бельскія — па заданню майго бацькі хадзілі на сувязь з партызанамі.

К гэтаму часу ў нас быў свой склад — шмат патронаў, некалькі вінтовак і нават два кулямёты: адзін у Алёшы Бельскага, які знайшлі ў балоце, а другі ў Лёні Бельскага, яго недзе ён раздабыў сам. У мяне было два пісталеты, схаваныя ў вільчыку, а таксама аўтамат, які маці схавала ў гнаі, у хляве.

Відаць, бацька меў такое заданне ад партызан, бо ён цяпер нас усё падахвочваў, каб дзе можна шукалі зброю, патроны, гранаты. Цяпер ужо ён нам даручаў і больш адказную справу — падбор людзей, якія б з наступленнем цёплых дзён змаглі пайсці ў лес, стаць воінамі-партызанамі.

## Таварыш Сарока

У жніўні 1942 года ў партызанскі атрад пайшлі Мікола Шкор, потым Лёня Бельскі, Аляксей Бельскі, Уладзімір Арцёмаў і іншыя. Я ж яшчэ жыў дома.

Хлопцы гаварылі, што камандзірам у іх таварыш Сарока, афіцэр, прысланы з-за фронту, дэсантнік. Да вайны Леанід Іосіфавіч Сарока

працаваў у Мінску, на чыгуначным вузле. Пры набліжэнні немцаў да Мінска эвакуіраваўся ў савецкі тыл. Напрадвесні 1942 года ён прышоў у сваю вёску, пад Мінскам, і сказаў, што «ўцёк з палону». З ім з-за фронту прышла радыстка Шура, але яна пакуль жыла на хутары. Потым і яна прышла ў вёску — «яго пляменніца з-пад Асіповіч».

Хутчэй далучыцца да сяброўаднавяскоўцаў марыў і я, застаўшыся з падпольшчыкаў у вёсцы амаль што адзін. Каб зменшыць падазрэнне, дзе я дзеўся, я пусціў чутку, што ў мяне моцна забалелі зубы (у мяне яны, між іншым, сапраўды балелі) і я збіраюся ў Мінск, да ўрача.

Быў звычайны асенні дзень. Імглісты вецер гнаў па небе цяжкія свінцовыя хмары. Я сядзеў над нейкай кніжкай, але чытанне не ішло ў галаву. Паглядзеў у акно — на двары мільганула знаёмая постаць.

Мікола Шкор!

З Міколам забег у хату яшчэ адзін партызан, здаецца, Пашка Валковіч з-пад Мачулішчаў. Прывіталіся. У мяне адразу бліснула думка: ісці!

— Мама, я не буду чакаць,— сказаў я матцы.— Пайду з хлопцамі зараз жа!

Таго аўтамата, што быў ёю захаваны, маці мне не дала, прышлося задаволіцца вінтоўкай і гранатамі, якія я прыбярог для гэтага выпадку. Са мной у той дзень пайшоў у атрад Валодзя Бачыла, мой далёкі сваяк.

Ніколі не забыць гэтага першага моманту, калі я адкрыта ўзяў у рукі зброю, стаў партызанам. Мне ў той час было няпоўных васемнаццаць год. Але я адчуваў сябе зусім дарослым і ішоў да партызан не таму, што гэта імпанавала майму юнацкаму настрою. Я ішоў змагацца.

Партызаны тады жылі ў лесе. У гушчары бору, між стромкіх ялін — звычайныя шалашы-буданы, абкіданыя з усіх бакоў ялінамі. Пад бокам — таксама жэрдкі, на якія намошчаны пахучыя яліны-лапкі. У будане, як у юрце, — увесь час дыхае цяпельца. У прыску пячэцца бульба... На першым часе ўсё гэта здавалася рамантычным, незвычайным і ўзнімала мяне, як на крыллях.

Да мяне падышоў каржакаваты хлапец у кажушку з перакрыжаванымі рамянямі і маўзерам з боку, у шапцы-кубанцы Пятро Сачок — камандзір узвода. Акінуў маю шчуплую постаць строгім, ацэньваючым позіркам.

— Ідзі да мяне! — тонам загаду сказаў ён.

У гэты час падышоў камандзір разведкі Анатоль Алейнікаў, смуглявы, чарнабровы ўкраінец і весела крыкнуў:

— Пойдзеш да мяне. У разведку! — Ён жа ўзяў і майго сваяка Валодзю Бачылу.

У першыя дні мы займаліся той жа справай, што і ў падполлі — збіралі зброю, амуніцыю. Мае сябры Лёня і Аляксей Бельскія, Валодзя Арцёмаў, Мікалай Шкор — былі ў іншых узводах, але ж з імі я сустракаўся часта. Дзяліліся, як і дома, усімі ўражаннямі і думкамі. У мяне паявіліся і новыя сябры. Асабліва мы падружыліся з Анатолем Сцепічавым. Гэта быў рускі хлопец, знаходлівы і спакойны, ён валодаў тымі якасцямі, якія якраз і патрэбны партызану-разведчыку. З ім мы не аднойчы хадзілі ў разведку і заўсёды ўдала. Анатоль умеў гаварыць з людзьмі і хутка заводзіў знаёмствы. Не паспее зайсці да каго-небудзь у хату, як адразу становіцца сваім чалавекам, і яму за яго дабрату плацілі шчырасцю.

Варта заўважыць, што зброю тады здабыць было не такой лёгкай справаю. Партызанскія атрады раслі на вачах. У вёсках узмацніліся гарнізоны. Паліцыю немцы ўзбройвалі нашай зброяй. Раней можна было ўсюды наткнуцца на вінтоўку, знайсці скрыню патронаў. Цяпер жа кожную гранату трэба было шукаць днём з агнём.

Наш узводны Толя Алейнікаў быў не толькі адважным, бясстрашным байцом, але і кемлівым, руплівым камандзірам. Дзякуючы яго старанню і знаходлівасці такіх разведчыкаў, як Анатоль Сцепічаў, увосень 1942 года наш узвод меў на ўзбраенні два станкавыя, тры ручныя кулямёты, адзін «максім», чатыры аўтаматы. У астатніх байцоў — вінтоўкі «СВТ».

На шашы Слуцк — Мінск было тады вялікае ажыўленне. Немцы паспешліва збіралі розных нягоднікаў, вербавалі з іх паліцэйскія гарнізоны, спадзеючыся ўмацаваць «новы парадак».

Мы рашылі паралізаваць шашу.

Узвод Анатоля Алейнікава залёг з абодвух бакоў, у хмызняку. Вечарэла. Хутка насоўваўся густы асенні змрок. Трапяткая цішыня скавала наваколле. Але чуткае вуха насцярожана ловіць ɦават самыя незвычайныя шолахі. Ляжыш, моцна сціснуўшы зброю, і чуеш, як тахкае тваё сэрца. Праляжалі не больш паўгадзіны, а мне здалося — прайшла цэлая вечнасць.

Раптам завуркатаў матор, і ўсе насцярожыліся. Падрыхтаваліся без каманды. Ужо ясна бачны агні, а потым і сама машына-грузавік з людзьмі. Нехта з аўтамата даў чаргу, здаецца, сам Анатоль, камандзір узвода. Не паспеў я азірнуцца, як нашы хлопцы навaліліся на машыну, расправіліся з паліцэйскімі, якія ехалі ў кузаве — іх было чалавек дванаццаць. Забралі вінтоўкі, скрыні з патронамі. Яшчэ не скончылі з гэтай машынай, як наскочыла легкавушка. Я паспеў крыкнуць:

— Толік, глядзі!

Алейнікаў адразу даў чаргу. З машыны выскачылі немцы, залеглі. Адразу ж пачалі адстрэльвацца. Алейнікаў крыкнуў:

— Валодзя, кулямёт!

Бачыла ўдарыў з «ручніка». Даў дзве чаргі і спыніўся, ён спрабаваў яшчэ, але нічога не выходзіла: «Эх, сапсаваўся, халера!» На самай жа справе ў яго скончыліся патроны.

Я прыкмеціў, што з-пад кола вытыркнулася галава. Аўтамат у мяне быў на згатоўцы — я націснуў на кручок... Немец тыцнуўся ў асфальт. Чую хлопцы крычаць:

— Ура-а-а!

Гэта была палявая паштовая машына. У ёй былі важныя дакументы, а таксама добрыя трафеі. Засада на слуцкай шашы — маё баявое хрышчэнне.

Ужо даўно ў Анатоля Алейнікава нарадзілася ідэя: узрываць чыгунку, пускаць пад адхон эшалоны. Ён некалі быў сапёрам і гэтую справу ведаў нядрэнна. Нам гэтая яго ідэя, канешне, вельмі спадабалася.

Яшчэ ў Рудкове пачалі рыхтавацца да падрыўной справы. Неяк аднойчы прабраліся ў Мачулішчы, дзе раней быў аэрадром, і знайшлі там некалькі снарадаў. З іх выплавілі тол і захавалі ў надзейнае месца. Цяпер жа, калі стала вальней і больш часу, зноў захапіліся пошукамі і нарыхтоўкай узрыўчаткі.

Падрыў эшалонаў — уласная Анатолева ініцыятыва. Але ёю захапіліся і некаторыя партызаны яго ўзвода. Да Толі ў памочнікі ахвотна згадзіліся пайсці і Янка Сезень, і Толя Сцепічаў, і я. Пазней да нашай падрыўной групы далучылася Ева Федарэнка, студэнтка-фізкультурніца з саўгаса Русінавічы. Смелая, баявая

дзяўчына, Ева была заўсёды ўперадзе, з хлопцамі хадзіла ў разведку, на ўзрывы. Потым сама ўзначаліла падрыўную групу і на сваім рахунку мела чатыры ці пяць узарваных эшалонаў.

Тэхнікі ўзрываў мы не ведалі, з узрыўчаткай ніколі не мелі справы. І толькі дзякуючы Толіку-хахлу, як па-сяброўску ўсе называлі адважнага свайго камузвода Анатоля Алейнікава, мы пазней сталі заўзятымі падрыўнікамі. Дазнаўшыся пра тое, што Алейнікаў з сябрамі рыхтуецца ісці на чыгунку, таварыш Сарока ўсміхнуўся сваёй скупой, адметнай усмешкай і нязлосна сказаў:

— Яшчэ мне знайшліся дыверсанты. Вы хоць бы са сваёй задачай справіліся — ужо колькі часу, а «языка» не прыцягнулі ні аднаго...

— Таварыш камандзір, — падхапіўся Анатоль Сцепічаў. — Будуць і эшалоны, і «языкі» будуць. Яшчэ якія «языкі»!..

— Ну, глядзіце!

Першыя два зарады-скрынкі, напакаваныя ўзрыўчаткай, мы парашылі пакласці пад рэйкі на перагоне паміж станцыямі Калядзічы і Міханавічы. У той час чыгунка яшчэ так моцна не ахоўвалася, як пазней, і можна было смела па ёй хадзіць і нават ездзіць на конях.

Паехалі на аперацыю ўсім узводам — на пяці параконках. Спыніліся ў лесе, кіламетры за два ад чыгункі. У разведку пайшлі чалавек пяць, на чале з Алейнікавым. Падрыхтавалі гранату, прывязалі да яе шнур даўжынёй метраў 150—200 і пачалі прабівацца да чыгункі.

Падышлі, агледзеліся — нікога. Чуем, што з боку Мінска павінен вось-вось ісці эшалон, пачалі закладваць скрынку з толам. Анатоль нажом разгроб снег паміж шпаламі, бліжэй да рэйкі паклаў тол — кілаграмаў дзесяцьдванаццаць. Крыху далей — тое ж зрабіў Сцепічаў.

— А раптам немцы? — ціха сказаў Анатоль.

Усе прыціхлі. А ён спакойна дае загад:

— Выставіць патруль!

У абодва канцы пайшлі партызаны. А мы ляжым, у руках Анатоля — цёплы ад рукі шнур. Адчуваю, што і ён хвалюецца не менш за мяне. Зразумела — першы ўзрыў. І раптам чуем: чухчух... Шум нарастае. І вось ужо нас абдае гарачай парай. Анатоль торгае шнур, і мы бяжым колькі ёсць сілы.

Але паравоз прайшоў, а выбуху не было. Зарад Сцепічава аказаўся больш шчаслівым — яго выбухам адбіла вагонаў дзесяць. У іх была тэхніка, прадукты. З першых жа вагонаў ударылі кулямёты. У неба ўзвіліся ракеты. Але мы ўжо былі далёка.

Наш сувязны Дзям'ян Іванавіч, пуцявы абходчык з Міханавіч, потым расказваў, што цэлы дзень тады з Мінска не прайшоў на фронт ні адзін эшалон. А вывесці чыгунку са строю на цэлы дзень у той час — гэта ўжо была наша сапраўдная перамога!

Зноў ездзілі ў разведку і рыхтаваліся да ўзрываў. Але аб гэтым крыху пазней. Хочацца ўспомніць пра паходы на варожыя гарнізоны, пра гарачыя сутычкі з фашыстамі і іх прыхваснямі — паліцаямі, бо якраз усе гэтыя аперацыі звязаны з іменем нашага баявога камандзіра, гераічнага воіна-партызана таварыша Сарокі.

Пасля разгрому гарнізона ў саўгасе «Такарня», дзе мы набралі шмат хлеба, узбраення, а таксама людзей, якіх немцы прымусілі служыць у паліцыі, у атрадзе загарэліся ідэяй разбурыць мост у Самахвалавічах, цераз слуцкую шашу. Ужо гаварылася, якое значэнне ў той час мела слуцкая шаша. У дадатак цяпер сюды ішлі грузы і рэзервы з Бабруйска, бо мост праз Дукору ўжо не дзейнічаў — яго таксама ўзарвалі партызаны. Самахвалавіцкі мост, дарэчы, вельмі моцна ахоўваўся і падступіцца да яго было не так проста. Зрабілі разведку. Мясцовыя нашы партызаны Міхась Заяш і Алесь Кажушка падалі думку: трэба знішчыць камендатуру і спаліць мост у адзін заход.



Атрад разбіўся на дзве роты. Першая рота на чале з Віталем Пакам павінна напасці на камендатуру, а роты Пятра Сачка і Валодзі Булакова — на мост. Гэта быў адказны ўчастак. Яны падзяліліся на два ўзводы. Адзін з іх на чале з Барысом Келерам, адважным хлопцам, які заўсёды хадзіў з карабінам, аддаючы яму перавагу перад аўтаматам, зайшоў у тыл, а другі — з бакоў залёг.

Наш узвод атакуе камендатуру.

Каб нарабіць панікі, парашылі зрабіць выбух на мосце. Для гэтага запрэглі старую канячыну ў сані, паклалі з дзесятак снарадаў і прымацавалі шнур. Як толькі канячына ўзыйдзе на мост, Анатоль таргане шнур. Гэта як бы сігнал для агульнага штурму.

Перад гэтым мяне і Міхася Заяша накіравалі к дому, зняць бясшумна вартавых. Мы падпаўзлі да двара і залеглі супраць дома. Глядзім: вартавы ходзіць ля ганку. На вуліцы яшчэ светлавата. Як толькі немец пайшоў за вугал дома, мы перабеглі цераз вуліцу і залеглі ля паркана, пад самым яго носам. Немец ходзіць і нешта мармыча сабе, а мы думаем: «Калі ж сігнал?»

І раптам выбух на мосце. Я адразу даў чаргу па вартавому. З усіх канцоў пачуліся крыкі «ўра». Узнікла незвычайная страляніна. У вокны паляцелі гранаты. У хуткім часе падалі каманду:

— Не страляць! З усіх бакоў — свае...

Рашылі знайсці каго-небудзь сярод нас, каб мог перагаварыць з немцамі, якія, чутно, яшчэ прыціхлі ў доме. Паклікалі Аўхіма Гіра, які крыху гаварыў па-нямецку. Ён пачаў гаварыць нешта накшталт таго, каб яны здаліся, партызаны іх не крануць. Але на яго словы — ніякага гуку. Потым выявілася, што ўсе, хто там быў, знішчаны.

У гэты час рота Пятра Сачка кінулася на мост. Немцы спачатку разгубіліся, паўцякалі, а потым, калі адзін з дабраахвотнікаў сеў за кулямёт, вярнуліся. Завязалася цяжкая сутычка.

У цемені нашы наткнуліся на дротавыя загарожы, не ведаючы пра гэта, і замяшаліся. Выкарыстаўшы нашу замінку, немцы ўдарылі шквальным агнём. Давялося адысці. Былі ў нас параненыя, адзін забіты. Сярод параненых — Уладзімір Бачыла, Павел Ванковіч і іншыя.

Знайшлі бензін, падпалілі домкамендатуру. Але мы спяшаліся: ужо світала.

Вярнуліся ўсе сумныя, злосныя. Хоць зроблена было не мала: сур'ёзна пашкодзілі мост, знішчылі камендатуру, але гэта нікога не задавальняла. Пасля гэтага Анатоль Алейнікаў сказаў:

— Хіба гэта разведка? Ну іх к бісу!..

Мы сабраліся і паехалі самастойна на падрыў чыгункі. Цяпер ужо невялікай групай. З намі пайшлі Анатоль Сцепічаў, Міхась Заяш, Валодзя Хмялеўскі, Валодзя Бачыла і Ева Федарэнка. Да нас далучыўся і маленькі, жвавы хлапец з вёскі Пярэсека Барыс Келер. Ён падахвоціў Алейнікава:

— Пойдзем, Толік, у наш лес. Ой, колькі там бомбаў!..

А яму толькі скажы: бомбы — хлопец ззяе, усё аддасць, што мае, нават шапку-кубанку, з якой ён не расставаўся ні зімою, ні ўлетку. Усе, вядома, яго падтрымлівалі і былі з ім згодны — хоць у агонь! Калі камандзіру верыш, калі ведаеш, што ён — не баязлівец, заўсёды пойдзеш з ім, зробіш усё, што загадае.

Мы зрабілі некалькі выбухаў: на станцыях Калядзічы, Міханавічы, Седча... Знішчылі некалькі паравозаў, не адзін дзесятак вагонаў і платформаў з тэхнікай і ўзбраеннем, з жывой сілай праціўніка.

Тым часам нашы сябры зрабілі другі і на гэты раз удалы налёт на гарнізон у Зазер'і, крыху пазней — разграмілі самы вялікі гарнізон на Рудзеншчыне — у Дукоры. Партызаны не давалі ворагу спачыну ні днём, ні ўночы. Напэўна, не ад дабра немцы ў лістоўках перасталі называць нас «бандытамі». Яны ўсё часцей пачалі падлашчвацца: «Господа партизаны, сдавайтесь и приходите получать ваши наделы!»

У адказ на гэтыя запрашэнні партызаны рабілі свае візіты, ад якіх у немцаў дрыжалі паджылкі.

Раскажу толькі пра адзін такі «візіт» у Зазер'е, пад новы 1943 год. Яго падрыхтавалі Пятро Сачок, Іван Дубінін і Вячаслаў Кунько — самыя старэйшыя нашы партызаны.

Яшчэ напярэдадні Пятро Сачок спаткаўся з адным з паліцэйскіх зазерскага гарнізона — прыпіснікам Іванам Перастаевым. Паміж імі адбылася такая размова. Пятро ў Перастаева спытаў:

— Жыць хочаш?

— Хачу.

— Выкупіць сваю віну хочаш?

— Хачу, — пачуўся адказ.

Тады Пятро загаварыў аб справах; як размешчаны сілы, калі змяняецца варта, якое ўзбраенне. Перастаеў паабяцаў, калі падыдуць партызаны, адкрыць вароты ў каравульнае памяшканне, кінуць гранаты ў дом, дзе жывуць немцы.

У поўнач атрад перайшоў чыгунку і залёг на могілках. Пятро сустрэўся з Перастаевым, даў яму гранаты, паказаў, як імі дзейнічаць. Па яго сігналу тры штурмавыя групы кінуліся ў гарнізон. Паліцэйскіх абяззброілі хутка. Жорсткім быў бой з немцамі палявой жандармерыі.

У перастрэлцы было забіта шэсць немцаў, але гэта толькі ўзмацніла ярасць астатніх. Партызаны ўварваліся ў дом, і пачалася бойка ў рукапашную. На Валодзю Булакова накінуўся здаравенны салдат на лесвіцы. Булакоў адпіхнуў немца ў грудзі і даў чаргу з аўтамата, але той паспеў прыгнуцца і, злаўчыўшыся, хапіў за ствол. Некалькі мінут цягнуўся гэты паядынак з ворагам, але перамог рускі чалавек — Уладзімір Булакоў: хапіў немца прыкладам, колькі было сілы. А хлапец быў дужы — шасціпудовы мяшок лёгка браў на рукі.

У Зазер'і тады забіта было шэсць немцаў. Сярод іх старшы афіцэр Кайзер — блізкі сваяк гауляйтара Кубэ. Адзінаццаць паліцэйскіх дабраахвотна перайшлі на бок партызан. Багатыя былі трафеі: два станкавыя кулямёты, 4 «ручнікі», 23 вінтоўкі, шмат гранат і патронаў, 15 коней, пішучая машынка і розная амуніцыя.

Не менш цікавай была аперацыя па разгрому гарнізона ў Дукоры. Там зноў вызначыўся Валодзя Булакоў, які пераапрануўся ў інспектара паліцыі і разам з Сашам Кучынскім і Пятром Сачком абяззброілі звыш 60 паліцэйскіх. Самых заядлых расстралялі. Большасць жа стала партызанамі. У той час з вёскі Дукора прышоў у атрад мой будучы сябар



Змітрок Ярашэвіч, з якім мы зрабілі ячшэ не адну цікавую вылазку.

Праўда, зазерскі Кайзер і дукорская аперацыя нам каштавалі дорага. Карнікі тады спалілі вёску Рыбцы поўнасцю, забілі і пазверску замучылі 260 чалавек, не шкадуючы ні дзяцей, ні старых, ні хворых. У Зазер'і, Пярэжыры і Забалоцці фашысты расстралялі сем'і партызан і спалілі іх хаты. Але мы ворагу потым адпомсцілі за кроў і слёзы нашых людзей.

... Доўга я ваяваў яшчэ пад камандай таварыша Сарокі, адданага камандзіра-патрыёта. Хадзіў не раз на «жалезку», у самае страшнае месца — Мінск, на пошукі «языка», удзельнічаў у гарачых баях з ворагам. Наш атрад вырас у брыгаду. Я ўзначаліў спецыяльны дыверсійны ўзвод, навучыўся пускаць эшалоны, так, як рабіў гэта мой першы настаўнік Анатоль Алейнікаў. У партызанах была ўся наша сям'я — бацька, маці, два браты, сястра з мужам.

І ўсё ж настала расстанне. Калі наша група была на заданні, сарокінцы пайшлі на захад, у баранавіцкія лясы. Там і злажыў сваю буйную галаву камбрыг Леанід Іосіфавіч таварыш Сарока.

Такія людзі, як ён, наш мінчанін, сціплы чыгуначнік Сарока, будуць вечна жыць у маім сэрцы.

Працяг будзе.

Літаратурны запіс
С. КУХАРАВА.

# *Насустрач 40-годдзю ВЛКСМ*



Вера Харунжая.

# ВЕРА ХАРУНЖАЯ

Жыццё Веры Харунжай — гэта подзвіг, яркі прыклад служэння Айчыне.

У 1920 годзе семнаццацігадовай камсамолкай Вера Харунжая стала на шлях падпольнай барацьбы ў белапанскай Польшчы. У тым жа годзе яе арыштавалі. Вырваўшыся на волю, Вера прымае актыўны ўдзел у дэманстрацыі пратэсту супраць свавольства панскіх улад у Гродна.

У 1924 годзе Харунжую выбралі сакратаром ЦК камсамола Заходняй Беларусі. У 1926 годзе яе зноў арыштоўваюць і асуджаюць спачатку на шэсць, а потым на дзесяць год. Выслухаўшы прыгавор, Вера на судзе горда ўзняла галаву і запела «Інтэрнацыянал».

З турмы бясстрашная рэвалюцыянерка перадавала пісьмы, напісаныя на папяроснай паперы дробненькім уборыстым почыркам. Пісьмы сваёй маці, таварышам-камсамольцам, вясковым камунаркам, піянерам Савецкай Беларусі. Яе «Лісты на волю» выдаваліся двойчы — у Маскве ў 1931 годзе і ў Мінску ў 1932 годзе.

Турма падарвала здароўе Веры. Па настаянню савецкага ўрада Харунжая была вызвалена і пераехала ў Савецкі Саюз.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Вера Харунжая — зноў у радах барацьбітоў за Айчыну. Партыя накіроўвае яе ў Беларусь, у акупіраваны Віцебск, для арганізацыі падпольнай барацьбы.

Зімой 1942 года гітлераўцы схапілі падпольшчыцу. Вера Харунжая памерла, як герой.



# ЛІСТЫ НА ВОЛЮ

Мы будзем сядзець у турме,
Але за нас працуюць таварышы
На свабодзе
І сама гісторыя.

**Матцы.**

26 сакавіка

...Па мне, мамачка, не думай плакаць! У мяне зусім не такі сумны лёс, каб яшчэ трэба было яго аплакваць. Не, мамачка, я цяпер таксама бадзёрая, як і ў 1920—21 годзе, калі мы жылі яшчэ разам. Я ж добра ведала, што мяне чакае, і гэта ні на мінуту не спыніла, не прымусіла мяне нават прызадумацца. Нічога, мамачка, я ж сяджу толькі восем месяцаў. Ну, дык што ж, гэта значыць дваццаць два гады свабоды і восем месяцаў турмы? Глупства! Усё перажывем. А з моцнай верай у сваю праваты і з надзеяй на лепшую будучыню і турма — не турма.

Час ляціць непрыкметна, і мы нават часамі здзіўляемся, што прайшло ўжо восем месяцаў, а іншы раз, наадварот, здаецца, што прайшлі ўжо цэлыя гады. І цяжка думаць, што сапраўды няма яшчэ нават аднаго года.

Але нічога, мамачка, самае галоўнае — гэта маладосць і здароўе. А і таго, і другога ў мяне пакуль што даволі...

**Сястры Н.**

27 мая

...Я хацела так табе многа пісаць, але цяпер не магу, вельмі хвалююся. Сёння ў нашу турму прышло пяць новых дзяўчат. Усе ў сіняках, з выкручанымі нагамі і рукамі, з дзіка блукаючымі вачыма...

Уласна кажучы, да гэтага даўно ўжо трэба прывыкнуць: бо ў іншым выглядзе да нас у турму ніколі не прыходзяць, але ўсё ж такі кожны раз гэта робіць вельмі дрэнны ўплыў. Але нічога, яны нас гэтым не перамогуць, не спалохаюць. Вось яшчэ толькі дваццаць пяць дзён таму назад — Першага мая — перад турмою ў нас была дэманстрацыя. Не зразумець табе нашай радасці. Аб гэтым расказваць нельга, — гэта патрэбна перажыць...

Мне добра і светла, больш чым светла. Смешнымі мне здаюцца ўсе старыя ўяўленні аб турме, як аб царскім змроку, цішыні, як у дамавіне паступовага ўмірання. У нас кіпіць жыццё, поўнае здарэнняў...

**Усім родным.**

24 красавіка

...Ужо некалькі дзён працягваецца наш суд. У мяне столькі новых уражанняў, даўно забытых перажыванняў. Уявіце сабе, якая асалода бачыць два разы ў дзень лес і палі, свабодных людзей, дзяцей, вуліцы, дамы, неба і сонца. Шмат, шмат неба бязмежнага, блакітнага і яркага сонца. І ўсё гэта веснавое, радаснае, з усмешкай.

Настрой у мяне, як і ва ўсіх нас, вясновы, бадзёры. Я не ад-

чуваю праведзеных у турме гадоў, забываюся аб іх (о, жах!) дваццаці чатырох гадах і адчуваю сябе восемнаццацігадовай...

**Таварышу С.**

23 мая

...Ты, напэўна, думаеш пра мой суд. Ён ужо амаль скончыўся. Зараз у нас апошні перапынак. Чакаем прыгавору. Асаблівых нечаканасцей ён нам, канешне, не прынясе. Нават не дзесяткі, а толькі адзінкі пойдуць на свабоду і гэта нягледзячы на тое, што мы да суда сядзелі тры гады. Пракурор патрабаваў для ўсіх падсудных па 8—10 год. Вызваліць просіць толькі аднаго — правакатара. Цікава, праўда?

За ўвесь час працэсу мы былі моцна арганізаванай, згуртаванай, кіпучай энергіяй масай. Усе выступленні гаварылі аб нашай несакрушальнай сіле, гатоўнасці змагацца далей, дыхалі зняваґай і нянавісцю да іх, неўстрашымай і бязмежнай адданасцю справе.

І гэта ў той час, калі кожнае слова пагражала новым годам турмы... Але хто аб гэтым думаў! Нам затыкалі рот на кожным трэцім слове, перарывалі і пераходзілі «да парадку дня». Але затое, як яны дрыжалі і бляднелі ў час нашых дэманстрацый!

Напэўна, зараз жа пасля прыгавору ўсіх нас развязуць па розных турмах. Гэта яшчэ павялічвае ўрачыстасць настрою.

Мы развітваемся з старшымі таварышамі, з якімі так доўга сядзелі разам, так моцна звязаны ўсім нашым своеасаблівым прыгожым турэмным жыццём, поўным унутранага святла, напружанай работы, суму і смеху, нястачы і песень, смялейшых палётаў, летуценняў і няўтомнай работы думкі.

**Яму ж.**

1 ліпеня

Мы ў турме цяпер на раздарожжы. Суд скончыўся. Прыгавор ужо абвешчаны. Мне далі больш дзесяці год. Праводзілі на свабоду некалькіх таварышаў, чакаем ад'езду ў новую турму, а пакуль сядзім на месцы.

Аб ходзе працэсу я пісала. Застаецца дадаць крыху, але бадай самае прыгожае: магутны «Інтэрнацыянал» асуджаных пад градам удараў паліцэйскіх, а потым (запомні, сябар, карціну) — растрапаныя валасы, парваная вопратка, сінякі і ссадзіны на тварах, на ўсім целе. А вочы — сонца, полымя пажараў...

І магутная, пераможная, грозная песня праз вокны чорнай турэмнай карэткі, праз штыкі паліцэйскіх, у шырокія вуліцы насцярожанага і з пагрозай прыціхшага гарадка...

**Усім родным.**

20 кастрычніка

...І так, я ўжо ў новай турме. Прыехала ўчора ўвечары. Цэлых два дні была ў дарозе, бачыла так многа новых людзей, новых малюнкаў. Уявіце сабе, што за задавальненне пасля трох гадоў.

Тут сяджу ў адзіночцы. Тут нас, палітычных, вельмі мала, таму яшчэ даражэй і цікавей будуць вашы лісты.

Ох, як я буду чакаць вашых лістоў. Глядзіце ж, не забывайце, і пішыце, пішыце.

**Камсамольскай арганізацыі Н-ска.**

25 кастрычніка

Дарагія, родныя таварышы, любімыя браты мае! З далёкага кутка фашысцкай Польшчы, праз краты акенца катаржнай турмы палка вітаю вас у дзень радаснага свята — камсамольскай гадавіны.



Пяць доўгіх гадоў ужо аддзяляюць мяне ад вас. Але гэты дзень не згубіўся сярод іншых дат...

О не! Што ні год — усёроўна на свабодзе ці ў турме — у мяне ў гэты дзень было асабістае свята.

Таварышы мае родныя, мілыя! Як сказаць вам, што я адчуваю, што перажываю цяпер, калі пішу вам, што буду перажываць у дзень гадавіны саюза?!

Сяджу я ў сваёй адзіночцы, мне свеціць мільгаючая свечка, а навокал мяне сцены, зноў і зноў сцены, цішыня і ноч...

Пішу вам — і грудзі разрываюцца ад болю бязмернага, ад вялікай радасці. Я ледзь стрымліваю слёзы, а далёкія, незабыўныя вобразы адзін за адным праходзяць прад вачыма: камсамольская ячэйка, «Азбука камунізма», першыя гурткі, вучоба, магутны рост.

Камсамол, камсамол! Не пяць, а пятнаццаць, пяцьдзесят год бяссільны вырваць у маёй памяці гэтыя ўспаміны, бяссільны прымусіць мяне забыць аб тым, што камсамол зрабіў мяне бальшавічкай, выхаваў, загартаваў, навучыў не толькі змагацца, але і любіць рэвалюцыйную барацьбу больш за ўсё, больш жыцця.

Таму дзень гадавіны — для мяне вялікае і радаснае свята. Усёй душою хачу я, каб мой голас прывітання і вялікай любві да вас прарваўся праз сцены і краты астрога, праз сотні вёрст, якія аддзяляюць мяне ад вас, праз граніцы, каб даляцець да вас і сказаць, што ніякія турмы, ніякія граніцы не могуць разлучыць камсамольцаў.

Прыміце ж, дарагія таварышы, маё прывітанне і ведайце, што ў ланцугах фашызма я застаюся камсамолкай.

Дык ці ж трэба вам гаварыць, што фашысцкі прыгавор — шмат год цяжкага зняволення — я прыняла з горда ўзнятай галавой і «Інтэрнацыяналам» на вуснах, што ўсе прыгаворы, пабоі, здзекі і прыгнечанне не толькі не могуць зламіць мяне, але з'яўляюцца новымі магутнымі крыніцамі рэвалюцыйнай энергіі?

Таварышы мае, родныя! Якое велізарнае шчасце быць камсамольцам, быць часткай вялікага калектыву-пераможца.

У гэты дзень замест турэмнай адзіночнай камеры я буду бачыць вялікую слаўную камсамолію, шырокія вуліцы, да краёў напоўненыя стальнымі шарэнгамі маладых дэманстрантаў, замест цішыні буду чуць грамавыя раскаты «Маладой гвардыі», буду не адна, а сярод тысяч, дзесяткаў тысяч, нічым не аддзеленая, не адгароджаная, буду з вамі, сярод вас...

Заўжды ваша, заўсёды камсамолка Н.

**Сястры Н.**

18 лютага

У мяне ўсё яшчэ няма поўнага ўяўлення аб тваім жыцці.

Мяркуючы па тваіх лістах, мне здаецца, што жывеш ты недастаткова поўна. А непаўната гэта — вынік таго, што ты не заўважаеш вельмі многіх і да таго многіх праяў нябачна прыгожага, нязмерна шырокага акружаючага цябе жыцця.

У мінулым лісце я распытвала ў цябе аб тым, як праходзіць у вас калектывізацыя. Сёння мне хочацца запытаць, наколькі ўжо кааперавана ў тваім раёне вёска, якія віды кааперацыі лепш за ўсё пашыраюцца, якія поспехі. Акрамя таго, мне вельмі хочацца ведаць, наколькі ўсё гэта цікавіць цябе, які твой удзел ва ўсім гэтым. Няўжо магчыма не гарэць захапленнем, бачачы, як разбураецца ўвесь стары ўклад жыцця ў вёсцы, сатканы з цемры беспрасветнай, тысячаў няшчасцяў і бед, цяжкай няўдзячнай працы і незлічонага мноства розных іншых, залітых

слязьмі і кроўую ніцей? Хіба можна толькі збоку прыглядацца да таго, як мільёнамі рук тчэцца новы, нябачны светлы ўзор новага жыцця?

Вядома, нельга! Трэба рынуцца ў гэту захапляючую работу, рабіць столькі, колькі сілы дазваляюць. І жыццё будзе напоўнена да берагоў, будзе ззяць радасцю, будзе пеніцца палкім жаданнем жыць, каб працаваць усё больш і больш.

**Групе вясковых камунарак.**

Без даты

Любыя мае, таваркі-камунаркі! Ваш ліст таксама прынёс нам шмат радасці. З нецярпеннем чакаем ад вас новых вестак, хочам ведаць, як прайшла пасяўная кампанія, ці засеялі, як працуюць тыя таварышы, што ўліліся ў ваш калектыў. Калі б вы толькі ведалі, як гэта ўсё нас цікавіць, колькі мы думаем і гаворым аб вашым жыцці, як моцна хочам, каб работа ішла ў вас паспяхова.

Мілыя таварышы! Цяпер я вам крыху раскажу аб нашым жыцці ў турме. Нас таксама ўсё прыбывае, але гэта ўжо не так радасна, як ваш лічбавы рост.

Шмат сярод нас хворых. І не дзіўна, бо яны ўсе прайшлі праз некалькі галадовак, здзекі і пакуты, і застацца здаровымі было цяжка. Сваіх родных і таварышаў мы ніколі не бачым, бо турма наша знаходзіцца на далёкай, глухой ускраіне Польшчы, куды прыехаць вельмі дорага. А якія ў нашых родных — рабочых і сялян — дастаткі, вы добра ведаеце.

Мы добра ведаем, чаму гэта іменна цяпер так занервавалі фашысты, і ўсё вышэй падымаем галовы, бо воля ўжо глядзіць нам у вочы. Таварышы, мілыя! Калі б вы ведалі, што за шчасце ведаць гэта, думаць так, пісаць аб гэтым. Уявіце сабе толькі на мінутку, што гэта значыць — жыць у турме напярэдадні рэвалюцыі. І гэта выклікае ў нас столькі сілы, столькі бадзёрасці, што мы маглі б перанесці ў тры разы больш здзекаў.

Мы радасна прымаем ваша запрашэнне прыехаць да вас. Так, таварышы мае, хутка прыедзем вучыцца, як будаваць новае жыццё, а вы прыедзеце да нас, у Савецкую Польшчу, каб падзяліцца вопытам, дапамагаць нам. Усё гэта будзе. А пакуль што мы будзем збіраць сілы для рашучага бою, а вы, дарагія, працуйце і ведайце, што пакуль такія шчаслівыя на ўсім свеце толькі вы адны.

Ну, заставайцеся здаровымі і вясёлымі. Моцна цалуем вас.

**Таварышу С.**

29 мая 1931 г.

Мілы, слаўны мой прыяцель! Я ўжо доўга сяджу, схіліўшыся над гэтым лістком і думаю, думаю. Мне добра. Добра думаць пра цябе, аб нас абодвух разам, аб сонечным Саюзе, аб бурным нашым жыцці, аб справах, такіх цікавых і важных на ўсім шырокім свеце. А прывычныя гукі-крокі, галасы і дзынканне ключоў на двары, па калідоры неяк адыходзяць удаль, заціхаюць...

Успамінаю аб тым, што апошні раз пісала табе ў студзені, а цяпер ужо канец мая. І мне крыху сорамна за гэта. Але мне і радасна ў той жа час: бо ты ж не сярдуеш на мяне, праўда? Нават нічога з-за гэтага не змянілася, нават я пасля года маўчання, пасля многіх гадоў разлукі магу пісаць табе так, як быццам бы мы ўчора толькі разлучыліся, бо ні ты ж, ні я не вымяраем нашага сяброўства колькасцю пасланых лістоў.

Ну хочаш ведаць, што ў мяне яшчэ за здарэнні? Сяджу ў новай камеры, з новай таваркай. У мінулай камеры я сядзела цэлых два гады (які тэмп жыцця, якая разнастайнасць), і мне шкада было з ёю разлучацца. Там я бачыла з вокнаў Віслу, сад, воддалі — цёмнасіні лес, а блізка — мае любімыя тры адзінокія ёлкі на прыгорку. Калі бывае моцны вецер, яны шумяць працяжна і глуха, як цэлы бор. Хваёвы бор — якія далёкія гэта ўспаміны...

А цяпер у акно да мяне заглядаюць кучаравыя голлі старога клёна. Від з акна — турэмны двор, а за сцяною — гарадскі плац, касцёл...

Ну, што яшчэ? Хопіць пра мяне! Ага, ты ўсё з кожным разам узмоцнена просіш расказаць праўду пра здароўе, галоўнае — пра сэрца. Ты моцна адстаў ад жыцця. Сэрца даўно перастала быць галоўным, уступіла сваё месца лёгкім. Ну дык вось, нягледзячы на бесперапынную і асабліва моцную па вечарах і досвітках боль грудзей і плеч, нягледзячы на крахаванне, я (ну, павер жа, павер) усе ночы адчуваю сябе добра. Я зусім не ляжу, у апошнія тыдні нават не «прыкладваюся», не прапускаю прагулак. Я адчуваю сябе моцнай...

Варта мне толькі ступіць на зямлю, убачыць блізка нашу праменнасветлую Радзіму, і яна мяне зараз жа вылячыць. Варта мне толькі ўзяцца за работу, толькі разгарнуцца, толькі дыхнуць свабодай (о хутчэй бы, хутчэй гэта было), і зараз жа забудуцца, знікнуць усе «аб'ектыўныя прызнакі» ўсякіх там хвароб. Трэба жыць, жыць! Кожны подых сённяшняга ветру — гэта магутны заклік да жыцця, гэта хваля сілы. А свабода ж не толькі ўсё бліжэй і бліжэй. Яна ўжо блізка.



Міхась ДАНІЛЕНКА

# ГАДЫ НЯДАЎНІЯ

Сяргей Паўлавіч Купцоў — чалавек паважаны, хоць гадоў яму яшчэ не вельмі багата. І нават самому не верыцца, што ў першую пяцігодку ён, шустры юнак, працаваў токарам, уступаў у камсамол і разам з шумлівай братвой-камсамоліяй узводзіў сцены цэхаў першынца той пяцігодкі — шклозавода.

У 1929 годзе ён скончыў прафшколу хімікаў-лабарантаў. Школа знаходзілася ў гарадскім парку побач з прыгожым палацам былога князя Паскевіча. Часта Сяргей пытаўся ў сяброў, навошта князю спатрэбіўся такі вялізны дом.

— Гэта ж і за дзень яго не абыйдзеш, каб толькі добра аглядзець, а не тое, што...

Маленькі Марка Саўчук, лепшы Сяргееў сябар, з яркарыжай, як агонь, галавой, адразу заўсёды знаходзіў адказ:

— А яны, князі, брат, у адным пакоі непрывычныя жыць. Таму кожную ноч мяняюць спальні.

— Гэта чаму ж? — насцярожваўся Сяргей.

— Дзівак ты, — жартаваў

Саўчук. — У адной спальні князевых дачок блохі пакусаюць, дык нехаця пабяжыш у другую...

Усе рагаталі.

— Сам ты — рыжая блыха, — злаваў Сяргей. — Тут, брат, варушыць мазгамі трэба: колькі крыві з нашых бацькоў пілі гэтыя крывасмокі, калі такія вось аграмадзіны будавалі.

У астатнім жа сябры заўсёды ладзілі: разам спалі на цвёрдым, як ток, тапчане ў гадзіннікавага майстра Моўшы Міхліна на Замкавай вуліцы, разам апаражнялі чарговую кайстру, калі яе прывозіў з вёскі Сяргееў бацька або Маркава маці. Пра свайго бацьку Саўчук не любіў гаварыць, нават лаяў яго, і Сяргей здагадваўся, што той пайшоў у прымы да нейкай нэпманкі.

Гаспадар іх быў страшэнна скупы і любіў павучаць хлопцаў, калі яны, прапахшыя карболкай і шкіпінарам, вярталіся ў сваю каморку. Ён звычайна чапляў на нос акуляры ў драцяной аправе, прыжмурваў блізарукія вочы і пачынаў прыцмокваць:

— Ой-вой, хімікі-лабаранцікі! Ці скора вас навучаць чаму сур'ёзнаму? Гэта ж вы, мусіць, зубны парашок вырабляць будзеце?

Сяргей маўчаў, а гарачы Марка падхопліваўся з тапчана, і яго рыжая галава, як тая палаючая макаўка, варушылася перад носам Міхліна.

— Запомніце: мы — хімікі, а не якое там нэпманскае кодла... Паедзем працаваць на сапраўдны хімічны завод. Работы нам хопіць. Гэта не тое, што корпацца над якім-небудзь іржавым гадзіннікам ды ўсяляк расхвальваць капіталіста Паула Бурэ... Дарэчы, — тут Саўчук таямніча падміргваў Сяргею, — чуў я, што кантроль паставяць над усімі майстрамі-адзіночкамі.

Моўша насцярожваўся, прыстаўляў да вуха сагнутую далонь, каб падрабязней распытаць, ад каго Марка чуў пра той кантроль і ці скора ён можа паявіцца.

Словы словамі, аднак калі пасля вучобы сябры ўладзіліся на Навабеліцкі завод «Чырвоны хімік», Марка неяк прызнаўся Сяргею:

— А ведаеш, Моўша быў пасвойму праў. Ну, якая гэта работа? Дзень-у-дзень тырчыш тут, каля прабірак...

Справа ў тым, што маладым «хімікам» даручалі рабіць толькі папярэднія аналізы шыхты, торфу і антрацыту. Цэлы дзень завіхаешся ля колбаў і толькі сум даймае.

Нецярплівы Марка аднойчы разбіў некалькі прабірак. Прыбегла загадчыца лабараторыі, поўная, рабая жанчына, і падняла такі крык, хоць вушы затыкай.

— Згараць няхай, Сяргей, тыя прабіркі! — прызнаўся пасля Марка сябру. — Каб хацця наш Міхлін не даведаўся: завод праўда-такі зубны парашок выпускае. Не ведаю, як ты, а я пайду ў цэнзавую прамысловасць.

Сяргей і сам чытаў заклікі да моладзі ісці на працу ў цяжкую прамысловасць, якую тады называлі цэнзавай.

— А што ж, хіба мы горшыя за іншых? — загарэўся і ён такім жаданнем.

І вось сябры прышлі ў школу металістаў. Школа знаходзілася каля завода «Рухавік рэвалюцыі», які дзень і ноч дыміў сваімі комінамі і несціхана грукатаў. У час абедзеннага перапынку з варот завода вывальвалі групы вясёлых юнакоў і дзяўчат у прамазучаных вопратках. У некаторых толькі блішчэлі зубы, але радасцю свяціліся вочы!

— Камсамолія, — задаволена гаварыў начальнік школы Палікарп Якаўлевіч Федарчук. — Іх на заводзе больш за трыста чалавек працуе. Адным словам, завод камсамольскі.



У той час на заводзе рамантавалі рачныя судны, кляпалі паравыя катлы, ладзілі веялкі, сеялкі і выпускалі запасныя часткі да трактараў.

— Вучыцеся, хлопчыкі, — гаварыў будучым металістам Федарчук. — Толькі на вас і надзея. І задача ўдарная: запасных частак да трактараў трэба многа выпускаць, ой, як многа!

— Зробім! — падхопліваўся і запэўніваў за ўсіх рыжы Марка. — Можаце пакласціся на нас, таварыш Федарчук: навучымся так выточваць гэтыя поршні ды кольцы, што хоць у вітрыну іх выстаўляй!

Але, нажаль, Марка не дачакаўся таго шчаслівага дня, калі Сяргей Купцоў і іншыя яго сябры сталі ля станкоў. Вясной ён пераходзіў па лёдзе Сож і праваліўся. Саўчук прастудзіўся ў ледзяной вадзе, захварэў запаленнем лёгкіх, і яго паклалі ў бальніцу.

А Сяргей стаў за такарны станок. Станкі былі старыя, іржавыя, ледзь ліпелі, але як прыемна было працаваць на іх. Срабрыстая стружка павівалася роўнымі кольцамі, разец праводзіў адну-другую лінію і ўжо ўгадвалася будучая дэталь, якую Сяргей нават сніў, калі яшчэ вучыўся ў школе металістаў.

Ён выконваў розную работу: рабіў расточку, наразаў гаечную разьбу, трубную і так званую лентачную.

Усё часцей каля яго станка спыняўся Коля Баравікоў, сакратар камсамольскага камітэта завода, вяснушчаты, дробнатвары юнак у нязменнай цяльняшцы.

— Ну як, браток? — пытаўся ён у Сяргея. — Ударнікам яшчэ не стаў?

— Дзе там ударнікам? — сарамеўся Сяргей. — Толькі трохі норму ўчора перакрыў.

— А ты смялей націскай. Ды ў камсамол рыхтуйся.

На заводзе праз кожныя тры дні выпускаліся насценныя газеты, на заводскім двары віселі дзве дошкі — чорная і чырвоная. Сяргеева прозвішча пакуль яшчэ не паяўлялася ні на адной дошцы. Праўда, у насценгазеце яго пахваліў майстар, які даваў заданне: Сяргей працаваў з агеньком.

А потым неяк непрыкметна для сябе і Сяргей Купцоў выдаў дзве нормы. Ён глядзеў на вытачаныя ім кольцы, употай любаваўся іх люстраной паверхняй і не верыў, што зрабіў гэта сам. Праз дзень яму выдалі кніжку і картачкі ўдарніка для атрымання дадатковага пайка. Нават старшыня заўкома Злацін, якога чамусьці не любіў ні Баравікоў, ні камсамольцы, і з якім стараўся не сустракацца Купцоў, павіншаваў Сяргея.



**Сяргей Паўлавіч Купцоў** (справа) **сярод маладых рабочых завода «Рухавік рэвалюцыі».**

Фота А. Шаевіча.

У рабочым каапературе цяпер Сяргей атрымліваў, акрамя асноўнага, яшчэ і дадатковы паёк: мануфактуру, цукар, хлеб. З мануфактурай тады было цяжкавата, і хлопцы цішком яе выменьвалі на хлеб: як-ніяк, дзвесце грамаў, што выдавалі па картачках ударніка, нешта значылі...

А потым Сяргей Купцоў уступіў у сям'ю баявой камсамоліі. Ён глядзеў шчаслівымі вачамі на лес рук, узнятых за яго, і думаў: «Як шкада, што рыжагаловы Саўчук усё валяецца на бальнічным ложку: яго б таксама сёння прымалі...»

— Ты ўсім нутром, усім сэрцам адчуў, які гэта вялікі для цябе гонар? — гледзячы вялікімі шэрымі вачыма, пытаўся Баравікоў у Сяргея.

— Адчуў, Коля, адчуў.

— Глядзі ж, каб званне гэтае ніколі не запляміў. Сёння пойдзеш з намі на палітбой у клуб металістаў.

Прызнацца, Сяргей і раней не мінаў клуба. Гэты двухпавярховы будынак па вечарах ажыўлены гудзеў, як пчаліны вулей. Гарачыя то былі дзянькі, бурныя гады. Выходзіў камсамолец, апрануты ў фартух рабочага з вялізнай кувалдай у руках, а ля другой трыбуны паяўляўся таўшчэзны, як бочка, «Чэрчыль» і пачынаўся іх слоўны паядынак. А то ў клуб прыходзіў поп з сабора, што знаходзіўся непадалёк, у парку, і ледзь не да нажа рэзаўся пра сьвяшчэннае пісанне з Баравіковым, які, на здзіўленне Сяргея, так раскладаў на лапаткі ўсю гэтую евангельскую прамудрасць, што даўгагрывы хутчэй знікаў з клуба.

Выправадзілі аднойчы з завода камсамольцы і нізенькага заўкома Злаціна. Пагаварвалі, што ён цішком перапрадаваў жалеза кулакам з бліжніх вёсак. А потым Сяргей неяк і сам, затрымаўшыся пасля змены, заўважыў, як прапырлівы Злацін дапамагаў дзядзьку ў саматканай світцы прыкрываць каля заводскіх варот нешта на возе. Як ні вярцеўся Злацін, але хлопец усё ж прыкмеціў, што з-пад рагожы вытыркаюцца лісты дахавага жалеза. «Лоўка! — здзівіўся ён. — Трэба будзе сказаць Колю Баравікову»...

Праз колькі дзён у газеце «Чырвоная змена» з'явіўся допіс Сяргея Купцова пра махінацыі старшыні заўкома. Разззлаваны Злацін пабег у гарком, дзе ў яго, казалі, была моцная рука, і дабіўся таго, што на заводзе рашылі выбраць новага сакратара камсамольскага камітэта.

— Там цэлую змову супраць мяне наладзілі, — стагнаў Злацін. — Трэба іх разагнаць. Гэта Баравікоў усіх падбухторвае.

— Колю аддаць? — пачуліся на агульным сходзе абураныя галасы. — Брацішку? Не выйдзе! Нам прысланы не трэба, у нас і свой, як агонь!..

Сход збіралі аж тры разы, але ўсёроўна нічога не атрымалася. А на дашчатай заводскай агарожы паявіліся перафразіраваныя словы з вядомых прыпевак Дзям'яна Беднага. Іх хлопцы напісалі крэйдай:

Нас разбіць, разбіць хацелі,
Нас разбіць збіраліся.
Мы ж таксама не сядзелі,
Мы падрыхтаваліся.

Вядома, цяпер, праз столькі гадоў, Сяргей Паўлавіч па-іншаму ўяўляе тыя падзеі. Ніхто і не хацеў іх тады разбіваць: разабраліся ж нарэшце ў гаркоме, што за цаца Злацін і яго «моцная рука» і так іх турнулі, што яны з Гомеля зніклі. Але якая ж гэта сіла, калі адчуваеш, што ты па-свойму праў, што ты думаеш і дзейнічаеш так, як і твае сябры-паплечнікі, робіш так, як падказвае тваё сумленне!



Праз некаторы час групу камсамольцаў з завода накіравалі на будоўлю першай пяцігодкі — шклозавод. Цяжкі гэта быў час: у краіне нехапала шкла, партыя заклікала будаваць шклозавод хуткімі, ударнымі тэмпамі.

— Вы ж глядзіце, — наказваў ад'язджаючым Баравікоў, — каб завод быў пабудаваны ў тэрмін. На вас вялікая надзея...

Эх, і працаваў жа там Сяргей! Часам каля такарнага станка прыходзілася прастойваць па дванаццаць гадзін. Завод будаваўся на пустыры, каля гіблых, непраходных балот. Паміж чэзлых кустоў алешніку пракідаліся купіны з іржавай асакой, абсыпаныя снегам. Зусім нядаўна тут улетку над абшарамі насіліся кулікі-баранчыкі і ўсё стагналі, быццам скардзіліся на сваю долю.

У цэхах пасвістваў вецер, але за працай у хлопцаў на ілбе выступаў пот. Аднойчы Сяргей, стоячы каля станка, адчуў, як нехта ззаду моцна закрыў цёплымі далонямі яго вочы.

— Хто там жартуе? — раззлаваўся Сяргей.

Потым спрытна вырваўся і азірнуўся. Перад ім стаяў Марка Саўчук. З-пад старой палінялай будзёнаўкі выбіваліся агністыя віхры.

— Марка? — не паверыў Сяргей. — А як жа маці? Мне ж казалі, што ты з бальніцы паехаў да яе на вёску...

— А што маці? Пасабіў ёй, а сам сюды... Цяпер яна з меншымі ўправіцца: калгас у крыўду не дасць ды і сам буду наведвацца...

Сяргей разумеў свайго няўрымслівага сябра: хіба ж мог той сядзець дома, калі ў іх на будоўлі быў аб'яўлен «камсамольскі месячнік штурму»? Шкло ж так гатрэбна краіне!

Доўга яны не маглі заснуць пасля таго, як Сяргей вярнуўся ў халодны барак. За сценамі завываў на пустыры вецер, шорхаў аб сцены, быццам драпаўся, снег, а ў вокнах час-ад-часу ўспыхвалі зарніцы газазварак. І тыя ўспышкі як бы саграваді пад лёгкай адзежынай, якой яны накрываліся на нарах.

Ішлі месяцы. Гартаваўся ў рабоце, у баявых справах камсамольскі характар. Часта прыходзілася Сяргею чытаць і даклады ў бліжніх калгасах. Аднойчы ў хаце, дзе ад накуранага дыму аж захліпалася лямпа, пасля таго, як Сяргей расказаў пра бурныя падзеі ў краіне, дзынкнула шкло, і жалезны шворан грукнуўся аб сцяну каля печкі, патрывожыўшы ў кутку прусакоў. У хаце загаласіла нейкая кабета, затрывожыліся мужчыны, але прадстаўнік партыйнага камітэта падняў руку:

— Спакойна! Не панікуйце. Даведаемся, хто гэта зрабіў, і хто падбухторваў!..

І канешне ж, праз колькі дзён выявілі падкулачніка, які ў тую асеннюю ноч цэліў у Сяргея. Следчы пад павеццю ў таго чалавека знайшоў калёсы, зацярушаныя сенам, з свежа чарнеўшай адтулінай для шворна: яго толькі што вынялі.

* * *

Нямала мінула дзён з таго часу. Гомельскі шклозавод вырас у буйнейшае прадпрыемства краіны. І цяжка паверыць, што на месцы, дзе ён стаіць, некалі насіліся кулікі, ды, падкурчыўшы ногі, як вартавыя, стаялі шэрыя чаплі. Гомельскае шкло, як і станкі «Рухавіка рэвалюцыі», ведаюць і ў народным Кітаі, і ў Румыніі, і ў Балгарыі, і ў іншых краінах народнай дэмакратыі. Але заўсёды, калі Сяргей Паўлавіч глядзіць, як з прахадной завода «Рухавік рэвалюцыі» выходзяць рабочыя, ён успамінае сваю ўдарніцкую маладосць.

г. Гомель.

## На антырэлігійныя тэмы

**Е. ІЛЬІНА,**
**навучэнка Магілёўскага культасветвучылішча імя Н. К. Крупскай**

# ЦЕМРА ПАКІДАЕ ЗАКУТКІ

Аднойчы да маёй бабулькі ў Магілёў прыехалі родзічы. Спачатку яны размаўлялі пра блізкіх і знаёмых. Я займалася хатнімі справамі і не звяртала на іх увагі, а калі хударлявая маршчыністая жанчына з нейкай таямнічасцю пачала гаварыць аб боскіх цудах і прыгодах святых, я падсела да іх.

Бацькі мае не вераць у бога, і тое, што я ўпершыню пачула ад прыезджых, здавалася казкай. Мая дапытлівасць не прайшла міма хітрай і ліслівай жанчыны ў чорнай хустцы.

— Дзетачкі, бог усё бачыць і бязлітасна карае грэшнікаў, — шматзначна сказала яна і паглядзела на мяне.

Я сядзела моўчкі і пільна сачыла за спакойнымі рухамі яе тонкіх пальцаў. Яна рабіла ўражанне, што вось-вось ператворыцца ў вядзьмярку, якіх так трапна малююць у дзіцячых казках, мне было нават крыху смешна і весела. Неўзабаве прыйшлі сяброўкі-шасцікласніцы, і мы накіраваліся ў кіно. Здавалася, што ўсё чутае ад бабулькі і яе родзічаў развеялася, як туман.

Але я памылялася. Туман рэлігійнага цемрашальства згушчаўся нада мной. Бабулька кожны дзень расстаўляла вакол мяне пасткі, пляла павуцінне. Аднойчы яна ўзяла мяне і павяла з сабой... Так я апынулася ў секце «пяцідзесятнікаў».

Мне хацелася выбегчы з паўзмрочнага дому, дзе было зборышча сектантаў, але бабулька грозна прыкрыкнула. Усе з нейкім спалохам і пакорлівасцю глядзелі на гаспадара кватэры Салапаева. Ён ціхім голасам чытаў евангелле. Калі прапаведнік замоўк, усе сталі на калені. Гэта ж самае загадалі зрабіць і мне.

Я не магла дачакацца канца малення. Нарэшце мы выйшлі на вуліцу. На душы было трывожна, мне здавалася, што я зрабіла нешта цяжкае і брыдкае ў сваім жыцці.

Ішлі дні. Бабулька не адступалася ад мяне. На зборышчах секты пачалі палохаць, што калі я не пакаюся ў сваіх «грахах», то бог сурова пакарае. І я пачала маліцца, праўда, употай, каб ніхто не бачыў у сям'і.

Кіраўнікі і прапаведнікі «пяцідзесятнікаў» Салапаеў, Скачкоў і іншыя ўсё больш і больш звярталі на мяне ўвагу, дамагаліся, каб я строга прытрымлівалася ўсіх звычак і абрадаў сектантаў. А іх было нямала. Звычайна «пяцідзесятнікі» збіраліся тры разы ў тыдзень. У нядзелю на кватэру Салапаева прыязджалі нават з далёкіх вёсак вобласці. Усё гэта рабілася таямніча. Сектантам не дазвалялася многа размаўляць паміж сабой, цікавіцца жыццём адзін аднаго, называць па імю або прозвішчу. «Духоўны брат», «духоўная сястра» — вось тыя саладжавыя мянушкі, якімі прыкрываюцца «боскія» слугі.

На зборышчах сектанты не толькі займаюцца маленнем. Іх прапаведнікі вядуць мэтанакіраваную антыграмадскую



прапаганду, якая разлічана на тое, каб выклікаць абыякавасць да ўсяго, што адбываецца ў жыцці «на гэтым свеце». Членам секты забараняецца ўдзельнічаць у грамадска-карыснай працы, хадзіць у кіно, тэатр, чытаць палітычную і мастацкую літаратуру.

Пропаведзі Салапаева і Скачкова, нібы атрута, раз'ядалі маю душу. Я адышла ад школьнага калектыву, перастала ўдзельнічаць у масавых мерапрыемствах. Цемрашалы настойліва ўбівалі ў галавы сваіх ахвяр: несупраціўленне злу, нянавісць да зброі, свяшчэннасць і непарушнасць законаў секты.

Калі ў секце даведаліся, што мае бацькі прымаюць меры, каб вырваць мяне з іхніх кіпцюроў, яе кіраўнікі пачалі ўсяляк запалохваць мяне і нават пагражаць. Аднойчы перад маленнем Салапаеў зусім не выпадкова расказаў гісторыю аб тым, як адну «духоўную сястру» білі ў сям'і за тое, што яна звязалася з «пяцідзесятнікамі», а потым і зусім выгналі з дому. Бог прытуліў яе «ў духоўных сясцёр» і яна зараз шчаслівая і радасна жыве. Я разумела, што прамова гэта датычылася мяне.

У секце сочаць адзін за другім. І калі хто-небудзь парушыць закон, пачынаецца сістэматычнае запалохванне. Сектантка Салапаева даведалася, што я хадзіла ў кіно. На чарговым зборышчы яна пачала дапытваць мяне:

— Чаго ты, духоўная сястра, у самоце? — цікавілася яна. — Грэх зрабіла, грэх! Я бачыла цябе ў коле сатаны.

Прышлося прызнацца, што хадзіла ў кіно. І тады ўся секта навалілася на мяне. Усе патрабавалі раскаяцца, давялі да слёз. Мне рабілася ўсё страшней і страшней сярод гэтых адшчапенцаў грамадства. Асабліва брыдкімі здаваліся абрады. Вось адзін з іх. «Пяцідзесятнікі» спраўляюць свята «пераламленне хлеба». Арганізоўваецца яно так. Звычайна прапаведнік разламвае на кавалкі бохан хлеба. Кожны бярэ кусок і запівае яго віном з агульнай чаркі, а пасля ўсе мыюць ногі...

Бацька рашуча пачаў змагацца за маю будучыню, за мой лёс. Ён наважыў, каб я пасля заканчэння сямі класаў абавязкова паступіла ў Рэспубліканскае культасветвучылішча. Так я і зрабіла. Сектанты не раз спрабавалі зноў зацягнуць мяне ў сваё логава. На душы была нейкая раздвоенасць. Я па-ранейшаму цуралася сяброў, хадзіла засмучонай, нібы хворая.

Калектыў мяне не кінуў у бядзе. Асабліва я ўдзячна выкладчыкам Міхасю Васільевічу Усікаву і Міхасю Купрыянавічу Каранковічу. Яны вельмі ўважліва і цярпліва дапамагалі пазбавіцца дурману, які зацямняў мой розум. Таварыскія размовы, сістэматычнае чытанне антырэлігійнай літаратуры далі магчымасць разабрацца ў многіх пытаннях. Я паступова пачала цікавіцца жыццём вучылішча, пасябравала з дзяўчатамі і нарэшце паступіла ў камсамол.

З гэтага часу навакольны свет для мяне нібыта нанава адкрыўся, я зірнула на яго другімі вачамі.

Кожную раніцу, ледзь пачынае днець, я спяшаюся на заняткі ў вучылішча. Каля ўваходу гучаць бадзёрыя прывітальныя воклічы навучэнцаў. І заўсёды радаснае, светлае пачуццё ахоплівае маё сэрца, калі я чую гэтыя сяброўскія галасы.

Усё, што здарылася са мной, вельмі павучальнае. Няхай гэта сумная гісторыя, якую я перажыла, стане ўрокам для тых, хто абыякава адносіцца да розных сектаў, а іх на тэрыторыі Беларусі яшчэ існуе не мала.

Я выбрала сабе дарогу ў жыцці. Неўзабаве буду работнікам культурна-асветнага фронту. Прыкладу ўсе свае сілы, каб стаць сапраўдным прапагандыстам культуры сярод працоўных, асабліва сярод моладзі, каб да яе сэрцаў ніколі не падкралася цемра рэлігійнага дурману.

*Нашы землякі*

Мікола ЦІМОШАК

# БРЭСЦКІЯ ЧАПАЕЎЦЫ

На Брэшчыне жыве многа былых чапаеўцаў. Як жа трапілі яны некалі ў далёкія ўральскія стэпы, у легендарную дывізію Васіля Іванавіча Чапаева?

У 1915 годзе, калі ішла імперыялістычная вайна, людзі, кінуўшы родныя вёскі, уцякалі ад жахаў вайны на ўсход. Большасць бежанцаў асела каля Самары і Саратава.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якая паклала канец вайне, салдаты-беларусы падаліся на ўсход, дзе былі ў бежанцах іх родныя. Калі на Урале пачалася грамадзянская вайна, бежанцы-беларусы адразу сталі на абарону ўлады Саветаў. Сярод іх былі Антон Пятроўскі, які жыве цяпер у Брэсце, Канстанцін Рапецкі, Васіль Зосік з Драгічынскага раёна, Якаў Блізнюк і Іван Абрамук з вёскі Брацілава, што пад Брэстам.

— Мне, — расказвае Антон Філімонавіч Пятроўскі, — упершыню давялося сустрэцца з Васілём Іванавічам Чапаевым у сяле Бярозава Нікалаеўскага павету, дзе жыла ў бежанцах мая маці. Аднойчы, гэта было 13 мая 1918 года, Чапаеў прымчаўся з невялікім конным атрадам у Бярозава і аб'явіў аб наборы дабраахвотнікаў. У той жа дзень я і мае аднавяскоўцы Якаў Блізнюк,



В. І. Зосік. 1918 год.

Іван Абрамук, Аляксандр Кацуба, Дарафей Зінчук — усіх дваццаць чалавек — уступілі ў яго атрад...

Чапаеў павёў свой атрад на горад Уральск — цэнтр белаказацкай арміі. На маршы ён вылучыў камандзірамі ўзводаў Пятроўскага, Блізнюка і Абрамука.

Казакі, не прымаючы адкрытага бою, адыходзілі на поўдзень. Нарэшце, каля хутара Балашы



казакі рашылі атакаваць чапаеўцаў. Асабліва моцны націск быў на левы фланг, на ўзвод Пятроўскага. Байцы адкрылі залпавы агонь па ворагу, які сунуўся лавінай. Пяцярым казакам удалося ўварвацца ў стан чырвоных і засекчы некалькі чырвонаармейцаў. Але тут падаспеў Пятроўскі. Ён ва ўпор застрэліў чатырох казакаў, а пятага ўзяў у палон. Як потым выявілася, палонны быў камандзірам казацкай сотні.

Чапаеў, прыскакаўшы на дапамогу са сваімі ардынарцамі, толькі задаволена бліснуў гарачымі вачамі:

— Вось гэтак б'юць контру,— і, крута павярнуўшы каня, паскакаў наперад. За ім паімчаліся байцы. Казакі кінуліся наўцёкі.

Калі чапаеўцы былі ўжо недалёка ад Уральска і рыхтаваліся да штурму белаказацкага логава, прышла трывожная вестка аб тым, што чэхаславацкія мяцежнікі выйшлі ў тыл і захапілі горад Нікалаеўск, дзе знаходзіўся павятовы Савет камісараў. Такім чынам, чапаеўцы аказаліся нібы ў кляшчах, адарваныя ад сваёй базы. Ва Уральску былі вялікія сілы праціўніка, з артылерыяй. Вораг



А. Ф. Пятроўскі ў дваццатыя гады.

разлічваў завязаць з чырвоным атрадам бой, каб ён зрасходаваў усе свае боепрыпасы, а потым знішчыць яго, таму што шлях да адступлення быў адрэзаны. Але Чапаеў разгадаў намер ворага. Ён прыняў рашэнне ісці на Нікалаеўск. Па дарозе правялі мабілізацыю, атрад вырас удвая і падзяліўся на два палкі — імя Сценькі Разіна і імя Пугачова. Так была створана брыгада.

Аднойчы пад Нікалаеўскам да Пятроўскага пад'ехаў ардынарац і сказаў:

— Таварыш Пятроўскі, да Чапаева!

Каля штаба Пятроўскі ўбачыў яшчэ некалькі камандзіраў. Васіль Іванавіч ветліва сустрэў прышоўшых, прапанаваў выпіць чаю. Тут жа, за сталом, ён аб'явіў, хто назначаецца на камандныя пасады. Пятроўскаму было даручана камандаваць ротай.

На наступны дзень камандзір роты папрасіў дазволу ў камбрыга выйсці ў тыл ворага на засаду. Рота непрыкметна выйшла на Самарскі шлях паміж Таналошкай і Нікалаеўскам. Чакаць давялося да поўдня. Нарэшце з боку Самары паказаліся конныя артылерысты, якія везлі дзве цяжкія гарматы. Чапаеўцы ўдарылі па іх. Праціўнік нават не паспеў аказаць супраціўлення. У ліку трафеяў былі гэтыя цяжкія гарматы, шмат вінтовак і боепрыпасаў.

Чапаеў прыязджаў глядзець гарматы.

— Вы іх здабылі, няхай у вашым Разінскім палку і застаюцца, — распарадзіўся ён.

У сяле Гусіха Пятроўскі быў паранены. Тады ж быў паранены і камандзір палка імя Сценькі Разіна Іван Куцякоў. Абодва яны праляжалі тыдні па два, а потым зноў вярнуліся ў строй, хоць доўга яшчэ хадзілі на кастылях.

Пасля ўзяцця Самары Пятроў-



А. Ф. Пятроўскі. 1958 год.

скі быў ужо камандзірам батальёна, а Куцякоў — камбрыгам. Наступны паход быў на Бузулук. Трэба было разбіць там войскі так званай «народной учредилки». Разінцы атрымалі заданне перарэзаць чыгунку на Бузулук і для гэтага заняць вёску Ялшанку. На подступах да вёскі вораг сустрэў разінцаў моцным кулямётным і ружэйным агнём. Адначасова паўтысячы коннікаў з аголенымі шаблямі і крыкамі кінуліся на чапаеўцаў. Артылерыйскі дывізіён Косці Рапецкага ўдарыў па беляках карцеччу. Кулямётныя тачанкі Пятроўскага таксама выскачылі наперад і адкрылі агонь. Байцы роты Васіля Зосіка тут жа ўварваліся ў Ялшанку.

Пад Бузулукам разінцы акапаліся ўздоўж чыгункі і сустрэлі ворага ўраганным кулямётным агнём. Адразу ж разабралі рэйкі, і бранепоезд, які спяшаўся сюды, з усяго ходу зваліўся пад адхон. З бранепоезда выпаўзлі белагвардзейцы, іх тут жа ўзялі ў палон. Здаліся 400 салдат і 22 афіцэры. Пры іх было 4 лёгкія гарматы, 35 кулямётаў, скрынка з грашыма і многае іншае. Гэтая выдатная аперацыя адыграла рашаючую ролю ва ўзяцці Бузулука. Белыя пакінулі горад, не аказаўшы сур'ёзнага супраціўлення.

Дывізію перакінулі на Уральскі фронт супраць белаказакаў, якія мелі велізарныя сілы.

Чапаеў у той час быў накіраваны на вучобу ў ваенную акадэмію, але хутка, па асабістай просьбе, зноў вярнуўся на фронт. Яму даручылі фарміраваць новую ваенную адзінку — так званую Аляксандра-Гайскую асобую групоўку. Увосень і зімою таго года 25-я дывізія ўдзельнічала ў баях без Чапаева. Асабліва вызначылася першая брыгада, якой камандаваў Іван Куцякоў. У праслаўленых палках Пугачоўскім і імя Сценькі Разіна ваявалі ўжо знаёмыя нам беларусы.

Прышоўшы ў атрад Чапаева ў маі радавым байцом, у снежні 1918 года Антон Пятроўскі быў ужо памочнікам камандзіра Разінскага палка. Вясковы пастушок з-пад Брэста стаў баявым чырвоным камандзірам. Ён ні ў адным баі не ведаў паражэння.

Калі паўстала пытанне аб тым, хто павінен ісці ў авангардзе зімовага наступлення на Уральск, дык выбар выпаў на перадавы атрад камуніста Антона Пятроўскага. Трывала засвоіў ён чапаеўскі дэвіз— «Ніколі не адступаць».

Хутар Чаганскі, згодна загаду начдыва, трэба было браць сумеснымі сіламі двух палкоў і атрада Пятроўскага. Але калі ва ўмоўлены час атрад наблізіўся да хутара, то ніводзін з палкоў падысці яшчэ не паспеў. З адным батальёнам і камандай разведкі Пятроўскі павёў наступленне, хоць на хутары казакаў было ў дзесяць разоў больш.



І сталася неверагоднае: казакі былі выбіты з хутара. Многія з чапаеўцаў былі забіты і паранены. Пятроўскі, нягледзячы на цяжкія раны, заставаўся ў страі, выконваючы свой воінскі абавязак.

У загадзе № 27 па дывізіі дзеянні Пятроўскага пры ўзяцці Чаганскага хутара адзначаюцца як выдатны подзвіг.

За гераізм, праяўлены ва Уральскай аперацыі, Антон Філімонавіч узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцягу.

Пасля ўзяцця Уральска Чапаеў зноў прыняў камандаванне 25-й дывізіяй. Яе накіравалі на барацьбу з Калчаком.

Пятроўскі прысутнічаў пры заканчэнні пахода на Уфу. Ён дагнаў 25-ю дывізію ўжо на самых подступах да горада. Яшчэ не ачуняўшы пасля ранення, ён і на гэтым участку выконваў нямала аператыўных заданняў.

Паход на Уфу закончыўся трыумфам чапаеўцаў. Успамінаючы аб ім, Антон Філімонавіч зазначае, што гэты паход вельмі дакладна апісаў камісар дывізіі Фурманаў у сваёй вядомай кнізе «Чапаеў».

Усім вядома, як загінуў камандзір легендарнай дывізіі. Пятроўскі пачуў гэтую сумную вестку на другі дзень пасля гібелі Чапаева, 6 верасня 1919 года. Разам з перадавымі часцямі ён быў ужо далёка на поўдзень ад Лбішчанска.

Пасля гібелі Чапаева камандаваць дывізіяй стаў Куцякоў, бліжэйшы саратнік і сябар Васіля Іванавіча. Камандзірам 218-га Разінскага палка быў прызначаны Пятроўскі.

Легендарная 25-я дывізія пасля смерці начдыва стала называцца Чапаеўскай. У яе складзе ішоў на захад полк Пятроўскага, каб вызваліць захопленую белапалякамі родную беларускую і украінскую зямлю.

У адным з баёў пад Барадзянкай варожая куля зноў вывела са строю выдатнага воіна і таленавітага камандзіра Антона Філімонавіча Пятроўскага. З таго часу ён працуе на самых адказных участках сацыялістычнага будаўніцтва.

* * *

Да Антона Філімонавіча часта прыходзіць моладзь, каб паслухаць яго расказы. З цікавасцю госці разглядаюць яго ўзнагароды: два ордэны Чырвонага Сцягу, ордэн Леніна, маленькі пісталет, на якім выгравіравана: «А. Ф. Пятроўскаму за бязлітасную барацьбу з контррэвалюцыяй».

**Л. І. МАСЛЕНІКАВА,**
**заслужаная артыстка РСФСР**

# ШЛЯХ ДА СЦЭНЫ

Лясы Беларусі... Кожны раз, калі я бачу іх, мне робіцца радасна: у іх ласкавым шуме чуецца прывет роднага краю.

Нарадзілася я ў першы год савецкай улады. Гэта былі цяжкія часы. Рабочы клас маладой дзяржавы вёў рашучую барацьбу за права быць гаспадаром свайго лёсу. Многа людзей, адданых рэвалюцыі, загінула ў гэтай барацьбе.

Мне было ўсяго тры месяцы, калі куля белабандзіта абарвала жыццё майго бацькі. Наша сям'я



Леакадзія Масленікава.

жыла тады ў Саратаве. Маці, Юзэфа Ануфрыеўна, працавала на французскай галантарэйнай фабрыцы, якая эвакуіравалася з захопленага немцамі Мінска. Брат Іван быў яшчэ слабым памочнікам. Пра мяне і гаварыць няма чаго. Пасля смерці бацькі ў доме частымі гасцямі сталі гора і голад. Невясёлыя песні гучалі над маёй калыскай.

А калі трываць не стала сіл, маці звязала ў клунак нешматлікія рэчы, апранула брата, узяла за руку мяне, развіталася з магілаю мужа, і мы падаліся на радзіму, у Беларусь.

Непрыветліва сустрэлі нас родзічы. У Мінску і яго ваколіцах у той час гаспадарылі белапалякі, і ніхто не хацеў даць прытулак удаве рабочага-бальшавіка.

Што рабіць? Давялося прасіць дапамогі ў ласкавага беларускага лесу. Мы сталі жыць у лесе. Мясцовасць наўкол была маляўнічая. Па суседству — вёска Камары, воддаль — сяло Калоніцы, а за буданом наўкол — лес. Колькі ні ідзі — канца яму няма.

Але і сюды прышоў за намі голад. Усё цяжэй было маці даставаць кавалак хлеба. А тут яшчэ тыфус пачаўся. Захварэлі мы ўсе ўтраіх. Ды так, мусіць, і не падняліся б, калі б не савецкая ўлада.

Чырвоная Армія прагнала белапалякаў, і ў Калоніцах над будынкам валаснога Савета затрапятаў на ветры чырвоны сцяг. У першую чаргу воласць паклапацілася пра беднату. Успомнілі і пра нас. Мяне адвезлі ў дзіцячы дом. Брата прызначылі пастухом. А маці прыйшлося ісці батрачыць да кулака. Той загадаў ёй насіць у горад малако на продаж, ахоўваць сад, а ва «ўзнагароду» аддаў пад жыллё напаўразбураную хібарку.

У гэтай хібарцы і мне бываць прыходзілася. Памятаю, як баялася я спачатку яе чужых, пачарнелых ад часу сцен. А потым, нічога, прывыкла, нават на страху стала лазіць. Бывала, увечары залезу на самы канёк, ускіну абедзвюма рукамі хустку над галавой, каб ветрам яе надзімала, і пяю. Далёка чутно, і вось-вось, здаецца, палячу ўслед за песняю.

Спяваць я любіла з дзіцячых год. Маці і цяпер часам жартуе: «Ну і дачка ў мяне! Як нарадзілася — закрычала, дык і зараз не змаўкае...»

... Савецкая ўлада ў вёсцы мацнела. Пачалі пагаворваць пра калектывізацыю. Ваўкамі глядзелі кулакі на беднату.

Успамінаецца такі выпадак.

Неяк зімою я захварэла. Маці абышла ўсю вёску ў пошуках для мяне малака, але вярнулася ні з чым. Раптам са двара з радасным крыкам убег Іван:

— Мама! Мама! Ты толькі пабач, што я знайшоў! Там... у садзе... пад плотам! Відаць, нашу Лядку нехта пашкадаваў.

У руках у брата была бутэлька. А ў ёй — малако. Нават замерзнуць не паспела: нядаўна падкінулі.

— Каму нас шкадаваць! Незразумелае нешта... — сумна падумала ўслых маці.

Яна наліла ў сподак малака і паклікала кошку. Тая прагна пачала піць, а праз некалькі хвілін... здохла.

Потым ужо даведаліся мы, што «падарунак» быў падкінуты ў сад кулаком, у якога працавала маці, відаць, за тое, што мы стаялі за калгас.

... Аднойчы маці вярнулася з Мінска вясёлая. Расказала, што яе прынялі ў гарадскую сталовую пасудніцай. Мы пераехалі ў горад. Аддзел сацыяльнага забеспячэння прызначыў нам пенсію за бацьку.

Прайшло яшчэ крыху часу, і маці ўзялі па ранейшай спецыяльнасці на галантарэйную фабрыку, якая зноў з Саратава пераехала ў Мінск. Толькі належала яна цяпер не французскім капіталістам, а нашай дзяржаве і насіла імя Міхаіла Васільевіча Фрунзе.

Пасля сямігодкі мне пра выбар прафесіі раздумваць не было калі. Трэба было дапамагаць сям'і. І вось у трынаццаць год паступіла я на тую ж фабрыку. Стала называцца аўтаматчыцай, працавала на аўтамаце, рабіла гузікі з галаліту. Адначасова вучылася на рабфаку. Там і пачала ўпершыню ўдзельнічаць у гуртку мастацкай самадзейнасці.

Камітэт камсамола звярнуў увагу на мае здольнасці і накіраваў мяне ў музычнае вучылішча пры кансерваторыі. Адначасова стала займацца ў хоры Мінскай оперы. З'явілася магчымасць часцей бываць у тэатры. Упершыню пачула «Яўгенія Анегіна». Доўга хадзіла я пад уражаннем гэтай цудоўнай оперы. Потым чула яе і ў Кіеве, і ў Маскве, але той, першы спектакль і да гэтага часу здаецца мне чамусьці вяршыняй дасканаласці.

З таго часу мяне нястрымна пацягнула на сцэну. Сольных партый мне, праўда, не давалі, ды і сама я яшчэ не зусім была ўпэўнена ў сваіх сілах. Як цяпер памятаю адзін з экзаменаў па вакалу. Трэба было праспяваць перад камісіяй украінскую песню «Тыхесенькі вечор». Ад хвалявання я спачатку ўзяла надта нізка, потым, як кажуць, «спаймала пеўня». Адным словам, аскандалілася... Нехта з маіх настаўнікаў гаварыў пасля экзамена: «Не, з яе нешта атрымаецца. Калі пасля такога правалу не збегла, значыць — упартая, свайго даб'ецца!»

Вайна з фашысцкай Германіяй пачалася, калі я была на трэцім



Л. Масленікава ў ролі Тацяны з оперы «Яўгені Анегін».



Л. Масленікава ў ролі Неды з оперы «Паяцы».

курсе вучылішча. Была ўжо замужам. 22 чэрвеня Мінск бамбілі. К 12 гадзінам дня гарэў увесь горад. Брат і муж пайшлі на фронт. Разам з другімі жыхарамі горада і я з дачушкай на руках пакінула горад. Па Маскоўскай шашы пацягнуліся бясконцыя натоўпы бежанцаў. Нямецкія самалёты пралятапі над дарогай і страчылі з кулямётаў. Мы хаваліся ў канавах, за снегазатрымальнымі шчытамі. Потым ішлі далей. Фашысты скідалі нам лістоўкі: «Вяртайцеся! Або мы знішчым вас, як чуму!» А натоўпы людзей усё ішлі і ішлі на ўсход..

Праз 100 кіламетраў мы, самі не ведаючы як, селі ў біткам набіты цягнік. Прыехалі ў горад Сызрань. Потым накіраваліся далей, куды вочы глядзяць. На вакзалах расказвалі людзям аб нашым няшчасці. Нас слухалі з суровымі тварамі, дапамагалі хто грашыма, хто ежай, хто парадай.

Спыніліся мы на станцыі Чэпца ва Удмурціі. Тут я пашла працаваць на будаўніцтва чыгункі. У тыя дні прымушала сябе не думаць пра сцэну: лічыла, што не час. Але, тым не менш, хутка запісалася ў мясцовы самадзейны гурток.

У нашых людзей ёсць надзвычай каштоўная якасць — яны ўмеюць у цяжкі момант сардэчна, шчыра падтрымаць таварыша. Такімі ж душэўнымі былі мае новыя сябры. Яны прымусілі мяне, каб я падала заяву ў музычнае вучылішча пры Кіеўскай кансерваторыі (яна эвакуіравалася ў Свярдлоўск). Зусім нечакана прынялі мяне не ў вучылішча, а на другі курс кансерваторыі. А ў 1943 годзе разам з Веранікай Барысенка мяне накіравалі на фестываль артыстаў у Харкаў.

Неўзабаве сталіца Украіны была вызвалена, і наша кансерваторыя вярнулася ў Кіеў. На чацвёртым курсе я стала салісткай Кіеўскага опернага тэатра, а ў 1945 годзе закончыла датэрмінова кансерваторыю. Упершыню мне сталі давяраць такія адказныя ролі, як партыя Тацяны ў «Яўгеніі Анегіне», Аксаны ў «Запарожцы за Дунаем», Дэздэмоны ў «Атэла».

1945 год. Дзень Перамогі. Разам з групай артыстаў я прыехала ў Берлін з шэфскім канцэртам для нашых доблесных воінаў. Ён на ўсё жыццё запомніўся мне, гэты канцэрт у гонар пераможцаў.

У наступным годзе мяне накіравалі для павышэння кваліфікацыі ў Маскву, у Вялікі тэатр. А потым атрымалася так, што я засталася там: у Кіеў мяне з Масквы не адпусцілі.

Упершыню выйшла я на сцэну Вялікага тэатра ў ролі паннaчкі ў оперы «Майская ноч». Была, як кажуць, на сёмым небе. У гэты вечар мяне самой быццам і не існавала: была цудоўная украінская ноч, старая хаціна на беразе возера і прыгажуня-паннaчка, якая паклялася адпомсціць мачысе за сваё загубленае жыццё.



Цяпер я пяю ўвесь рэпертуар лірычнага сапрана. Адзінаццаць год працы ў Вялікім тэатры — немалы тэрмін. За гэты час наш тъорчы калектыў не раз быў у гастрольных паездках па Савецкаму Саюзу, а таксама за мяжою. Зарубежныя гледачы сустракалі нас, савецкіх артыстаў, як самых дарагіх гасцей. Рым і Берлін, Вена і Варшава, Дэлі і Цірана. Ніколі не забуду сустрэчы нашага поезда ў індыйскім горадзе Мадрасе. Жыхары, даведаўшыся, што едуць савецкія артысты, сабраліся віншаваць нас. Каб спыніць цягнік, многія з іх леглі на рэйкі перад паравозам і прымусілі машыніста спыніцца. Мы выйшлі з вагонаў, падняліся на нейкія ўзвышэнні і спявалі. Потым нам паднеслі «хлеб-соль», шмат падарункаў. Мне, напрыклад, падаравалі галінку банана з такімі цяжкімі пладамі, што ў мяне нехапіла сіл падняць яе. І столькі гасціннасці, шчырасці, смешнай і мілай ветлівасці было ў гэтай сустрэчы, што ў нас міжвольна наплывалі слёзы на вочы. Мы пераканаліся ўвачавідкі, які вялікі аўтарытэт Савецкага Саюза, якія верныя і адданыя сябры ёсць у нашай краіны за мяжою.

Побач з калектыўнымі выступленнямі бываюць у мяне сольныя канцэрты ў розных гарадах краіны. За апошнія гады была ў Кіеве і Саратаве, Ленінградзе і на Далёкім Усходзе.

Амаль кожны год бываю ў Беларусі. І кожны свой прыезд у Мінск пачынаю з наведвання фабрыкі, дзе некалі працавала, з якой звязаны лепшыя ўспаміны майго



Л. Масленікава ў ролі Маргарыты з оперы «Фауст».

жыцця. Цяпер яна разраслася ў вялікі камбінат. Я заходжу сюды, як у родны дом. Тут усе мяне ведаюць. У гэтых сценах я расла. Па гэтых цэхах бегала акцябронкам, потым піянеркай. Тут камітэт камсамола прымаў мяне ў свае рады.

На канцэртах у Мінску я заўсёды адчуваю нейкае асаблівае хваляванне. Гэты горад даў мне пуцёўку ў жыццё. Тут пачаўся мой шлях ад простай работніцы да заслужанай артысткі РСФСР, шлях, які магчымы толькі ў краіне сацыялізма. І сёння я хачу ўсім, хто прыняў удзел у маім лёсе — і ў першую чаргу роднай Камуністычнай партыі, Савецкаму ўраду, нашаму цудоўнаму савецкаму народу і маім беларускім землякам — сказаць гарачае сардэчнае дзякуй.

*Давайце пагаворым...*

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**

# МАСТАЦТВА І ГУСТЫ

### 1. Аб тым, што яшчэ сустракаецца

Перш-на-перш прывядзем некалькі прыкладаў.

Прыклад першы. На экране дэманструецца кіналента, на якой зняты (і вельмі ўдала) найвялікшыя палотны сусветнага мастацтва — карціны Дрэзденскай галерэі. Здавалася б, каго яны толькі не ўзрушаць, хто не зачаруецца іх прыгажосцю. На большасць гледачоў гэтая кіналента, бясспрэчна, робіць моцнае ўражанне. Але не на ўсіх. Тамсям у зале ўзнікае і кплівы смяшок і пашлаватыя жарцікі. Некаторыя захапляюцца якраз зусім не тым, у імя чаго напісана мастаком карціна, разумеюць яе прымітыўна і няправільна.

Прыклад другі. Нядаўна мне давялося глядзець у Маскоўскім Малым тэатры «Уладу цемры» з Ігарам Ільінскім у ролі Акіма. Трапіць у гэты тэатр і тым больш на гэты спектакль не так ужо і лёгка. І гледачы збіраюцца сюды вунь як ахвотна! Далёка не ўсякі тэатр можа пахваліцца такой аўдыторыяй, як Малы акадэмічны. І аднак сюды таксама трапляюць розныя гледачы. Дзіўна і адначасова сумна бачыць такую карціну, калі ў адной з ложаў мае суседзі (на выгляд гэта былі вельмі сур'ёзныя людзі) стараліся — так, так, стараліся — убачыць на сцэне камедыю, бачыць у ігры Ільінскага толькі смешнае, хапаліся, быццам за выратавальную саломінку, за своеасаблівае каларытнае вымаўленне слова «тае́», смяяліся, спрабавалі нават апладыраваць. Па некалькі разоў паўтаралі «тае́» ў антрактах і зусім не заўважылі за гэтым «тае́» таго вялікага драматызму, што нёс у вобразе Ільінскі, тых трагедыйных вышынь, на якія ўзнімаўся акцёр у ролі Акіма. Іх гэта нікольні не ўзрушыла, не кранула сэрцаў. А створаны ж Ільінскім вобраз Акіма выдатная з'ява ў нашым сучасным тэатральным жыцці.

Прыклад трэці. І па сённяшні дзень на нашых базарах стракаціць безгустоўная мазня ў выглядзе дываноў і карцін, там жа прадаюцца і лубачныя паштоўкі з малапісьменнымі, але затое тлустымі надпісамі. І ўсё гэта знаходзіць сваіх пакупнікоў, прадукцыя поўнасцю распрадаецца, і ў даволі вялікім маштабе. Яе купляюць, яе развешваюць у сваіх пакоях, ствараючы гэтым «утульнасць», яе змяшчаюць у альбомы.

Прыклад чацвёрты. У ва ўсіх нас на памяці часы — і было гэта ўсяго некалькі год назад,—калі прыемна было паглядзець на танцуючыя пары, ці яны плаўна кружыліся ў вальсе, ці імкліва праносіліся ў польцы, ці велічна, грацыёзна праходзілі ў бальным танцы. А цяпер? Цяпер многія танцуюць толькі танго і факстрот. Танцуюць няўмела і вульгарна, пад розныя мелодыі — крыклівыя, сумбурныя джазы, надрыўныя пошлыя песенькі, ды і пад цудоўныя рускія вальсы.

Прыклад пяты. Вы заходзіце ў сталовую, кафэ ці рэстаран. І амаль кожны з іх упрыгожаны карцінамі. Як правіла, класічнымі. Асабліва шышкінскімі «мішкамі». Ох, гэтыя мішкі, ну і нацярпеліся ж яны за свой век! Якая толькі рамесніцкая рука на іх ні пасягала, вытвараючы копіі з копій. А ў выніку—якія нечуваны здзек з выдатных класічных твораў. І гэта ж шырока рэкламуецца як творы вялікіх мастакоў.

Прыклад шосты. На канцэрт любога трэцегатункова джазавага аркестра часам цяжка бывае дастаць білет. Канцэрты яго праходзяць у перапоўненай залі, хоць і выконваюцца тут далёка не лепшыя ўзоры, а то і зусім «а-ля тарзанавы» рэчы. І ў той жа час сімфанічныя канцэрты, якімі дырыжыруюць найлепшыя дырыжоры, дзе іграюць відныя музыканты, дзе выконваюцца класічныя і найбольш выдатныя сучасныя творы, часам праходзяць у паўпустых залах.

Гэтыя факты (ды і іншыя) можна сустрэць даволі часта. Безгустоўшчына, ваяўнічая пошласць не-не ды і пададуць то сям, то там піск аб сваім існаванні.

І міжволі ўзнікае пытанне: а хто ж стаіць за гэтымі фактамі, хто з'яўляецца іх носьбітамі? Вось зараз і пазнаёмім вас з імі.

### 2. Арнольд музіцыруе

Арнольд любіць музыку. У асяроддзі сваіх таварышаў і знаёмых ён лічыцца лепшым яе знаўцай. На ўсёй вуліцы ёсць у яго свае прыхільнікі. Праўда, Арнольд не заканчваў кансерваторыі, не вучыўся ў музычнай школе. Нават не ўмее іграць ні на адным інструменце. Ён проста любіць музыку, захапляецца ёю.

Аддае ёй увесь свой вольны час. Уласна кажучы, і цяга да музыкі з'явілася ў Арнольда іменна тады, калі ў яго было многа вольнага часу. І сталася гэта не так даўно, дакладней, паўтара года назад, калі Арнольд сяк-так закончыў дзесяцігодку і затым бліскуча правалі́ўся на ўступных экзаменах у вышэйшую навучальную ўстанову.

Паступіць куды-небудзь працаваць яму не хацелася, ды ён і не адчуваў у гэтым патрэбы. У Арнольда бацька — палкоўнік. І сынок нідзе не працуе, чакае, пакуль набяжыць двухгадовы «рабочы» стаж. Так-на-так паступаць у другі раз неяк боязна. І вось ідзе час, спакваля набягае «рабочы» стаж. А Арнольд, каб не было сумна, займаецца музыкай.

Ад світання да змяркання бегае па магазінах, вышуквае і купляе новыя грампласцінкі. Грошай на гэта ў яго хапае, эканоміць іх не ў натуры Арнольда.

А накупляўшы новых пласцінак, Арнольд «круціць музыку». Дома для гэтага ёсць радыёла. Праўда, з нядаўняга часу адна яна перастала задавальняць шырокім патрабаваннем Арнольда. Трэба, каб чутно было на ўсёй вуліцы, як музіцыруе Арнольд. Трэба цешыць многіх сваіх суседзяў і таварышаў, бо ў яго натура добрая і шырокая. Што ж, трэба, дык трэба. Купілі да радыёлы яшчэ ўзмацняльнік, а на страсе павесілі вялізны рупар. Цяпер сапраўды чутно па ўсёй вуліцы, як іграе Арнольд: пласцінкі скуголяць на ўсе лады. Бо Арнольд купляе не абы якія пласцінкі: абавязкова трэба вышукаць што-небудзь такое своеасаблівае, незвычайнае, заморскае. А калі знойдзе — колькі бывае тады радасці, які ў яго ганарысты выгляд! О, вы б толькі пабачылі Арнольда ў гэтыя хвіліны. А з якім захапленнем і замілаваннем ён слухае новую пласцінку. Калі чуюцца гукі музыкі, ён не церпіць пасіўных і сам ніколі не бывае такім. Арнольд слухае музыку актыўна: пад кожны гук ён пачынае хадзіць ходырам.

— Аж скурачка на ім гарыць, — кажуць старэйшыя, бачачы ў такі час Арнольда.

— У яго вельмі чулая душа, бо ім жа поўнасцю завалодвае музычная стыхія,— гавораць іншыя, вялікія прыхільнікі яго таленту і здольнасцей.

«Круціць музыку» — гэта асноўны занятак Арнольда. Аднак не адзіны. Ён бывае ў тэатры, актыўна наведвае канцэрты. Няхай толькі з'явіцца эстрадны аркестр ці яшчэ што-небудзь іншае, як Арнольд там адразу. Ці ў чарзе пастаіць, ці знаёмыя дапамогуць, а білеты дастане. І потым будзе цешыцца і ў гэты вечар, і назаўтра, і на трэці дзень. Будзе напяваць, а часцей — насвістваць мелодыю, і будзе ў такт ёй выкручвацца на ўсе лады. Слухае і цэніць Арнольд далёка не ўсіх выканаўцаў. Са сцэны гучаць пранікнёныя сімфоніі Чайкоўскага, лірычна ўзнёслая, светлая музыка Пракоф'ева, творы Шастаковіча. Усё гэта праходзіць міма Арнольда. Ён захапляецца рэстараннай музыкай. Дарэчы, Арнольд з'яўляецца тонкім знаўцай і гэтай музыкі. Нярэдка бывае ў рэстаранах, слухае такую музыку, хваліць яе.

І музіцыруе...

### 3. Маня ўпадабала прыгожае

Кірмаш шуміць. Ідзе бойкі гандаль.

А пры ўваходзе на базар вас агарошвае мноства развешаных малюнкаў. І хоць іх уладальнікі паводзяць сябе даво-

лі спакойна, малюнкі гэтыя крычаць самі за сябе. Крычаць на ўсе лады, запрашаючы да сябе пакупнікоў.

Падышла да гэтых малюнкаў Маня. Хто яна такая? Пазнаёмімся зараз і з ёю. Маня — маладая яшчэ дзяўчына і зусім нядаўна ў горадзе. Прыехала яна сюды з вёскі. Кажа, сумна там, няма ні танцпляцовак, ні тэатраў. Працуе яна цяпер на будаўніцтве горада, жыве з сяброўкамі ў інтэрнаце. Маня яшчэ асабліва не разбіраецца ў мастацтве, але ў яе таксама ёсць на гэта свае цвёрдыя погляды, ёсць свой густ.

Падышла, значыць, Маня да плоту, на якім развешаны малюнкі і — ахнула.

Вось адзін з гэтых малюнкаў. Бераг мора, вада ў ім сіняя-сіняя, а ў асобных месцах нават зялёная. Далей неба, спачатку такое ружовае, потым нейкае белавата-чарнаватае. А дрэвы, што стаяць паміж берагам мора і небам! Густыя і такія кучаравыя-кучаравыя. Ствалы чырвоныя, галінкі сінія, а лісце (ці можа гэта кветкі на іх растуць такія, хто ж яго тут вырашыць) — аж ніколі яшчэ не даводзілася бачыць у жыцці.

Але што гэта ў параўнанні з іншым! Гэта яшчэ не галоўнае. Галоўнае ў вадзе і на вадзе. Там і гусі-лебедзі плаваюць— дзюбы чырвоныя, а самі беленькія. Там і русалкі купаюцца. З галавы вельмі ж падобныя на чалавека. А далей не, — там больш на рыб. А якія ж яны, гэтыя русалкі! Твары чырвоненькія, распушчаныя валасы чорныя, цела зверху белае і ружовае, а ніжэй — зялёнае, быццам трава на балоце. Колькі тут колераў, колькі фарбаў! І кожная блішчыць, кожная кліча да сябе, просіць тваёй увагі.

Наша Маня ў захапленні. Усе карціны прыгожыя, але больш за ўсё ўпадабала яна іменна гэту — з незвычайнымі дрэвамі, з гусямі-лебедзямі і русалкамі. Пастаяла яшчэ трохі, палюбавалася, абдумала ўсё як мае быць і купіла малюнак.

Шчаслівая Маня крочыць далей. Увайшоўшы на плошчу рынка, яна ўбачыла (зноў на тым жа плоце, толькі ўжо з другога боку) таксама не менш цікавыя рэчы. У драўлянай рамцы вісяць розныя фатаздымкі, накшталт звычайных паштовак. Але куды там — уся і справа ў тым, што яны не звычайныя. І столькі многа, што аж вочы разбягаюцца. Думаць доўга не даводзіцца — бяры, ды і справе канец.

Ну, вось, скажам, гэту. Суцэльны цёмны фон. Зверху чорнай заслоны прарэз, які мае форму агромністага чалавечага сэрца. На фоне яго, мусіць, нейкая лясная паляна (канчаткова Маня так і не вырашыла), а ў цэнтры, вядома, пара закаханых. Сядзяць, прытуліўшыся адзін да другога, нечаму, відаць, радуюцца. Ля іх ног — велізарныя кветкі, якія маюць усе колеры: чырвоны і сіні, ружовы і зялёны, белы і чорны. Глядзі і толькі радуйся! А ўнізе — чуллівыя вершыкі.

Адным словам, штосьці незразумелае. А Мані гэта пашласць спадабалася. І купіла!

Пакупкі Мані не прайшлі не заўважанымі для некаторых жыхароў пакоя і іншых наведвальнікаў. І тут знайшліся такія, якія не захацелі адставаць ад сваёй сяброўкі. Пабеглі і накуплялі не менш за Маню.

А Маня! О, яна цяпер прызнаная, яе пачынанні ўхвалены яе сяброўкамі. Яна, што называецца, знайшла сябе. «Упрыгожваць» свой пакой, рабіць «утульнасць» — гэтая стыхія ахапіла яе поўнасцю, гэта для яе найлепшы занятак. «Упрыгожванняў» у яе з кожным днём з'яўляецца ўсё больш і больш. І чаго толькі ў яе пакоі няма. Самых розных вартасцей, самых розных колераў, але аднолькава яркіх, якія адразу абавязкова кінуцца вам у вочы.

#### 4. Вальдамар захапляецца танцамі

Ён прайшоў амаль усе навукі. Хутка ўжо закончыць універсітэт. Хоць і вывучаў і здаваў ён тыя амаль усе навукі, але паспеў ужо глыбока ў іх расчаравацца. І наогул, не любіць аб іх успамінаць. Ён жыве не для навук. Ён — чалавек бурлівых пачуццяў і вострых адчуванняў.

Ён — гэта Вальдамар. Не ведаеце? Вы яго не раз сустракалі. Па-сакрэту скажам вам, што ён ніякі там не Вальдамар, яго звалі калісьці проста Валодзем. Але, як кажуць, усё цячэ, усё змяняецца. І па меры таго, як Валодзя падымаўся па лесвіцы навук, яго ўжо стала не задавальняць гэтае «Валодзя». І ён вырашыў замяніць імя Валодзя на Вальдамара. І хоць гэтая падзея ў яго біяграфіі адбылася на так даўно, хто-хто, а ён паспеў ужо зусім забыцца пра колішняга Валодзю.

У Вальдамара — вялікае захапленне танцамі. Спачатку, калі быў трохі маладзейшы, ён не звяртаў на іх, можна сказаць, ніякай увагі. Накінуўся на танцы якраз тады, калі спрыкралі ўсе навукі. І перад ім адчыніўся новы свет. З'явілася і новая кампанія, і новыя таварышы. Цяпер аднакурснікі, таварышы па пакою для яго толькі крыху знаёмыя. Ён ад іх стараецца хутчэй уцячы, у яго справы іншыя.

Цяпер Вальдамар дасягае вялікага поспеху ў танцах. Вось дзе ён можа бліснуць сваімі здольнасцямі. А спачатку ж і зусім не ўмеў танцаваць, і толькі здзіўляўся, як гэта могуць іншыя. Выпадак дапамог Вальдамару стаць танцорам. Неяк аднойчы прышоў ён на танцы дужа п'яны. Глядзеў, глядзеў на іншых, а потым і ў самога хапіла смеласці пайсці на круг. Паспрабаваў. Туды-сюды, сюды-туды. Пайшлі ў ход ногі, толькі галава ды цела нешта трохі віхляюць. Але нічога, скончыў танец. Выходзіць, — зусім гэта простая справа.

І пайшоў Вальдамар у танцы. Яму спадабалася і тое, калі ён першы раз п'яны танцаваў, і калі пры кожным яго своеасаблівым, уласна вынайдзеным «каленцы» трэслася і галава і ўсё цела. Такія рухі ён стаў паўтараць, хоць часамі і не быў п'яны.

Кожны раз Вальдамар стаў удасканальваць свае рухі. Яму ўжо не хацелася больш танцаваць так проста. Стаў, напрыклад, прысядаць. Спачатку на адной назе, потым пераступіць на другую і таксама прысядзе на другой. І гэтага стала мала. Цяпер ён ужо зусім не пераступае з нагі на нагу. Проста совае імі. Спачатку адну нагу пасуне, потым трохі яе адставіць, паверне на бок, а пасля ўжо другую. І з партнёршай вытварае нешта падобнае гэтаму. Перш возьме яе блізкаблізка, абхопіць рукамі, затым зробіць круты разварот; партнёрша адыходзіць трохі ўперад, ён назад, паварочваюцца адзін да другога, у такім стане збліжаюцца, прыціскаюцца, толькі на гэты раз бакамі, пасля чаго робіцца маланкавы падскок. Узад — уперад, управа — улева. Далейшыя рухі і разгледзець ужо цяжка, і ніяк не паддаюцца яны апісанню. Потым на нейкую адну хвіліну яны быццам заміраюць ў танцы — і тое ж самае пачынае паўтарацца спачатку.

Вальдамар і па сённяшні дзень працягвае ўдасканальваць свае танцавальныя «па». І кожны раз у яго з'яўляюцца ўсё новыя і новыя рухі і звычайна больш складаныя, больш мудрагелістыя. І няма ніякага сумнення, што з цягам часу Вальдамар стане ў гэтай справе сапраўдным віртуозам. Тым больш, што ён ужо навучыўся патрапляць у танцы пад любую мелодыю. Вальс, кракавяк, полька— цяпер усё ў Вальдамара ідзе на той жа манер і пад яго напевы «ля-чы-та-чы-та» або «оля-ды-да-ды-доў». О, ён умее цаніць свае вынайдзеныя рухі і «па», ён умее берагчы ў гэтым традыцыі. Ды і навошта кожны раз танцаваць новае, калі пад любую музыку можна падладзіцца са сваім «ля-чы-та-чы-та».

З таго самага дня, калі Вальдамар «захварэў» на танцы, перастаў яго задавальняць і ранейшы гарнітур. І нязручна ў ім і зусім жа не модна для такіх танцаў. І вось Вальдамар абзавёўся і шырокім светла-шэрым пінжаком, і зялёнымі вузенькімі і кароткімі штанамі, і гальштукам з вялізным папугаем. І зусім дарэмна злыя языкі гавораць, што на гэтыя сынковы моды бацька ў вёсцы прадаў карову. Затое, які выгляд мае Вальдамар. І вусікі адгадаваў і «бакі». Вальдамар ніколі не драмаў у шапку, а цяпер і тым больш. Ён бегае па горадзе, шукае і знаходзіць танцы. Яго ведаюць на ўсіх публічных танцпляцоўках, ён не прапускае выпадку пабываць і ў навучальных установах і ў іншых месцах. Ды вы, відаць, не раз яго сустракалі. Такі пагардлівы выгляд, бязмэтна блукаючыя вочы, фанабэрыстая пастава. Здаецца, і напісана на яго ілбе — «вышэйшае стварэнне». Праўда ж, сустракалі?

У яго ёсць прыхільнікі, якія ва ўсім яго падтрымліваюць. Асабліва прыхільніцы. Яны захапляюцца ім, імкнуцца ва ўсім патрапіць свайму герою. Словам, «вышэйшы свет» стыляг, спаўна ацаніўшы ўсе заслугі, прыняў Вальдамара ў свае абдымкі.

#### 5. Пеця любіць смешнае

Пеця любіць смешнае і, бадай, нідзе не прапусціць выпадку, каб уволю не нарагатацца. Асабліва Пеціны пачуцці выліваюцца на паверхню ў час спектакляў ці кіно.

Не так даўно Пеця глядзеў першую серыю «Ціхага Дона», найбольш прыкметны твор сучаснага кінамастацтва.

Ён, вядома, не прапускаў ніводнага моманту, каб не пасмяяцца. Асабліва ў сцэнах сустрэчы Грыгорыя з Аксінняй. Пеця смакуе кожны кадр. І нават не хіхікае— рагоча. Рагоча з захапленнем, з нейкай своеасаблівай асалодай. Але і гэтага мала — ён пачынае ўпаўголаса весці свае каментарыі, адпускаць скаромныя жарцікі. Так усё і стараецца, стараецца з асаблівай заўзятасцю, каб звярнулі на яго ўвагу, падтрымалі. Намагаецца, каб знайсці сабе ў цёмнай зале хаўруснікаў і аднадумцаў.

Цемната ў зале трохі перашкаджае Пецю ў гэтым, ды і кадры хутка змяняюцца. Але ён не дужа смуткуе. Седзячы яшчэ ў зале, гледзячы яшчэ кінакарціну, ён ужо ўяўляе, як заўтра будзе расказваць «анекдоты» з жыцця Грыгорыя і Аксінні свім сябрам і знаёмым, як пры гэтым будзе хіхікаць, даваць свае каментарыі. Што і казаць, Пеця кінафільмам па-свойму задаволены.

Пеця — нярэдкі госць і ў тэатрах. І спектаклі ён успрыймае не менш актыўна. Яго жаданні тут больш важкія, больш слушныя, чым у кіно. Што там! Хоць крычы, хоць скачы, а карціна ўсёроўна аднолькава «круціцца».

Не тое ў тэатры. Акцёры толькі яшчэ

пачынаюць іграць, а Пеці ўжо нешта здалося смешным. Доўга не думаючы, ён тут жа пачынае смяяцца, «падаграваць» акцёраў апладысментамі. На сцэне павінна разыгрывацца драма? Усёроўна, што там будзе разыгрывацца, абы можна было пасмяяцца. І смяецца Пеця, нярэдка збіваючы гэтым спанталыку і акцёраў, нават самых вопытных.

Так і ходзіць Пеця ў кіно і тэатр, знаходзячы для сябе ў творах мастацтва вялікую асалоду.

### 6. Калі раскрываюцца дужкі...

Мы часта любім гаварыць, што глядач наш значна вырас. Гэта, вядома, правільна. Але нярэдка, выступаючы і пішучы ад імя гледача, мы разумеем яго, як нейкі маўклівы і паслухмяны натоўп, які можна лёгка пахіснуць росчыркам крытычнага пяра ў любы бок. Выказваючы свае асабістыя меркаванні гучнымі фразамі— «глядач не любіць», «гледачу непатрэбна», «глядач патрабуе» — мы вельмі спрашчаем рэчы, а нярэдка і грашым перад праўдай.

Ці не таму ў нас крытычныя артыкулы часам робяць на чытача ўздзеянне, зусім не такое, якога жадаў аўтар. Хваляць — не ідзі глядзець, ганяць — абавязкова трэба пазнаёміцца. Сумна і крыўдна, але факт.

У любой аўдыторыі ёсць, вядома, і разумныя, культурныя людзі, якія разбіраюцца і цэняць і творы музыкі, і палотны мастакоў, і кінафільмы, і спектаклі не горш, можа, чым і прафесіяналы. Але ж у гэтую самую аўдыторыю трапляюць і Арнольды, і Мані, і Вальдамары, і Пеці. Іх можа быць менш, іх можа быць больш, але — не будзем ханжыць! — яны ёсць і іх нельга скідаць з «крытычных лічыльнікаў».

Хто сказаў, што аб густах не спрачаюцца?! Трэба, абавязкова трэба спрачацца. Больш таго, за правільныя, добрыя густы неабходна змагацца, змагацца заўсёды і ўсюды, бо яны не з'яўляюцца самі, іх трэба набываць, іх трэба выхоўваць. І ў гэтым адна з найбольш вялікіх і адказных задач творцаў мастацтва.

Наша мастацтва, мастацтва сацыялістычнага рэалізма, заклікана служыць працоўным, натхняць іх на новыя велічныя подзвігі.

І мы можам з пачуццём гордасці заявіць: так, наша мастацтва — і гэта асабліва было пераканаўча відаць, калі падсумоўваўся яго вялікі саракагадовы вопыт, — выконвае такую пачэсную місію.

І тым не менш, нельга прайсці міма фактаў (а мы ніколі не замоўчвалі асобных недахопаў і слабасцей), калі людзі мастацтва патураюць дрэнным густам, а значыць і спрыяюць іх з'яўленню, служаць сваёй творчасцю самым недалёкім і малакультурным гледачам. А што гэта так — пацвярджаюць самі факты.

### 7. Песня аб украдзеным і прададзеным фотаапараце

Перад пачаткам прадстаўлення на заслоне красуецца асветлены пражэктарам надпіс — «Спектакль-песня», а побач словы эпіграфа: «Молодость — это песня, которую мы поём только один раз в жизни». Гэтымі шматабяцаючымі словамі ва ўвесь голас заяўляе аб сваім спектаклі Рускі тэатр імя Горкага. Ставіцца камедыя М. Віннікава «Калі цвіце акацыя».

П'еса гэтая — аб студэнцкім жыцці. Мне, напрыклад, падабаюцца асобныя студэнцкія сцэны з гэтага твора, у якіх з лірычнай праніклівасцю малююцца студэнцкі побыт. Ёсць у гэтай п'есе, дакладней у гэтых сцэнах, у аўтарскай манеры пісьма, нешта вельмі цёплае, свежае. Аднак гэта толькі ў асобных сцэнах.

А сюжэт развіваецца. Грунтуецца канфлікт у п'есе вось на чым. Студэнт Косця праваліўся на экзаменах і не атрымаў стыпендыі. Яго выручае выдатнік вучобы аднакурснік Ілья Шацілаў, і наступным чынам. Анюта, каханая Шацілава, не пайшла да яго на спатканне, а адправілася гуляць з дацэнтам Камароўскім. Анюце спадабаўся яго фотаапарат, і той, доўга не задумваючыся, падарыў яго дзяўчыне. Пры пэўных акалічнасцях Анюта забыла гэты фотаапарат на лаўцы, а сама пайшла з Камароўскім у рэстаран. У завяршэнне, ім там у талерку падкінулі дохлую варону, а ў гэты час Ілья Шацілаў забраў з лаўкі фотаапарат і перадаў яго Косці. Той прадаў гэты фотаапарат таму ж самаму дацэнту Камароўскаму. Выяўляюцца гэтыя ўчынкі. І вось разгарэўся сыр-бор. І ўсё вакол украдзенага і прададзенага фотаапарата. Справа даходзіць да дырэктара інстытута. Над Шацілавым навісла пагроза выключэння з інстытута.

І так да таго часу, пакуль дырэктар тайком не перасылае грошы студэнтам, а яны — не расплачваюцца з дацэнтам Камароўскім (бо выручаныя за фотаапарат Косця даўно растраціў). Трыумфуе дабрачыннасць. Студэнты, а разам з імі і дырэктар, радуюцца, весяляцца.

Многа гаварыць асабліва не даводзіцца — п'еса даволі лёгкадумная, павярхоўная. Прычым жа тут «спектакль-песня»? Што ў ім апавядаецца аб подзвігу, аб гераізме? Дзе тут услаўляюцца высакародныя ўчынкі?



Бачыце, назва «песня» тут разумеецца даслоўна. Перад пачаткам кожнай карціны і пад заслону, а бывае і ў часе дзеяння, на прасцэніум выходзіць акцёр І. Лакштанаў і спявае песні. Як у эстрадным канцэрце. А песні падабраны розныя, і без асаблівага густу. Выконваецца ў гэтым спектаклі, напрыклад, і такая песенька, як «Приходи ко мне в сумерки синие».

Гледачы ідуць на спектакль. Адным з першых трапіў на яго Арнольд. Застаўся ў захапленні, паведаміў сваёй кампаніі — і тая схадзіла. Сам жа Арнольд прагледзеў спектакль ужо тры разы. Кажуць, збіраецца і яшчэ схадзіць.

Больш за ўсё падабаюцца яму песні. Асабліва, калі акцёр спявае не на прасцэніуме, а дзесьці за цюлем, у самай глыбіні сцэны, на ўзвышэнні перад аркестрам. Ну, цюцелька ў цюцельку, як у рэстаране. Толькі там замест сінявятай смугі, якой дасягаюць у тэатры пры дапамозе цюля, — папяросны дым. І Арнольд ад гэтага проста ў захапленні.

Насмяецца на спектаклі «Калі цвіце акацыя» і наш Пеця. І ёсць з чаго! Аднак прапала, адышло недзе на трэці план тое свежае і непасрэднае, што ўласціва асобным сцэнам і эпізодам, аб якіх у нас ішла ўжо размова.

У захапленні будзе на спектаклі і Вальдамар, калі пачуе музыку джаза і ўбачыць танец «бугі-вугі». А ў спектаклі гэта паказана надзвычайна. Акцёры недзе танцуюць у глыбіні сцэны, іх не відаць, бо апушчана спецыяльная заслона, а на ёй вытанцоўваюць чорныя сілуэты.

Так, спектаклем будуць задаволены многія нашы героі. А калектыў, сам калектыў, які нямала папрацаваў, каб выпусціць «Калі цвіце акацыя» і які патрапіў многім густам, ці задаволены ён гэтым?

### 8. На «злобу» дня

Вальдамар—адмоўны тып, і з ім неабходна змагацца, вострай зброяй сатыры вынішчаць з нашага жыцця.

І вельмі добра, што нашы тэатры бяруцца крытыкаваць і выкрываць стыляг. Але як усё гэта робіцца?

У п'есе Ю. Мячына «Сварка», якую паставіў Гомельскі абласны тэатр, не выведзены вобразы стыляг, але рэжысёр С. Гурыч у спектаклі ператварыла цэлую групу персанажаў у стыляг.

І бяда не толькі ў гэтым. Змагаючыся з дрэннымі густамі, з ваяўнічай пошласцю, удзельнікі спектакля... самі збіваюцца на гэта. Акцёры з нейкім асаблівым захапленнем выконваюць пошлыя танцы і песні. Р. Барзава, выканаўца ролі Лары, апранутая ў архімоднае ўбранства, так і стараецца ўвесь час прыняць спакуслівыя позы, прымусіць гледачоў любавацца сваімі ножкамі.

На просьбу аднаго з герояў п'есы расказаць прысутным пра «личное» ці «неприличное», Дора (артыстка Л. Дунец) даволі настойліва патрабуе расказаць «неприличное», і пры гэтым сама ўся неяк падаецца наперад, асабліва ажыўляецца, загадзя смакуючы тое, аб чым паведаміць герой. Нічога гэтага няма і, зразумела, не магло быць у п'есе. Такім чынам, тэатр замест таго, каб змагацца з пошласцю, прапагандуе яе з падмосткаў сцэны.

Як правіла, у тэатрах не імкнуцца паказаць сутнасць стыляг. Звычайна на сцэне стылягі выглядаюць як увесяляльныя фігуры — у яркіх, крыклівых вопратках, з пошлымі танцамі і песнямі, хоць гэта вельмі аднабакова і не ўскрывае іх самога нутра. Затое мода ў тэатрах на стыляг такая вялікая, што іх іграюць і там, дзе гэта пярэчыць усялякай логіцы.

Так, у спектаклі магіляўчан «Іван Рыбакоў» В. Гусева, пастаўленым рэжысёрам М. Геніным, таксама можна сустрэць нашых сучасных стыляг (сцэны ў кафэ). А падзеі ж п'есы адбываюцца яшчэ напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны, і тыя вобразы, якіх вывеў Гусеў, зусім не падобныя на нашых сённяшніх стыляг.

У Тэатры юнага гледача нават у камедыі «Тры салаўі, д. 17», якая належыць югаслаўскаму драматургу Д. Дабрачыніну, і якая апавядае аб жыцці ў Югаславіі, аб югаслаўскіх людзях, здолелі адшукаць і паказаць на сцэне нашага стылягу. Трэба аддаць належнае маладому акцёру В. Лебедзеву, які па-майстэрску, з захапленнем праводзіць ролю Пэпі. Але каго ён іграе? Звычайнага стылягу. Вобраз ад такой скажонай, няправільнай трактоўкі атрымаўся супярэчлівым, учынкі яго — у многім неапраўданымі, а то і проста незразумелымі.

Нашага знаёмага — Вальдамара ўсе гэтыя спектаклі ўзрадуюць, прыме ён іх з захапленнем. Скажа, што такія, як ён, жылі і жывуць і ў розныя часы і ў розных краінах. Скажа, што яго кампанія дужа вялікая. Але ж навошта нам спатрэбілася падобная вульгарызацыя, як і наогул прыдуманая многімі тэатрамі «злоба» дня, прыдуманая толькі з той мэтай, каб весяліць і пацяшаць малапатрабавальнага гледача?

### 9. Хочаце — калі ласка!

Уяўная, штучная прыгажосць падабаецца не толькі адным Маням. Іншы раз прапагандыстамі яе з'яўляюцца і прафесійныя мастацкія калектывы. У мінулым сезоне ў Гомельскім абласным тэатры ішла камедыя В. Кіршона «Цудоўны сплаў». Мастак Е. Ясафава ўсё прыклала для таго, каб зрабіць на сцэне «прыгожа»! І калі Маня з яе кампаніяй паглядзіць гэты спектакль, то яна застанецца вельмі задаволенай. Бо такая прыгажосць, такія фарбы!

Вось, напрыклад, на пярэднім плане пляцоўка, абкружаная зялёнымі-зялёнымі кустамі. Значыць, як і ў п'есе, — лета. А на задніку намаляваны дрэвы з добра пазалочанымі лістамі. Ах, гэта можа прывесці некаторых нават у замілаванне. Але пры чым жа тут асенняя лірыка?

Другая сцэна. Вечар. У афармленні ёсць усё — і палена, на якім можна пасядзець, і кусты, за якія можна схавацца, і рэчка, і зорнае неба. Словам усё, каб толькі было прыгожа. Вось адна бяда — неба з хмарамі вельмі падобна на рэчку, у якой замест зорак свецяцца агеньчыкі. Месяц жа, што высвечваецца на задніку, у час танцаў на сцэне таксама дружна пачынае падскокваць. Гэтых ды і іншых не названых «накладак» можна было б пазбегнуць, як і можна было б значна ўпрасціць дэкарацыі. Перавагу ўзяла «прыгажосць». Але ж яна штучная, ненатуральная, прыгажосць дзеля прыгажосці.

...У магазін прывезлі новую партыю грампласцінак з мінскай маркай «Прамкамбінат Сталінскага раёна». У цэнтры свая ўласная эмблема — велічны будынак Беларускага тэатра оперы і балету, тэатра, у якім можна пазнаёміцца як з выдатнымі ўзорамі сусветнай музыкі, так і з беларускімі нацыянальнымі творамі. Аднак эмблема застаецца зусім нічога не абазначаючым малюнкам. Вось для нагляднасці назвы наўздагад узятых пласцінак: «Галоўнае — гэта рытм», «Песня залатой трубы», «Аб ручках», «Мішка», «Цыган». Але паспрабуйце сярод іх знайсці запісы класічных твораў або народныя песні, ці лепшыя творы беларускіх кампазітараў? Некаторыя з іх, відаць, спатрэбілася б яшчэ прапагандаваць, шукаць пакупнікоў. А тую прадукцыю, якую цяпер выпускае прамкамбінат Сталінскага раёна, Арнольд са сваёй кагортай яшчэ зранку чакае, стоячы ля магазіна. Над сапраўдным мастацтвам узяла верх нічым не замаскаваная камерцыя. Безгустоўнасць і нізкапробная халтура тут таксама знайшла сваю лазейку. Шкада, што таварышы з прамкамбіната Сталінскага раёна з лёгкасцю незвычайнай кідаюцца задавальняць усе патрабаванні і густы арнольдаў. «Хочаце — калі ласка!» Паслугі гэта мядзведжыя. Гэтым густам неабходна было б не патураць, а аб'явіць вайну.

### 10. Абы было смешна

Нажаль, іншы раз бывае адзіным крытэрыем для творчасці: каб толькі было смешна, астатняе — няважна.

У Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, тэатры, у якім столькі самабытных майстроў сцэны, якія прыдбалі славу ўсяму нашаму нацыянальнаму мастацтву, даўно ўжо ідзе спектакль «Дзень цудоўных падманаў». Гэты спектакль перажыў шматлікія пастаноўкі, у тым ліку і значна лепшыя ў ідэйна-мастацкіх адносінах. Больш таго, ён нярэдка выходзіў на першы план, рабіўся самым рэпертуарным у тэатры.

За час свайго доўгага сцэнічнага існавання «Дзень цудоўных падманаў» страціў усякае падабенства да сапраўднага спектакля. «Заіграліся», аблезлі дэкарацыі. Аб ансамблі не можа быць нават і гутаркі. І гэта зразумела: некалькі разоў змяняліся ўдзельнікі, уводзіліся ў спектакль новыя і новыя выканаўцы. І ўсё гэта рабілася без ведама пастаноўшчыка спектакля. Цяпер амаль не засталося ранейшых мізансцэн, кожны ў спектаклі прадастаўлены сам сабе, кожны іграе толькі на сябе, імкнучыся «запрацаваць» як мага болей апладысментаў.

І гэта на сцэне акадэмічнага тэатра, які закліканы паказваць узоры сцэнічнага мастацтва і які сапраўды часта іх паказвае.

* * *

Вельмі прыкра, што нашы мастацкія калектывы часам стараюцца патураць густам такіх «знаўцаў» мастацтва, як Пеця і Маня, Арнольд і Вальдамар. Не яны характарызуюць нашага сапраўднага, культурнага, высока-інтэлектуальнага гледача. А іменна на яго ўвесь час неабходна арыентавацца, за яго змагацца, яму служыць. І перш за ўсё ў гэтым патрыятычная місія савецкага мастацтва, яго сіла і веліч.

# Бібліяграфія

## «СЛЕД БЛІСКАВІЦЫ»

Так называецца новы зборнік вершаў Максіма Танка, які выпусціла Беларускае дзяржаўнае выдавецтва. Гэта — чацвёртая пасляваенная кніга вершаў паэта. У ёй сабраны творы, над якімі паэт працаваў у 1954—1957 гадах. Размешчаны яны ў двух раздзелах: «Пчаліны звон» і «З далёкіх дарог».

Шырокі тэматычны абсяг паэзіі Максіма Танка. Тут мы знойдзем вершы пра братэрскую салідарнасць працоўных людзей усёй планеты:

Калі ж мы кулакі апусцім —
Мільёны жоўтых,
чорных, белых —
Спадуць апошнія кайданы,
Гром страсяне сусветам цэлым.
(«Тост за дружбу»).

Накалам велізарнага гневу дыхаюць вершы паэта, накіраваныя супраць тых, хто трызніць сёння аб новай вайне («Жэтон», «Асвенцім» і інш.).

Побач з гераічнымі, мужнымі інтанацыямі грамадзянскай лірыкі ў зборніку праніклёна і ўсхвалявана гучыць вечная тэма, тэма кахання — шчырага, глыбокага, вернага. Беражыце яго, шануйце яго чысціню, бо ўсё лепшае на свеце створана закаханым сэрцам, — вось думка, якая прасвечвае з падтэксту і з тэксту вершаў паэта:

І вы, хто ў маладосці час
Пакінуў на зямлі хоць раз
Прабітае стралою сэрца, —
Не наступіце на яго,
Калі вясна звініць кругом
І расцвітае ўсё на свеце.
(«У алеі парка»).

Другі раздзел зборніка носіць назву «З далёкіх дарог». Тут змешчаны вершы, напісаныя паэтам пад уражаннем падарожжа вакол Еўропы ўвосень 1956 года. Патрыятычныя матывы ў вершах гэтага цыклу гучаць асабліва моцна.

Вялікую цікавасць уяўляюць вершы, у якіх Максім Танк са сваіх глыбока гуманістычных пазіцый паказвае жыццё сучаснага Захаду.

Прачытайце гэтую кнігу, таварышы! Яна шмат чаго скажа вашаму розуму і сэрцу.

---

Максім Танк. След бліскавіцы, Мінск, Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1957, тыраж 4000 экз., цана 3 р. 40 к.

## «ПЕРШЫ СНЕГ»

Каго з моладзі не вабіла прафесія артыста! Кожную вясну перад заканчэннем навучальнага года ў рэдакцыі газет і часопісаў прыходзіць нямала пісем, у якіх юнакі і дзяўчаты пытаюцца, як стаць артыстам. Адных з іх кліча на падмосткі сцэны нязгасны агеньчык таленту, што гарыць у іх душы, другіх — уяўная лёгкасць прафесіі артыста. Як першым, так і другім з іх небескарысна



будзе пазнаёміцца з кнігай маладога празаіка Барыса Бур'яна «Першы снег». У ёй расказваецца аб жыцці і працы аднаго тэатральнага калектыву, аб лёсе маладога артыста Глеба Міхайлава, аб яго нялёгкіх пошуках свайго шляху ў рабоце над кожным сцэнічным вобразам. Пошукі Глеба падтрымлівае і накіроўвае вопытны рэжысёр Паўлухін.

Крутаярскі тэатр, у якім працуюць Паўлухін, Глеб і яшчэ многія іншыя таленавітыя артысты, узначальвае дырэктар тэатра, ён жа і галоўны рэжысёр Кайгародаў. Дбаючы толькі пра тое, каб выслужыцца перад крытыкамі-кан'юнктуршчыкамі, Кайгародаў наважыў паставіць на сцэне «свайго тэатра» слабую п'есу мясцовага драматурга. Калектыў тэатра рашуча запярэчыў гэтаму дырэктарскаму рашэнню. У гэтай барацьбе і праяўляецца характар Кайгародава.

У Крутаярскім тэатры працуе артыстка Зінаіда Паяр. Для маладога Глеба Міхайлава глыбока ўсхваляваная і заўсёды таленавітая ігра гэтай артысткі была вялікай школай майстэрства. І ў той жа час загадкаю для юнака заставалася тое, што жыццёвы шлях гэтай незвычайнай жанчыны перакрыжаваўся з жыццёвым шляхам Кайгародава.

Яшчэ на школьнай лаўцы Глеб закахаўся ў сваю аднакласніцу Асю Вядзернікаву. Каханне гэтае свежае і чыстае, як першы снег. Відаць, адсюль і бярэ сваю назву аповесць. Але ці сыйдуцца жыццёвыя сцежкі Асі і Глеба? На гэтае пытанне, як і на ўсе папярэднія, адкажа вам сама аповесць «Першы снег».

---

Борис Бурьян. Первый снег. Минск, Государственное издательство БССР, 1957, тираж 10 000 экз., цена 5 р. 60 коп.

### «ШАТЛАНДСКАЯ СЛАВА»

У перакладах на беларускую мову Язэпа Семяжонава і з яго ж прадмовай выйшла ў свет кніга вершаў шатландскага паэта Роберта Бёрнса «Шатландская слава».

Аматарам паэзіі, — ды і не толькі ім, — добра вядома імя Бёрнса. Яго творчасць атрымала прызнанне не толькі ў Шатландыі, дзе яна нарадзілася каля 200 гадоў таму назад, але і ва ўсім свеце.

Роберт Бёрнс — паэт глыбока народны не толькі па матывах сваёй творчасці, — яго асабісты лёс таксама быў непадзельны з лёсам народа. Разам з тымі, для каго ён складаў песні, паэт касіў, жаў, хадзіў за плугам, плаціў падаткі і лаяў крывасмокаў-эксплуататараў.

Творчасць Бёрнса багатая і разнастайная. У ёй пераважаюць матывы ўслаўлення чалавека працы, гарачая спагада да яго, нянавісць да тых, хто жыве за кошт чужой працы. І ўсё гэта афарбавана ў паэта здаровым народным гумарам, невычэрпным аптымізмам. Гімнам жыватворчай працы простага чалавека гучыць яго славутая балада «Джон Ячменнае Зярно».

Гарачы патрыёт сваёй радзімы, Роберт Бёрнс вельмі пакутаваў ад таго, што яго некалі вольная Шатландыя страціла сваю незалежнасць і падпала пад уладу англійскай кароны. Паэт ад усёй душы пасылаў свой праклён англійскай кароне і законам. Роберт Бёрнс ненавідзеў захопнікаў і войны, і гэтая нянавісць жывіць кожнае слова аднаго з яго лепшых вершаў «Пра вайну і любоў».

Правячая вярхушка тагачаснай Шатландыі плаціла паэту такой жа нянавісцю. Бёрнс памёр, калі яму было 37 год, у страшэннай беднасці. У апошні шлях яго праводзілі тысячы простых людзей, якія любілі яго пры жыцці і якім ён пакінуў у спадчыну свае цудоўныя песні.

Складаючы зборнік вершаў Бёрнса, перакладчык уключыў у яго творы розных жанраў і розных перыядаў жыцця паэта, маючы на ўвазе «даць хоць і сціслае, але цэльнае ўяўленне аб творчасці вялікага народнага паэта Шатландыі». Такое ўяўленне чытач атрымоўвае. Што ж датычыць перакладаў, то тут з задавальненнем адзначаеш, што беларуская народная дасціпнасць жыве ў іх у вялікай згодзе з дасціпнасцю славутага шатландца. Чытач будзе ўдзячны перакладчыку за такое добрае знаёмства.

---

Роберт Бёрнс. Шатландская слава. Выбраныя вершы. Пераклады з англійскай мовы Я. Семяжонава. Мінск, Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1957 тыраж 3 000 экз., цана 2 р. 15 кап.

## У свеце мастацтва





**Марыя Адамейка** — «Мне хочацца, каб нашы песні прыносілі людзям радасць, каб ніколі не было вайны, каб усюды гучалі песні аб шчасці, каханні, радасці».
**Валянціна Прыдачына** — Хочацца аднаčасова выступаць сола. Паспрабую гэтага дамагчыся. Падругое, збіраюся з мужам паступіць у інстытут. Па-трэцяе, мару набыць уласную машыну».
**Анна Аўдзеенка** — «Хачу, каб наш актэт ніколі не распаўся».
**Ліда Загаруйка** — «Мне так хочацца, каб наш хор выступіў за мяжой».
**Валянціна Марозава** — «Абавязкова паступлю на філалагічны факультэт універсітэта і пабываю на Далёкім Усходзе».



# ПЛАНЫ І МАРЫ

На Міжнародным конкурсе шостага Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве адзінаццаці маладым выканаўцам з Беларусі было прысуджана званне лаўрэатаў. Над чым працуюць зараз лаўрэаты? Чым парадуюць яны слухача ў бліжэйшы час?

Аб гэтым і расказвае наш рэпартаж.

* * *

Мы пачынаем яго з расказа аб планах і задумах жаночага актэта народнага хору БССР. Пачынаем не толькі таму, што там спяваюць найпрыгажэйшыя дзяўчаты і, расказваючы аб іх, мы аддалі б даніну Міжнароднаму жаночаму дню. Мы імкнемся ў першую чаргу адказаць на тыя шматлікія запытанні, якія задаюць у розных кутках рэспублікі. Калгасніцу з-пад Магілёва і трактарыста з Ашмян, рабочага з Віцебска і настаўніка з-пад Пінска — усіх цікавіць і новы рэпертуар актэта, і аса-









бістыя планы спявачак, і тое, калі і дзе яны будуць выступаць.

У час, калі вы чытаеце гэтыя радкі, усе восем спявачак знаходзяцца далёка за межамі рэспублікі. Яшчэ ў лютым актэт, разам з усім Народным хорам, паехаў на гастролі ў Закарпацце, у гарады і сёлы Украіны. І магчыма вось у гэтую самую хвіліну гуцульскія лесарубы і плытагоны слухаюць чароўныя беларускія песні: «Беларусь мая», «Лянок», «Ой, рана на Івана», «Як пагнала бабуленька куранятак пасвіць» і іншыя, што так захапілі ў дні Сусветнага фестывалю не толькі масквічоў, але і ўсіх гасцей.

На Украіне актэт будзе выконваць не толькі тыя песні, з якімі ён выступаў на Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Маскве. Падрыхтавана новая праграма. К. Паплаўскі апрацаваў для актэта беларускую народную песню «Закацілася яснае сонейка». М. Мацісон напісаў музыку на словы Максіма Багдановіча «Слуцкія ткачыхі». Падрыхтаваў актэт украінскую народную песню «Ой, піду я да млына». Спявачкі з актэта будуць удзельнічаць у агульным хоры, які таксама падрыхтаваў цікавую, змястоўную праграму.

У апошні час давялося многа папрацаваць усяму калектыву. Трэба было з мноства песень адабраць найбольш характэрныя, яркія, якія адлюстроўвалі б душу беларускага народа, яго велічныя справы, багатую песенную культуру нашых людзей.

У гэтым ім вялікую дапамогу аказаў кіраўнік Народнага хору, выдатны знаўца беларускай музыкі Г. І. Цітовіч.

У кожнай з васьмі спявачак актэта — свая творчая біяграфія, свае планы і задумы. Пра гэта яны гавораць у кароткіх надпісах пад фота. Але ва ўсіх іх ёсць адно агульнае імкненне: несці ў народ багатую савецкую песенную культуру, песняй змагацца за перамогу сацыялізма, за мір ва ўсім свеце.

Спяваць бадзёрыя, жыццерадасныя песні, якія дапамагалі б людзям працаваць і любіць, змагацца і перамагаць,—што можа быць вышэй за гэтага!

Наша размова заканчвалася, калі адна спявачка папрасіла дадаць да напісанага некалькі слоў. Яе падтрымлівалі астатнія. І таму мы прыводзім гэтыя словы поўнасцю.

— Напішыце, — сказала яна, — што ў Міністэрстве культуры мала дбаюць аб паляпшэнні ўмоў работы Народнага хору і асобных артыстаў.

Прыведзеныя імі ў доказ факты пацвердзілі сказанае.

Лаўрэатаў трэба абкружаць увагай, ствараць ім умовы для плённай працы.

**Галіна Дзямкова** — «Пакуль ёсць голас, буду спяваць для свайго народа».
**Ніна Траян** — «Перадайце кампазітарам і паэтам: няхай больш пішуць новых песень».
**Валянціна Пальвінская** — «Хачу, каб мая дачка Жана таксама стала артысткай народнага хору».



* * *

Беларускія цымбалісты Веніямін Бурковіч і Мікалай Шмелькін упершыню ўдзельнічалі ў Міжнародным конкурсе. Вышэйшай ацэнкай іх майстэрства з'явілася прысуджэнне ім дыпломаў лаўрэатаў і медаляў.

Званне лаўрэатаў патрабуе ні на адзін дзень не аслабляць творчага гарэння. Абодва цымбалісты ўпарта працуюць над сабой, імкнуцца расці, удасканальваць сваё майстэрства.

Кожны з іх выступае ў канцэртах з сольнымі нумарамі. Але часцей за ўсё яны граюць разам.

Дуэт цымбалаў—прыгожы ансамбль. А калі яго ўдзельнікі сапраўдныя майстры сваёй справы, віртуозы, дык слухаць іх — найвышэйшая асалода.

Усё даецца не адразу. Многа сіл і энергіі прыклаў народны артыст БССР І. І. Жыновіч, пакуль дабіўся сапраўднага артыстычнага майстэрства, віртуознай тэхнікі, эмацыянальнага выканання ад сваіх вучняў. І цяпер В. Бурковіч прадаўжае вучыцца. А М. Шмелькін, які скончыў кансерваторыю, перадае свае веды юным сябрам — вучням музычнай школы.

У поспеху маладых цымбалістаў заслужанае месца займае іх акампаніятар — таленавітая піяністка Ева Эфрон. З ёю маладыя цымбалісты рыхтуюць новыя праграмы, выступаюць перад слухачамі.

Пасля фестывалю цымбальны дуэт выступаў перад моладдзю ў справаздачным канцэрце лаўрэатаў Усесаюзнага і Міжнароднага конкурсу. З майстэрствам беларускіх цымбалістаў знаёміліся нашы госці з Польшчы і Румыніі.

У канцы снежня дуэт выступіў у Маскве на ўрачыстым канцэрце Беларускай ССР, які адбыўся ў гонар 40-годдзя Вялікага Кастрычніка. Праз месяц М. Шмелькін і В. Бурковіч выступілі ў Ленінградзе ў Доме пісьменнікаў на вечары, які быў прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння народных



**М. Шмелькін, В. Бурковіч з піяністкай Евай Эфрон рыхтуюць новую праграму.**

паэтаў Беларусі Я. Купалы і Я. Коласа.

У рэпертуары дуэта — «Беларускія танцы» І. Жыновіча, «Полька» — Р. Пукста, «Паланез» — Агінскага. У працэсе работы знаходзіцца «Танец лебедзяў» з балету Чайкоўскага «Лебядзінае возера», «Лезгінка» з балету Хачатурана «Гаянэ», два венгерскіх танцы Брамса, вальсы Штрауса і канцэрт для двух цымбал маладога беларускага кампазітара І. Ронькіна.

Цымбалісты рыхтуюцца да свайго адкрытага канцэрта. У ім прагучаць новыя дуэты, над якімі зараз працуюць цымбалісты. Творы кампазітараў Пракоф'ева, Шастаковіча, Глінкі, Чайкоўскага, Ліста, Паганіні, Сен-Санса, Веняўскага, Равэля, Вівальдзі, беларускага кампазітара Камінскага аматары цымбалаў пачуюць у сольным выкананні М. Шмелькіна і В. Бурковіча.

Праграма канцэрта абяцае быць цікавай і разнастайнай. Музыканты зараз многа і напружана працуюць. Але

іх сур'ёзна непакоіць тое, што беларускія кампазітары вось ужо многа гадоў амаль не пішуць твораў для выканання на цымбалах. А магчымасці сучасных цымбалаў вельмі вялікія. І дарэмна цураюцца кампазітары такога інструмента, як нашы беларускія цымбалы.

* * *

Многа працуе зараз і Станіслава Гулевіч. Пасля таго, як на фестывалі яна атрымала дыплом лаўрэата і медаль, кіраўніцтва Тэатра оперы і балету некалькі змяніла свае адносіны да таленавітай спявачкі. Яна атрымала некалькі роляў і цяпер пад кіраўніцтвам рэжысёраў удумліва працуе над новымі партыямі.

Але С. Гулевіч не забывае тыя народныя песні, за выкананне якіх яна атрымала на міжнародным конкурсе званне лаўрэата. Артыстка рыхтуе новую праграму, якая складаецца з народных беларускіх песень і песень беларускіх кампазітараў.

Ёсць у С. Гулевіч запаветная мара — пазнаёміць з беларускімі народнымі песнямі замежных слухачоў. Вось чаму яна з такой стараннасцю рыхтуе новую праграму. Якія ж песні рыхтуе С. Гулевіч? Пакуль гэта — маленькая тайна артысткі. А вось калі будзе поўнасцю гатова ўся праграма — прыходзьце на яе канцэрт.



С. Гулевіч.

## Гумар і сатыра



Тарас ЖЫГАЛКА

# ДЫСПУТ

Мал. Л. Дубара.

Гаўрылу Аплошку знялі з работы. Не толькі знялі, але яшчэ і размалявалі ў газеце. Нейкі зубаскал-мастак намаляваў яго карыкатуру. Гэта асабліва абурыла Аплошку. Глядзеў ён на сваю перакрыўленую фізіяномію і бурчэў, выказваючы нязгоду.

«Маляваць ніхто не забараняе. Малюй на здароўе. Але прытрымлівайся арыгінала. Намаляваў нямаведама чыю мысу і падпісаў, быццам, гэта Аплошка. Навошта ж чытача заводзіць у зман. Падумаюць цяпер, быццам я і сапраўды вось такі таўстаносы, лысы, з чубам на макушцы. І завошта толькі! Каб я каго пакрыўдзіў, каб каму святло засціў, дык жа не...»

І сапраўды, Гаўрыла Дзям'янавіч Аплошка быў чалавек ціхі, як кажуць, аглядлівы. Кожнаму ён стараўся дагадзіць, з кожным згаджаўся, а ўжо каб каго-небудзь адважыўся пакрытыкаваць — ні-ні... Знаёмыя прарочылі яму працаваць без вымовы да самай пенсіі, і на табе... паслізнуўся на роўным месцы.

А было ўсё вось як.

Месяцаў два ці тры назад у абласным аддзеле культуры змяніўся загадчык. На месца старога, які пайшоў на пенсію, быў прысланы малады. Аплошка адразу захваляваўся. Вядома, што працаваць лягчэй тады, калі добра ведаеш свайго начальніка: хто ён, якая ў яго жонка, колькі ў яго дзяцей, што падабаецца начальніку, а што яго жонцы. Пакінуўшы ўтульны кабінет, Аплошка пабег у абласны аддзел культуры. Быў у яго там даўні паплечнік, бухгалтар Пяцівочка.

— Ну, як начальства? — яшчэ добра не адсопшыся, запытаўся Аплошка ў сябра.

— Ды так, брат, мяце, бушуе, — гаварыў Пяцівочка, механічна стукаючы костачкамі лічыльнікаў. Ад гэтага драўлянага шчоўкання ў Аплошкі папоўз па спіне халадок.

— Мяце? — перапытаў Аплошка, ледзь стрымліваючыся, каб не заляскаць зубамі ў такт лічыльнікам. — Кажаш, мяце. А да прыкладу з сябе які ён?

— Чорны...

— Не, я не пра тое... Ці строгі?

Пяцівочка прыўзняў лічыльнікі, скінуўшы касцяшкі на адзін бок.

— Распякае, аж страшна. Запусцілі работу, — кажа. Вось як...

Аплошка, хістаючыся, выйшаў на калідор. Тут ён якраз і трапіў у рукі інспектара Дзеркача.

— А-а-а, таварыш Аплошка, Гаўрыла Дзям'янавіч, вельмі дарэчы, вельмі дарэчы... А я вас шукаю, усе тэлефоны паламаў.

Аплошка адразу ж усміхнуўся, зрабіў такі выраз твару, нібыта вельмі рад сустрэчы. «Трапіў у нерат, ні ўзад ні ўперад», — падумаў ён.

— Нам, таварыш Аплошка, трэба дыспут правесці. Новы загадчык рэкамендуе...

«Ведаем мы гэты дыспут, — падумаў Аплошка. — Хоча выведаць, хто чым дыша. Падыспутыруй, дык ён цябе адразу каленкай... Не паспееш і азірнуцца».

Але ўслых такіх думак Аплошка ніколі не выказваў. Ён ветліва ўсміхнуўся, ківаючы ў знак згоды галавой.

— Бач ты, дыспуты. А што... правільна... Дыспут — гэта вельмі правільна.

І тут яму прышла ў галаву геніяльная думка: новы начальнік любіць дыспуты, вось яно што...

Інспектар жа не заўважаў змены ў настроі Аплошкі. Па прывычцы ён пачаў распякаць яго за дрэнную работу з чытачамі.

— Дык мы, дык я... — залепятаў Аплошка, спрабуючы апраўдацца, — ужо даўно рыхтуем дыспут...

Гаўрыла Дзям'янавіч сказаў і спалохаўся: раптам праверацъ. Але інспектар ляпнуў яго па плячы, здзівіўся:

— Дык чаго ж вы маўчыце? Мы так і запішам... Па якой кнізе?

Аплошка разгубіўся. «Якую кнігу назваць? Хіба «Рэвізор»? Ці можа «Капітанскую дачку»? Не, мусіць, не тое. Вось бы што-небудзь надзённае... Але што? Эх, ведаць бы, якая кніга найбольш падабаецца Дзеркачу, тады і думаць не трэба было б. Назавеш кнігу, а яна начальству не спадабаецца».

— «Канёк-гарбунок», — ляпнуў, не падумаўшы, Аплошка і заплюшчыў вочы ад страху.

— А што, — выгукнуў Дзяркач. — Цікава... Арыгінальна. Прыдзем, абавязкова прыдзем. Толькі чаму «Канёк-гарбунок»? Можна другі дзіцячы твор узяць.

Аплошка дагодліва ўсміхнуўся.

— Мы ўсё прадумалі...

Ідучы дамоў, Гаўрыла Дзям'янавіч спрабаваў успомніць змест названага ім твора. Але ён згубіўся недзе ў закутках яго памяці. Тады Аплошка пачаў ламаць галаву над тым, што сказаў інспектар.

«Чаму, — думаў ён,—«Канёк-гарбунок» дзіцячы твор? А можа і дзіцячы. Нават лепш. На сельскагаспадарчыя тэмы ў нас вельмі мала дзіцячых твораў. Мусіць таму Дзяркач так і ўзрадаваўся. Лоўка я яго абвёў».

Назаўтра Аплошка сядзеў у кабінеце вучонага П. С. Абламея, славутага сваім навуковым даследаваннем «Конь у літаратуры».

— Паважаны Парамон Саламонавіч, — заглядаючы Абламею ў вочы, гаварыў Аплошка, — выручайце, дарагі. Дыспут!..

— Дзвесце пяцьдзесят рублёў, — прамовіў Абламей, не падымаючы вачэй ад стала.

— Але ж бачыце...

— Ніякіх «але». Уступнае слова каштуе трыццаць пяць рублёў. Сем выступленняў па дваццаць пяць рублёў штука — усяго дзвесце дзесяць рублёў. Цяпер заключэнне — пятнаццаць рублёў і машыністцы за друкаванне тэкста прамоў на вашым дыспуце — дваццаць пяць рублёў. Як бачыце—баланс...

Аплошка лыпаў вачыма. Ён лічыў, што падрыхтоўка прамоў для ўдзельнікаў дыспута абыдзецца танней. Абламей растлумачыў:

— Паважаны Гаўрыла Дзям'янавіч, мастацтва патрабуе ахвяр. Не вы першыя, не вы апошнія. Калі б вам спатрэбіліся, скажам, выступленні на піянерскім злёце, дык я менш узяў бы: па сем рублёў за штуку. А тут не магу. Кнігу прачытаць мне трэба, — раз; крытычныя артыкулы па ёй — два і нарэшце тэксты. Ну, дык як, згодны?

Аплошка па прывычцы кіўнуў галавой.

— Назва твора, — запатрабаваў Абламей.

— «Канёк-гарбунок», — нясмела сказаў Аплошка.

— І выдатна. Пад якім дэвізам думаеце праводзіць дыспут? Не ведаеце? Дзесяць рублёў яшчэ. Згодны? Тады прапаную такі дэвіз: «За ўздым сельскай гаспадаркі, за прывіццё дзецям працоўных навыкаў!»

— Мы так і думалі, — згадзіўся Аплошка.

— Намячаю тых, хто павінен выступіць, — Абламей хуценька пачаў пісаць на лістку паперы: — Калгаснік, вучань дзесятага класа, які застаецца ў роднай вёсцы, маці-гераіня, піянер, рабочы, удзельнік Айчыннай вайны, і... нарэшце я. Прамовы прынясу асабіста.

Аплошка бег дадому, лёгка пераскокваючы вялікія і малыя лужыны. Пашанцавала ўсё ж. Цяпер толькі знайсці намечаныя Абламеем кандыдатуры. «Праўду дыспут і зноў можна жыць спакойна. Няхай толькі не турбуюць, дыспут я ім правяду»...

У вызначаны час зала была паўнютка людзей. Дзяркач стрымаў сваё слова — прывёў усіх работнікаў аддзела і нават самога загадчыка. Кожнаму хацелася паслухаць такі незвычайны дыспут. Аплошка бегаў, як падсмалены, хваляваўся: да пачатку заставалася дзесяць хвілін, а ні Абламея, ні прамоў не было. Няўжо падвядзе?

Але Абламей прышоў роўна за хвіліну да пачатку. Бедны Аплошка выхапіў у яго прамовы і хуценька размеркаваў паміж выступаючымі. Сабе пакінуў некалькі лісткоў, дзе было напісана: «Уступнае слова на дыспуце па сусветна вядомаму твору «Канёк-гарбунок». Робіць тав. Г. Д. Аплошка».

Прачытаць прамову Гаўрыле Дзям'янавічу ўжо не хапіла часу. Аплошка ўзышоў на трыбуну, паклаў перад сабою напісаную прамову і, асабліва не думаючы над зместам, пачаў чытаць.

«Дарагія таварышы, грамадзяне, калегі і аматары прыгожых пісьменстваў, мы запрасілі вас, каб абмеркаваць усебакова і грунтоўна найвялікшы твор нашай эпохі «Канёк-гарбунок». Вобраз канька-гарбунка назаўсёды ўвайшоў у літаратуру, як сімвал капіталістычных адносін да конскага пагалоўя».



У зале засмяяліся, але Аплошка нічога не бачыў, нічога не чуў, ён чытаў узнёсла і натхнёна:

«З другога боку, вобраз Жар-птушкі асацыіруецца ў нас з гарачым і яркім сонцам, да якога паўсядзённа імкнуўся забіты, знявечаны, пакрыўджаны нядоляй Канёк-гарбунок, гэты спрадвечны гаротнік старой аднаасобнай вёскі».

Па чытальнай зале, нібы віхор, пранёсся рогат. Аплошка ўзняў вочы і таксама ўсміхнуўся: трэба заўсёды быць з масамі. Калі рогат сціх, ён прадаўжаў:

«З трэцяга боку, вобраз катлоў, у якіх абмываецца Канёк-гарбунок, носіць для таго часу ярка выражаны сацыяльны характар. Аўтар сцвярджае, што толькі пераварыўшыся ў катле з кіпятком — гэтым сімвалам адвечных бітваў — можна набыць вартасць сапраўднага каня».

Тут грымнуў такі дружны рогат, што ў Аплошкі зляцелі на падлогу акуляры. Ён спрабаваў чытаць далей, але ніяк без акуляраў не мог разабраць слоў. А далей усё зблыталася. Ён толькі помніць, як ішлі да трыбуны людзі, якія павінны былі выступаць па абламееўскіх шпаргалках, рвалі іх перад усімі і кідалі ў кошык для смецця. Яны нешта гаварылі, аб нечым горача спрачаліся, чыталі нейкія вершы...

Потым яго паклікаў новы загадчык аддзела культуры. І хоць Аплошка ніколі яго не крытыкаваў, ніколі яму не пярэчыў, загадаў здаць бібліятэку.



## ЗМЕСТ



---





**Крылатая кветка.**
Фотаэцюд А. Дзітлава.



Хвёдар Бачыла ў час Айчыннай вайны.



Лепшыя даяркі калгаса «Камінтэрн» Аршанскага раёна Віцебскай вобласці (злева направа) Ала Ільюшэнка і Яўгенія Чахоўская.
Фота С. Чырэшкіна.



Старшыня калгаса імя Чапаева Браслаўскага раёна Маладзечанскай вобласці Ульяна Крышталевіч — нядаўні камсамольскі работнік. У ліку лепшых прадстаўнікоў сельскай гаспадаркі Беларусі яна нядаўна ўзнагароджана ордэнам Леніна.

Фота В. Аляксандрава.



Далёка за межамі нашай рэспублікі вядомы помнік беларускай архітэктуры — замак у г. Міры. На здымку: заходнія вежы замка.

Фота А. Дзітлава.